Лёгкі стук па краі палка... Не полкі, а палка, бо такі быў гэты пасажырскі вагон. Дзве шырокія верхнія полкі апускаліся з абодвух бакоў купэ і ўтваралі суцэльны трывалы палок. На ім пасажыры лажыліся, хто паспяваў залезці наверх. А хто трохі замарудзіўся ці не праявіў здагадлівасці, то садзіўся з краю палка, а свае ногі спускаў уніз, і аб іх церліся галовамі і плячамі тыя, хто праціскаўся калідорам далей.

Стук па палку ледзь данёсся да Віктара. Ён прачнуўся і падумаў, што нешта такое ўчулася яму ў сне. Калі ж зноў задрамаў, то быццам бы падаўся ўжо і голас кандуктара: «Білет, білет!.. Ваш білет!» Ды вельмі ж здалёку даходзіла ўсё гэта, можа, нават з сумежнага вагона.

«Няхай пытае, у каго трэба, няхай правярае! Ваенных ён не павінен чапаць».

Побач спалі яшчэ людзі. На хвілінку расплюшчыўшы вочы, Віктар заўважыў пры цьмяным святле, што ледзь не нос у нос з ім ляжыць жанчына, твар абматаны і нават падціснуты на падбародку чорнай хусткаю, але барадышка тырчыць маладая, гладкая; густыя цёмныя бровы прыкметна вылучаюцца над заплюшчанымі вачамі. Гэта яна і ўлягалася тут нядаўна, уціскалася амаль у нябачную шчыліну. І ўзлягла была на яго плячо і яшчэ на нечае збоку. Адтуль пачуўся санлівы голас, а Віктар прамаўчаў: ён так хацеў спаць, што нават і большыя перашкоды не маглі б яго патрывожыць.

Цяпер адразу заплюшчыў вочы: толькі на момант мільганула думка, што варта было б глянуць, які ў яе нос, што так ціха і мерна ўбірае вагоннае, кіславатае і згушчанае ад людской адзежы і абутку паветра, якія вусны, што гэтак хораша, толькі ледзь чутна папыхкваючы, выпускаюць гэтае паветра.

І сам не заўважыў, як акунуўся ў дрымоту, адчуваючы ў душы ўдзячнасць незнаёмай і выпадковай суседцы, што не храпе вельмі.

Стукат па палку набліжаўся і ўжо ледзь не біў па вушах сваёю разкатою.

— Білеты, білеты! — патрабавальна выгукваў кандуктар.

Але слухаць яго не хацелася, узнікала перакананне, што гэта адбываецца ў сне, а не ў сапраўднасці. Заціхне стукат, пяройдуць у наступны вагон праваднік, кандуктар ці яшчэ там хто, і ўсталюецца цішыня — да свае станцыі можна будзе паспаць.

Неўзабаве адчулася, што быццам нехта моцна ўспёрся рукою на плячо. Уяўленне стала явай: сапраўды, суседка выціскалася са свае шчыліны, мабыць, для таго, каб паказаць свой білет. Потым ён чуў, як яна зноў клалася, нібы знячэўку ўзлягла на яго грудзі і зашаптала ў самае вуха:

— Адсунься трошкі, таварышок ваенны... Я замгну яшчэ на гадзінку.

Ён адсунуўся колькі мог, аднак не прачнуўся, хоць адчуў штуршок у спіну другога суседа. Падумаў неяк падсвядома, што магла б гэтая жанчына паляжаць і на яго плячы, каб не турбаваць іншых, хоць і цяжкаватая трохі; відаць, у добрай постаці і ў целе. Сну гэта не парашкодзіла б.

Прачнуцца давялося ад іншага: нехта пачаў стукаць па абцасах яго ботаў. Віктар падхапіўся, нехаця адкінуў ад сябе руку суседкі. Ля палка стаяў танклявы і жаўтаваты пры вагонным святле праваднік з двума згорнутымі ў круцёлку сцяжкамі ў руцэ, таксама жоўтымі, і адутлаваты пажылы мужчына ў апратнай форме чыгуначніка і з ліхтаром на грудзях. Напэўна, кантралёр.

— Ах, ваенны?! — нібы просячы прабачэння, прамовіў гэты мужчына.— Па абцасах не пазнаць. Папрашу вашы праязныя!

Віктар падаў воінскае патрабаванне і крыху няёмкімі рухамі стаў згортваць на цемя звіслыя на вочы светлыя пасмы валасоў, аглядвацца на тое месца, дзе толькі што ляжала яго галава,— шукаць пілотку.

— Высаджваць мы вас не будзем, таварыш гвардыі лейтэнант,— сказаў кантралёр, уважліва асвя-

ціўшы ліхтаром дакументы,— але едзеце не па маршруту: трэба пад Маскву, а трапілі пад Варонеж.— І, прыцішыўшы голас, дадаў: — Гэта памылка?

— Не... Не памылка! — з вінаватасцю ў голасе але і з упэўненасцю, што яго зразумеюць, прамовіў Віктар.— Тэрмін мой дазваляе, таму намерыўся наведаць сям'ю, якая жыве тут непадалёку ў эвакуацыі. Сын у мяне, разумееце?... Яшчэ ні разу не бачыў.

— Да якой станцыі следуеце?

— Да Анны.

— Праз гадзіну прыедзем. Жанчына з вамі? Яна таксама да гэтай станцыі.

Віктар пакруціў галавой.

— Мы вас разбудзім, аддыхайце! — сказаў ужо кандуктар, малады жаўтатвары хлапец. Глянуўшы на гладкія ногі Віктаравай суседкі, смяшліва, з прыхаванай зайздрасцю прашаптаў на вуха кантралёру:

— Смелая баба: ушылася паміж мужчын і хоць бы што!

Віктар толькі цяпер заўважыў побач з яго запыленымі ботамі даволі белыя ў поцемках жаночыя ногі: нічым не прыкрытыя і, напэўна, босыя. Сумеўся на момант, падумаў нават аб тым, што варта было б змяніць гэтае выпадковае і занадта адкрытае для ўсіх суседства. Паспрабаваў звесіць ногі ўніз і адразу ўпёрся ў нечыя плечы ці галаву.

— Куды цябе? — пачуўся з-пад палка санлівы, але злосны голас.

Тады прыдатным стаў ранейшы намер — палягчаць яшчэ тут, на сваім, ужо абжытым месцы, бо і сон вельмі марыў і падацца не было куды. Агляну́ўся, а ўжо ніякай шчыліны ў яго за спіною не было: суседка развольнена павярнулася на спіну, раскінула аголеныя да локцяў поўныя рукі і заняла ўсю яго лагодку. Чорную, а можа, і сінюю ці нават рабаватую — у паўзмроку не разбярэш — хустку яна ўжо зняла з галавы і накінула сабе на грудзі. Калі Віктар нахіліўся, каб усё ж як-небудзь прылегчы, то ўбачыў, што пад хусткаю магутна і бесторботна ўздымаліся і апускаліся ад здаровага і спакойнага дыхання раскошныя жаночыя грудзі.

Каля шыі бялела вузкая, гладкая палоска цела, і ўяўлялася яна вельмі часовай, нетрывалай: варта было знячэўку крануць хустку або нават дыхнуць на яе, і, напэўна, усё знікла б.

Жанчына ляжала патыліцай на Віктаравым рукзаку. Галава ў яе невялікая, круглая, завушніцы блішчаць на блінчыках вушэй. А валасы не сабраны ў куксу, нічым не падвязаны, не перавязаны. Доўгімі пасмамі яны рассыпаліся паабапал вушэй і занялі ледзь не ўвесь рукзак. Калі і класціся Віктару, дык толькі на жаночыя валасы. А што яна скажа на гэта? А як асмеліцца самому?..

Ён крануў валасы пальцамі ў тым месцы рукзака, што быў з яго боку. Жанчына крутанула галавой, варухнула плячыма, крышачку падалася ад яго, але на бок не павярнулася і месца не вызваліла.

«Забраць у яе рукзак? — падумаў Віктар.— Напэўна ж, свой скрутак ёсць?»

І неяк шкада стала будзіць жанчыну: можа, знебылася ў дарозе, стамілася? Можа, гэты сон дарожны — адзіны адпачынак у яе?

На станцыі выйшлі толькі два пасажыры: Віктар і яго падарожная суседка. Цягнік пастаяў хвіліну, быццам толькі пачакаў, пакуль гэтая выпадковая пара ступіць на вузкі дашчаты перончык, і падаў свісток, са скрыгатам і лязгатам рушыў далей, пакідаючы за сабою доўгія густыя клубы мутнабелага, ледзь толькі разведзенага двума цьмянымі ліхтарамі, дыму.

Тры гады таму назад Віктар быў на гэтай станцыі, калі праводзіў у эвакуацыю жонку. Аднак яму здалося, што ўсё тут вельмі змянілася з таго часу: фронт падыходзіў зусім блізка, маглі быць і разбурэнні, і змены дарог, і новыя збудаванні. Ён спыніўся каля цёмна-жоўтага ў начным змроку ліхтара і стаў напружана аглядаць наваколле, намагаючыся вызначыць, у які бок лепш падацца, каб выйсці на патрэбную дарогу.

— Куды вам, таварыш камандзір? — раптам пачуў настойлівае запытанне ў сябе за спіною.— Я тутэйшая, то, можа б, магла памагчы?

— У Хранавое! — з націскам прамовіў Віктар, спадзеючыся, што калі жанчына няпраўду сказала

наконт свайго жыхарства, то сумеецца ад гэтакай назвы і адыдзе.

Але жанчына не збянтэжылася і нават ніякага здзіўлення не паказала — відаць, звыкліся тут да той назвы. Дзівіцца і насцярожвацца пачала яна тады, калі зразумела, што Віктар збіраецца ісці пад самае Хранавое пехатою ды вось адразу, ноччу!

— Гэта ж добрых сорак кіламетраў! — стала адгаворваць.— Як вы дабярэцеся? Ні машыны ноччу, ні падводы! Туды наогул мала хто ездзіць, бо там цяпер амаль нічога і няма. Яшчэ ў пачатку вайны немцы разбамбілі тамашні конны завод, а калі фронт стаяў паблізу, то... Лепш паначуйце ў Анне. А заўтра зранку... Вам у ваенкамаце памогуць... Або ў райкоме...

— Не, не магу,— адчуваючы прыхільнасць у голасе жанчыны, сказаў Віктар.— У мяне вельмі мала часу: заўтра павінен быць у сваю часць.

— Я вам сама памагу дастаць машыну,— пераконвала жанчына.— А да раніцы адпачніце: тут і ў гасцініцы пераначаваць можна, і так у каго... У мяне, напрыклад: жыву адна, месца ў кватэры знойдзецца. Вы і ў вагоне не адпачылі: ваенны, а такі ўжо далікатны...— Яна злёгку ўсміхнулася, паказаўшы белую, нібы падсрэбраную, палоску роўных зубоў.— Сядзіць побач, а прылегчы баіцца! Хіба б я вас укусіла?

Шчыры і на асобных нотках крыху гуллівы голас жанчыны прымусіў хоць мелькам глянуць на яе, не так ад цікаўнасці і ўзаемнай лагоды, як ад імкнення вызначыць, што за чалавек перад ім і чаму праяўляе такія нечаканыя клопаты.

Віктар убачыў, што левай рукою жанчына трымала і нібы прыхоўвала за спінаю даволі ладны клуначак.

Чаму яна не падклала гэты клуначак сабе пад галаву, а лягла на вайсковы рукзак?

Такое недаўменне ўзнікла міжвольна. Яно, пэўна ж, нязначнае, выпадковае, як і гэтае нечаканае спатканне, але чамусьці затрымалася ў свядомасці, і Віктар моўчкі стаяў на адным месцы, быццам нешта абдумваў. А жанчына ласкава глядзела на яго і таксама маўчала. Мабыць, і яна чакала, спадзявалася нешта пачуць ад свайго незвычайнага

спадарожніка. Нарэшце загаварыла, не зводзячы з яго вачэй і намагаючыся ўлавіць сустрэчны пагляд:

— Вы, мабыць, не давяраеце мне, лічыце навязчывай. А я толькі дабра вам жадаю... І вашай жонцы, і сыну... Я чула, што вы сказалі праваднікам у вагоне... Чула і тое, што адзін з іх пра мяне сказаў. Дурань жаўтароты! Я часта езджу ў Варонеж па службе, ды і так без горада не абысціся. Дык хіба будзеш выбіраць, дзе сесці, дзе легчы? Вагоны заўсёды перапоўненыя: людзі стоячы дрэмлюць. На мяшок ваш узлягла... Дык хацела ж хоць дыхнуць тым духам з вайны!.. З год назад, вось якраз жа ў гэтую пару лета, мой муж наведваўся... Таксама з вайсковым рукзаком... Пабыў ноч, паехаў... І вось з таго часу...

Жанчына ўтуліла твар у хустку і, пэўна, толькі вялікім намаганнем перапыніла горкі, пакутлівы плач.

— Калі б я меў хоць крышку больш часу...— з жальбою ў голасе прамовіў Віктар.

— Пойдзеце ўсё-такі пехатою? — нібы спыталася, нібы паспачувала жанчына.

— Пайду! — пацвердзіў Віктар.— Мне не прывыкаць!

— Дык вы ж, мабыць, са штапіля?

— Нічога! Ногі ў мяне цэлыя. А як вы заўважылі, што са шпіталя?

— Рукзачок ваш ёдам папахвае...

Жанчына паказала, як лепш выйсці на патрэбную дарогу, і Віктар рушыў ледзь не самым паскораным, маршавым крокам. Быў час самай густой начной цемені: у гале яшчэ можна было сяк-так вызначыць дарогу — памагалі тыя рэдкія і асепленыя падвоблачным туманам зоркі, што сям-там мігалі над палеткамі. Але хутка пачаўся лес, і далёкае святло зорак патанала ў густой лістоце высокіх дрэў і амаль зусім не прабівалася на дарогу. Ісці даводзілася ледзь не вобмацкам, таму ўжо нельга было даць поўнага кроку і мець належную спорнасць у хадзе. На першых жа кіламетрах Віктар некалькі разоў спатыкаўся і аднойчы так нечакана небяспечна, што аж кальнула ў параненае плячо.

— Калі так часта пачне калоць? — амаль услых падумаў Віктар.— Тады і за суткі не дойдзеш.

Некалі ён ішоў гэтай дарогай, але ўжо даўно. Нават і ўдзень наўрад ці можна было б праз такі час усюды пазнаваць прыкметныя мясціны. Нехаця ўспаміналіся парады жанчыны: відаць, праўду яна гаварыла — можа, і ўдалося б заўтра знайсці які транспарт. Ды як чакаць, спадзявацца на гэта? Там сямейка... Ляцець бы да яе!.. Ім, напэўна, цяжэй чакаць, як яму крочыць па незнаёмай, ледзь толькі віднай пад нагамі дарозе. Пісаў ім, што будзе старацца завярнуць на хвілінку, а пэўны час вызначыць не мог.

Пры такіх думках уяўлялася нязначным паколванне ў правым плячы: ногі нібы самі прыспешвалі крок. І ўсё ж, калі вярталіся думкі да няўхільнай рэчаіснасці, то пашчымвала ў сэрцы ад усведамлення, што калі і хопіць у яго сілы на сорак кіламетраў, то да світання іх не адмераеш. А калі яшчэ з дарогі саб'ешся?..

Па ранейшай памяці Віктар адчуваў, што неўзабаве на гэтым напрамку павінна быць невялікая вёсачка. Калі чаго тут не здарылася за мінулыя гады вайны, то яна павінна быць і цяпер. Аднак жа вось ужо колькі пройдзена, а паабапал лес і лес, яшчэ больш згушчаны, як раней, а ўздоўж дарогі — травяныя ўзмежкі і кусцістыя зараснікі, спорна, аж да апырсквання абутку, прыпалыя расою. Колькі было зорак на небе, дык і тыя пахаваліся за хмарамі, а можа, утупіліся ў раскошныя лясныя шаты і страцілі сваё святло. На дарозе яшчэ больш пацямнела і яшчэ горш і цяжэй стала ісці.

Пачала балюча гнясці і трывожыць супярэчнасць паміж вялікім жаданнем і, магчыма, яшчэ большым пачуццём абавязку. Уяўлялася, што калі ён цяпер не пабачыць сваю сям'ю, хоць на хвіліну не возьме на рукі сына, то жыццё яго ператворыцца ў суцэльны змрок, дараваць сабе не здолее, што не выкарыстаў такі адзіны на гэты час выпадак. З другога ж боку — калі спозніцца ў вайсковую часць і такім чынам парушыць дысцыпліну, то, акрамя ўсялякіх папрокаў і нават магчымых спагнанняў, сваё ж сумленне яго загрызе: як можна ў ваенны час дапускаць такое?

Боты ўсё больш набрыньвалі ад вільгаці, і ў нейкі момант Віктар адчуў, што ногі яго цяжэюць. Ледзь не сумеўся ад такога адчування, хоць і цвёрда спадзяваўся на сваю вынослівасць: ці такія пераходы даводзілася рабіць, ці такія цяжкасці адольваць? Няўжо шпіталь адабраў столькі сілы? Дык не надта ж доўга ішло тое лячэнне: толькі адаспаўся добра, адмыў вайсковы пыл, і ўжо выпісалі.

Раптам да слыху даляцела нешта падобнае на далёкае, невыразнае рэха ад нейкага голасу. Віктар прыпыніўся, насцярожыў слых. Здагадка напрошвалася, што гэта, напэўна, голас з вёскі. Але ж магло і ў лесе што-небудзь абазвацца: сонная птушка, жывёліна, звярок, нават той жа воўк. За вайну іх тут многа магло развясціся. Міжвольна ўзбрыло на памяць адно жончына пісьмо, дзе яна пісала, як мінулай зімою вось недзе на гэтай дарозе ваўкі пагналіся за іхнімі санямі. Добра, што ў санях было трохі саломы: запальвалі скруткі ды адбіваліся ад гайні.

Рэха паўтарылася, і цяпер ужо Віктар добра пачуў, што гэта сабачы брэх.

Значыць, вёска тут! І здалося, што за ўсё яго жыццё ніякі іншы голас не быў такім чаканым і патрэбным.

«Сабака брэша — вецер носіць!» А вось жа не тое! Добрую надзею і радасць прынясло гэтае брахание! Цяжар у нагах адразу зменшыўся, і сумная супярэчнасць знікла з душы. Зразумеюць жа добрыя людзі там, у часці, што чалавек не мог не завітаць да сям'і, калі апынуўся амаль побач з вёскай, дзе яна жыве. Напэўна, дойдзе іхняе разуменне і да таго, што падтрымка сям'і ў цяжкую часіну — гэта таксама патрыятычны абавязак воіна.

Тонкі і нязлы сабачы брэх даносіўся ўсё выразней, і Віктар ужо амаль не глядзеў сабе пад ногі, а крочыў спорна і ўпэўнена, трымаючы за арыенцір бадзёры голас таго, відаць, недарослага і, можа, нават адзінага ў вёсцы дварнягі. І неўзабаве хутчэй адчуў, чым убачыў, што лясная густата наперадзе пачала крыху радзець, быццам з далёкага ляснога гушчару выплыла шэрая паласа далягляду і на ім

нясмела, нібы толькі часова, замільгала зорка. Лес скончыўся. Надоўга ці не, Віктар амаль не памятаў па мінулай вандроўцы і чамусьці не думаў пра гэта. З прыемным адчуваннем глядзеў на далёкую зорку і ўяўляў, што яна заззяла быццам бы якраз на тым месцы, да якога яму трэба дайсці. І ззянне яе мацнее, і яна нібыта набліжаецца, плыве насустрач...

А тым часам — перад вачыма ўжо вялікая прагаліна, і, пэўна ж, не просека лясная, не палянка, а мабыць, абсеянае, абжытае месца. З правага боку гэтай прагаліны і даносіцца брахание сабачаняці: напэўна, там вёска. Засвідравалі ў галаве думкі-здагадкі і розныя меркаванні аб тым, як бы лепш ды зручней папрасіць дапамогі ў добрых людзей: можа б, хто падвёз хоць некалькі кіламетраў ці якую іншую параду даў.

Галасістае дзяўканне пачало набываць трывожныя ноты, часта даходзіла да захлёбу, аднак даносілася ўвесь час з аднаго месца: напэўна, дварняжка была прывязана. Углядаючыся ў той бок пры спадзяванні ўбачыць дзе-небудзь прыветнае акенца з агеньчыкам, Віктар зусім нечакана для сябе стаў заўважаць на прагаліне пры самай зямлі нешта падобнае на гурбу снегу. Нястрачаным інстынктам былога кавалерыста здагадаўся, што гэта белы конь адпачывае, добра напасвіўшыся роснай травою. Сам некалі бываў на начлезе, а потым у арміі не раз дзяжурыў на канюшні, ведаў, што коні ноччу лажацца, калі добра накормяцца. У яго самога быў некалі ў эскадроне белы конь Сокал. Нават у паўзмроку на ўсю канюшню быў відзён. Іншыя — чорныя, шэрыя, буланыя — бывае, палягуць, дык амаль што зліваюцца з падсцілам, а Сокал вылучаецца, нібыта белай прасцінай накрыты.

Віктар звярнуў з дарогі, яшчэ не меўшы ніякага намеру, ступіў некалькі крокаў да белай гурбы, і адразу ж сабачаня залілося пявучым брэхам, сарвалася з месца і адчайна рынулася насустрач. У руках у Віктара нічога не было, дык на ўсякі выпадак ён зняў з пляча рукзак і апусціў яго ніжэй каленяў.

Калі гэтакі начны пагражальнік падбег, нібы падкаціўся зусім блізка, то відно стала, што ўсур'ёз абараняцца і не было ад каго: каля ног закруціўся

шэры і кудлаты камячок, у якога не толькі ног і хваста, а нават вачэй не відно было. Аднак злосці і вернасці сваёй службе ў яго хапала: з такім адчаем і пагрозай кідаўся ён пад ногі і так заўзята наравіў цапнуць Віктара за халяву бота, што ўсё ж давялося разоў некалькі махнуць рукзаком.

— Ціха ты! — пачуўся непадалёку магутны і густы голас. Прагучаў ён на паўтоне, і Віктару здалося, што калі б гэты чалавек гукнуў на поўную моц, то рэха скаланула б лес хоць і на далёкай адлегласці. Кудлаты вартаўнік адразу прымоўк, азірнуўся на голас і стаў лагодна гуркатаць, падскокваючы перад прышэльцам. Відно было, што ён ужо не супраць быў і прылашчыцца, але Віктар пакуль што не праяўляў даверу.

— Хто такі? — спытаў чалавек ужо зусім прыцішаным голасам, аднак усё роўна чулася ў ім унушальная сіла і ўпэўненасць.— Куды чорт...— Тут ён запнуўся, уважліва паглядзеў на Віктара і не надта ўдала паправіўся:— Куды бог нясе?

Перш чым адказаць на пытанне, Віктар таксама змераў паглядам чалавека. Той быў у поўнай ваеннай форме пры сяржанцкіх пагонах, а на фуражцы паблісквала зорка. На шырокіх плячах вісеў пехацінскі бушлат, з-пад яго высвечваўся срэбраны радок медалёў.

«Навошта такому дварняжка? — міжвольна падумалася Віктару.— Сам здолее пастаяць за сябе. І абараніць каго трэба!»

— Іду на Хранавое,— не надта ахвотна паведаміў Віктар, яшчэ не адчуваючы пэўнай карысці ад такой размовы з выпадковым вайскоўцам.

— Куды? — перапытаў той і нядобра рагатнуў, крыху прыадкрыўшы шырокі і губасты рот.

Віктар паўтарыў.

— Ні храна не разумею! — ужо моцна і з пэўным здзекам прамовіў вайсковец. І, адвярнуўшыся назад, гукнуў:

— Хрысця-а!

Кудлатая дварняга здрыганулася ад такога крыку і прыціснулася да зямлі шарсцістым і, напэўна, мокрым пузам, моцнае рэха сапраўды шуганула па палетку і нібы раскатам далёкага грому заклекатала ў нябачным адсюль лесе. Хрысця пачула б такі

кліч, калі б была і немаведама як далёка адсюль, прачнулася б, калі б і спала самым моцным сном. Але яна была блізка, і хутка Віктар убачыў, што да іх бяжыць, ледзь не падае ад спеху нейкая жанчына ў доўгім і шырокім, як на дваіх, кажусе.

— Наш конюх,— памяркоўна растлумачыў вайсковец і бліжэй ступіў да Віктара, глянуў на яго гвардзейскі знак на гімнасцёрцы і на пагоны.— Прашу прабачэння, таварыш гвардыі лейтэнант! Відаць, я тут... Зараз усё высветлім.

Тая жанчына, што як на крылах прылапацела сюды ў кажусе да самых пят, крыху здзівіла Віктара тым, што была зусім босая і з распушчанымі валасамі. Убачыўшы пабочнага чалавека, яна ўзмахам тулава наставіла вялізны, на ўсю аўчыну, каўнер свайго тулупа і ўтуліла ў яго твар.

— Разбудзіў? — з паважлівай ухмылкай спытаў вайсковец.

З кажуха спачатку пачулася лёгкае аддыхванне ад бегу, а потым ціхае і лагоднае:

— Не-а.

— Слухай,— звярнуўся да яе вайсковец.— Тут таварыш гвардыі лейтэнант на Хранавое ідзе, дык, па-мойму, гэта ж не ў той бок?

— Чаму не ў той? — запярэчыла Хрысця і прыадкрыла каўнер.— Можна і так трапіць, цераз Баброўку, але ж будзе вялікі круг. Там развілачка была.— Хрысця ўжо зусім расхінула кажух і паказала голай рукою на лес, які Віктар нядаўна прайшоў.— Але вы, мабыць, прамінулі яе і не ўзяліся налева, і пайшлі направа. Цяпер вам толькі на Баброўку.

— Дык мне і трэба ў Баброўку! — усцешана прамовіў Віктар.— Туды мая жонка эвакуіравана... І сынок там у мяне!..

— Дык гэта сюдою, сюдою! — па-сапраўднаму радуючыся, што памагае чалавеку, узнёсла загаварыла Хрысця і ўжо абедзвюма рукамі стала паказваць у той бок, куды Віктар і накіроўваўся.— Далекавата яшчэ, але сюдою! А дзе там ваша жонка? Можа, у школе?

— Так, у школе,— пацвердзіў Віктар.

— Вось яно! — жанчына ўсклікнула так здзіў-

лена і ўзнёсла, што Віктар аж насцярожыўся.— А як завуць вашу жонку? Можа, я ведаю яе?

— Хрысця! — варкліва перапыніў жанчыну вайсковец.— Чаго ты дапытваешся?

— А што ж тут? — азваўся Віктар.— Пытанне да месца. Галяй яе завуць. А прозвішча? Маё — Віхораў, значыць, і ў яе такое ж.

— Віхорава! — узрадавана азвалася жанчына.— Дык была яна ў нас! Сямён!.. Ты яшчэ ў шпіталі тады ляжаў. Ехалі яны з Анны позна... З канферэнцыі. Ноч застала, мяцеліца разбушавалася, дык Наташа... Гэта сястра мая,— паведаміла Хрысця ўжо толькі Віктару.— Вучыць у Бабро́ўскай школе... Наташа ўгаварыла іх (чацвёра было на санях) пераначаваць у нас. Завучам Галіна Васільеўна там працуе?

— А я добра і не ведаю,— сумеўшыся, прызнаўся Віктар.— Яна не пісала мне пра гэта. Ды якая перапіска была ў нас?.. Толькі ў шпіталі... Вось еду пасля выпіскі... Рашыўся... Думаў, на крыллях далячу...

— Сямён! — зноў аклікнула сяржанта жанчына, ужо больш патрабавальна.— А што, калі б мы?!

— Ты конюх, ты і вырашай,— памяркоўна азваўся вайсковец, пэўна ж, адразу здагадаўшыся, на што намякае жанчына.— Гэта жонка мая,— растлумачыў ён Віктару.— Брыгадных коней выгналі на начны папас па жніўю. Якія там коні?.. Але ўсё ж цягло.

— Ну, ты ўжо!..— перапыніла яго Хрысця і лагодна штурхнула ў бок.

— Яна мяне падбівае,— ужо адкрыта загаварыў Сямён,— каб я каня вам даў сваёй брыгадзірскай уладаю. Даехаць у Бабро́ўку і заўтра назад. Але ж, праўду кажучы, няма ў што запрэгчы, каб на скорую руку ды надзейна...

— А вярхом! — уставіла Хрысця.— На Беляку!

— Вярхом! — паблажліва засмяяўся Сямён.— Ты ж паспрабавала аднойчы праехаць на ім вярхом. То дзе апынулася? Добра, што костачкі ўцалелі.

— Дык гэта ён са мною так. А ты ж ездзіш!

— Я-а! — усклікнуў Сямён.— Зраўняла! Я ў артылерыі служыў! Там у нас былі і цяглавыя коні,

і верхавыя. Бяляк ходзіць пад сядлом. Праўда! Але ж не ў кожнага. Я выменяў яго ў артылерыстаў... Адкарміў, адпасвіў. Вунь — казённая звычка: калі добра наскубецца, то лажыцца на жывот і спіць, аж храпе.

Віктар яшчэ раз глянуў у той бок, куды паказаў Сямён, і ўжо зусім выразна ўбачыў белага каня, стройнасць і пародзістасць якога былі відавочны нават ноччу. Цяпер можна было заўважыць, што зводдалі ад гэтага прыгажуна пасвілася і яшчэ некалькі каняг цёмнай масці: іх цяжка было адрозніць аднаго ад другога і нават прыкмеціць, калі крыху адысціся.

Сямён падышоў да Беляка, той жвава ўзняўся на ногі і выцягнуў да гаспадара доўгую, са стройнай гарбінкай зверху шыю.

«Сокал,— падумаў Віктар.— Да чаго ж падобны на Сокала!»

— Можа, і сядло якое ёсць? — адчуваючы нясціпласць, але ва ўладзе неабходнасці спытаў Віктар.— Калі б вы дазволілі?.. Я прыкладна да дзесяці ноль-ноль вярнуўся б.

— Ну, чаму ўжо так спешна? — запярэчыла Хрысця і, выставіўшы з-пад кажуха руку, пагладзіла Беляка па шыі.— Па нас-то можна і да паўдня...

— Сядло ёсць,— паведаміў Сямён.— Але што яно паможа, калі, скажам... Бяляк у нас з натурай і можа неўзлюбіць новага чалавека.

«Сокал,— зноў мільганула ў памяці Віктара.— Каб мой Сокал ды мяне неўзлюбіў? Не падначаліўся мне?..»

Услых жа сказаў:

— Наконт гэтага не сумнявайцеся: я коней люблю і ведаю. Змалку пасвіў і на начлег вадзіў, вось як вы сёння... Акрамя таго, перад вайною два гады служыў у кавалерыі.

— Дык мы з вамі амаль што!..— узнёсла прамовіў Сямён.— А цяпер дзе вы?

— Быў у стралковай часці, а далей — не ведаю. Скажуць у рэзерве.

— Хрысця! — звярнуўся Сямён да жонкі.— Ты пабудзь пры конях, а мы возьмем Беляка ды сходзім асядлаем яго. Хутка вярнуся. Шарык з табою астанецца.

Бяляк паслухмяна ішоў за гаспадаром і нібыта быў рады, што вось нарэшце яго ўзялі і, напэўна, хутка можна будзе размяць ногі, выпрастаць пастаць у шпаркім, імклівым галопе. Сямён трымаў повад аброці ў правай руцэ і што ні рабіў да гэтага, то ўсё адной, правай рукою. Бушлат у яго быў накінуты наапашкі, таму толькі цяпер Віктар больш здагадаўся, чым заўважыў, што левай рукі ў сяржанта не было.

— Дзе гэта вас? — спачувальна спытаў.— Да ампутацыі дайшло?..

— Ды яшчэ пад Ельняй,— уздыхнуўшы, адказаў Сямён.— Доўга праваляўся ў акопе, сцёк крывёю і рану заразіў... Лячылі, лячылі — не памагло. Прыйшлося лішыцца вось... Падчыстую нестраявы цяпер, а форму здымаць не хочацца: усё не магу паверыць, што ўжо зусім не ваенны.

— Мяне ля Паныроў,— быццам каб не астацца ў даўгу перад адкрытасцю сяржанта, паведаміў Віктар.— У першы дзень іхняга налёту. Асколкам снарада... Таксама ў плячо, але, вядома ж, лягчэй, як у вас: толькі каля месяца ў бінтах пахадзіў, са страявых не выбыў.

Сядлаў Беляка Віктар сам, сяржант толькі прытрымліваў каня за раменныя павады добрай сырцовай вуздэчкі, якую вынес з кладоўкі. Конь ужо быў зацугляны і ў прадчуванні хуткага руху нервова перабіраў стройнымі пярэднімі нагамі, нездаволена грыз цуглі. Сямён заспакойваў яго, пагладжваючы рукою па шыі, гаварыў самыя ласкавыя словы, аднак і сам прыкметна хваляваўся: у такім стане Бяляк часам і гаспадара не слухаў.

На выцяжку сваёй рукі Віктар памераў даўжыню страмёнаў, узяў з сяржантавай рукі паводдзе, накінуў на чолку каня і ў той жа момант апынуўся ў сядле. Бяляк спачатку падагнуў галаву, затупацеў на месцы, потым свечкай узняўся на дыбкі.

— Ціха ты! — крыкнуў на яго Сямён і выставіў руку, каб схапіць каня за кальцо цугляў. Але, убачыўшы, што госць адпусціў павады і з лагоднай усмешкай пагладжвае Беляка па шыі, супакоена нагадаў:

— Рукзак не забудзьце!

Белы Сокал так імкліва ўзяў з месца, што нібы-

та ў адзін момант апынуўся на дарозе. Галоп яго быў роўны і ўпэўнены, і хоць дарога яшчэ не пасвятлела і не радавала гладкасцю, скакун нідзе не спатыкаўся і тэмпу не зніжаў. Віктар сачыў за яго дыханнем і, здавалася, адчуваў, што ў каня добрая натрэніраванасць: пры такім алюры можна праз гадзіну быць дома. Сямён нічога не сказаў наконт цягавітасці Беляка, можа, не паспеў, але Віктар з першай хвіліны ўзяў намер — поўнасцю даверыцца волі і жаданню гэтага Сокала: хоча трымаць галоп, няхай трымае; пяройдзе на бег — няхай бяжыць; пойдзе звычайнай хадою — няхай ідзе. Ні падганяць яго, ні падаваць каманды павадамі Віктар лічыў непатрэбным. Сваёй кавалерыйскай спрактыкаванасцю ён вызначыў, што, на яго шчасце, трапіўся такі конь, які хітрыць пад сядлом не ўмее: аддасць усё, што ў яго ёсць, без ніякага прымусу, па сваёй уласнай волі і сумленнасці.

«Сокал, сапраўдны Сокал!» — з асалодай і захапленнем думаў Віктар.

Некалі той, эскадронны, адчуваў усё, нават настрой гаспадара. Бывала, прыйдзе Віктар у канюшню на досвітку, недаспаны і стомлены, возьме ў рукі скрэбла, і Сокал нагінае галаву, падстаўляе яму шыю, каб лягчэй было вычысціць густую грыву. На вучэннях ён ніколі не чакаў якіх-небудзь панукванняў седака, а слухаў агульную каманду ўзводнага і выконваў яе сам. Толькі ўжо на рубцы лазы ці пераадоленні розных палігонных перашкод, калі трэба было скакаць цераз канавы і бар'еры, Сокал нібы зрастаўся са сваім седаком, адчуваў і разумеў кожны яго рух, нават імгненнае імкненне.

Бяляк таксама нібыта адчуў, што Віктару вельмі хутка трэба ў Баброўку, і не спыняў галопу, толькі парыванне сваё крыху ўмерыў, каб надаўжэй захаваць сілы. А павады аброці вольныя, шэнкелі расслабленыя,— Віктар толькі аблягчае галоп, стоячы ў страмёнах і прыгінаючыся ледзь не да самай грывы. І гэтую ўмелую садзейнасць конь адчувае, мабыць, вельмі давольны ёю і, магчыма, успамінае ў гэтыя хвіліны сваю сапраўдную кавалерыйскую службу. А што быў Белячок у кавалерыі, Віктар упэўніўся адразу. Магчыма, лётаў скакунок у самыя небяспечныя атакі, налятаў, наскокваў

падкаванымі капытамі на ворага, выносіў свайго гаспадара-камандзіра з агню і полымя, сваім целам засланяў яго ад куль і асколкаў...

А калі б упаў камандзір ад варожай кулі, спыніўся б Бяляк ці пабег бы далей з пустым сядлом?.. Ці заўважыў бы ён цяпер, калі б раптам Віктар саскочыў з сядла? Прыпыніў бы свой галоп, азірнуўся б на гаспадара ці, можа, адразу павярнуў бы дадому ды яшчэ прыбавіў бы ходу, адчуўшы палёгку на спіне?

Віктар адхіляе такое мімалётнае ўяўленне. Нават сорам яго адольвае за такія думкі. Сорам перад канём! Калі б Бяляк здагадаўся пра такую выпадковую падазронасць, то, напэўна, балюча пакрыўдзіўся б, апусціў бы свае вострыя вушы, якія трымае цяпер тырчком наперад, быццам прарэзвае імі стрэчныя хвалі паветра.

Не, гэты скакун не мог бы здрадзіць гаспадару, кінуць яго ў бядзе. Віктару ўсё больш і больш праўдзіва ўяўляецца, што ён зноў сустрэўся са сваім верным другам з часоў кавалерыйскай службы.

...Праводзілася вучэнне ўжо каля самай граніцы. Вучэнне — прыбліжанае да сапраўдных баёў! «Бралі» небяспечныя скрытыя перашкоды. Сокал умела і лёгка прайшоў усю дыстанцыю, выскачыў на прастор і расслабіўся, а тут яшчэ адна заслона з высокім кустоўем і канавай за ім. Ні Сокал, ні Віктар пра гэта не ведалі — у баі ж таксама не будзеш ведаць, што і дзе давядзецца пераадольваць. Сокал не разлічыў руху, спатыкнуўся за канаваю і ўпаў... Віктар не паспеў выняць са стрэмя левую нагу...

Сокал усхапіўся, рыўком узяў наперад і раптам спыніўся, адчуў, што седака няма. Вярнуўся да Віктара і стаяў над ім, апусціўшы галаву, пакуль не падаспела дапамога.

...Трэшчыну ў галёнцы Віктаравай нагі лячылі ў медсанбаце. Праведваць хворага прыходзілі сябры па эскадроне, расказвалі, што Сокал кожную раніцу падае голас, калі байцы прыходзяць у канюшню на чыстку і ўборку. Чакае Віктара. Другога байца на першых парах не падпускаў у стайню, не даваўся чысціць. На паўторных вучэннях не пайшоў на той бар'ер, дзе здарылася няшчасце з Віктарам.

Абмінуў перашкоду, і новы кавалерыст не здолеў прымусіць яго вярнуцца на паўторную спробу.

...Зняўшы гіпс, Віктара пусцілі дадому на месячную пабыўку. Толькі прыехаў — пачалася вайна. Карыстаючыся адпускнымі дакументамі, памог жонцы эвакуіравацца вось у гэтае месца, куды цяпер імчыць яго Белячок...

А што з тым Сокалам? Можа, уцалеў, хоць чуткі былі, што кавалерыйскі полк быў разбіты ў першых баях на румынскай граніцы. Конь мог уцалець, а потым у другой часці і клічку яму далі другую. Ёсць на свеце цуды: можа, гэты самы Сокал, знямогшыся ў артылерыі, трапіў у рукі калгаснага брыгадзіра Сямёна? І ажыў, вярнуў сабе былую сілу і прыгажосць? А цяпер, можа, нават пазнаў свайго былога гаспадара...

...Дарога пайшла густым лесам. Белячок перайшоў ужо на спорны бег, і яго шпаркі, імклівы тупат аддаваўся ў стромкім сасняку недалёкім, але гулкім рэхам. Над дарогай блішчэла зорка, здаецца, тая самая, якую бачыў Віктар, як толькі ўвайшоў у лес. Але цяпер яна ўсплыла вышэй і свяціла ярчэй. Вядома, не так, каб асвятліць дарогу, але ўсё ж такі давала нейкую арыентацыю, а галоўнае, сваім мігценнем паказвала, што свяціць ёй нядоўга і да самага зеніта яна не дацягне, бо неўзабаве засцігне яе хоць і вельмі далёкая, але моцная ўлада першага сонечнага промня, і зорка знікне, быццам патане ў бяздонні. Тады поўнае, хоць і таксама часовае, панаванне над лесам і над вузкаю, як лясная сцежка, дарогаю зойме апошняя чвэртка месяца, якая вось ужо даволі жвава выбіраецца з-за лесу і з хвіліны на хвіліну пачне выглядваць на дарогу. Такі месячык, што ўзыходзіць позна, нават світання не баіцца: бывае, што сонца ўзыдзе і падымецца высока, а маленькі светлы круглячок плыве сабе па небе павольна, бестурботна і зусім не спяшаецца ўцякаць. Плыве, але не свеціць.

Імклівы і бесперапынны бег Сокала раптам стаў сяды-тады прыглушацца і быццам бы крышку ацяжарвацца. Спіна яго ішла плаўней, гэта Віктар адчуваў, узнімаючыся на страмёнах, а спору ў хадзе было менш: капыты патаналі ў нешта мяккае і, напэўна, ліпкае.

«Няўжо балота наперадзе? — насцярожыўся Віктар.— Не хапала яшчэ засесці ў багне».

Але ўсё паабапал дарогі паказвала, што тут балота не павінна быць: рос выносісты сасняк, сям-там бялелі ствалами і густа цямнелі ліствою прыдарожныя бярозы, высокія парасткі ці трава ў калена — нельга было на хаду разабраць — ледзь не заблытваліся ў каня пад нагамі.

Каб не трапіць у якую-небудзь багну, а тым больш — не збіцца з дарогі (можа, дзе была якая ўказка, ды не заўважылася на галопе), Віктар лёгенька нацягнуў павады, і Бяляк адразу прыцішыў бег, толькі пырхнуў быццам бы незадаволена і зазвінеў кольцамі цугляў. Віктар заспакоена паляпаў далоняю па яго ўжо крышку ўспацелай шыі, і Сокал спыніўся зусім. Саскочыўшы з сядла, коннік адчуў, што пад нагамі пясок, але ад частых дажджоў ды яшчэ, відаць, ад таго, што тут ніхто не ездзіць, жвірок парос сівухай, таму і такі вязісты і непрыкметны зверху.

Здагадка аб тым, што недзе, напэўна, праміну-ліся аб'езд ці паралельная дарога, што цяперашняя сцяжына, мяркуючы па ўсім,— насыпная грэбля, усё больш набывала падабенства праўды. Віктар пайшоў па грэблі пехатою, каб лепш упэўніцца, што гэта за дарога і куды яна вядзе, Бяляк крочыў побач паслухмяна, ласкава цёрся галавою аб Віктараў локаць, аднак папырхваў быццам бы незадаволена і з насцярогай. Віктар яшчэ нічога не бачыў наперадзе, а конь, напэўна, ужо бачыў, а можа, адчуваў, што на дарозе з'явілася нечаканая перашкода.

Гэта быў разабраны масток праз канаву, у якой на значнай глыбіні імкліва цякла, нават бурліла вада. Мосцік дарэшты згніў, і, мабыць, даўнавата, але пакуль з рамонтам не спяшаліся. Гэтым летам, пэўна, гнілыя маснічыны знялі, а пракладзіны пакінулі: дзве па баках і адну пасярэдзіне.

Віктар ступіў адной нагою на сярэднюю пракладзіну — яна заварушылася, а збуцвелая абалонка ціха трэснула. Самому то, пэўна, і можна было б неяк перабрацца на той бок: калі не па гэтай пракладзіне, то па каторай з бакавых. Але як жа з канём?

Бяляк трывожна супыніўся ля канавы, апусціў галаву, расшырыў ноздры, нібы жадаючы панюхаць ваду, а можа, нават і напіцца. Потым моцна захроп і пачаў грабці капытом вільготны жвір.

Віктар абняў яго за пысу, прытуліў да сябе:

— Скаканём, дружок! — сказаў нібы чалавеку, нібы самаму добраму сябру.

Мільганула неверагоднае жаданне, каб Бяляк зразумеў яго словы і падаў нейкі знак згоды. Калі б гэта быў сапраўдны Сокал, то напэўна зразумеў бы. Такая канаўка яму не ўявілася б неадольнай перашкодай. Тая палігонная запруда, дзе ён, можа, першы раз у сваім кавалерыйскім жыцці спатыкнуўся, была намнога шырэйшая.

А гэты Бяляк, калі ён не Сокал, можа, і не скакаў ні разу, не браў вадзяных перашкод. Аднак жа, дзе іншае выйсце? Вяртацца назад ды шукаць аб'езную дарогу? Колькі часу на гэта спатрэбіцца? І дарога тая можа пайсці вялікім кругам.

Для канчатковай пэўнасці Віктар прайшоў з канём у адзін край былога мастка, потым — у другі: з абодвух бакоў была расшыраная і, відаць, заглыбленая канава. У свой час сціснутая мастком і грэбляй, цяпер яна займела прастору, вольна разлілася ўшыркі і нагадвала невялікую багністую рачулку.

— Толькі так! — ужо зусім рашуча прамовіў Віктар.— Іншага ходу няма!

І калі праверыў сядзельныя папругі ды спрытна ўскочыў у сядло, адчуў, што Бяляк-Сокал зразумеў намер гаспадара і быў гатовы выконваць яго загад. Гэта перадалося і праз відавочнае хваляванне каня, і праз многія іншыя прыкметы яго паводзін, вядомыя толькі спрактыкаванаму конніку.

Паварот ад мастка ў процілеглы бок Бяляк зрабіў сам, але Віктар адчуваў, што не ад страху конь павярнуўся, а для неабходнага разгону перад надзвычайным, амаль сляпым скаканнем. Віктар не падганяў яго і не нацягваў павадоў, толькі старанна супакойваў і падрыхтоўваў да рашучасці ласкавым пагладжваннем па крутой шыі. І, ужо выйшаўшы на старт, Віктар прыўзняўся на страмёнах, падабраў павады і падціснуў каня шэнкелямі. Той напружана задрыжэў, з месца ўзяў павольны,

але ўпэўнены галоп і стаў рашуча паскараць яго, набліжаючыся да канавы. Віктар адчуў, што каню не спатрэбяцца ніякія прымусы, нават чыста жакейская каманда ў апошні момант. Толькі б добрая, умелая садзейнасць у рытме і тэмпах руху...

Канава была ўзята амаль без намагання і нават без парушэння імклівасці і зладжанасці галопу. Віктар расслабіў шэнкелі і прыапусціўся на сядло, даючы гэтым дазвол скакуну сцішыць галоп, а то і перайсці на бег, калі адчулася стомленасць. Але Бяляк толькі як з павагі да гаспадара крыху збавіў ход. Умерна папырхваючы, быццам для роўнасці дыхання, старанна выцягваў шыю і выцягваўся сам, каб далей выкінуць сухія ногі. Бяляк-Сокал нібы адчуваў, што яго гаспадар вельмі спяшаецца, і таму намагаўся навярстаць страчаны час на пераадоленне канавы. З абудвух бакоў дарогі хутка праплывалі густыя альховыя кусты, змрочныя, ледзь прыкметныя сілуэты дрэў. Часам траплялася прагалкі, і на іх або тырчалі пні на самай абочыне, або, улавіўшы зорку, паблісквала вада, зарослая паплывухаю. У такіх мясцінах на здзіўленне дружна і весела кракталі жабы: іх моцныя, хоць і нязладжаныя галасы чуліся і пасля таго, якміналася балоцінка. Яны не раздражнялі, не выклікалі санлівага суму, а толькі нагадвалі аб тым, што яшчэ не надта позна, бо перад золкам жабы заціхаюць.

І больш нідзе ніякага голасу, ніякага гуку. Хіба ўжо скончылася салаўіная пара? А можа, прамежак такі, не салаўіны: да поўначы яны сваё адспявалі, а да перадсвітальнай песні яшчэ пара не прыйшла?

Адзінока і сумотна было б аднаму. Нават і ў такі шчаслівы час, калі выпала магчымасць наведаць сям'ю, нават і пры такім нястрымным чаканні хуткай сустрэчы. Начная сцішанасць выклікала няпрошаную насцярогу, а жабіныя галасы не прыносілі радасці і не падавалі ніякай карыснай прыкметкі.

Мацнее пахропванне Беляка-Сокала. Ці гэта здаецца ў такой рэдкай начной цішыні, ці конь сапраўды пачынае стамляцца. Але стукат яго капытоў не сцішаецца і не радзее. Дарога сцелецца перад вачыма кароткай стужкай: ледзь толькі відаць, куды скіроўваць наступны скачок. Але гэта Віктару. А Беляку, напэўна ж, лепш відно, ён ні разу не сумеўся,

не прыцішыў ход праз якую-небудзь няроўнасць ці перашкоду на дарозе. Хацелася б зусім верыць: Сокалу, а не Беляку. Той быў самым надзейным важаком у эскадроне, і ў начных паходах заўсёды ішоў пярэднім. Віктар не вызначаў яму напрамку, калі даводзілася выбірацца з гушчэрных лясістых мясцін і скіроўвацца на зыходнае месца.

У пачатку аднаго прагалка пачуўся сабачы брэх. Хрыплы, па-воўчы расцяжны. Жудасць і трывогу мог бы выклікаць такі брэх, пацягнула б абмінуць яго, даць вялікі круг. А Віктар прыслухаўся і лёгенька прышпорыў каня. Адольвала імкненне хутчэй упэўніцца, добрая гэта прыкмета, жаданая ці проста выпадковая? Калі гэты чуйны ахоўнік з той лесніцоўкі, што павінна была сустрэцца тут на дарозе, то гэта вельмі дарэчы. Няхай сабе і хрыплы сабачы голас, і вельмі падобны на воўчы, але слухаць яго было прыемна, бо адзінокі прыдарожны хутарок чакаўся даўно, і ўжо часам узнікала трывога, чаму яго ўсё няма і няма. Няўжо не тая дарога выбрана?..

Ад лесніцоўкі рукой падаць да запаветнай вёскі. Цяпер гэта вельмі добра помніцца Віктару, а калі першы раз ішоў, то не ведаў, на якім аддаленні стаіць гэты хутарок.

...Ішоў другі месяц вайны. Старшаму сяржанту Віхораву было даручана весці роту навабранцаў у запасны полк пад Саратаў. Камандзірам батальёна прызначылі цывільнага дзядзьку, але, відаць, з нейкім запасным камсастаўскім званнем. У гэтага дзядзькі і адпрасіўся Віктар наведаць жонку, калі батальён спыніўся ў Анне і меўся там папоўніцца новымі запаснікамі.

...«У нас будзе сынок...»

Гэта ласкавы і трывожны шэпт жонкі ў час таго наведвання.

— Ты ўпэўнена, што сынок? — у голасе Віктара яшчэ больш трывогі, як у Галі. Але радасць і ўзрушанасць захлынаюць трывогу. Яму не хочацца думаць аб тым, як жонка будзе гадаваць сына ў адзіноце, удалечыні ад радзімы, ад блізкіх людзей. І пытацца пра гэта не хочацца.

— Баішся, што не выгадую? — Галя спытала пра гэта сама.— Не хвалюйся!.. Не трывожся! Не думай, што я такая слабенькая.— Яна абняла Вік-

тара за шыю, прытулілася вуснамі да вуха. Пра такія свае сакрэты ёй хацелася гаварыць толькі на вуха. Віктар адчуваў пяшчотную цеплыню яе вуснаў, ласкавасць маладых, ужо крышку абшурпелых ад палявых работ рук і з трывалым гонарам думаў: «Не, маё сонейка, ты ў мяне не слабенькая. Гэта я ведаў і раней, але найбольш пераканаўся ў час эвакуацыі, калі нам даводзілася начаваць у чыстым полі пад бомбамі, калі ты ў час пажару ў адной вёсцы кінулася ў агонь, каб выратаваць малых дзяцей».

— Буду гадаваць сына і чакаць цябе,— шаптала Галя.— Абое будзем чакаць! Толькі ты не забывай нас...

Потым яна стала непакоіцца, як ён вернецца пехатою назад у Анну. Туды каля трыццаці кіламетраў.

— Можа, я схаджу да старшыні, папрашу якой падводы?

— Не трэба, што ты? У людзей уборка!

— От каб цяпер табе таго Сокала, пра якога ты расказваў некалі ў дарозе. А да вайны і ў пісьмах пра яго пісаў. Я да гэтага часу ўяўляю яго, хоць, вядома ж, не бачыла ніколі.

Віктар спагадліва ўсміхнуўся:

— Фантазёрка ты ў мяне.

— Чаму?.. А можа, і астаўся Сокал? Ты ж не ведаеш.

Павяла пальцамі па яго сініх пятліцах:

— Гімнасцёрка тая самая, кавалерыйская... Можа, і шпоры на ботах, як на той фатаграфіі, што прыслаў некалі?

— Шпораў няма, а боты яшчэ тыя самыя...

...Праводзіла тады Галя мужа амаль да самай вось гэтай леснічоўкі. Абое спыніліся, калі пачуўся насцярожаны сабачы брэх.

...Да Саратава ішлі ледзь не да самых замаразкаў: Віктар і цяпер не разумее, хто мог дазволіць у тыя часы так доўга вясці папаўненне. Хутчэй за ўсё гэта была адна з тых недарэчнасцей, якія, на жаль, здараліся ў першыя месяцы вайны: батальён сфарміравалі, а потым, відаць, забыліся пра яго. Гэта была нібы воінская часць, нібыта абозна-грамадзянская. Ніякіх атэстатаў на забеспячэнне, ні правоў на загатоўку прадуктаў батальён не меў. Трымаўся ў

дарозе толькі тым народным патрыятызмам, які нязменна адчуваўся ўсюды. Прыходзілі ў калгас, размяшчаліся па хатах, і камандзір батальёна ішоў да старшыні калгаса, пісаў яму розныя патрабаванні і распіскі на атрыманне прадуктаў.

У Анне батальён затрымаўся на лішнія суткі, таму што трэба было арганізаваць выпечку хлеба. Гэта быў самы крыўдны момант для Віктара: каб ведаў, што выйдзе затрымка, то пабыў бы яшчэ дома, не спяшаўся б так, што аж ногі назаўтра нылі, мазалі нацерліся на ступнях.

Печаны хлеб везлі і няслі з сабою. З'ядалася ўсё — арганізоўвалі новую выпечку. Кіраваліся быццам бы самым кароткім шляхам, а часам выходзіла, што давалі непрадбачаныя павароты, завароты і адольвалі за дзень які дзесятак кіламетраў.

Гэты паход успамінаецца Віктару з болем у душы. Самая непрадбачлівая франтавая служба пазнейшага часу не ўяўляецца такой няўладжанай і недарэчнай. Чаму б не падаць паўэшалона і не даставіць запаснікоў на месца за адзін-два дні?

Пазней, калі значная частка запаснікоў, а з імі і Віктар сталі рашуча пратэставаць — людзі ваююць, а мы тут пабіраемся па вёсках,— дзядзька камандзір дазволіў Віхораву зайсці ў адзін недалёкі ад іхняга маршруту ваенкамат. Там сяржанта выслухалі быццам бы і спачувальна, але з відавочным смяшком: усе вагоны адсюль, калі іх удаецца выбіваць, адпраўляюцца на фронт, а не ў тыл. Так што — топайце, браткі, пакуль не шкада лапцяў! І пакуль вамі не папоўнілі якую-небудзь стрэчную маршавую часць.

На адной прамежкавай станцыі Віхораў дазнаўся, што невялікай групе людзей можна ўціснуцца ў маршрутны эшалон. Падаў просьбу — рушыць такім чынам з групай найбольш актыўных навабранцаў сваё роты да месца прызначэння і адтуль памагчы ўсяму батальёну: можа, нават выслаць насустрач транспарт, паколькі вядома было, што пры запасным палку фарміруецца асобны аўтабатальён.

Паходны камбат спачатку крычаў, абураўся, а потым стаў прасіць Віхорава не пакідаць яго.

— Прападу я без цябе,— ледзь не плачучы, жаліўся ён.— Людзі разбягуцца, а тады мяне пад суд аддадуць. І не проста пад суд, а пад трыбунал!..

І сапраўды, дзіву даваўся Віктар, успамінаючы цяпер,— за ўсю доўгую дарогу ні адзін чалавек не ўцёк з батальёна. А было ж — вольнаму воля: ніхто ні за кім не сачыў, у некаторых ротах нават і пераклічкі не рабіліся, бо камандавалі імі такія ж адстаўныя дабрадзеі, як і гэты часовы камандзір батальёна. Недзе на трэцім месяцы паходу многія запаснікі абнасіліся і абтапталіся, ранішняе пастраенне часам затрымлівалася на цэлую гадзіну, бо людзі лапілі сваю вопратку, рамантавалі абутак. На першых часах пры такіх з'явах камбат бегаў па хатах, хваляваўся, накідваўся з лаянкай на камандзіраў рот. А потым звыкся з абставінамі і сцішыўся. Падраздзяленні краналіся з месца, калі рота Віхорава была ўжо далёка. Па яе следу павольна клыпалі астатнія запаснікі. Дзядзька камбат, у добрай бурцы, здабытай у адным калгасе, ехаў на абознай фурманцы, якая везла выпечаны хлеб і калгасную муку для новай выпечкі.

З-пад Саратава ды пад Варонеж. Адтуль — пад Барвенкава!.. Блізкі свет! Аднак вельмі здзіўляцца не было чаго. З аўтабатам, у які трапіў Віктар выпадкова, бо не меў ніякага аўтамабільнага прызвання, часам выпадала рабіць вялікія маршы. У той бок — абставіны гэтага вымагалі — набліжаліся паступова. А вось адтуль газавалі на самых вялікіх хуткасцях. І цераз Дон перакаціліся амаль з лёту, ды ўжо ледзь не па могільніку нашай тэхнікі і ўзбраення. Спыніліся ў Вёшанскай.

Віктару давялося ратавацца ад варожай шрапнелі пад домікам Шолахава. Блакітны, аднапавярховы, агароджаны частаколам, таксама блакітным. Хацелася хоць глянуць на тое месца, якое ведаў увесь свет. Падбеглі ўдвух з адным штабным пісарам, пажылым ужо чалавекам, вялікім прыхільнікам творчасці Шолахава, а тут — зноў налёт. Упалі тут жа, дзе стаялі. З лятучых кантэйнераў злавесным градам пасыпаліся разрыўныя бомбы. Дробныя, як боб. Адна з іх аглушальна трэснула каля самага Віхорава. Прыкра зазвінела ў вушах, у нос

разанула вострым пахам серкі. І пачало балюча свідравацьў галаве пытанне: канец гэта ці яшчэ не? Можа, пранясло і на гэты раз?

Не ўпершыню ўзнікала такое пытанне. Яно падцешвала свядомасць тым, што калі ёсць нейкае адчуванне, то яшчэ жывы, хіба толькі паранены так, што не чуеш болю, або кантужаны.

Праз нейкі момант прыйшла ўпэўненасць, што паварушыцца можна. І таму трэба неадкладна шукаць больш зручнага ўтулку ад такіх бомбаў. Варожыя самалёты хутка пойдуць другім кругам і могуць спусціць смертаносныя кантэйнеры ў гэтым жа месцы, відаць, маючы на прыцэле домік Шолахава.

У шчылінках натужна расплюшчаных, але запарушаных пылам вачэй віднеўся пашчапаны асколкамі блакітны частакол. Ён быццам бы мігцеў, быццам тросся перад зрокам. Віктар крануў суседа:

— Перабяжым крокаў некалькі, тут непадалёку раўчук.

Сусед не адказаў і не паварушыўся.

— Чуеш? Бяжым!..

Самалёты ішлі другім кругам, а сусед не кратаўся і не падаваў голасу. Ужо не зважаючы на выбухі, не чуючы іх, Віхараў пачаў тармашыць суседа, абмацваць яго постаць. Адчуў на сваёй руцэ цёплую вільгаць крыві...

...Да бліжэйшай шляхавой дарогі нёс чалавека на руках. Вухам і грудзьмі чуў, што ён яшчэ жывы, але мову яму адняло: відаць, тут не толькі раненне пад дыхавіцу, але і кантузія.

...Стаяў на сярэдзіне дарогі і трымаў на руках непрытомнага чалавека. Машыны, нагружаныя паранёнымі, абміналі Віктара і не спыняліся. Некаторыя з шафёраў спачувальна ківалі галовамі.

Нарэшце адзін грузавік спыніўся, з кабіны выглянуў старшына з медыцынскімі эмблемамі ў пятліцах.

— Ану, давай яго сюды! — загадаў сурова. Узяўся за апушчаную ледзь не да самай зямлі руку параненага.— Дык ён ужо гатоў! Чуеш? Чаго трымаеш на руках? Пахавай дзе-небудзь тут, калі можаш!

Ноччу пакінулі Вёшанскую. Па шляху да Сталінграда некалькі разоў спыняліся, прабіваліся на-

перад, вярталіся назад, потым зноў ірваліся наперад. Мэта была яснай — дастаўлялі часцям боепрыпасы. Акрамя пэўных штабных абавязкаў, Віхораву перадалі і той сейф з партыйнымі дакументамі, за які раней адказваў нябожчык-штабіст. Гэты сейф амаль што і не знімаўся са штабной машыны...

Пад Сталінградам — кароткатэрміновыя лейтэнанцкія курсы. Ранейшыя атэстацыі, мабыць, прападалі ў страшэннай прыфрантавой кругаверці. А можа, не зацвярджаліся без спасылкі на спецкурсы. Вышэйшая гуманітарная адукацыя Віктара тут, напэўна, не мела значэння.

Вучыліся ўрыўкамі, а найбольш стаялі ў абароне. Віктару часам здавалася, што навука гэтая яму не надта і патрэбна. Побач з ім вясковыя хлапчукі з сямігодкамі вучыліся страляць з кулямётаў і пісталетаў. Знаёміліся з трафейнай зброяй, якую яшчэ ні разу не трымалі ў руках. Віктар ужо карыстаўся ўсялякай зброяй. А не так даўно ў кавалерыйскай палкавой школе на спаборніцтвах па стральбе займаў першыя месцы.

Аднаго разу давялося аддзяжурыць ля станковага кулямёта цэлую ноч. Вочы пачалі сплюшчвацца толькі на світанні. Пасля змены лёг у бліндажыку і адчуў, што ўстаць наўрад ці здолее...

Урач санчасці доўга мераў тэмпературу, доўга слухаў грудзі праз трубку, а потым старанна праціраў рукі спіртам...

— Колькі вам асталося да заканчэння курсаў?

— Добра не ведаю, але мяркую, што вельмі мала.

— Шкада, шкада...— задумліва прамовіў урач.

І пасля гэтага зноў доўга маўчаў, спачувальна паглядаў на Віктара.

— Давядзецца перарваць усё і направіць вас у Камышын.

— Чаго?

— У шпіталь.

— Я тут падлячуся!

— Не, гэта немагчыма!

У Камышыне Віхораў даведаўся, што ў яго сыпны тыф. Праз некалькі дзён наступіла жахлівае, па-

кутлівае адключэнне ад усяго свету белага: жудасна і ўладарна ахутала свядомасць чарната і цемната. Віктар не памятаў ні самога сябе, ні ўсяго таго, што з ім было. З таго беспрытомнага часу ўспамінаецца цяпер толькі адзін пякучы ўкол, пасля якога нешта халоднае і ліпкае пацякло па назе. І следам пачуўся далёкі, быццам падземны голас, нібы мужчынскі, нібы жаночы:

— Цяжкая форма... Вельмі цяжкая!..

Калі першы раз глянуў на свет, у палату прынеслі франтавую газету. Мільгнуў аншлаг перад вачыма... Адчулася, што пра нешта важнае паведамляецца ў ім, а літары заскакалі, замітусіліся, потым пацямнелі і зусім зніклі ў змрочным тумане.

— Вам прачытаць, таварыш лейтэнант?

Голас быў ласкавы, спачувальны і быццам бы знаёмы. Уявілася тая лагодная спагадлівая жанчына, што давала яму ўколы і прыкладвала да лба халодныя кампрэсы ў першыя дні прабывання ў шпіталі. Вось жа стаіць яна тут, зусім побач... А можа, сядзіць на белым зэдліку... Але не відна, зусім не відна, быццам за густой цёмнай заслонаю.

— Прачытайце! — квола папрасіў Віктар.

— Разгром гітлераўскіх войск пад Сталінградам! — бадзёра паведаміла жанчына.— Чуеце? Перамога наша! Вялікая перамога! Узяты ў палон нават Паўлюс і ўвесь яго штаб!

Жанчына быццам чытала па пісанаму, але газета была ў руках Віктара, ён адчуваў яе пальцамі. Аншлаг зноў пачаў выплываць перад вачыма, але ўжо не верылася, бо не хапала сілы нават паварушыцца, падняць рукі з газетаю. Хацелася папрасіць жанчыну, каб прачытала або пераказала яшчэ раз тое, што ён пачуў. Радасць захлынала душу. І адначасова горнасць ад таго, што гэта адбылося без яго. Тыф адарваў ад фронту і ледзь не загнаў на той свет... А можа, выратаваў ад таго свету?.. Мільгнула вострае, нястрымнае жаданне даведацца пра лёс аднапалчэнцаў, сяброў па акопах, па зброі. Але хто скажа пра гэта, хто пра іх ведае?..

Жанчына чамусьці зноў сказала яму — «лейтэнант». Агаварылася, з некім пераблытала?.. Але следам яе ж меркаванне:

— У вас, мабыць, сын нарадзіўся!

— Адкуль вы ведаеце?

Цёмны туман на момант сплыў з вачэй: Віктар убачыў, што каля яго сапраўды сядзіць на белым зэдліку медсястра, але не тая, што была ў першыя дні лячэння.

— Адкуль вы ведаеце пра сына?

— Вы гаварылі пра яго ў трызненні, як у сне... Вы часта пыталіся пра яго.

Сапраўды, па часе дык ужо мог нарадзіцца сын. Галя ж шаптала, прытуліўшы гарачыя вусны да яго вуха... Гэта было ў час першага наведвання... У пакойчыку нікога староннягa, аднак Галя чамусьці шаптала... Потым увесь час помніўся гэты шэпт, а ў часы трызнення ён, напэўна, паўтараўся.

— Вы напішыце пісьмо дадому,— быццам прапаноўвае, але больш падобна на тое, што просіць, медсястра.— Калі тое месца не акупіравана?

— Не павінна!.. Не можа быць!

— Скажыце адрас, а я праверу,— гаворыць сястра, нахіліўшыся да яго.— Магу і пісьмо напісаць, пакуль вам яшчэ цяжка. Гэта ж сын у вас! Якое шчасце!

Жанчына гаворыць уголас, а Віктару здаецца, што яна шэпча яму на вуха, як некалі Галя. Ён прагна ўглядаецца ў медсястру, нібы намагаючыся нешта прыкмеціць на твары, нешта вызначыць ці параўнаць. Заўважае толькі тое, што яна старэйшая за Галю і халат у яе нацягнуты на цёплы бушлацік. А ў палаце быццам бы і не холадна. Хіба ў калідоры?..

Упершыню акідвае зрокам палату, нібы скрозь сон успамінае тую, куды яго паклалі, як прывезлі з-пад Сталінграда. Ёсць нешта падобнае, аднак і розніца відавочная: там ложкі стаялі ў два рады — калі ўрач звяртаўся да аднаго хворага, то паварочваўся спіною да другога. Тут ложкі ў адзін рад, і ад дзвярэй уздоўж сцяны астаецца такая прастора, што хоць другога рада і не паставіш, аднак урачу цясніцца не трэба. І харчаванне з кухні сюды не носяць на падносах, а развозяць на самакатцы — ёсць дзе праехаць. Але вокан тут менш, і сумотны паўзмрок устойліва туліцца ля сцен і ў кутках.

— Чаму мяне перанеслі? — пытае Віктар і ледзь

чуе свой голас і насцярожана глядзіць на сястру.— Гэта палата смертнікаў?

— Ну што вы? — абураецца медсястра.— Тут афіцэры ляжаць.

— Я не афіцэр, а малодшы камсастаў.

— Вы ўжо афіцэр,— з радасцю ў голасе паведамляе сястра, відаць, толькі цяпер здагадаўшыся, што Віктар нічога не ведае пра гэта, што ў той час, калі прыйшоў сюды загад аб прысваенні звання, ён быў у самай глыбокай непрытомнасці.

Зайшоў урач. Голас у яго бадзёры, узнёслы:

— З перамогай вас, таварышы афіцэры! Вялікай перамогай пад Сталінградам!

І падышоў да Віктара...

Віхораву хацелася выказаць падзяку ўрачу за віншаванне, за добрае слова. Але голас зусім апаў, рот і ўсю гартань зацягнула прыкрай і безнадзейнай сухатою.

— Ідзём на папраўку! — упэўнена гаворыць урач, трымаючы пальцы на сініх жылах Віктаравай рукі.— Цяпер вам адно: харчаванне і адпачынак... Адпачынак і харчаванне.

І пра нешта пашаптаў сястры.

У гэты момант Віктар глянуў на сваю руку. У параўнанні з урачовай яна ўявілася падобнай на тую, што даводзілася бачыць у мерцвякоў: да жудасці жоўтай і сухой.

«Няўжо і ногі такія?»

— Харчаванне і адпачынак! — яшчэ раз паўтарыў урач.

Але Віктару не верылася.

«Якое харчаванне, калі есці зусім не хочацца, а толькі смага адольвае?.. Колькі трэба таго харчавання і адпачынку, каб рука стала як у людзей?.. А тыя людзі на фронце!.. Яго сябры і аднапалчэнцы!.. І гоняць, гоняць яны ворага з-пад Сталінграда...»

Сястра адразу выйшла пасля таго, як урач пашаптаў ёй нешта на вуха. Неўзабаве вярнулася і паднесла да вуснаў Віктара адкаркаваную пляшачку, круглую і з доўгім рыльцам.

— Смактаніце, і вам палягчэе.

— Што гэта?

— Лякарства. Смактаніце!

У роце адчулася прыемная, пахучая соладзь. Сухасць знікла, захацелася нават сказаць што-небудзь, каб праверыць свой голас. І перш за ўсё абнадзеіцца, што рукі і ногі пачнуць варушыцца, а потым і дзейнічаць, што жыццё вернецца і яшчэ можна будзе паваяваць, дагнаўшы ворага, магчыма, ужо на чужой тэрыторыі...

І тут жа такая радасць: сын нарадзіўся! Ці ёсць аб гэтым паведамленне? Вядома ж — няма. Але жыве такая надзея, і ад яе ўсё больш і больш цяплее на душы.

Заманулася ўзяць яшчэ глыток таго жыватворнага пітва, што прынесла сястра. Ці не пакінула яна тут пляшачку?.. Не, не відно. Мабыць, у тумбачку паставіла: адтуль самому не дастаць. І папрасіць няёмка... Відаць, гэта вельмі каштоўнае лякарства...

А пах яго быццам плавае над ложкам... А можа, па ўсёй палаце.

Чым яно пахне, такім блізкім, нібыта знаёмым з самага маленства? Доўга не прыходзіла жаданая здагадка, часам набліжалася і аддалялася, быццам нейкая адухоўленая істота наўмысля выпрабоўвала цярпенне, а ў рукі не давалася. І стала свойскай і зусім блізкай толькі тады, калі міжвольна думкі перанесліся ў тую невялічкую вёсачку на Старобіншчыне, дзе прайшло Віктарава маленства. Агародчык з малінаю, з парэчкамі, што буйнымі вянкамі спускаліся аж да зямлі, а часам і ляжалі проста на траве, з двума кустамі агрэсту і адным — чорнай смародзіны. Стары быў той куст і мала ўрадлівы, але разросся не ў меру, займаў ледзь не паўагародчыка. Віктараў бацька падышоў да яго з вострай шылаватай рыдлёўкай, але маці ўбачыла, засланіла куст сабою, пачала ўпрошваць:

— Не чапай! Шкада! Такі ўдалы кусцік!..

— Дык жа не родзіць, дарэмна сокі п'е. А калі што і вырасце, дык смаку няма і пах непрыемны.

— От паспрабуем сёлета,— намагала маці.— Няхай яны паспеюць, ягады, а я тады сама пахаджу каля іх: можа, варэнне звару, а то лепш у бутлю засыплю з цукрам.

І засыпала. Зімою давала дзецям ад кашлю. Сок быў такі смачны і пахучы, што Віктар аж заплюшчваў вочы ад прыемнасці і ўцехі, калі датыкаўся

губамі да той драўлянай лыжкі з густаватым настоем. Лыжку трымала маці, каб выпадкам не разлілася тая жыватворная, нібыта святая вадкасць. А рука дрыжэла, а вусны паварушваліся, адчуваючы незвычайную асалоду.

Пасля такіх лекаў маці сама аблізвала лыжку. Яна не адважвалася яшчэ раз нахільваць бутлю для сябе: няхай надаўжэй ашчэджваецца лякарства, каб хапіла на ўсю зіму ды на ўвесь год, да новых ягад.

Цяпер Віктару вось гэтую пляшачку трэба берагчы, бо сястра шапнула, што выпрасіла лякарства толькі для яго, як горш за ўсіх хворага. А так хацелася б высмактаць бутэлечку ўсю адразу! Тады, напэўна, і смага прайшла б, і дужасці пабольшала б у целе. А калі б па такой пляшачцы на кожны дзень? Сіла вярнулася б хутка, і можна было б здзейсніць тое, аб чым цяпер сумуе душа: дагнаць свой батальён, тых баявых сяброў, што перамаглі пад Сталінградам. Калі толькі яны асталіся жывымі! Калі трымаюць у руках зброю! Дзе іх можна будзе дагнаць, далучыцца да гераічнай шарэнгі? Магчыма, што ўжо не на сваёй зямлі, можа, і пад самым Берлінам. Але ж дагнаць трэба, у гэтым сэнс жыцця!..

Нечакана для сябе Віктар замгнуў на хвілінку, і перад яго вачыма ўзнікла матчына бутля з сокам. Не перахіленая і не высмактаная напалавіну, а зусім поўная і хораша абвязаная белай паркалёвай, але ўжо месцамі падфарбаванай ягадамі анучкай.

— Вазьмі, сынок! — ласкава просіць матуля.— Усю бутлю вазьмі!.. Вып'еш, паправішся...

«Дзе яна цяпер, мая матулька? — трывожна думае Віктар, прачнуўшыся.— Як жыве, калі ўратавалася ад ворагаў? Там пакутуе, дзе і свой век пражыла, ці перакінула, перанесла куды ліхалецце?..»

Родны куток з бярозавым гайком непадалёку, з таполяй над каплічкаю ў адным канцы вуліцы і старым млыном-ветраком у другім канцы. Звычайны пейзаж для Беларусі... А можа, і для многіх мясцін нашай краіны, ды ніколі не сыходзіць з думак...

У памяці, як і на душы... Хіба забудзецца тое шчасце, калі ўдавалася адбіць у немцаў нашу вёску. І там — млын-вятрак без крылаў, з навылётнымі прабоінамі ў пачарнелай ашалёўцы... Паабапал —

аскабалкі жарнавых каменняў з выбітымі зубілам раўчукамі. Яны яшчэ белыя ад мукі... Яны яшчэ пахнуць мукою... Надараўся часам млын-вятрак і з крыламі, ды нашчэнт зрашэчанымі кулямётнымі чэргамі...

Успамінаюцца бярозавыя гаёчкі, пад корань спілаваныя акупантамі. У некаторых мясцінах такі гаёчак быў пры могілках, а ў некаторых — на саміх могілках. Пянькі стаяць паміж магільных насыпаў... Свяжэйшыя з пянькоў, яшчэ ружовыя зверху і вільготныя ад соку, нібы маладыя шчокі ад слёз.

У адной памятнай мясціне былі цэлыя штабялі спіленых і абцярэбленых бяроз. З роўных белых дрэўцаў немцы рабілі крыжы для сваіх магіл. Увесь бліжэйшы ўзгорак занялі гэтыя магілы. І ледзь не на кожным крыжы тут сядзела варона і заўзята каркала, быццам навечна адпявала акупантаў. Бярозавыя крыжы на варожых могілках былі застыла-змрочныя і не слязіліся сокам на распілаваных ці падсечаных месцах.

Не забудзецца Віктару і той былы гаёк, дзе над белымі, з жоўтымі каптурыкамі пянькамі стаяла магутная бяроза, ацярэбленая аж да самай верхавіны. На магільныя крыжы пайшлі яе доўгія галіны, а само дрэва стаяла і з самотнай маркотнасцю пашумлівала над варожымі могілкамі. Задумлівы і нерухомы крумкач сядзеў на самай макушцы гэтай бярозы, быццам высочваў адтуль нешта, быццам чакаў пэўнай зручнасці для сябе. Падышоўшы бліжэй, Віхараў наставіў на яго рулю аўтамата, але крумкач спачатку быццам не заўважыў яе, быццам не разумеў, што гэта такое. Толькі праз нейкі момант нехаця расставіў крылы і шухнуў уніз, а потым квола ўзяўся вышэй і пераляцеў на варожыя могілкі, сеў там на крыж побач з воронамі.

З Віхоравым — сувязны і санінструктар. Утраіх накіраваліся да бярозы, бо яшчэ здалёк заўважылі, што пад ёю нехта стаіць... Пры самым камлі і зусім нерухома. Хто б мог тут стаяць, калі навокал жывой душы няма? Бліжэйшая вёска спалена да апошняга бервяна, нават калодзежныя жураўлі паабгаралі, а некаторыя зусім перагарэлі і чорнымі галавешкамі пападалі дзе ў калодзеж, а дзе побач з калодзежам.

Было ціхае ранне вясны. Бяроза толькі пачынала выпускаць зачаткі лісткоў. Таму сподалеку выглядала амаль што голай. Той чалавек, што стаяў пад ёю, яшчэ не мог там прыхавацца ні ад дажджу, ні ад сонца.

Санінструктар, нізкарослы здаравяк са старшынскімі адзнакамі і нязменны смяльчак ва ўсіх разведках, пабег да бярозы першы. Адтуль падаў голас і замахаў рукамі, патрабуючы хутчэй падысці. Віхораў і сувязны падбеглі.

Ля бярозы стаяла жанчына. Яна была прывязана да бярозы: доўгая вераўчаная ляйчына, вільготная ад начнога туману, у некалькіх мясцінах пераняла яе постаць, скруціла рукі, а ўверсе двума канцамі была заматана за шыю і цяжкім вузлом сціснута за камлём бярозы. Перад выплаканымі вачамі жанчыны вісела пачарнелая клёпка з нейкай абгарэлай дзежкі. На клёпцы выведзена мелам: «Бандытка».

Віктар перш за ўсё сарваў гэтую клёпку. Жанчына была падстрыжаная да плечукоў. Напэўна, некалі завітыя чорныя валасы цяпер выпрасталіся, павіслі над трыма столкамі ляйчыны і з абодвух бакоў прыкрывалі пасінелыя вушы ды спаласаваныя слязамі і ўжо застылыя ў адчайным спакоі шчокі.

— Яна ўжо некалькі дзён тут,— з горнасцю ў голасе сказаў санінструктар.— От людаеды фашысцкія!

— Давайце пахаваем яе! — загадаў Віхораў.— Пад гэтай самай бярозай.

Салдацкімі лапаткамі выкапалі магілу, адвязалі, узялі на рукі здранцвелае цела... Калі насыпалі жоўты копчык, санінструктар падняў з зямлі абгарэлую клёпку, саскроб з яе карніцкі надпіс і сумна задумаўся.

— Як жа яе звалі?..— Яго недаўменны пагляд спыніўся на Віхораве.— І дазнацца няма ў каго...

Нічога не мог сказаць наконт гэтага і Віктар. Тады санінструктар расшукаў у сваёй палявой сумцы частку хімічнага алоўка, намачыў белую палавіну клёпкі бярозавым сокам, які гаротнымі слязьмі ліўся са свежых вільготных гнёздаў нядаўна зрэзаных і ссечаных галін і ралін, прытуліўся да ціхай,

самотнай, нібы заплаканай ад жальбы бярозы і напісаў:

«Твая смерць — тваё бяссмерце!» Паклаў клёпку на два камяні на магіле і прымацаваў таксама камянямі.

У сумоце адыходзілі ад бярозы, і Віктар з тугою і болем адчуў, што амаль зусім не ўяўляе твару жанчыны: спачатку дошчачка вісела над тварам, а потым вочы міжвольна адводзіліся куды-небудзь убок, напэўна, таму, што цяжка было разглядаць тую ссінелую і скажоную ад болю і пакут пляму, якая некалі была жаночым тварам, магчыма, прыгожым і абаяльным. Нават узросту пакутніцы нельга было вызначыць.

І раптам пякуча і востра кальнула ў сэрца: «А можа, гэта сястра родная?.. Постаць быццам бы нечым нагадвае старэйшую сястру, настаўніцу, што працавала ў адной недалёкай адсюль сельскай школе... А можа, нават маці?.. На гэта нішто не наводзіла, але хіба не магло так здарыцца і з матуляю?..»

Голас палатнай сястры перапыніў балючыя ўспаміны.

— А чаму вы ў гарачцы ўсё нейкага Сокала звалі? То сына, то Сокала. І часам так моцна, што ўсе ў палаце прачыналіся.

Няўжо так магло быць у тыфозным трызненні? Напэўна, магло. Як толькі наставала вельмі цяжкая часіна на фронце і жыццё пачынала трымцець, нібы на валаску, на памяць заўсёды ўзбрыдаў белы Сокал... Мроілася надзея, што ён раптам з'явіцца і выратуе, вынесе з-пад агню хоць параненага... Хоць ледзь жывога. Няхай нават і зусім нежывога, абы толькі не пакінуў ворагу. А думкі пра сына, які павінен нарадзіцца ці ўжо нарадзіўся, прыносілі веру ў сваю неўміручасць. Не можа бацька загінуць, зусім знікнуць са свету, калі ў яго ёсць сын... Калі жыве і гадуецца родны нашчадак... Калі ён чакае і верыць, што бацька вернецца пасля перамогі...

Гэтак думалася тады ў шпіталі. Але і надалей белы Сокал, нібы ў чароўнай казцы, з'яўляўся перад

уяўленнем. І прыбаўлялася рашучасці, мацнелі сілы, часам яны былі ўжо амаль апошнія.

...Не дагнаў Віктар сваіх аднапалчэнцаў пасля таго, як выпісаўся са шпіталя, не рушыў адразу пад Берлін, як іншы раз мроілася, лежачы на шпітальным ложку, а з маршавай ротай, сфарміраванай у запасным палку, апынуўся пад Панырамі і заняў абарону на самым пярэднім участку Курскай дугі. Сокал сніўся яму ў часы начных адпачынкаў у двухнакатным бліндажы з зямлянымі нарамі, засланымі травою з сухім пахучым чабарком. Такія ночы ішлі адна за адной доўга. Абарона была ўжо даўно закончана, акопы і кулямётныя гнёзды замаскаваны так дасканала, што аж самому нельга было заўважыць іх, калі ісці адкрытым полем. Праверыўшы пасты, можна было і адпачыць... Паступова меншала трывожная насцярога, і часам падкрадвалася зманлівая думка, што, можа, і не будзе варожага наступлення на гэтым участку. А можа, і нідзе не будзе: вораг збаіцца нашых «кацюш», як ужо не раз было, і адступіць без бою.

...Калі грымнула першая бомба ля самага бліндажа, Віхораў спаў на пахучым чаборы. Усхапіўся, выбег у траншэю. Перш за ўсё ўзяла трывога, што варожыя самалёты заўважылі ўзводны бліндаж. А між тым, сам камандзір палка ў той час сказаў, што лепшай маскіроўкі няма нідзе. У той момант зноў успомніўся белы Сокал, але не ў ролі выратавальніка. Бомбаў коні баяцца,— гэта Віктар памятаў яшчэ па першых баях. Ад бомбаў коні гінуць... Ад снарадаў коні гінуць...

Не думалася пра Сокала як выратавальніка і ў тыя жудасныя моманты, калі на ўзводныя траншэі насядалі варожыя танкі... Хіба толькі надзвычайным цудам мог з'явіцца тут Сокал. Танкавую атаку адбівалі ўжо не пляшкамі з гаручай вадкасцю, а звязкамі гранат. Віхорава засыпала зямлёю ад выбуху снарада на брустверы. На нейкае імгненне мільгнула думка аб той магіле, што некалі сам капаў пад самотнай бярозаю... А потым пад вухам пачулася шкрэбанне салдацкай лапаткі і быццам вельмі далёкі, але зусім выразны дзіцячы плач. І ўпэўненасць ясная і рэальная — гэта сын плача!.. Патрабуе не аставацца пад зямлёю...

...Асколкам разбіла правае плячо. Віхораў умеў страляць з левага пляча. І гранаты кідаць на блізкую адлегласць наладзіўся левай рукою.

Пад націскам варожых танкаў давялося адступіць запаснымі хадамі да палявой дарогі за абаронаю роты. Па ўзводнай, ротнай, а можа, і батальённай абароне пачала ўжо біць наша артылерыя, каб спыніць варожую атаку. Дарога за ротнай абаронаю не была перакопана. Тут у тупіку сабралася некалькі байцоў і адзін маладзенькі лейтэнант без пілоткі, з парабелумам у руцэ. Калі ён хоць на момант узнімаў над брустверам галаву і лёгкі летні ветрык абдуваў яго бялявыя, запыленыя валасы, паблізу з дарогі пачынаў стракатаць кулямёт, і земляныя пырскі ад бруствера засыпалі юнаку вочы. Пасля некалькіх такіх спроб ён узвёў парабелум і наставіў рулю на сваю зарослую выгаралымі валасамі скронь. Непадалёку стаяў Віхораў з купкай сваіх байцоў. Ён левай рукою выбіў парабелум з дрыжачай рукі лейтэнанта.

— Слухаць маю каманду! — крыкнуў Віктар і рашуча агледзеў усіх байцоў. У міг вока ён кінуўся на дарогу... Папоўз жвава, амаль непрыкметна, і галоўнае — неспадзявана для варожага кулямётчыка. І калі апынуўся за дарогаю, у густым палыне і падсохлых зараслях лебяды, раптам пачулася яму прызыўнае ржанне белага Сокала. Рынуўся наперад, цвёрда верачы ў выратаванне. Кулямёт ужо сек па дарозе, кулі скошвалі палын і лебяду. Праз нейкі час адчуў, што за ім нехта паўзе, быццам гоніцца, аднак не думалася, што гэта мог быць вораг. Напэўна ж, хлопцы з узвода, а можа, і ўсе тыя, што апынуліся ў тупіку.

Белы Сокал зноў стаў падаваць свой голас. У асобныя моманты ўяўлялася, што ён вось ужо зусім блізка, як у мінулыя часы, што хутка прымчыць сюды, паспее на выручку, на дапамогу, вынесе з-пад варожага агню.

Падсохлы быльнёг шамаціць, патрэсквае ад куль. А калі заціхае кулямётная чарга, Віхораву зноў падаецца, што нехта вельмі старанна даганяе яго. Даганяе, але не подбегам, а паўзком. Значыць, не вораг. Напэўна, хутка дагоніць, бо, відаць, не пара-

нены. Віктару цяжка паўзці: зусім не валодае правая рука і да млоснасці ные плячо.

Наперадзе — неабсяжнасць чыстага стэпавага поля. Гэта Віктар больш адчувае, чым бачыць. Угля-даецца ўдаль, а што-небудзь прыкмячаць ці вызначаць, няма ніякай магчымасці: вочы заплылі потам і прыліпае да іх усялякая церушынка. І ўсё ж, калі выпаў зручны момант цярнуць па вачах рукавом і смялей аглянуць прастор перад сабою, надзея на выратаванне крыху памацнела. Віхараву ўбачыўся непадалёку свежы чарназём ад варонкі. Калі гэта праўда, дык вось жа і ёсць першая мэта: упасці ў варонку.

Той, хто жвавым пластуном даганяў Віктара, раптам узняўся на прыгорблены бег і залэпаў побач, ледзь не наступіў на параненую руку. Кулямётная чарга шуганула па зараслях, збоку ад Віктара скасіла куст лебяды і сыпанула пылам у вочы. Стукат ботаў наперадзе спыніўся.

Калі Віктар зноў працёр вочы, то ўжо нікога перад сабою не ўбачыў, але адчуў радасць ад таго, што варонка зусім блізка. Памкнуўся і сам узняцца, каб адным кідком апынуцца ў выратавальнай ямцы, ды раптам так моцна закалола ў плячы, што нават паўзці далей не мог. Прыпыніўся, пачаў аддыхвацца, намагаючыся не думаць пра рану і баючыся крануць яе левай рукою, каб не намацаць крыві. Дацягнуцца б да варонкі!..

У свежы чарназёмны насып урыўся галавою. Туга, да самай яе глыбіні нацягнута на вушы пілотка... Каўнер гімнасцёркі расшпілены з таго часу, як рабілі часовую перавязку,— нагрэтая сонцам зямля пасыпалася за шыю... У варонку скаціўся нібы з разгону, даючы волю кволай інерцыі, якая магла з'явіцца пры такім руху. Балючым плячом наткнуўся на нешта цвёрдае і нерухомае: яно замінала апусціцца на дно варонкі. Расплюшчыў вочы і ўбачыў, што ляжыць нос у нос з тым юнаком лейтэнантам, якога толькі што бачыў у траншэі перад дарогаю. Юнак адсунуўся, даў Віктару месца.

— Гэта вы? — праз некаторы час прашаптаў ён і адсунуўся яшчэ крышку далей.— У вас рана крываточыць.

І Віктару перш за ўсё падумалася аб тым, што,

бадай, няма нічога горшага за тое, як вымазацца ў кроў самому і вымазаць суседа.

— Шкада, медпакета няма,— зноў зашаптаў юнак,— я перавязаў бы вас.

Амаль не верачы сваім вачам, Віктар заўважыў, што ў юнака не толькі пакета, а наогул нічога вайсковага няма, акрамя замызганага летняга абмундзіравання. Гімнасцёрка задралася ледзь не да самых пахаў, бо не перацята рамянём. Планшэтка раней вісела ў яго на жываце — гэта запомнілася Віктару. Цяпер не было і планшэткі. А там жа, напэўна, і дакументы нейкія былі, і што-небудзь асабістае, а можа, і што важнае для вайны.

— Дзякую вам,— ледзь чутна прашаптаў юнак.

Віктар не ўзнімаў вачэй, каб не аглядваць хлапца далей: можа, і пагонаў у яго ўжо няма. Цяжка дыхаючы ў зямлю, спытаў:

— За што?

— За смеласць! Я за вамі кінуўся пад агонь.

Віктар маўчаў. Не спадзеючыся на староннюю падмогу, ён самотна абдумваў далейшы свой лёс: калі нічога не здарыцца да змяркання і не сцячэ ён крывёю, то ўвечары можна будзе выбрацца з гэтай варонкі і ў поўны рост падацца ў тыл на пошукі медсанбата. Відаць, такое ж спадзяванне меў і сусед, але да спакою не даходзіў, бо сяды-тады прыўзнімаў галаву і паглядваў у той бок, дзе яшчэ нядаўна былі нашы пазіцыі.

— Яны сюды не павінны дапяць? Як вы думаеце?

— Не павінны,— згадзіўся Віктар.— Наша артылерыя б'е. Чуеце?

— От каб «кацюшу» хоць адну! — са ўздыхам пажадаў юнак.— І дзе цяпер нашы «кацюшы»?..

У варонцы пахла сырой зямлёю і гарэлай сёркаю, відаць, бомба тут разарвалася нядаўна. Віктар прыціснуўся спінаю да сыпучай сценкі і прысыпаў зямлёю параненае плячо. «Зямля таксама лечыць»,— успомніліся яму словы, некалі пачутыя ад нябожчыка-бацькі. А тут хоць не лячэнне, хоць спыненне крывацёку, і то было б вялікай дапамогай. Мучыла смага, да млоснасці ныла і пякуча рэзала ў плячах ды і ва ўсёй спіне, але стомленасць брала неадольна, і звесці хоць на хвіліну вочы было б са-

мым найпершым паратункам. І Віктар сам не заўважыў, як заснуў.

— А калі ён пачне біць сюды з мінамётаў,— сказаў сусед юнак.— Што тады?

Але Віктар не чуў гэтых слоў. Можа, і яшчэ што хлопец гаварыў, чакаў парады ці нават загаду як ад старшага па званні. Віктар ляжаў сцішана і нерухома, нават залпавыя выбухі непадалёку, відаць, не разбудзілі б яго, калі б юнак не пачаў ледзь не падскокваць ад радасці і крычаць:

— Вось вам, трасца матары!.. Вось вам!

Пачалі біць «кацюшы», снарады рваліся на тых пазіцыях, з якіх толькі што давялося адступіць. З таго боку ўвесь небасхіл засцілаўся густым шэрым дымам, перамешаным з сухім чарназёмам. Адразу заглух варожы кулямёт, што стаяў на палявой дарозе, уціхла гуркатанне і лязганне «тыграў» і «пантэраў», што яшчэ хвіліну таму назад руйнавалі і спрасоўвалі нашы акопы.

«А як жа яны?..» — раптам падумалася Віктару. Паўстала перад вачыма запасная траншэйка перад дарогаю і там нашы байцы... Большасць з іх — параненыя. Ім было дазволена прабірацца ў тыл, ды варожы кулямёт на дарозе засланіў адступленне. Ці ва ўсіх хапіла сілы і адвагі, вось як у гэтага юнака, зрабіць апошнюю спробу ратавання — кінуцца пад агонь? А можа, некаторыя і асталіся ў той траншэі?.. Хто паведаміць аб гэтым нашым наводчыкам? Хто наогул ведае пра гэта?..

Залпы раптам грымнулі па гэты бок той злавеснай дарогі, якую зусім нядаўна так цяжка было перапаўзці. Асколкі са свістам і гарачым шыпеннем праляцелі над варонкай і над самай галавою юнака. Ён уціснуўся ў зямлю, спалохана прыціх.

— Што гэта? — прашаптаў потым з трывогай і роспаччу.

Не паспеў Віктар што-небудзь сказаць, як залп паўтарыўся, і свае, выратавальныя снарады разарваліся ўжо зусім блізка ад варонкі. Юнак хапіўся за вушы, потым старанна, хоць і няўпэўненымі рухамі, стаў засыпаць сябе зямлёю.

«Нічога гэта не паможа»,— памкнуўся быў сказаць Віктар. А потым і сам стаў пабойвацца ўявы, што снарад «кацюшы» можа трапіць проста ў ва-

ронку. Згінь такая думка — пад сваім агнём нельга памерці!..

— Што гэта такое? — зноў, нібы з-пад зямлі, пачуўся прыглушаны, з ноткамі дзікага адчаю голас юнака.— Што за няшчасце?

— Яны ж не ведаюць, што мы тут! — нібы ў жарт сказаў Віхораў. А сам падумаў: «Лапухі наводчыкі!» І міжвольна ўспомніў, як некалі даў сваім артылерыстам зусім дакладныя каардынаты, а яны ўдарылі па траншэях яго ўзвода.

З сыпучай зямлі тырчаў толькі нос юнака, жоўты, сухі і быццам дрыжачы. Калі і апячэ асколак, дык толькі нос. Але гэтага наўрад ці трэба асцерагацца: варонка глыбакаватая. Хіба толькі вось што: наводчык, напэўна, бачыць гэтую варонку і ўяўляе, што тут нешта варожае. Ён можа пастарацца «накрыць» гэты «аб'екцік» прамым пападаннем. Тады ратунку не чакай.

Выкарыстаўшы кароткую перадышку, юнак жвава разгробся, ссыпаўшы амаль усю зямлю на Віхорава, і выскачыў з варонкі. Куды ён папоўз, Віктар не заўважыў і не надта асуджаў яго за гэта: вырвацца з зоны агню,— па сутнасці, правільнае рашэнне. Праўда, не зусім яно ладзіцца з «расставаннем» з параненым суседам, але гэта можна спісаць на нявопытнасць юнака.

Неўзабаве зноў ударыла «кацюша». Ці паспеў юнак выратавацца?.. Ці асталіся жывымі хлопцы з узвода?..

* * *

Гэтыя пытанні часта ўзнікалі перад Віхоравым. Узнікалі яны і цяпер, калі Віктар пад'язджаў да той вёскі, дзе была яго сям'я. Ужо амаль не чуцён быў залівісты брэх сабакі з самотнага ляснога хутарка, хоць яшчэ нядаўна ён гулка разносіўся па лесе. Ужо і сам лес канчаўся. Наперадзе, як для начнога вока, дык крыху бялела паласа небасхілу, але ўяўлялася яна зусім голай, нібы пустыннай. І ледзь прыкметная ў скупым асвятленні месяца палявая дарога вяла нібыта толькі ў гэтую пустыню, а больш там нічога не ўяўлялася. Магчыма, і

вёскі там няма. Дарэмна не спыніўся ў тым лясным хутарку, не распытаў.

Белы Сокал спачатку збавіў свой галоп, а потым перайшоў на звычайны нестраявы трушок. Ён часта прыгінаў галаву да ног, быццам жадаючы панюхаць зямлю ды ўпэўніцца, што пад ім сапраўдная і патрэбная дарога. Нідзе ніякіх прыкмет жылля не відно было, і здзіўляцца тут не да часу. Гэта ж не мірныя дні, калі нават адзін які-небудзь запознены агеньчык у акне мог падаваць арыенцір на дзесятак кіламетраў. Цяпер калі хто і паліць газоўку, то пры зацемненых вокнах.

Уяўныя сумненні Сокала хутка перадаліся і Віктару: няўжо не тая дарога? Потым прыгадалася з мінулага наведвання, што перад Баброўкай павінна быць белапясчаная, заўсёды светлая горка сярод чарназёму. З падлеснага боку яна засланяе вёску, якая стаіць у нізіне ўздоўж ціхага берага ракі Біцюг. Але на той пясчанай горцы некалі стаяў вятрак і нават круціўся, лапацеў крыламі, малоў людзям муку.

...Не відно пакуль нічога на фоне белай паласы, але Сокал пачынае часцей дыхаць, нібы падхвалёўвацца. Ад чаго ж гэта? Стомленасці ў яго яшчэ няма, конь добра натрэніраваны і ўмее суразмерваць свае сілы. Напэўна, ад пад'ёму на горку.

Праз некаторы час белая паласа небасхілу сапраўды прыкметна пашырэла, Сокал пабег з палёгкай, аднак ніякага млына пры дарозе Віктар не заўважыў. І горкі таксама. Перад светлай паласой наперадзе, да якой, вядома ж, не дамчыш, і крыху ўлева зацямнела ціхая, ледзь-ледзь затуманеная нізіна. Калі гэта тая самая нізіна, што павінна быць за горкаю, якую мінулі незаўважана, то яна прырэчная. Там і ўтулілася вёска Баброўка, назва якой пайшла, відаць, ад баброў, што вадзіліся тут, у Біцюгу. Толькі дзе ж гэты млын? Магчыма, не тую горку пераадолеў Сокал, а цяпер спускаецца не ў тую нізіну.

Лёгкі ветрык абдаў халадком прыпацелы лоб Віктара і валасы пад пілоткай. Дыхнулася глыбока, свежа, але ў чыстым паветры адчулася рачная вільгаць. Колькі часу пабыў некалі Віктар у Баброўцы? Аднак жа цяпер з вільготным ветрыкам

прыйшла ўпэўненасць, што гэта водар той самай ракі, якая падплывала ледзь не да самага агарода, дзе стаяла пяцісценка з бакавым пакойчыкам эвакуіраванай настаўніцы Галіны Васільеўны.

Прытуманіўся ўзбоч дарогі месяц, потым і зусім схаваўся за хмару, напэўна, вялікую, ледзь не абложную. У нізіне, як здавалася Віктару, усё больш і больш гусцеў змрок. Загадкавасць дарогі не знікала і час ад часу засмучала цяжкім уяўленнем, што дамчалі зусім не туды, куды трэба, і тады давядзецца чакаць тут світання, каб знайсці патрэбную дарогу.

І раптам пад капытамі Сокала пачуўся здвоены драўляны стукат і адразу знік у мяккім насыпе. Віктар узрушыўся: гэта масток на невялікай грэбельцы, ён быў і тады — хто ні ехаў па ім, то чуў гэты адметны, ледзь не музычны стукат. Маснічыны з шырокімі шчылінамі між сабою ляжалі на сухіх падпорах; пад коламі ці капытамі яны варушыліся і падавалі свой голас.

«Або праз нейкія гоні — вёска, або зусім нечаканае кустоўе прырэчнае,— устрывожана, але ўсё ж з лепшай надзеяй падумаў Віктар.— Калі гэта зараснік, то выйсце адно — рассядлаць Сокала і пасвіць да самага золку». Незвычайнасць здзіўляла: чаму такая цішыня ўсюды і асабліва ў той нізінцы, дзе па ўсіх прыкметах павінна быць вёска? Нібы нідзе нікога і нічога жывога! Няўжо гэта такі час ночы, што нават усіх сабак пазбаўляе насцярогі, усіх пеўняў морыць непрабудным сном?

Быццам з літасці да такіх запозненых шукальнікаў запаветнага кутка, паказаў свой светлы акрайчык на небе месяц — хмара пад ім аказалася не надта вялікай. Акрайчык хутка нарастаў, па магчымасці акругляўся, і стала лепш відна дарога, з глыбокімі, добра выезджанымі каляінамі. Сокал пажвавеў у сваім бегу, мабыць, спадзеючыся на хуткі адпачынак, а праз нейкую хвіліну зніклі трывогі і ў Віктара: ён убачыў наперадзе нешта шэрае і высокае, падобнае на страху будынка. Але ж і на сцірту таксама.

Гэта была не сцірта, а крайняя адрына з саламянаю страхою. Вось ужо і вуліца, ужо і Сокал зусім сцішыў бег, а ўсё цягнула пераканацца, што

гэта сапраўды Баброўка, спытаць у каго-небудзь або пазнаць нейкую надзейную прыкмету гэтай вёскі. Віктар павярнуў каня да аднаго двара. Горкім і рэзкім пахам драсёну пацягнула з-пад ног Сокала, з недалёкага хлеўшка дыхнула стойлам жывёлы. Няхай бы ж выйшаў хто з хаты ці хоць адчыніў акно!

Будзіць людзей не хацелася. Віктар добра памятаў тутэйшую школу і па ёй рашыў пазнаць вёску. Школа тут павінна быць драўляная, пацягнутая вохрай, аднапавярховая і доўгая, як калгасная адрына. Яна стаяла на асобным узгорку каля сельсавецкай трыбуны. Невядома толькі, што раней тут з'явілася: школа ці трыбуна? Але цэнтральная плошча, відаць, здаўна ўсталявалася на гэтым месцы, і ўсе сельсавецкія і школьныя мерапрыемствы і ўрачыстасці праходзілі тут. Баброўскую школу Віктар пазнаў бы нават і пры самай густой цемры, таму рашыў ехаць далей.

Сокал насцярожана і дамавіта пахропваў, напэўна, прытаміўся ўжо і па настрою гаспадара адчуваў, што прыехалі, куды трэба, і тут можна будзе адпачыць. На бег ён ужо не зрываўся, а ішоў паціху сярэдзінаю вуліцы і паводзіў вушамі то ў адзін бок, то ў другі, нібы пытаючыся ў гаспадара, куды зайсці. Але Віктар не даваў накірунку ні паводдзямі, ні шэнкелямі.

Сокал заківаў галавой, гучна пажаваў цуглі. Ці падаваў ён гэтым пэўны знак гаспадару? Можа, і не было тут наўмыснасці, але Віктар зразумеў, што конь патрабуе адпачынку і ехаць далей без перадышкі, пэўна ж, будзе непаважна для жывёліны. Таму, яшчэ не ведаючы, у Баброўку прыехаў ці ў якую іншую вёску, ён прыняў сігнал Сокала і рашыў, што калі гэта і не тая вёска, то ўсё роўна зрабіць тут адпачынак, каб пакарміць і напаіць каня. Не знойдзецца чаго гатовага, то хоць папасвіць дзе на выгане ці проста на полі.

Але неўзабаве пачалі выплываць са змроку цьмяныя абрысы вялікай, доўгай будыніны. Яны здаваліся значна ніжэйшымі, чым Баброўская школа, ва ўяўленні Віктара, а даўжыня нагадвала нешта знаёмае. Каб хутчэй даведацца, школа гэта ці не, Віктар прышпорыў каня. Той узвіўся адразу на

галоп і праз нейкі момант быў ужо каля будыніны. З гулкім тупатам капытоў, ад якога ледзь чутна падрыньквалі шырокія вокны, Віктар аб'ехаў будынак кругом паўз самыя вуглы, ледзь не шмаргануўшы наском бота па шалёўцы. Амаль упэўніўся, што гэта тая самая школа, але не зусім верыў, што яна магла так пачарнець і быццам асунуцца за мінулыя гады. Магчыма, і заняткаў цяпер няма.

На невялікай прышкольнай плошчы конскі тупат прыглушыўся, але не ад зелені, чаго трэба было б чакаць,— адператараванага чарназёму. Так было тут і раней: тады людзі гаварылі, што гэта дырэктаравы гусі выклевалі і ператапталі ўсё, што тут было жывога. Віктар убачыў непадалёку сельсавецкую трыбуну і пад'ехаў да яе. Здалося, што яна стаіць не на тым месцы, дзе была раней. Да таго ж — на той былі пярылы, а на гэтай няма, толькі памост на высокіх слупах. Усходцаў са ступенькамі таксама няма, і памост нехта пачаў разбіраць на падпалку.

У канцы вёскі, наўскасяк ад плошчы, павінна быць тая хата, дзе некалі адвялі бакоўку Галіне. Калі і тую пяцісценку з ганкам на вуліцу нельга будзе пазнаць або Галя перайшла на другую кватэру ды забыла напісаць пра гэта, то зноў узнікнуць складанасці: давядзецца некага будзіць.

Высокая падвойная брамка, што закрывала двор і ўнутраныя вокны хаты, уявілася Віктару вельмі знаёмай. Можа, таму запомнілася, што некалі адкрываў і закрываў яе сваімі рукамі. Ганачак побач крыху нахіліўся на вуліцу, нібы папярэджваючы людзей, што паваліцца, як толькі хто без асцярогі наступіць на прыступку. Аднак падабенства свайго амаль не страціў.

Не саскокваючы з сядла, Віктар крануў нагою прыганачную палавіну брамы, і яна паслухмяна скрыпнула і прыадчынілася, утварыўшы невялікую шчылінку, ад якой быццам бы патыхнула нечым вельмі блізкім і родным, і да яе хацелася як мага хутчэй прыпасці вокам ды глянуць у двор, у той агародчык, куды выходзіць акенца з Галінай бакоўкі.

Віхараў жвава саскочыў з сядла. Цяпер ужо ён быў упэўнены, што трапіў дадому, займеў надзею

і на тое, што яго чакаюць, бо інакш наўрад ці пакінулі б адчыненай на ноч браму. Намерыўся ціхенька завесці ў двор каня, рассядлаць, прывязаць ва ўтульным месцы, а тады пастукаць у запаветнае акенца. Але не паспеў ён і раскілзаць Сокала, як з парывам адчыніліся ўнутраныя дзверы скразнога калідорчыка і ў двор выбегла Галя, босая, у цёмнай спадніцы і ў нечым чыста белым на плячах. На гэтай светлай белізне пры начным змроку чарнелі толькі валасы, спушчаныя на шыю.

— Брама была не на засаўцы,— нібы апраўдваючыся, сказаў Віктар, быццам не жонка гэта выйшла, а гаспадыня, якой, можа, і трэба было б гэта сказаць.

— Брама і ўчора была толькі прытулена,— сказала Галя, падбягаючы да мужа,— і заўчора. Мы чакалі цябе!

— І ты, канечне ж, не спала ўсе гэтыя ночы...

Яны селі на верхнюю прыступку ўсходцаў, што вялі ў скразны калідорчык. Прыбуцвелая ўжо, прыцёртая нагамі, але чыста абмеценая дошчачка трошкі падвільготнела ад летняй расы і пад рукою здавалася жарсткаватай, але пасля верхавой язды Віктар адчуў, як прыемна адпачывае цела. Ён прыхінуў да сябе Галю і нават хацеў быў накінуць што-небудзь ёй на плечы, бо перш-наперш здалося, што яна хутка пачне стынуць ад перадзолкавага халадку, траціць тое радаснае, усхваляванае цяпло, з якім выбегла сустрэць мужа.

— Мабыць, хутка світанне,— нібы з жалем прамовіў Віктар і памкнуўся глянуць на сваю руку, хоць на ёй ужо даўно няма гадзінніка, разбіўся на Курскай дузе.

— На нашых ходзіках...— прашаптала Галя.— Я не ведаю, колькі на нашых ходзіках: яны за сценкаю... Чуем толькі іхні бой...

Ад Віктара папахвала конскім потам, але, можа, гэта быў і прыемны для Галіны пах. Пасля іхняй жаніцьбы Віктара прызвалі ў армію. Гэта адбылося ў канцы трыццаць дзевятага года. А ў саракавым Галя паехала ў той далёкі гарадок, дзе ў той час праходзіла Віктарава служба ў кавалерыйскім палку. Ранні мароз як на нядобрае узаўся ў тых мясцінах. Сустрэўшыся ў халаднаватым гасцінічным

пакойчыку, яны перш-наперш сталі адаграваць адно аднаму рукі, ратавацца ад прастуды. Галя была ў зімовым паліто, але ў летніх чаравіках на адну панчошку. Віктар у кірзавых ботах з цёплымі анучамі ды ў адным шынялёку, прызначаным на ўсе поры года. Галя зняла з шыі сваю шарсцяную хустку, некалі падораную ёй маткаю, і ўхутала салдату плечы, а Віктар старанна ўхутваў жонку шынялём.

І ад шыняла, і ад гімнасцёркі густа цягнула застаялым пахам канюшні. Ды не ўяўлялася гэта непрыемным...

Расставанне на драўляным вакзальчыку было гарчэйшае, як год назад ля той школы, дзе яны вось толькі што пачалі сваё настаўніцтва. І калі знік пах Віктаравага шыняля, а ў вагоне занясло вугольным чадам і дымам ад паравоза, Галі стала так сумна і гаротна, што яна доўга не магла стрымаць слёз. Туліла шарсцяную хустку да сваіх вуснаў, да носа, каб улавіць хоць маленькую хвальку таго чароўнага паху, які насіў пры сабе Віктар ад свае службы і, можа, нават ад белага Сокала, пра якога ўспамінаў ужо тады.

Цяпер, утуліўшыся тварам у Віктараву гімнасцёрку, Галіна радасна ўдыхала нібы той самы незабыўны водар, і ёй міжвольна ўспаміналася даўняя зімовая паездка да мужа, калі яна ледзь не прымарозіла ногі. Тая шарсцяная хустка ёсць і цяпер: вось не паспела накінуць яе на плечы, выбягаючы ў двор... Была яшчэ блакітная касынка з анюцінымі вочкамі... Тады купіў яе Віктар... Была, ды няма... Балюча ўспамінаць пра гэта...

— Ці надоўга цябе пусцілі?

Пра гэта яна больш падумала, чым прашаптала, але Віктар зразумеў яе трывогу, пацепнуў плячамі, не сказаўшы, што ўжо нават цяпер трэба б вяртацца назад. Вось толькі Сокалу неабходна падкарміцца і адпачыць.

— Які прыгожы конь! — раптам прамовіла Галя.— Увесь белы!.. Як той Сокал, помніш?

Віктар не здзівіўся, што Галі Бяляк нагадаў Сокала, і прыемна стала, што не аднаму яму ўвесь час гэты скакун уяўляецца даўнім сябрам і спадарожнікам дафрантавой службы.

— Пакарміць бы яго чым,— зноў прамовіла Галя, ужо з клопатам і шкадоўляй.

Віктар адхіліўся, глянуў на Сокала і ўбачыў, што ён настырна і нібыта здзіўлена глядзіць на іх абаіх: вялікія прыгожыя вочы свецяцца крышталямі, нібы гараць ціхімі, нязгаснымі агеньчыкамі. І ўжо як ні адварочваўся гаспадар, як ні стараўся выстарчыць яшчэ хвілінку для радасці сустрэчы, а Сокалавы вочы ўсё відны былі яму і нібыта ўпіраліся сваімі халоднымі праменнямі ў спіну, у шыю, асвечвалі Галіны валасы. Міжвольна свідравала нутро думка аб тым, што Сокал не шкадаваў сябе ў дарозе, нідзе не занатурыўся, не схітрыў, даказаў сваю адданасць незнаёмаму чалавеку, як сапраўднаму другу.

— А што дзе можна знайсці для каня? — з клопатным уздыхам запытаўся Віктар.— Павесці куды папасвіць, дык і самому трэба пры ім быць. А прывязаць ці так пакінуць, спутаўшы, то боязна, каб не ўхапіў хто: гэтага Сокала мне ў калгасе далі пад чэснае слова.

Галя занепакоілася, устала з прыступкі:

— Пойдзем глянем у хлявушок: там я бярэмца канюшыны скінула — гэтымі днямі на калгасных валах вазіла. Неяк увесь час мне ўяўлялася, што ты на кані прыедзеш.

Усмак жуючы падсушаную канюшыну, Сокал ужо не трывожыў гаспадароў сваімі праніклівымі вачамі, але зноў садзіцца на прыступку іх ужо не цягнула, ды і Галя чамусьці насцярожылася, падалася да свайго акна. Віктар нічога не пачуў, а навостраны мацярынскі слых улавіў, што малы ў пакоі заварушыўся і падаў нейкі голас.

«Сынок,— радаснае ўсхваляванне ахапіла Віктара.— Яго голас... Яго першае вітанне...»

Калі Галя ішла да акна і ад акна, Віктар з жахам заўважыў, што яна пакульгвае на абедзве нагі.

— Што з табою, Галінка?

Жанчына сумелася, не зразумела запытання.

— Ступаеш не гэтак... Быццам не сваімі...

— А... дык гэта я падбілася... Учора на світанні ў Хранавое бегала солі выменяць. Назад узялася напрасткі, праз лес, ды заблудзілася... А босая была...

— Сядай! Я пагляджу, што там у цябе на нагах.

— Ды нічога, пройдзе!.. Бяжым, а то ж там Цімка!..

Віктар падхапіў яе на рукі і сеў на прыступку, а яна апынулася на яго каленях. Падбоі на ступнях бялелі небяспечнымі пухірамі і відны былі нават пры начным змроку.

— Чаму ты босая ходзіш, Галечка?

— Тут усе так ходзяць... А што ж мне? І ў калгас трэба, і ўсюды... Я толькі ў школу абуваюся.

«А ці ёсць у цябе хоць чаравікі?» Такое пытанне набегла ў Віктара і балюча кальнула пад сэрца, але ён не вымавіў яго ўслых. З вялікім надрывам сумлення ён успомніў, што армейскія фінансісты-валакітчыкі вельмі неаператыўна афармлялі на жонку яго афіцэрскі атэстат. Вісець над імі і падштурхоўваць не было ніякай магчымасці, бо ўвесь час не вылазіў з акопаў. Але ж хіба гэта апраўданне? І раней яна не атрымоўвала ад мужа ніякай дапамогі.

Галя горача задыхала ў яго каля вуха і, нібы адчуўшы яго думкі, зашаптала нібы праз смех, нібы праз слёзы:

— Гэта ўсё нічога... Як людзі жывуць, так і я. Тут не адна я эвакуіраваная. А вось што солі ўчора не выменяла, то проста і не ведаю, як жыць зусім без солі.

— А за што мяняла? Прабач за такую запытку.

— За што? — Галіна прыслухалася, ці не затрывожыўся зноў Цімка, і пальчыкамі ног дакранулася прыступкі. За што намервалася выменяць солі, сарамлівым і горычным шэптам расказала ўжо перад дзвярамі пакоя.

— Тут мы, эвакуіраваныя, гуртам хадзілі ў лес, збіралі грыбы. Потым сушылі. Аб'ява была на дзвярах кааператыва, што грыбы можна атаварыць. Увесь свой запас я занесла і аддала... Аж няёмка гаварыць, за што... За пляшку гарэлкі, бо тут гаварылі, што ў Хранавым толькі за гарэлку можна выменяць якую шклянку солі.

— І насіла гэтую гарэлку?

— Насіла. І дарэмна!

У Віктара зноў зашчымела ў сэрцы: пра ўсё мог падумаць, усё згадаць, а не прыйшло ў галаву, што

ў сям'і няма ні дробкі солі. Цукру трохі назапасіў у шпіталі, трохі далі на паёк, а солі не здагадаўся папрасіць. Добра, што хоць пару воблін ёсць у рукзаку. Салёныя.

У пакойчыку было мала цямней, чым на дварэ: акно не запята, ужо, мабыць, бралася на світанне, бо не па-начному разрэджаная блакітнасць даволі смела рассявалася па падлозе, на якой ляжаў вузкі, напэўна, даматканы палавічок, прыкметна адбівалася на белай сцяне вялікай сялянскай печы з прыпечкам і плоскім чараном, асцярожна і пяшчотна падала на стаячую, з вузкімі дашчанымі пярыльцамі і на папярэчных палазках знізу калыску, у якой спаў Цімка. Некалі яго тут калыхалі, а цяпер спіць па звычцы.

— Здароў, сынок! — прашаптаў Віктар, нахіліўшыся над калыскай. Яго шэпт больш чуцён быў Галі, бо яна таксама нахілілася над калыскай. Няхай бы цяпер прачнуўся Цімка, расплюшчыў свае да ўсяго цікаўныя, такія ж блакітныя, як у бацькі, вочы ды паглядзеў, хто над ім стаіць. Няхай бы нават і губкі надзьмуў, як часта надзімае, калі нечага хоча, патрабуе, а яму не даюць. Не плача і словамі не вымагае, а надзьмуваецца. Ці ўспомніў бы Віктар гэтую сваю звычку, якая бог ведае якім чынам перадалася дзіцяці? Ці заўважыў бы, што вусны ў сына вылітыя бацькавы, толькі ружовасці больш ды пяшчоты дзіцячай. А калі б усміхнуўся Цімка...

— Будзем запальваць газовачку ці не? — самым прыцішаным шэптам спытала Галя.— Цімка часам палохаецца агню.

— Няхай паспіць,— згадзіўся Віктар.— Ужо, мабыць, хутка пачне днець.

Ён падышоў да акна, амаль засланіў яго сваёй постаццю, і ў пакоі адразу пацямнела. Ледзь не дакраналіся да маленькіх, нібы кніжныя лісткі, шыбак яшчэ цёмныя і кашлатыя галіны нейкага садовага дрэва, з выгляду падобнага на яблыню. Збоку ад садка відзён быў хлевушок, і пры ім бялела апушчаная ўніз галава Сокала. Віктару хацелася ўбачыць адсюль каня. Адчулася задавальненне, што

Бяляк стаіць спакойна, адпачывае. А галоўнае — усмак жуе канюшыну, прызапашаную Галяй.

— Я і люблю сваё акно,— стаўшы побач з Віктарам, ціха гаворыць Галіна,— і пабойваюся яго. Тут часта бамбілі Хранавое, дык такі грукат і такія водбліскі ўспыхвалі ў гэтым акне, што страшна было глянуць. Нават светамаскіроўка не памагала.

— Мабыць, і Цімка тады палохаўся?

— І тады, і калі тут грымела.

— Хіба і тут?..

— Сюды не толькі бомбы, а і снарады даляталі. Фронт быў зусім блізка.

— Слухай! — Віктар павярнуўся да жонкі, упоцемках улавіў ласкавы і зыркі бляск яе вачэй.— Адразу спытаю, каб не забыць: быў жа некалі тут млын на горцы за вашым сялом? Ці мяне памяць падвяла?

— Быў,— пацвердзіла Галя.

— Едучы сюды, я проста сумеўся,— працягваў Віктар.— Падалося, што не туды прыехаў: горка быццам бы ёсць, а млына няма.

— Быў млын,— зноў сказала Галя.— Разнесла снарадам. Папасядзелі ў тыя дні і мы з Цімкам у пограбе.

...Чутно было, як за сценкаю цікаюць ходзікі.

— Яны з боем,— сказала Галя, заўважыўшы, што Віктар насцярожыў слых.— Павінны хутка адбіць гадзіны.

— Без іх відно, што ноч прайшла.— Віктар акінуў паглядам сцены пакоя, не зусім роўна абклееныя шпалераю. Ужо можна было заўважыць, што шпалера паласатая, толькі колер палос яшчэ не вызначаўся. Непадалёку ад акна паміж дзвюх шпалерных палос вісела цёмная рамачка з фотакарткаю. Віктар адчуў, што ўжо можна разглядзець гэтую фотакартку, і ступіў крок бліжэй. Пазнаў, успомніў...

Галя ў берэціку, з лёгкай касынкай на шыі. Маладзенькая, светлая, радасная, шчаслівая. Даверліва і пяшчотна прыхінулася берэцікам да чалавека, з выгляду ледзь не ўдвая старэйшага за сябе, нагола астрыжанага, абвітага двайнымі брызентавымі наплечнікамі.

...Тады яны зайшлі ў пакойчык фатографа з ма-

розу. Галін твар адагрэўся і пасвятлеў, пакуль фатограф прыладжваў апарат, а ў Віктара абветранасць на шчоках была ўжо ўстойлівай, і на яе амаль не ўплывала кароткае хатняе абагразанне.

— У цябе толькі адна гэтая фотакартка?

— А другая ў цябе.

Віктар змаўчаў. Сапраўды, некалі фатограф пры гарнізоне тэрмінова зрабіў ім дзве фотакарткі: адну ўзяла Галя, а другая асталася ў Віктара. Адзіная памяць аб сустрэчы, ды такой незвычайнай.

...Успомніліся і тыя брызентавыя падшоркі, што даводзілася адзяваць штодзень. Яны падтрымлівалі такі ж брызентавы кушак, а да кушака з аднаго боку чапляўся кавалерыйскі клінок, а з другога — патранташ. Міжвольна пальцы пакраталі цяперашнюю афіцэрскую партупею і рэмень, міжвольна адчуліся пальцамі драпіны на рэмені. Віктар не дамагаўся ў шпіталі, каб замянілі гэты рэмень: ён — таксама памяць. Драпіны на ім ад асколкаў разрыўных куль. Былі яны таксама на халявах ботаў, некалькі прабоін Віктар знайшоў потым у гімнасцёрцы. Гэта ўсё памяць Курскай дугі, асабліва таго рашучага моманту, калі давялося кінуцца пад кулі. Тады была яшчэ планшэтка ў яго на плячах. Напэўна, трапілі асколкі і ў планшэтку або раменьчык абарваўся... Ноччу, вылезшы з сыпучай варонкі, Віктар доўга хадзіў і поўзаў па зарослым пустазеллем полі, абмацаў, абшарыў бадай усе новыя варонкі на тым напрамку, адкуль поўз. Планшэткі не знайшоў, а там была вось гэтая запаветная фотакартка.

...Ходзікі нарэшце зашумелі за сцяною, іржава заскрыпелі і дрэнкнулі чатыры разы. Галя нібы спалохалася, сарамліва глянула на ложак з адзінаю падушкай, узбітай на рог. Пакрывальца, зверху абшытае карункамі.

— Хутка гаспадыня ўстане, мабыць, зойдзе па мяне —ісці валоў запрагаць.

— Так рана?

— На валах пакуль даедзеш! Прабач, ты ж, напэўна, галодны?

— А ты?

— Дык я ж дома...

Галя разбірала пасцель, і рукі яе дрыжалі. Не-

калі ў тым далёкім цяпер мястэчку, дзе яны настаўнічалі, гаспадыня часова адвяла ім толькі адну канапку на дваіх, старую, з вытырклымі спружынамі, да таго ж зусім вузкую. Пасцель на ёй ладкавалася толькі на ноч, а ўдзень канапа служыла адзіным утульным месцам для сядзення. Як уладжвалася там пасцель на дваіх, ужо амаль і забылася...

...Падушка ў руках чамусьці паказалася халоднай. Жанчына міжвольна глянула на печ, дзе ратавалася ад холаду зімою, і засаромелася: лета ж на дварэ. Ледзь не чырванеючы, амаль падсвядома пачала прыкідваць, дзе лепш умясціцца самой: ля сценкі, страшэнна халоднай, аж колкай зімою, ці скраечку ложка, на самым більцы?.. А чым акрыцца дваім? Коўдрачка вузенькая і кароткая, як на адну. Тут усё на адну! Падушка — блінец-блінцом, нават узбівацца не хоча, бо няма ад чаго пульхнець: пер'я ў ёй адна жменя. Ложак, напэўна, дзецям быў пастаўлены. І пакой гэты раней адводзіўся дзецям. Параслі, раз'ехаліся, сын у армію пайшоў.

Заплакаў Цімка ў сваім ложку, як толькі яны сталі засынаць. Заплакаў моцна, настойліва.

— Спі, сыночак, чаго ты? — абазвалася маці.

— Мне холадна,— скрозь слёзы паскардзіўся малы.

— То цяпер жа не зіма, сынок. От я ўстану, лепш накрыю і не будзе холадна.

— Я хачу да цябе!..

— Давай возьмем яго! — шэптам папрасіў Віктар.

— Дык як жа?..— Галіна яшчэ больш пасунулася на краёк.

— Нічога, давай возьмем.

Маці перанясла малога на ложак. Віктар адчуў пры сабе цёпленькае, пяшчотнае цельца, у адной кашульцы, толькі пяткі і пальчыкі ног былі халаднаватыя.

— Ён сапраўды прыазяб там адзін,— ласкава і спачувальна зашаптаў Віктар, абхапіўшы рукою абедзве дзіцячыя ножкі.— Прыхалодаў ён, мой маленькі, змёрз...

— Гэта твой татка! — зашаптала маці хлопчы-

ку, прытуліўшыся вуснамі да яго мяккіх, нібы пуховых валасоў.— Прыехаў да нас з вайны... На белым кані прымчаў... На Сокале, каб праведаць нас.

І тут выйшаў нібыта цуд, якога Віктар не чакаў і пра які ўспамінаў многа разоў потым ды заўсёды здзіўляўся, думаючы пра своеасаблівасць дзіцячых пачуццяў,— Цімка жвава павярнуўся, старанна падаўся вышэй у тую шчыліну падушкі, што аставалася для яго, і абняў бацьку за шыю. Галава ўтулілася пад жарсткаватым ад густой шчацінкі падбародкам. Малы дыхаў яшчэ ўсхвалявана і гарачавата ад нядаўняга плачу, але што далей, то ўсё больш супакойваўся і прыцішаўся, рук з бацькавай шыі не здымаў. Так і заснуў Цімка...

...Незвычайна, нязведана пахлі дзіцячыя валасы ля самага твару, ля самых вуснаў... Родны, незабыўны пах!.. Ён не мае назвы, не падуладны вызначэнню. І Віктар падумаў, што, мабыць, гэта і ёсць тое чароўнае людское шчасце, якому таксама не знойдзеш ні назвы, ні параўнання. Не часта яно бывае ў жыцці і, мабыць, не ў кожнага. Магчыма, вось дзеля яго, дзеля гэтага кароткага моманту, трэба было пабываць пад Сталінградам і пад Курскам, страціць нямала сілы і крыві ў барацьбе з ворагам, адчуць горнасць паражэнняў і радасць перамогі ды, нарэшце, нават гэта — напаткаць белага Сокала, каб прыляцець на ім сюды, да свае сямейкі...

Правая Віктарава рука ляжала пад Цімкам. Ногі хлопчыка ўжо нагрэліся, і бацька выняў левую руку з-пад коўдры. Доўга гладзіў пушок валасоў на галаве сына, а потым пальцамі адчуў і крышку цвярдзейшыя валасы, жончыны. Галя ўлавіла яго руку вуснамі, прытулілася да яе і сцішылася зусім, напэўна, заснула. Неўзабаве заснуў і Віктар.

...Белы Сокал раптам з'явіўся перад ім з доўгай канюшынінай у зубах замест цугляў. Сядло на ім і усе папругі падцягнуты... «Хто ж яго асядлаў? — спачатку здзівіўся Віктар,— я ж схаваў сядло ў хлевушку». А потым знікла гэтая думка... Сокал быццам сам узняў Віктара на сядло і памчаўся па вуліцы... Моцны вецер шуміць у вушах... Ад ветру круціцца млын на горцы за сялом. Той млын, які

разбамбілі немцы... Наперадзе лес... Раптам ён пачынае хістацца, гойдацца і валіцца на дарогу... Завальвае ўсё... Ехаць далей нельга, але Віктару помніцца, што яму трэба ў часць, і Сокал узвіваецца на дыбкі, як для доўгага скачка... Узвіваецца і не падае на ногі... Ляціць белы Сокал над лесам, і насустрач яму дзівосна ўздымаецца сонца... Не месяц, не зоркі начныя, а сапраўднае зыркае сонца... Нават прыпякае ў твар...

...Ранні, настойлівы промень сонца сапраўды ўжо свяціў у акно. Выбраў прамежак паміж голляў яблыні і ледзь не прасвідроўваў шыбы, гарачымі зайчыкамі падаў на падлогу. Святло ад вясёлых зайчыкаў быццам пырскала ў вочы Віктару, і ён прачнуўся. Галі на крайку ложка ўжо не было, сынок спаў, амаль не змяніўшы сваёй зручнасці — рукі пад шыяю і на шыі бацькі. Хаця б не памлелі! Галава малога пад бацькавым падбародкам, валасы — ля вуснаў. Дзіцячае дыханне роўнае, чыстае, поўнае пяшчоты. Яно і цёплае, бо ідзе праз адкрыты рот,— носік, пэўна, залёг крыху. Бацька адчувае гэтую чароўную цеплыню сваім падбародкам, і не хочацца варушыцца бацьку, каб не перабіць санлівага дыхання дзіцяці. У абдымках маленькая родная істота, нібы неад'емная частка ўласнага цела... У ёй усё незвычайнае...

У бацькі яшчэ не праходзіць сон, але дзённыя клопаты і трывогі пачынаюць адольваць. У асобныя моманты яму падаецца, што ён сніць свайго сына і ў сне адчувае яго пяшчоту, яго такую родную блізкасць. І раптоўна расплюшчвае вочы... Не, не сон! Цімкавыя вусны ружовыя. Ужо відно, што ружовыя! Бацька заўважае, што сынавы вусны падобныя на яго... І ў пераноссі ёсць нешта падобнае. Няхай бы хто збоку пра гэта сказаў...

Ходзікі падаюць свой скрыпучы стукат праз сцяну. Прыслухацца б да іх, пачуць іхні бой, ды так цяжка змагацца са сном... Але ж не толькі яму аднаму хочацца спаць. Цімка таксама не можа прачнуцца, можа, і яго сон мацнейшы, салодшы пры бацьку... Першы такі сон...

Ціха і асцярожна адчыніліся дзверы, і ўвайшла Галя. Віктар не чуў, як скрыпнулі дзверы, а Галю пры ложку ўбачыў.

— Мяне адпусцілі,— ціхім шэптам сказала яна, убачыўшы, што Віктар не спіць. І нібы застыла тут, не спускала вачэй з пасцелі, дзе ляжалі яны абодва, самыя блізкія і дарагія ва ўсім свеце.

— Прыляж на хвілінку,— папрасіў Віктар. І зняў сваю далонь з вузенькіх плечукоў сына, памацаў той рубец ложка, на якім начавала жонка.— Цвёрда ў цябе, аж востра...

— Я не адчувала.

...Ці ёсць што важнейшае за сон? Мабыць, ёсць. Сямейка ўвесь час гаманіла. Пакуль што толькі шэптам, каб не разбудзіць малога. І была надзвычайная радасць у гэтай гамонцы, хоць яна часта прыпынялася, бо словы быццам бы хаваліся некуды, і іх трэба было шукаць або чакаць, пакуль знойдуцца. Але і маўчанне было прыемным. Нядоўгае, незацяжное... Потым абое адчувалі, што ўзаемна рады кожнаму слову, і ўсякая гаворка, нават выпадковая, была абаім па душы.

— Я Сокала напаіла,— сказала Галя. І быццам сумелася, пры здагадцы, што, магчыма, не да месца нагадала пра каня — няхай бы Віктар яшчэ не думаў пра ад'езд.

— От добра! Добра зрабіла. Я і сам збіраўся...

— Бабка яму аўса дала... У торбачцы...

— Дык гэта і зусім выдатна!..— ледзь не ўсклікнуў Віктар.— Няхай падмацуецца Сокал.

— Так то яно так,— згадзілася Галя.— Але яна ў нас нічога не робіць без пэўнай заглядкі.— І, зусім сцішыўшы шэпт, працягвала амаль аднымі вуснамі: — Яна не шкодлівая, але вельмі сквапная. Кажуць, што на старасці такая стала. Маладая гаспадыня, нявестка старой, у нас добрая, бескарыслівая. А старая — з разлікам ва ўсім.

— А які тут разлік? Падкарміла каня... Ну і дзякуем ёй! Можам заплаціць за авёс.

Галя змаўчала. Вядома ж, не да такой гаворкі былі ўсе імкненні. І ў час прыезду не пытала, пра што неадчэпна думалася, і цяпер не можа пачаць такую размову, з якой стала б вядома, колькі Віктар можа пабыць дома. Пыталіся ў яе пра гэта і ў калгасе.

— Можа, і з тыдзень пабудзе? — выказвалі там меркаванне.

— А можа, і надоўга адпусцяць... Ранены ж...

Болем і радасцю аддаваліся ў Галіным сэрцы тыя словы. На доўгую пабыўку яна, канечне, не спадзявалася, пра гэта і ў пісьме паведамляў Віктар. Ды і каня ніхто б не даў надоўга. Але ж хаця б дзянёк які... Два...

Пачалася нарэшце такая гаворка, што можна было і пра ўсё даведацца, але ў гэты час ціха скрыпнулі дзверы і ў шчыліне пачуўся ўкрадлівы старэчы голас:

— Да вас можна?

Галя нібы ўпала са свайго крайка, бежкам падляцела да дзвярэй.

— Мае яшчэ спяць,— сказала крыху збянтэжана, але і разкавата, не хаваючы свайго недавольства.

— То няхай, няхай сабе спяць! — настырна сказала бабка і ўвайшла ў пакой.— Няхай спяць, а я тым часам у цябе, Галькя, спытаю: можа, мы запражом гэтага белага ў плуг ды вось тут на агародзе... Разаром сотку з картопляю!.. Спяшкі ў нас... Пара выбіраць.

Хоць і добра ведала Галя сваю старэйшую гаспадыню, хоць і чакала ад яе ўсяго ўсякага, аднак на такі зваротак не спадзявалася і таму разгубілася, не ведала, што сказаць.

— Хамут у Касога возьмем, на канюшні,— між тым удакладняла старая,— а плужок у Мітрафана. Я ўжо з імі гаварыла.

Галя збянтэжана замаргала павекамі і, нібы шукаючы ў некага паратунку ад такога настыру, перавяла пагляд на Віктара. Той больш адчуў яе пагляд, чым убачыў, і, каб выручыць жонку, сказаў тое, чаго пакуль што не рашаўся гаварыць:

— Я хутка еду!.. Ды і конь у мяне чужы...

— То што яму здзеецца? — не адступалася бабка.— Я ж і аўса яму торбачку... І яшчэ можна падсыпаць...

— Еду я, еду. Толькі павідацца заязджаў! А за авёс магу заплаціць.

— То чаго ж гэтак хутка ехаць? Тут вас чакалі, чакалі...

Ад бабчынага голасу прачнуўся Цімка, рас-

плюшчыў вочы, глянуў на бацьку і зноў заплюшчыў. Рукі на бацькавай шыі нібы аслабелі.

— Мама! — нясмела пазваў ён і ўтуліўся ў падушку.

З матчыных рук малы з цікаўнасцю глядзеў на Віктара, які ўжо сядзеў на крайку ложка і спешна, нібы па трывозе, нацягваў боты.

— Што, сын? — весела спытаў ён.— Разбудзіла нас бабка?.. Мы б яшчэ спалі!..

— А ты праўда — так хутка паедзеш? — з трывогай спытала Галя. І застыла ў чаканні, што Віктар не паўторыць сваіх нядаўніх слоў, што, можа, толькі бабцы ён так сказаў, каб адчапіцца ад яе.

— Трэба ехаць,— уздыхнуўшы, прамовіў Віктар.— Сёння я павінен паспець на маскоўскі цягнік.

Маці ссаджвала малога з рук, ставіла яго босымі нагамі на даматканы палавічок, і рукі яе дрыжэлі... Больш яна нічога не гаварыла, і Віктар не вымагаў яе на гаворку, бо адчуваў, што заплача, як толькі растуліць вусны, узніме на яго свае карыя і ўжо іскрыстыя ад ціхіх слёз вочы.

— Ідзі ка мне, Цімка! — папрасіў бацька і наставіў да сына рукі.

Той паглядзеў на матку і пакуль што не крануўся з месца.

— Яго трэба адзець,— затурбавалася Галя.

У штоніках і шэрай світцы-пінжачку і сандаліках Цімка выглядаў большым і, можа, нават не па гадах самастойным. Бацька выняў з сумкі і даў яму драбок цукру. Малы ўзяў белы, кантаваты драбок і нейкі час цікаўна і разгублена паглядваў то на бацьку, то на цукар, абмацваў вострыя канты пальцамі, перакручваў у далоні, а ў рот не браў.

— Я табе аладку дам,— сказала маці.— А з цукрам чайкю пап'ем.— Яна з усмешкай глянула на Віктара.— Тут гэтак гавораць: «чайкю».— Раптам усмешка пазмрачнела, і жанчына дадала:— Цімка наўрад ці бачыў цукар, можа, і не ведае, што гэта такое.

— Ведаю,— не згадзіўся малы.— Ён салодкі.

Бацьку кранулі гэтыя словы, надзіва самастойныя, быццам зусім не дзіцячыя. Ён пачуў іх упершыню, і голас сына ды своеасаблівасць вымаўлення так спадабаліся яму, што хацелася, каб малы сказаў

што-небудзь яшчэ, каб неяк выклікаць яго на размову. І вось жа — не знаходзіліся словы, нібыта зніклі матывы для гаворкі. Каля свежавыбеленай печы стаяў на палавічку яшчэ мала знаёмы, мала вядомы чалавек, невялічкі на фоне груvasткай печы, але ўжо не тое наіўнае, бездапаможнае дзіцё, якое можа адазвацца на ўсялякае слова. Маці падала яму ўчарашнюю аладку. Калі б Віктар убачыў яе не ў руцэ сына, то не даў бы веры, што яе можна есці: нешта зялёнае і нават чарнаватае не выклікала адчування хоць якога-небудзь смаку. А Цімка на поўны рот еў аладку, толькі калі яна перасядала яму ў горле, то адварочваўся да печы, і бацька назіраў, як бледная дзіцячая шчака, напоўненая ежаю, сарамліва чырванела. Віктар кінуўся да свайго руказака, выняў адтуль салдацкую буханку хлеба. Не шукаючы нажа, адламаў яшчэ не зусім чэрствы ражок, паднёс Цімку. Той разгублена глядзеў на хлеб, аднак ні аладкі, ні цукру з рук не выпускаў.

— Ён мо яшчэ і не ведае, што гэта,— сумна прамовіла маці.— На яго памяці ў нас сапраўднага хлеба не было.

— А з чаго гэта? — са стрыманай роспаччу спытаў Віктар і кіўком галавы паказаў на рэштку аладкі ў дзіцячай руцэ.

— З лісця,— сумна адказала Галя.— І бацвіння. Сушым усё гэта, потым таўчом у ступе і для звязкі дабаўляем трохі бульбы, калі ёсць. А часцей — тоўчаныя лушпайкі бульбяныя.

— Чаму ж калгас?.. Ты ж ходзіш на работу.

— Далі крыху жыта... Дык мы яго на рушку — ды крупнік варым. От я думала — і цябе пачастую гэтым крупнікам.

У двары раптам пачуўся моцны стукат.

— Хто ж гэта? — спахапілася Галя і выбегла ў калідорчык.

Ля хлевушка стаяў Віктараў конь, заўзята махаў пустой торбай, нацягнутай на морду, і пярэднім капытом біў у дашчаную сценку.

— Твой Сокал! — з трывогай паведаміла жанчына, вярнуўшыся ў пакой.— Нечага хвалюецца.

Віктар спачатку глянуў у акно, а потым выйшаў.

Сокал адразу супакоіўся, калі знялі з яго пустую торбу. А калі гаспадар панёс яе ў хлевушок, то конь паглядваў у той бок з жалем і чаканнем: вядома ж, спадабаўся яму такі пачастунак. Чакаў дабаўкі, канечне ж, дарэмна, бо не мог Віктар напоўніць торбу ні аўсом, ні якім-небудзь іншым збожжам. Дзе ж яго возьмеш без гаспадыні? А калі б і знайшлося, калі б і дазволіла старая гаспадыня?..

Хацелася адагнаць думку, што сынок харчуецца лісцянымі аладкамі... Але яна даймала душу, нават і крыўда ўзнікала на каня, што з'еў паўторбы аўса...

Прайшоўшы па двары і глянуўшы праз частакол на праезджую паласу вуліцы, Віктар заўважыў на ёй сухія гарохавыя лушпайкі. Успомніў, што і Галя нешта гаварыла пра гарох. Ішла ўборка ў калгасе... Вазілі гарох... Рассыпалі яго па вуліцы...

А Цімка, можа, і не ведае, што ёсць на свеце лепшыя аладкі, чым тыя, што пячэ маці...

Прыйшла гаспадыня, напэўна, з калгаснага двара. Не тая, што заходзіла ў пакой прасіць каня, а яе нявестка. Пазнала Віктара, адразу прыгадала яго першае наведванне. Шчыра павіталася і сваё імя паўтарыла: Антаніна,— відаць не спадзявалася, што госць запомніў яе.

Антаніна яшчэ маладая, хоць старэйшая за Галю, высокая, не надта складная, але твар прыемнагодны, загарэлы да цаглянай чырвані, толькі пад валасамі, сабранымі ў густую куксу, ды над вушамі бялеюць пяшчотныя палоскі. Яна таксама стала цікаўна глядзець на Сокала, і Віктар сумеўся, разгублена адвёў вочы: няўжо і яна папросіць запрэгчы? І што рабіць? Пусціць у работу чужога каня — проста несумленна. А галоўнае — часу на гэта няма. Мог бы і трошкі больш пабыць, дык вось жа гаспадыні падганяюць гэтым сваім чапляннем: давядзецца хутчэй выбірацца адсюль.

— Харошы ў вас конік, харошы! — сказала Антаніна.— Можа, і ў Хранавым такіх не было!.. А там жа конезавод на ўсю Расію! Разбамбілі, нечысці, знішчылі...

Сокал нібы разумеў, што яго хваляць, і ўдзячна глядзеў на гаспадыню вялікімі крыштальнымі вачамі.

— Можа, яму пашукаць яшчэ чаго? — між тым

пыталася Антаніна.— А на бабку нашу вы не крыўдуйце: прыйшло ёй у галаву картоплю разагнаць. Выкапаем лапатамі, каб толькі было што капаць.

Яны падышлі бліжэй да хлевушка, і Віктар успомніў, што меўся спытаць у Галі, чыё там дубовае голле, такое дробнае і нават з лісцем, чаму завалены ледзь не ўвесь хлевушок і каля хлевушка ляжыць некалькі ламачын.

— Гэта нашы дровы,— нібы здагадаўшыся пра думкі госця, сказала Антаніна.— Ходзім з Галяй за раку, у лес, і носім адтуль. Нехта пляжыць дубняк, а мы толькі голле падбіраем. Салдаткі ж абедзве, адзінокія — што ж тут зробіш!.. — Антаніна хацела ўсміхнуцца, ды раптам заплакала ціха, горасна. У вачах спачатку ярка заблішчэлі слёзы, нібы зусім нечакана злавіўшы першы прамень сонца, а потым пацяклі па пласкаватых, ужо з прыкметнымі маршчынкамі шчоках.— Мой таксама з першых дзён на вайне. Пісаў спачатку... Прыходзілі трохвугольнічкі... І вось ужо цэлы год — нічога... Зусім нічога...— Яна жалліва глянула на Віктара, у вачах скрозь слёзы бачылася цяжкае, пакутлівае запытанне.

Віктар спачувальна маўчаў, і яна стала паспешліва гаварыць далей, нібы намагаючыся запярэчыць яму:

— Не, пахаронкі не было!.. І ніякай чуткі кепскай, не пры нас кажучы... А нядаўна, знаеце, як было? У нас адна тут атрымала пахаронку на мужа, а праз нейкі месяц ён прыйшоў дадому. Без рукі, але прыйшоў. Ёсць жа шчасце людзям!..

У дзвярах калідорчыка паказалася Галя з Цімкам. У руках у Галі была сякера.

— От насяком дроў,— лагодна гаварыла маці, нібыта радуючы сына,— ды будзем снеданне варыць... Татку пачастуем.

— Крупнікам? — спытаў Цімка.

Ён так выразна і з націскам вымавіў «р», што бацька пачуў і азірнуўся.

— Вось і дрывасекі тут! — сказала Антаніна. І, павярнуўшыся да Галі, дадала: — То я сама насяку, чаго ўжо вы з малым?

Віктар ступіў да жонкі і ўзяў з яе рук сякеру. Ідучы да хлевушка, узмахнуў гэтай сякерай разоў

два ў паветры, быццам звяраючы свой былы спрыт калоць невялікія і падатлівыя круглячкі адной рукою. Не толькі расколваць напалам, а і біць на чацвярцінкі, а потым і на меншыя долі, ледзь не на падпалку. Лязо сякеры паблісквала пры ўзмаху, яно ўжо таксама лавіла праменні сонца, якое імкліва ўзнімалася з-за таго зарэчнага дубняку, адкуль вось гэтыя дзве салдаткі валачылі на сваіх спінах голле.

— А што калгас? — зноў засмучана спытаў Віктар.— Няўжо не мог даць вам хоць якога вала ў лес з'ездзіць.

— Мне Кульгавы не дасць,— упэўнена сказала Антаніна,— а Галі то наўрад ці адмовіў бы, як эвакуіраванай. Але ж яна не пойдзе, не папросіць. Нізашто не пойдзе!

— А хто такі Кульгавы? — Віктару ўявіўся мясцовы абібок з падцягнутай нагою яшчэ з маленства. Кандыбаў раней па вуліцы і ніхто яго, напэўна, не заўважаў, а цяпер вось камандуе, калі ўсе мужчыны на фронце. Агрэць бы яму па шыі, каб і другую нагу падцягло!

— Гэта цяперашні старшыня,— пацвердзіла Антаніна Віктараву здагадку.— Каральком сябе адчувае — адзін мужчына на ўсю вёску! Ды толькі званне, што мужчына: ні совесці, ні розуму!..

Віктар першым гаспадарскім паглядам заўважыў, што пад голлем каля хлевушка ляжыць бокам пачарнелая ад даўнасці і ўся падзяўбаная сякерaю калодка. Жвава дастаў яе адтуль і стаў секчы голле. Ад першага ўдару дубовы гузырок, нібы ад лёгкага выбуху, узняўся ўгору і ледзь не заляцеў на страху хлевушка.

— Ой! — з захапленнем усклікнула Антаніна, узрушана засмяялася і падалася ўбок... — Галя! — звярнулася яна да суседкі.— Вядзі ты малога ў хату, а то яшчэ, не тут кажучы... Гэта ж самы тоўсты камель быў.

— Сякера залішне вострая,— нібы апраўдваўся Віктар, кратаючы вялікім пальцам лязо. Адчуў, што якраз не вострая, хто яе тут надта вастрыў? А вось секчы дровы трэба ўмець, і ўдары разлічваць адпаведна таўшчыні галіны, і на калодку класці так, каб не спружыніла.

Галя паспрабавала адцягнуць ад хлевушка Цімку і завесці яго ў пакой, але малы ўпёрся і наадрэз адмовіўся ісці, пачаў нават плакаць, калі маці спрабавала ўгаварыць яго. Хлопчык не мог адвесці вачэй ад Сокала, які пры ўдарах сякерай насцярожана ўздрыгваў і натапырваў вострыя, з чорнымі макаўкамі вушы. І галоўнае ж — гэтага, можа, хлопчык яшчэ не разумеў,— цягнула яго пабыць пры бацьку, паглядзець, як ён хораша і зусім лёгка ўзмахвае той сякерай, што ляжыць у іх пад ложкам і якую ён аднаго разу паспрабаваў узяць у рукі, дык нават не мог падняць.

Ды што гаварыць пра малога! Антаніна і то лавіла сябе на тым, што ёй не хацелася адыходзіць ад хлевушка, хоць і ў самой розных клопатаў і неадкладнай пыненкі ў хаце было нямала. Добра было б і яшчэ пагаварыць з гэтым чалавекам, расказаць аб тым, пра што Галя, напэўна, змаўчала. Чалавек паедзе і не будзе ведаць, што жонка цэлую зіму бегала ў школу ў адной той жакетцы, у якой эвакуіравалася. А кажушок, што выдзелілі ёй, як настаўніцы ў раёне, Кульгавы зажыліў і перадаў мясцовай каапературыўшчыцы, бо там ледзь не штодня частаваўся.

Чалавек, можа, здагадаўся, а можа, яшчэ і не, што яго сын наўрад ці бачыў калі пахучы, смачны хлеб, не гаворачы ўжо пра іншыя харчы. Малацілі гарох у калгасе. Некаторыя эвакуіраваныя не надта і чакалі, пакуль ім нешта выдзеляць, а пайшлі самі з торбамі. А Галя не пайшла. Не схадзіла, не пакланілася старшыні, то нічога і не атрымала...

Гаварыла б і гаварыла б Віктару... І ў вочы яму глядзела б... А калі ён цяпер сячэ дровы, дык хоць на ўсяго паглядзець ды яго мужчынскім спрытам і сілаю палюбавацца... Вунь які стос дроў вырас за нейкую хвіліну! Да снедання ён усё гэтае голле пасячэ...

І раптам сумная здагадка: «А якое снеданне? Хто яго згатуе? З чаго? У Галі ж нічога няма, акрамя жменькі рушанага жыта».

Нечаканай і незразумелай радасцю кранулася сэрца, калі ўявіла, што паможа Галі згатаваць госцю добры сняданак: прынясе дзеля гэтага ўсё, што ў яе ёсць, нават тую пляшку з кааператыва, што не

паспела прамяняць на соль. Тады яшчэ і пасядзяць разам, і пагамоняць.

Колькі ўжо год няма ў хаце мужчыны, гаспадара?.. Яе Зміцер хоць і шчуплейшы за Віктара, але на ўсякую мужчынскую работу і каля дому і на полі сілы і здатнасці ў яго хапала. І ў самыя гарачыя дні памагала яму Антаніна. У армію пайшоў з першага прызыву. І апусцела без яго ўсё: і двор і дом. Здавалася, што і ўсе ваколіцы апусцелі, усе палеткі. Прыйшоў бы дадому хоць паранены... Няхай бы сабе нічога не рабіў, а толькі паказваў ды падказваў, што трэба рабіць... Няхай бы толькі пакурваў свой самасад ды пускаў дым па хаце, дык і гэтае адчуванне было б вялікім шчасцем.

— Я вазьму трохі дроў,— сказала Галя, падышоўшы да Віктара і прыпыніўшы яго заўзятае маханне сякерой.— Сушэйшых.

— Пачакай, не трэба! — пераняла яе Антаніна.— Сырыя яны, палянякі гэтыя, доўга распальваць. Пойдзем, у мяне ёсць бярэмка сухіх... Пойдзем! Хутка снеданне зварым!..

* * *

Віктар сядлаў каня. Чыста конніцкая гэта работа і адбыць бы яе лепш аднаму. Але побач стаяла ўся сямейка гэтага дома. Акрамя Галі з Цімкам і Антаніны, дзве Антаніііны дзяўчынкі выскачылі з хаты: босыя, да калень сукеначкі, валасы раскудлачаныя, відаць, толькі што ўсхапіліся з пасцелі.

Сокал, адчуўшы сядло, падцягнуўся, насцярожыўся, перастаў пяліць вочы на дзверы хлевушка, адкуль нядаўна яму выносілі ласункавы харч. Жалезны абручык левай страмніны злёгку гайдаўся, пакуль падцягваліся падбрушныя рамяні, кратаў свежым халадком рукі, а потым павярнуўся зручным бокам да конніка і быццам загадаў: «Ану давай, стаўляй нагу!»

І на нейкі момант мільганула ў Віктара такая думка: рвануцца б з месца ў галоп і праз хвіліну апынуцца ўжо за сялом, а там адумацца і ціха, у адзіноце пераажыць, адпакутаваць горкае расставанне. Ды момант момантам — ён хутка мінуўся. Стала

цяжка і горна ўяўляць, што вось Галя і Цімка раптам астануцца адны. І ўжо невядома, на які час, невядома, калі выпадзе шчасце пабачыцца зноў.

— Ён паедзе? — ціха спытаў хлопчык, крануўшы матчыну руку.

— Гэта твой татка! — яшчэ раз нагадала маці.— Трэба ехаць татку на фронт, бо там яшчэ вайна. Але ён без нас адсюль не паедзе, мы будзем праводзіць татку. Далёка правядзём... Да самага лесу.

— І я хачу на фронт! — з націскам прамовіў Цімка, напэўна, спадзеючыся, што бацька гэта пачуе.

— Абодва на фронт,— паскардзілася маці.— А я з кім астануся?.. На каго ж вы мяне пакінеце?

Малы на хвіліну сумеўся, але не зводзіў вачэй з Сокала і сачыў за кожным рухам бацькі, калі той рупіўся каля сядла. Урэшце Віктар пачуў ціхі дыялог паміж сынам і жонкай, зразумеў сутнасць і падышоў да іх бліжэй.

— Хочаш пабыць коннікам? — спытаў сына.— Пасядзець у сядле?

Маці сумелася ад такога запытання, а малы ўпэўнена і без ніякага роздуму кіўнуў галавой.

...Яны «ехалі» па вуліцы. Ехаў у сядле адзін Цімка, а ўсе, хто праводзіў Віктара, ішлі побач. Бацька падтрымліваў сына за нагу, якая далёка не даставала дужкі стрэмя. І малы не баяўся ехаць на кані, бо гэта ж бацька пасадзіў яго ў сядло, гэта ж бацька ідзе збоку і трымае сваю руку на яго калене.

Сокал ідзе павольна і неяк асабліва спружыніць нагамі, каб не паварушваць спінаю, быццам ведае, адчувае, каго вязе. Радком з Віктарам, адна пры адной, калі дазваляе дарога, ідуць Галя і Антаніна. Яны задумліва маўчаць, гаворка не ўсчынаецца. Абедзве сочаць за Цімкам, які сядзіць у сядле з такім смелым і радасным выглядам, быццам ужо не адзін раз ездзіў вярхом на кані. А між тым Галя ўспамінала, што хлопчык да гэтага часу наўрад ці бачыў каня, бо ў тутэйшым калгасе ўсё возяць і ўсе ездзяць на валах. «Цоб-цобэ-э!» Такія выгукі хлопчык чуў на вуліцы і часам паўтараў іх пры адзінокіх забавах у сваім двары.

Раптам Антаніна азірнулася і на яе цемнаватым ад загару і сіверу твары спачатку мільганула абурэнне, а потым вусны расплыліся ва ўмільную, усёдаравальную ўсмешку: па вуліцы, уперагонкі адна перад адною, з вясёлымі ўсклікамі і смехам імчаліся яе дзяўчаткі і вось-вось павінны былі дагнаць дзядзю Віктара з белым канём.

— Вы чаму ж не асталіся дома? — сурова крыкнула на іх маці, але з такой іскрынкай у вачах, што дзяўчынкі не спалохаліся.

— Мы хочам паглядзець, як Цімка едзе на кані,— сказала меншая. А старэйшая дадала, што і з дзядзькам Віктарам ім развітацца трэба, бо другі раз ён прыедзе, мабыць, ужо не скора.

— А вы хоць паснедалі? — спытала маці.

— Паснедалі,— адказала малодшая, а старэйшая прамаўчала, відаць, не адважваючыся гаварыць няпраўду.

Гамонка з дзяўчаткамі перапынілася, бо непадалёку, з двара, дзе быў сельскі кааператыў, выйшла дародная, свежашчокая жанчына з блакітнай касынкай на шыі. Касынка была ў гарошкі. На яе звярнуў увагу нават Віктар, але не падумаў таго, што ўявілася Антаніне. Не толькі ўявілася, а яна была ўпэўнена, што гэта Галіна касынка, і ледзь не кінулася насустрач кааператыўшчыцы. Галя, відаць, адгадаўшы намер суседкі, схапіла яе за руку.

— Гэта ж твая касынка! — абураным шэптам прамовіла Антаніна.— Ты прамяняла яе на што?

Галя адмоўна пакруціла галавой, гаварыць пры Віктару не адважвалася. Ён сапраўды мог помніць гэтую касынку, бо некалі сам яе купляў. Гэта было тады, калі прыязджала да яго ў кавалерыйскі полк. Як ні шкада было гэтага падарунка, аднак жа ён быў адзінай рэччу, без якой Галя магла абысціся. Сам Віктар не спытае, калі нават і пазнаў хусцінку. Хутчэй за ўсё не пазнаў: ці мала такіх хусцінак на свеце?

— Я ў яе спытаю! — абурана зашаптала Антаніна.— Я ў яе дазнаюся, дзе яна ўзяла тваю касынку. І за кажушок спытаю! Змяюка сквапная! Яна гатова ўсіх нас абабраць!

Галя амаль што не зналася з гэтай жанчынай, бо

ў кааператыў хадзіла рэдка. Запаветная касынка на чужой шыі кальнула ў вочы, але вялікай крыўды не выклікала, хіба толькі абудзіла той папрок самой сабе, які ўжо стаў пастулова забывацца. Справа ў тым, што яна сама аддала гэтую касынку!.. Аддала аднаму мужчыну, які ў мінулае разводдзе памог ёй пераправіцца праз бурлівы ручай, які нечакана перагарадзіў дарогу дадому.

Няхай бы і Віктар даведаўся пра гэта, але ж ці час цяпер расказваць? Вунь ужо і мінулі кааператыўную краму, ужо і канец Баброўкі недалёка!.. А Цімка сядзіць у сядле, першы раз у сваім жыцці адчувае сябе коннікам, першы раз з такой вышыні аглядае вясковыя хаты, двары, прысады... І адчувае, што ўсе глядзяць на яго і з двароў і з вокан. А калі хто ідзе насустрач, то супыняецца, каб паглядзець і павітацца.

Радуецца Цімка і не ведае, што хутка яму трэба будзе злазіць з сядла. Хутка трэба будзе развітвацца з бацькам і з белым Сокалам, які з такой годнасцю правёз яго па ўсёй вуліцы.

Сокал ідзе павольна і роўна, амаль зусім не гайдаючыся і не паварушваючы спіналю. Віктар адчувае, што трэба спяшацца, гэта не выходзіць у яго з памяці. Але ў той жа час душу агортвае ўдзячнасць Сокалу за тое, што ён не спяшаецца і дае магчымасць пабыць з сынам больш. Віктар глядзіць на сына і намагаецца не думаць аб тым, што ўжо вельмі хутка прыйдзе час расставання. І, можа, надоўга... Можа, нават назусім. Гэта мільгае ў свядомасці пякучай маланкай. Знікае і не вяртаецца!..

Паўстае жыццёвае, практычнае: як будзе жыць сям'я далей? Падтрымка па атэстату была тут нерэгулярнай.

А чым сам памог сям'і, прыехаўшы на кароткую пабыўку? Баханкай хлеба ды воблінай? Што можна было займець у шпітальных умовах? Цімка апрануты бедненька. Штонікі на ім рудзенькія, світачка шэрая, пашытая з нечага паношанага. Сандалі таксама паношаныя, а на галоўцы зусім нічога няма: вецер ціха варушыць бялявую грыўку над ілбом. Віктар здымае сваю пілотку, дарэчы, трохі малаватую для яго самога, і надзявае на Цімкаву галаву. Спачатку закрываюцца ў хлопчыка валасы і нават

вочы: Цімка пакручвае галавою, але задаволена ўсміхаецца. Бацька папраўляе пілотку так, каб не засціла вочы і каб хоць трошку была відна грыўка, так блізкая па колеру да бацькавых валасоў.

Галя з Антанінаю чулліва пераглянуліся: пэўна ж яны абедзве заўважылі, што ў бацькі на галаве пачала варушыцца пасма валасоў, вельмі падобная на Цімкавую грыўку. Быццам вецер наўмысля пакінуў у зацішку хлапчуковую галаву, бо цяпер на ёй пілотка, ды перайшоў на бацькаву.

А вецярок падзьмуваў ужо больш адчувальна — вуліца канчалася. Цімка ўжо бачыў выган за ваколіцай: зусім зялёны і ўсыпаны жоўтай квеценню ад ракі і падсохлы, з белымі плямамі пяску ад таго ўзгорка, дзе некалі стаяў млын. Відзён быў хлапчуку ўжо і лес, што пачынаўся за ўзгоркам.

— Мы пойдзем далёка-далёка?..

Гэта спытала Маняка, як тут яе звалі, меншая дачка Антаніны. Яна ўзняла цікаўныя і чорныя, як вугельчыкі, вочкі на маму і стала чакаць адказу. Але, відаць, не такога, каб не ісці далей, каб тут жа спыніцца. Ёй хацелася праводзіць і праводзіць дзядзьку Віктара ўсё далей і далей, а галоўнае — не перапыняць уцеху малога Цімкі, які, мабыць, і не думаў спускацца з такой чароўнай вышыніададолу.

І раптам усе здзівіліся, што Сокал спыніўся сам. Віктар не падаў яму знаку ісці далей, бо адчуваў, што сапраўды настала тая цяжкая пара, калі трэба ссаджваць малога. Думаючы пра гэта, магчыма, знячэўку і пацягнуў повад. А можа, хлопчык так нечакана паварушыўся ў сядле, што конь прыняў гэта за патрэбную каманду?

— Мы ўжо далей не паедзем,— сказала Галя, звяртаючыся да сына.— Бач, сынок, конік наш спыніўся, не хоча далей ісці.

Цімка недаверліва паглядзеў на матку, а потым перавёў вочы на Віктара. Той маўчаў, апусціўшы вочы на капыты каня, але пакуль што не працягваў рукі, каб ссадзіць малога конніка: быццам апынуўся ў такім складаным роздуме, што і выйсці з яго не мог, быццам забыўся аб тым, што Цімка сам не саскочыць з сядла ды можа і не папрасіцца, каб яму памаглі. Ды вось жа малы крануў бацькаву руку, і

той нібы спахапіўся, загаварыў узнёсла і суцяшальна:

— Хутка я зноў прыеду, сынок! Прыеду надоўга! Тады мы з табою ўдвух пакатаемся на кані. Моцна, нават галопам! Далёка памчым, вунь нават за той лес!..

Віктар узяў малога на рукі, прытуліўся да яго пілоткі і больш адчуў, чым убачыў, што хлопчык плача, але ціха, нібы хаваючыся. Ды толькі слёз не здолеў ні ўтрымаць, ні схаваць: яны імкліва пракаціліся па шчоках і зніклі недзе ў каўнерыку світкі. А след іх астаўся і доўга не высыхаў на ветры.

— Я зноў прыеду! — упэўнена паўтараў Віктар.— Хутка прыеду! Тады ўжо... Тады ўжо ўвесь час будзем разам!..

— Цімка, аддай татку пілотку,— папрасіла маці.— А то забудзем!

Хлопчык паспешліва ўзняў рукі да галавы, але Віктар пералавіў іх і сказаў:

— Гэта твая, сынок, пілотка! Твая! Я падараваў табе яе... Вось нават з зоркаю... Каб і ты быў сапраўдным коннікам!

— А як жа ты?..— у голасе жонкі і ўдзячнасць, і сумненне.— Што скажаш у часці?

— Так і скажу!..— Віктар паправіў пілотку на Цімкавай галаве.— Скажу, што падараваў свой галаўны ўбор сыну!

Трымаючы рамяні повада на локці, ён паглядзеў сабе пад ногі, нібы выбіраючы сухое і ўжо прыгрэтае месца на палявой дарозе. І не знайшоў паблізу такога месца — усюды яшчэ была раса і зіхатліва паблісквала ў першых праменнях сонца. Як жа паставіш малога на расу? Перадаў сына мацеры, але ён не захацеў аставацца на руках, злез і нават крыху прайшоўся па росным узмежку.

Антаніна адчувала, што цяпер ужо няёмка быць ёй тут з дзецьмі: сямейным людзям трэба развітацца, а перад тым, можа, што і сказаць наадзіне. Яна падышла да Віктара першая, шчыра пажадала яму шчасця і хуткага звароту, а потым, ледзь стрымліваючы слёзы, падала лісток паперы, згорнуты трохкутнікам, і папрасіла:

— Вазьміце, калі ласка... На ўсякі выпадак...

Гэта апошні адрас майго Змітра... А раптам недзе дарогі вашы сыдуцца...

Віктар разумеў безнадзейнасць гэтай просьбы, але адмовіць жанчыне не мог: няхай спадзяецца, што муж жывы... Няхай чакае...

Антаніяіным дзяўчынкам не хацелася пакідаць Цімку, якога яны ўжо трымалі за рукі, асабліва цікава было паглядзець, як яго тата будзе ад'язджаць на белым кані, але маці павяла іх з сабою.

— Я пачакаю ля першай хаты,— шапнула Антаніна Галі.— Але вы не спяшайцеся...

Нікому з іх у гэтыя хвіліны не хацелася спяшацца, але абставіны падспешвалі. Як ні цураўся Віктар трывожных думак аб тым, што сёння можа і не паспець на маскоўскі цягнік, яны раз-пораз узнікалі і балюча свідравалі сумленне, парушалі душэўную раўнавагу. Сям'я, сын!.. Душа і сэрца з імі. Але ж воінскі абавязак — недзе побач і сваёй магутнай суровасцю бярэ верх. У афіцэрскім рэзерве — толькі кароткая перадышка, быццам перасадка з аднаго цягніка ў другі. А там зноў фронт, стралковы ўзвод або рота на самай перадавой. І гэтае падраздзяленне ўжо недзе ваюе, і камандуе ім — яшчэ добра, калі старшына ці сяржант! А можа, нават і радавы салдат, бо камандзіраў у пяхоце амаль усюды не хапае. Як памятаецца Віктару, мала які камандзір перадавога стралковага падраздзялення выстойваў у страі больш месяца. Гэты стаж некаторых узводных часам абмяжоўваўся і некалькімі днямі.

А далей — добра, калі шпіталь! Добра, калі можна, як яму цяпер, вярнуцца ў строй. Менавіта ў строй, а не ў сваю часць: ніхто для лейтэнанта не будзе шукаць яго ранейшай часці. За час яго лячэння яна магла апынуцца ўжо далёка за мяжой або перафарміравацца, а то і зусім расфарміравацца. Дадуць новы ўзвод, а там пойдзе зноў усё спачатку. Колькі выцягнеш, колькі выстаіш? Потым — паўторны круг: шпіталь, новая часць, новае прызначэнне.

...Лука сядла ўявілася цеплаватай, калі Віктар дакрануўся да яе пальцамі. Ад сонца?.. Не. Сонца

яшчэ не паспела прыгрэць. Гэта Цімка трымаўся аберуч за луку... І ўсё сядло быццам бы дыхала пяшчотным дзіцячым цяплом...

«Пайсці і далей пехатою і весці за сабою каня... Дык і Галя пойдзе, і Цімка... І Антаніна вернецца з дзецьмі. А можа, ускочыць у сядло і рвануцца з месца ў галоп, каб у адзін момант апынуцца за горкай... Пастаіць тады ў самоце Галя... Цімка, можа, і не зразумее, чаму так хутка знік чалавек, якога завуць таткам... Чаму паляцеў некуды белы конь?..

Галя сатрэ хусцінкай слёзы і возьме на рукі хлопчыка. Успомніць, што каля першай хаты сяла яе чакае Антаніна.

І вось ля самага вуха чуецца пяшчотны, поўны ласкі і трывогі шэпт:

— Ты познішся, Віця... Праз нас... Будуць непрыемнасці па службе...

Віктар нахіляецца да сына, потым рашуча выпростваецца і быццам узлятае ў сядло. На горку пускае Сокала на ўвесь яго спрыт, а там рэзка спыняецца і паварочвае каня. Галя трымае Цімку на руках, яны абое махаюць рукамі... Здалёк Віктару здаецца, што яго завуць: вярніся, вярніся!.. Пабудзь яшчэ з намі хоць хвілінку!.. І яму хочацца прышпорыць каня, пусціцца з горкі самым шпаркім, імклівым лётам, як на дзівосных крылах...

...Галя здагадваецца, што ў мужа ўзнікае такі намер. Ён можа сапраўды вярнуцца да іх вось у гэтую ж хвіліну... Магчыма, каб сказаць яшчэ нешта недасказанае, запаветнае, каб глянуць яшчэ раз у вочы... І яна падае больш выразныя знакі развітання...

* * *

Маленькая, шэрая, як кошка, сібірская кабылка лётае паміж дрэў і кустоўя... Кароткія кудлатыя ногі, чорная палоска на спіне... Лясне міна паблізу — кабылка ледзь не падае ад выбуховай хвалі і кідаецца ўбок, быццам перакатваецца ў іншае месца. Тады міна ўзрываецца там, дзе апынулася кабылка... Асколкі сякуць лісце, упіваюцца ў кару дрэў, а жывёліну пакуль што мінаюць.

Часта падаюць міны... Кабылка выбілася з сілы, ратуючыся ад смерці. Доўгія, трохі падобныя на асліныя, вушы палахліва стулены, ногі трымцяць, калі яна хоць на момант спыняецца і, напэўна, думае, вызначае, куды рынуцца зноў.

«Ці ж гэтак ты ратуешся? — нібы хоча падказаць Віктар, назіраючы за жывёлінай з бліндажа.— Нявопытная, сібірачка, неабстраляная...»

Старшына роты недзе падлавіў гэтую кабылку і пры патрэбе запрагаў яе ў нейкія драбінкі. Часам падвозіў скрынкі з патронамі, часам ротную кухню.

Драбінак не відно паблізу, магчыма, іх ужо даўно разнесла мінамі. І старшыны не відно, не чутно... Віктар пасылаў шукаць ротнага гаспадара. Салдат некуды поўзаў, некуды бегаў і потым ваваліўся ў бліндаж, увесь выкачаны ў росны пясок, увесь прапахлы расціснутымі маслякамі.

— Нідзе не знайшоў, таварыш старшы лейтэнант!

Віктар паморшчыўся ад такога дакладу, аднак сцярпеў, не паслаў байца зноў пад агонь. Раптоўнае знікненне людзей у яго штурмавой роце ўжо амаль і не здзіўляе. Што ж зробіш, калі ўвесь час даводзіцца быць на самых гарачых участках?..

Стуліўся ля стажка сена непадалёку ад бліндажа. Стажок невялічкі, варожыя пазіцыі цераз яго ўбачыць можна. Узлёг на сена, прыклаў да вачэй бінокль.

Падбег сувязны. Дробненькі, чарнявенькі і амаль яшчэ дзяцюк з выгляду. І звалі яго Толя.

— Дайце я гляну, таварыш камандзір!

— Ды што ты ўбачыш з тваім ростам?!. Бяжы ў бліндаж!

У бліндаж... Аднак ці можна назваць гэта бліндажом? Яшчэ зусім нядаўна штаб роты размяшчаўся ў маленькай, утульнай глінабітцы тутэйшага хутараніна. Такіх многа ў Заходняй Украіне. Варожы мінамётчык «засек» яе і пачаў метадычна і настойліва «расклёўваць» хатку мінамі. Спачатку трапляў то ў хлевушок, то ў калодзеж, раскапаў на ямкі ўвесь дворык. А потым усё ж натрапіў на хату. І міны пачалі рвацца на чарапічнай страсе. Навылёт не прабівалі, але хатка небяспечна ўздрыгвала ад выбухаў, і на стол, пусты, але накрыты вышываным

абрусам, пачала сыпацца пабелка са столі. Было відавочна, што заўзяты і бязлітасны ў сваіх намаганнях фашысцкі мінамётчык паступова праб'е страху і міны пачнуць падаць на кастрыцу, якою ўсыпана столь. І запаляць хатку.

Штабу асобай штурмавой давялося перабрацца ў паграбок. Добра, што склепік быў немалы і нават абмураваны цэглаю, быццам гаспадар ведаў, што будзе вайна і што давядзецца пераседжваць тут ліхалецце. Самога ж хутараніна, аднак, не відно было нідзе.

Сувязісты перанеслі ў склеп тэлефон, і вось, пакуль варожы мінамёт даклёўвае хатку, у склепе зусім утульна і амаль бяспечна, можна часам узысці на прыступкі і агледзець наваколле.

Перад хутарком, па ляску, ідуць баявыя пазіцыі роты. Толькі ўчора ўдалося захапіць іх. Нязручныя яны для абароны, залішне адкрытыя, але ніякага выбару тут няма. З абодвух бакоў — грунтавыя дарогі, і загад камандзіра палка такі: утрымаць рубеж, не дапусціць танкавага прарыву!

У стралковай роце — два ўзводы ПТР, кулямётны ўзвод, дзве гаўбіцы, прыдадзеныя для большай ударнай сілы. Але ў ворага насупраць моцы намнога больш. Намеры яго пакуль што невядомы Віктару. Званіў у штаб, пытаў, але і там нічога дакладнага не сказалі.

З бліндажа далекавата відно нават і без бінокля. Віктар стаіць на цэментавых прыступках і сочыць. Кабылкі ў ляску ўжо не відаць, напэўна, натрапілася недзе на асколак і ўпала. Коні хутка мярцвеюць нават ад малой раны. Вунь на дарозе — падбітая нашымі аўтаматчыкамі нямецкая паравонка. Двое белых коней стаяць на каленях, галовамі прытуліліся адзін да аднаго, быццам спяць. Але яны ўжо даўно нежывыя, Віктар бачыць іх з самага світання. Абое падобны на яго Сокала, таму выклікаюць боль у душы і шкадаванне. І нават крыўду на ротных аўтаматчыкаў, якія стралялі не ў ворагаў, а ў коней. Коні — нідзе не ворагі. Брыдка прызнацца не толькі камандаванню, а нават і самому сабе, што двое ездавых з фурманкі са-

скочылі на хаду і ўцяклі, а ні ў чым не вінаватыя белыя прыгажуны застылі на месцы. З павозкі хлопцы ўзялі пакункі з пахучым мылам, некалькі камплектаў бялізны і бярэмя ўціральнікаў. Астатняя санітарная непатрэбшчына асталася яшчэ там.

Калі Віктар убачыў белых коней першы раз, то паспадзяваўся, што яны яшчэ ажывуць: вось устануць і пацягнуць аблегчаную павозку далей. І, можа, нават не да ворага, а да нас.

Цяпер ужо зразумела, што «Сокалы» не ўстануць. Можа, і сібірачка прыбілася да іх і там знайшла свой канец?

Віктар стаў больш уважліва ўглядацца ў лясок і шарыць біноклем па наваколлі. Лінзы слізганулі па стажку сена і адразу адскочылі ўбок: страшна глядзець на гэтае сена, хоць яно і прывабнае і пахучае... На ім нядаўна загінуў Толя. Чаму мурожнае сянцо не ўберагло такога цудоўнага хлопца, чаму не ўзяло варожы асколак на сябе?..

Ля стажка быццам бы нешта заўважылася. Прыгледзеўшыся, Віктар убачыў, што там прытулілася да мурагу кабылка. Стаіць спакойна, ужо нават не ўздрыгвае ад мінных выбухаў і раз-пораз паскубвае сена. Паскубвае і ўсмак жуе. У зацішную хвіліну паміж варожымі стрэламі Віктару здаецца, што ён нават чуе гэтае жаванне.

За стажком, гоняў за двое, відзён хутарок. Можна меркаваць, што ён такі ж, як і гэты, дзе цяпер размяшчаецца штаб роты. Напэўна, жылі-былі тут добрыя суседзі і хадзілі адзін да аднаго на вячоркі: для хутараніна вярста, а то і дзве — не адлегласць. За тым хутарком — варожыя пазіцыі. За хатаю і той ротны мінамёт, які вельмі разлічана і злосна раздзёўбвае будынкі штабнога хутарка. «Накрыць» той мінамёт нашы не могуць, бо замінае будынак.

Віктар убачыў гэта яшчэ ўчора ўвечары і доўга думаў, што рабіць з гэтым хутарком, якое прыняць рашэнне. І параіцца ні з кім не мог, бо адчуваў, якія тут могуць быць парады: не такія хутаркі знішчалі, калі яны станавіліся перашкодай на баявой дарозе.

Пазваў да сябе Толю, калі ўжо добра сцямнела.

— Ты бачыў той хутарок, што ля варожых пазіцый?

— Бачыў, вядома.

— Ну і што ты думаеш пра яго?

— Думаю, што трэба яго спаліць, пакуль не позна.

— Чаму так бязлітасна: спаліць! А можа, там людзі, дзеці?..

— Нікога там няма, як і ў нас тут. Хутаранцы паўцякалі адсюль.

Толя абцягнуў свой бушлацік, ледзь не на самыя вочы насунуў пілотку.

— Дык я пайшоў?!

— Куды? — здзівіўся Віктар.

— Выконваць загад. Пляшка гаручага ў мяне ёсць.

— Ніякага загаду я табе яшчэ не даў,— рэзка прамовіў Віктар.— Негуманна гэта! Чуў? Бесчалавечна!

— А яны заўтра паставяць за тым хутарком яшчэ адзін мінамёт і будуць вельмі «гуманна» нас расстрэльваць. Гэтага мы павінны дачакацца?

Прыхапіўшы недзе ў садку сваю пляшку з гаручым, Толя, прыгнуўшыся, шмыгануў у цемру і хутка знік там, нібы растаў. Спачатку Віктар прыслухоўваўся да яго крокаў, а потым стаў углядацца ў тое месца, дзе павінен быць хутар, і з нейкай асаблівай, нязведанай дагэтуль трывогай чакаць, што вось-вось бліснe там агонь. Магчыма, спярша засвецяцца вокны хаты, быццам вярнуўся туды гаспадар ды запаліў лямпу. Уяўлялася, што густы дым паваліцца потым з коміна.

Прайшоў час, за які ўжо можна было Толю і дабегчы туды, і даць ход сваёй пляшцы з гаручым, а начная вільготная цемра на месцы хутара нічым не парушалася. Трывога ў Віктара расла, але побач з ёю пачынала напаўняць душу пачуццё, якое ў той момант нельга было вызначыць: быццам радасць ад таго, што сувязны не змог падпаліць хутар, а яшчэ лепш — калі не здолеў, не захацеў знішчаць звычайную сялянскую хату, напэўна ж, вельмі падобную на тую, у якой некалі нарадзіўся і жыў сам. І раптам з асаблівай вастрынёй і болем пачало мучыць Віктара сумленне: як ён мог паслаць туды чалавека з пляшкаю гаручага? Хіба гэта баявое заданне? Хіба дзеля такіх, з дазволу сказаць, аперацый ён прызначаны камандзірам роты?

Брыдка будзе ў вочы глянуць байцам, калі даведаюцца, што звычайная, зусім мірная сялянская хата спалена па яго загаду.

Неўзабаве рота павінна пайсці ў наступленне. Перад атакай палкавая артылерыя дасць падтрымку: выклічам агонь, хоць і з рызыкай для сябе, бо вельмі малая адлегласць паміж варожай лініяй і нашай. Абавязкова папярэдзім, каб хутара не чапалі. Выб'ем фашыстаў з іхніх акопаў, і фронт адхлыне адсюль, вернуцца ў хутарок гаспадары, магчыма, з малымі дзецьмі. Старыя будуць дзякаваць богу, што ўратаваў іхняе жытло. А бог гэты — хто? Вось ён, камандзір штурмавой роты.

Думкі ледзь не захапілі Віктара, ледзь не адцягнулі ўвагу ад галоўнага: хоць і ранетка побач і яе лісце ледзь чутна шапаціць пры ветрыку, хоць цішыня і начная, вядома ж, часовая, хоць спакойнасць усюды, але перадыху ў вайне, па сутнасці, няма, і сувязны Толя не ў госці пайшоў да блізкіх людзей, а маючы загад спаліць хату. І ён выканае загад, абавязкова выканае, бо добра ведае законы ваеннага часу.

* * *

У хутарку раптам бліснула акно. Мільгнула, палыхнула, вузкім праменьчыкам і адразу патухла.

«Адставіць!» — хацелася крыкнуць Віктару, але рызыкоўнасць такога гучнага загаду пры варожай лініі была занадта відавочнай, і ён стрымаўся, толькі яшчэ з большым адчаем рынуўся да дзвярэй хаты.

— Адставіць! — загадаў ён ужо ў сенцах, уяўляючы, што тут недзе Толя шоргае запалкай аб карабок.

У цёмных сенцах прывабна пахла маласольнымі гуркамі, густа перасыпанымі ўкропам: напэўна, гаспадары былі тут зусім нядаўна. Дзверы ў хату адчынены насцеж.

— Хто там?! — пачуўся з хаты прыглушаны, але рэзкі голас. І ў той жа момант успыхнуў ліхтарык, калючым промнем паласнуў Віктару па вачах.

— Свой! — адказаў Віктар, але не адразу і без ніякай трывогі, бо Толеў голас пазнаў, хоць ён быў і хрыпучы і да адчаю суровы.

— Ну што гэта?..— здзівіўся Толя, убачыўшы на парозе хаты камандзіра.— Што здарылася? — Ён разгублена апусціў аўтамат і нібы сам сабе дадаў: — Так і да бяды недалёка, мой палец быў на курку.

— Чаму не выконваеш загад? — спытаў Віктар.

У голасе ноткі строгасці, але сувязны адчуў, што гэта не тая звычная пры баявых загадах строгасць, і разгубіўся яшчэ больш. Здагадваўся, што адбываецца нешта надзвычайнае, аднак не мог уцяміць што. Чаму камандзір прыбег сюды з другім сувязным? І, пэўна ж, вельмі спяшаўся, бо грудзі і цяпер ходырам ходзяць.

— Запалкі адсырэлі? — нібы спытаў, нібы папракнуў камандзір.— Дык у мяне мадзьярскі самапал у кішэні.

— А ў мяне — нямецкі,— паведаміў Толя.— Во! — Ён выняў з бушлата нешта такое, што бліснула нават у цемнаце, важка падкінуў на далоні.— Магу што хочаш упячы!

— Дык у чым жа затрымка?

— А вось тут пленнік! Не каўказскі, вядома... Тутэйшы. То паразмаўляў з ім крыху... Дапытваў...

Віктару спярша ўспомнілася, што Толя сапраўды някепска штэркаў па-нямецку, хоць паспеў скончыць толькі сярэднюю школу. А ў наступны момант, калі вочы добра звыкліся з густым змрокам, ён заўважыў дзве калыскі, падвешаныя да столі. Адна з іх ціха пагойдваецца. За гэтай калыскай на ложку сядзіць чалавек і трымае ў руцэ почапку ад калыскі.

— Давай святло! — загад прагучаў цвёрда і рэзка, Толя выцягнуўся ў струнку.

— Дык вокны не завешаны, таварыш старшы лейтэнант!

— Завесіць!

Выконваць загад кінуліся абодва сувязныя. Потым Толя ўключыў ліхтар, і Віктар убачыў, што пагойдвае калыску пажылы і ўжо даволі зарослы сівой шчэццю немец. Убачыўшы афіцэра, немец

устаў, нават прыняў стойку «смірна», аднак почапкі з рук не выпускаў.

«Ад страху пасівеў,— міжвольна падумалася Віктару, але ж з першага позірку стала відно, што чалавек не адчуваў вялікага перапалоху і глядзеў на савецкіх вайскоўцаў добразычліва.

— Хто такі?

— Ездавы іхні,— ахвотна пачаў расказваць Толя.— З той фурманкі, што нашы хлопцы падстрэлілі. Немцы яго лічаць забітым. А ён вось тут... Бадай-што, і не ведае, куды падацца.

— Са зброяй?

— Ды не. Нічога пры ім няма, я праверыў. Кажа, што ні разу і не браў у рукі вінтоўку, хоць яна і ляжала ў павозцы. Мабілізавалі яго нядаўна, а дома ўнукі-блізняты... У калысках яшчэ, вось, мабыць, у такіх, як гэтыя...

Віктар кіўнуў другому сувязному, каб падзяжурыў на выхадзе, а сам прысеў ля стала з намерам уважлівей паслухаць, што раскажа Толя. Ездавому таксама падаў знак сесці. На стале ляжаў узорысты даматканы абрус з сіметрычнымі шашкамі з выбеленых нітак. Не на ўвесь стол, а на меншую палавіну, таму быў складзены амаль у тры столкі. Пэўна, такім чынам тут была накрыта баханка, а можа, хоць акраец хлеба. Але цяпер стол пуставаў, і таму абрус выглядаў нібыта беспрытульным. На покуці вісела невялічкая іконка ў багетавай рамачцы, і на ёй быў ручнічок з такой жа тканіны, што і абрус. Ручнічок прыкрываў іконку на большую палову зверху і на колькі можна было — па баках, быццам гаспадары саромеліся людзей і прыхоўвалі сваю, магчыма, традыцыйную, павагу да хатняй покуці. Але, мабыць, дарэмна. Калі Віктар узяў з Толевых рук ліхтар і накіраваў прамень на покуць, то ўбачыў, што тулілася ў ручніку не «матка боска», не «Ісус Хрыстос» у замалёўцы саматужных багамазаў, а падлінялая копія вялікага тварэння Леанарда да Вінчы — дародная, шчаслівая маці з дзіцём на руках («Мадонна Бенуа»).

— Можа, даць вам гурка маласольнага? — раптам спытаўся Толя.

Віктар рэзка глянуў у яго бок і аддаў ліхтар.

У гэтым паглядзе Толя ўлавіў маўклівы папрок і стаў апраўдвацца:

— Не, сам я не лазіў, не шукаў. Гэта немец мне паказаў: там цэлы ўшацік насолена.

— Дык што ён табе яшчэ расказваў?

— Усё па біяграфіі,— дадаў сувязны.— Пра сваё ўласнае жыццё. А разведданых ніякіх!

— А ты пытаў?

— Не. Я ўсё слухаў. Сын яго пайшоў на фронт ды загінуў пад Курскам, а нявестка памерла... Дык вось ён сам і гадаваў немаўлят. Прасіўся, каб не бралі на фронт. Не памагло.

— Пра часць сваю хоць што-небудзь ведае? — перарваў Віктар сувязнога.— Ты, бачу, усю ноч слухаў бы яго біяграфію!

У голасе хоць і не спадала суровасць, але яна была службовая, а не з глыбіні душы. І Толя адчуваў гэта, бо ведаў, як камандзір сам пакутуе і сумуе, успамінаючы свайго сына, як кожны крок стасуецца цяпер да думак і клопатаў аб сынку і яго мамцы. Толя ўжо ведаў, як і завуць хлопчыка: Цімка.

— Я зараз дапытаю гэтага дзеда! — заявіў сувязны і навёў ліхтар на ездавога. Той спачатку прыкрыў вочы далоняю, а потым стаў пакорліва глядзець на Віктара, жалліва маргаючы стомленымі павекамі.

— Не трэба! — цвёрда сказаў Віктар.— Там дапытаем, дома. А цяпер — марш адсюль! Палоннага бяры з сабою!

— То, можа, я пакіну тут вось гэта! — Сувязны выняў з кішэні пляшку з гаручым.— Пакладу ў калыску, падпалю, а тут побач шпалера на сценках, дык пакуль мы дабяжым да свайго бліндажа...

— Не трэба! — паўтарыў Віктар.

Вяртаючыся да свайго хутара, вельмі падобнага на той, які намерваўся спаліць, Віктар міжвольна ўяўляў, як магла б там загарэцца калыска... Адна, потым другая... Сеннічкі сухенькія, даўно не вільгочаныя дзецьмі... Пярыльцы таксама сухенькія... Ад калысак згарэлі б і хата, і сенцы... А каб былі там дзеці?..

Жудасная думка б'е па сэрцы, становіцца цяжка дыхаць, і Віктар прыцішае бег. Намагаецца ада-

гнаць злую думку, але яна жывасілам цягне за сабою страшныя ўспаміны. Перад вачыма ўзнікаюць цяжкія ўяўленні нядаўняга мінулага...

Вуголле і попел на тым месцы, дзе нядаўна была хата... Яшчэ зусім свежае вуголле, амаль цёплае... У качарэжніку абгарэлая чапяла, два рагачы, большы і меншы... Пачырванелыя, нібы паржавелыя, ад агню... Там, дзе быў мыцельнік, ляжаць у попеле тры маленькія гліняныя місачкі. Яны патрэскаліся ад сухой гарачыні, але не распаліся на часткі... У іх па жмені попелу замест дзіцячага снядanку...

Гэтае відовішча доўга свідравала сэрца, з'яўлялася перад вачыма якраз тады, калі хацелася думаць пра нешта неабходнае, зусім неадкладнае. І пры першай рэакцыі і потым, калі балючае ўражанне быццам бы пачынала крыху прытуманьвацца. Часта Віктар не мог пераадолець жудаснае ўяўленне, што недзе каля такой місачкі мог быць і яго сын. Не верыць душа, але пякуча зацякаецца сэрца нават пры імгненнай думцы, што і малыя дзеці могуць гарэць у агні вайны. І разам — іхнія калыскі... І нават гліняныя місачкі...

* * *

На падыходзе да штабнога хутара давялося і зусім сцішыць хаду, бо палонны ездавы ўжо ледзь перастаўляў ногі і дыханне яго нагадвала знямоглае і небяспечнае хрыпенне. Хутаранскі стажок здаўся найлепшым і адным надзейным утулкам: Віктар кінуўся ў духмянае сена. Соладка і жыватворна запахла яно сухім чабарком... Потым, нібы здалёк, тонка і ледзь улоўна пацягнула палявой мяткай... І ўсё, як некалі дома на калгаснай сенажаці, калі выбачвалася хвіліна перадыхнуць на скошанай траве.

Толя, як толькі прытуліўся галавою да мурагу, дык адразу і заснуў, засвістаў носам, быццам жартуючы або прыкідваючыся сонным. Але Віктар знаў, што гэта не прыкідванне, што ў хлопца ёсць такая слабінка —засынаць пры кожным зручным выпадку, хоць па службе ён даволі дысцыплінаваны і смелы.

«Няхай трошкі паспіць,— спачувальна падумаў Віктар.— Каго цяпер папракнеш за сон, калі надараецца сцішаная хвіліна?» Людзі яго роты цэлымі суткамі не маюць адпачынку.

Побач з Толем улёгся палонны немец. Віктару здалося, што ездавы нават прытуліўся да Толі, ледзь не абняў яго, быццам самага блізкага чалавека.

«Засне ці толькі прыцішыцца? — узнікла ў Віктара думка.— А потым непрыкметна дасць маху адсюль. Куды? Да сваіх? Дык там не памілуюць за тое, што кінуў фурманку. Відаць, Толя спакойны за паводзіны свайго палоннага».

Неўзабаве прыйшоў дзяжурны па штабе роты і далажыў, што камандзіра выклікаюць да тэлефона.

Голас у трубцы быў самаўпэўнена смелы. Гаварыў ПНШ-2, інакш кажучы — другі памочнік начальніка штаба палка. Не даслухаўшы паведамлення, што ў падраздзяленні ёсць палонны ездавы, ПНШ узнёсла, з бадзёрай весялосцю запрапанаваў:

— Слухай, старшой! Тут у нас звесткі, што ў цябе там цэлы абоз нямецкага барахла захоплены!.. Будзеш адпраўляць да нас палоннага, прышлі хоць пару брускоў мыла! Памыцца няма чым! Разумееш?

Няхай паспіць Толя... Яго палонны дзед нікуды не дзенецца... Хлопец не звёў вачэй усю мінулую ноч — Віктар знаў гэта. А вось ці замгнуў ён якую хвіліну ў папярэднія ночы, дык нешта і не згадваецца. Бадай, не давялося юнаку хоць на момант дзе-небудзь прыхінуць галаву.

«Няхай паспіць Толя...»

Хто мог ведаць, што гэта яго апошні сон, што праз некалькі гадзін, пры першым сонечным промні, хлопец загіне каля гэтага ж стажка...

Ляжыць Толя ў штабным паграбе, з галавою прыкрыты сваім бушлацікам. І хто забягае сюды з траншэй, спаважліва абмінае яго кірзавыя боты, лічыць, што сувязны адпачывае.

На змярканні, калі рота астанецца на месцы, яго пахаваюць і слупок з шыльдачкай паставяць на магіле. А калі рота не астанецца тут?.. Калі ёй будзе загадана вось зараз жа рынуцца ў атаку і нават хвіліны не знойдзеш, каб правесці ў апошні шлях баявога паплечніка? Колькі такіх атак на памяці

Віктара? Бяжыш, паўзеш, перабягаеш пад кулямётамі ворага і сам не заўважаеш, што збоку ляжыць ужо нежывы аднапалчанін, магчыма, нават аднаго з табою ўзвода ці роты.

* * *

Кабылка адышлася ад стажка, нібы адчувала, што больш там туліцца нельга: праз некалькі хвілін стажок пачаў дымець, а потым узяўся густым полымем. Гэта была апошняя, быццам жывая, кропка.

Усё астатняе ўжо даўно згарэла, толькі вугалле свяцілася ноччу і сяды-тады выблісквала з попелу і ўдзень. Цяпер воку няма на чым прыпыніцца — усё аголена да самых варожых пазіцый.

А хутарок з дзвюма калыскамі ў хаце, памілаваны Віктарам мінулай ноччу, стаіць і цяпер. Пакуль гарэў стажок, яго засцілала дымам. Дым рассеяўся хутка. Каб не той хутарок, дык бінокль з бліндажа, магчыма, улавіў бы мінамётную ўстаноўку, якая з нямецкай педантычнасцю і ўжо нават тупасцю дзяўбе даўно раздзяўбаныя месцы. Пакуль што не трапляе ў бліндаж, але, напэўна ж, прыцэліцца. Напэўна ж, недзе на дрэве сядзіць карэкціроўшчык. Ён падкажа ўзяць на сто крокаў далей. Склеп, можа, і вытрымае лёгкую міну, але ж тады не паглядзіш, што робіцца на пазіцыях, сваёй і варожай. А яшчэ ж — не пахаваеш Толю, які да гэтага часу ляжыць на нарах.

Са штаба маўчаць... Пасля таго, як паслаў ім мыла разам з палонным ездавым, ніводнага званка. Прыняць рашэнне самому і падняць роту ў атаку — даволі рызыкоўна, бо вораг тут добра ўмацаваўся. Некалькі разоў Віктар прасіў агню, хоць нават і з небяспекай, што ўдараць па сваіх — вельмі ж зблізіліся пазіцыі. Адказу няма.

Вайсковы вопыт мінулых год настойліва падказвае, і Віхораў адчувае гэта надзвычай востра, амаль балюча, што далей аставацца на гэтай пазіцыі і ў такой стадыі адноснай пасіўнасці нельга, што гэтак можна не толькі расхаладзіць байцоў, а і многіх страціць. Разлік на тое,— а ў штабе, відаць, на

гэта і спадзяюцца,— што ноччу можна будзе падняць роту і заняць больш зручную абарону, ужо страціў сваю логіку: пазіцыі паралізуюцца варожымі мінамётчыкамі, ужо цяпер штаб роты акружаны снайперамі.

...Трэба пахаваць Толю неадкладна. Добра было б выкапаць магілку каля таго стажка, дзе юнак загінуў. Нічога, што стажок згарэў. Яго попел таксама адзнака: там доўгі час будзе чарнейшая зямля.

Віхораў ледзь паспеў прыкрыць завалу склепа — варожая міна ўдарыла ў попел стажка, узняла густы, шэры слуп. І здалося камандзіру, быццам ён заўважыў, адкуль вылятала гэтая міна — сапраўды ж з-за таго хутарка, што пры варожых пазіцыях.

...Дзве дзіцячыя калыскі на гэтым хутарку... Пах маласольных гуркоў... Іконка на покуці пад даматканым ручніком...

Калі б Толя адразу падпаліў хутарок... Калі б не разгаварыўся са старым немцам, у якога асталіся дома адзінокія ўнукі... Калі б не пашкадаваў дзіцячых калысак... Тады нашым мінамётчыкам нішто не замінала б абстрэльваць варожую пазіцыю. І, пэўна ж, не цалялі б варожыя міны ў мурожны стажок... Толя быў бы жывы... І сам стажок не згарэў бы...

Тэлефонны зумер пачуўся якраз тады, калі санінструктар і сувязны камандзіра выбралі прыцішаны момант і вылезлі з рыдлёўкамі са склепа, пачалі капаць магілку, маленькую, нібы дзіцячую, бо нежывы шчупленькі баец яшчэ паменшаў і звузіўся. Гаварыў той жа ПНШ-2, што не так даўно прасіў мыла.

— Слухай, старшой!

— Слухаю!

— Начальнік штаба загадаў з'явіцца ў штаб на аператыўную нараду. Неадкладна!

— Дык у нас тут нельга галавы падняць.

— Нічога. Прапаўзеш.

Загад ёсць загад. Нечаканы, праўда, зусім нечаканы. І наўрад ці патрэбны: хто гэта збірае нарады сярод дня. Але ж у штабе палка свае меркаванні.

Нешта міжвольнае і нібы трывожнае варухнулася ў Віктара пад сэрцам. Палахлівасць? Стала прыкра нават уяўляць гэта, і ён рашуча адкінуў завалу над склепам, амаль у поўны рост падышоў да санінструктара і сувязнога, якія, стоячы на коленцах, капалі прадаўгаватую, нібы парную баявую ячэйку, ямку.

— Пайшлі, хлопцы, са мною! Выклікаюць у штаб.

Тыя паклалі рыдлёўкі на невялікі, яшчэ чорны ад сырасці насып, нібы бруствер, што паспелі накапаць, узялі ў рукі аўтаматы.

— У штаб дык у штаб! — сказаў санінструктар са старшынскімі пагонамі на падлінялай і прасякнутай потам гімнасцёрцы.— Гарачавата будзе на дарозе!..

«Прапаўзём! — ледзь не паўтарыў Віктар словы ПНШ-2 і схамянуўся, бо ў той жа момант падумаў іначай: — калі варожыя «кукушкі» блізка, то і поўзанне не ўратуе, толькі замарудзіць рух. Лепш рыўком узяць ды хуткімі зігзагамі паспрабаваць заблытаць снайпера».

Пад сэрцам адчулася ўжо здаўна знаёмае, трапяткое ныццё. Яно амаль кожны раз узнікала перад атакамі, але хутка ўлягалася, і калі наступаў грозны момант, то праходзіла амаль зусім. Віктар быў упэўнены, што і цяпер боль уціхне, як толькі ён рушыць у дарогу. Хоць душа ўжо ведала, што такое раны і які смяротны спалох бывае ад іх, але моцная цяга да жыцця заўсёды перамагала. Пераможа і на гэты раз. Колькі варожых куль пралятала каля самага вуха, колькі асколкаў! Было і так, што ў камсастаўскі рэмень паўтыркаліся асколкі, а да цела не дайшлі. Тут, відаць, галоўнае — не схіляцца перад пагрозай, адганяць трывогу і няўпэўненасць.

Усё ад волі, ад моцы і стойкасці духоўнай. Учынкі павінны падначальвацца гэтаму. А думкі і ўяўленні часам узнікаюць і супраць волі. Нібыта зусім нечакана зноў успомнілася Віктару Баброўка... Домік з пахілым ганачкам і скразным калідорам ад вуліцы да агарода... Цімка ў мацеры на руках... Не на руках, а самастойна тупае да дзвярэй... У шарачковых штоніках, у світачцы, перашытай з нечага, зусім невядомага бацьку... Прагне хлопчык

паглядам да незнаёмага вайскоўца, якога назвалі яму бацькам... Рады хлопчык і, напэўна ж, вельмі хоча, каб у яго быў татка... І каб ён нікуды адзін не ішоў, не ехаў... А калі трэба куды паехаць вось на гэтым белым з чорнымі вушамі кані, то ўзяў бы і яго з сабою... І як ён бегае, гэты конь? Бацька назваў яго Сокал. А можа, лётае Сокал?..

Так яно і падобна! Калі, бывала, у эскадроне Віктар ступаў нагою ў стрэмя, то мала таго, што адчуваў узнёслую сілу, якая быццм падкідвала яго ў сядло, дык яшчэ і набіраўся ўпэўненасці, што Сокал умомант дамчыць яго, куды толькі ні спатрэбіцца. І ніякія перашкоды не супыняць...

Быў бы цяпер Сокал замест той кабылкі, што нядаўна тулілася за стажком сена. Праз хвіліну прыляцеў бы у штаб палка... Ніякая куля не дагнала б.

«Як можна здымаць камандзіра з баявой пазіцыі?»

«А ў вас жа зацішша! Ясна?»

«Пабыў бы сам у такім зацішшы!»

«Разгаворчыкі! Хутка вернешся на сваю пазіцыю! Ясна?»

Такі дыялог прагучаў у вушах, але не адбыўся. Гэта было ўяўленне. А сапраўднасць у тым, што трэба неадкладна пакідаць больш-менш небяспечнае месца ў мураваным склепе. А яшчэ ў тым, што месца навакол адкрытае... Нізінка ёсць, калі брацца на штаб паўз свае пазіцыі... І паўз той лясок, у якім хавалася, а можа, і цяпер дзе ўтульваецца кабылка... Байцы не могуць падняць галавы з акопаў... Адзін смяльчак нядаўна прыбягаў з кацялком на хутар, каб набраць вады. Да калодзежа дабег, наліў вады ў кацялок...

Віктар здагадваўся, што баец самавольна пакінуў свой пост... Хоць часова, па важнай неабходнасці, але самавольна. Аднак жа, як глядзець на гэтае самавольства? Тут жа і рызыка вялікая... Вады нап'ешся ці не нап'ешся... Сяброў-саратнікаў напоіш ці не напоіш... Можа, нават не дабяжыш да калодзежа... Куля перапыніць... Можа, і назаўсёды... А калі рана, дык таксама ў гэтых умовах —

амаль што смерць, бо да медсанбата не дапаўзеш: кожны крок тут пад прыцэлам.

Віктар з трывогай назіраў, як адчайны баец, напіўшыся вады, таропка папоўз на сваю агнявую пазіцыю... Кацялок трымаў адной рукой за пачапку, таму падаваўся наперад бокам і заграбаў зямлю адным локцем, нібы вопытны плывец ваду ў час пераправы са зброяй. Кацялок злёгку гойдаўся, але ваду трымаў надзейна, ніводная кропля не вылівалася.

Раптам баец здрыгануўся і рэзка падаўся ўбок. Жвавасць яго яшчэ пабольшала, але з кацялка спорным струменьчыкам пачала ліцца вада... Струменьчык свяціўся і пабліскаваў жывым срэбрам, калі баец выбраўся на мясцінку, ярка асветленую ранішнім промнем. Відно было, як жывы, зіхатлівы раўчучок быццам з ласкаю і пяшчотаю змочваў байцу твар, бялявыя, няроўныя і нягладкія, напэўна, толькі пальцамі прычасаныя валасы.

Баец перахапіў кацялок у другую руку і папоўз яшчэ хутчэй: вада вылівалася!.. Чыстая, свежая вада... Можа, там яе чакалі, як паратунку... Можа, некаму трэба было рану прамыць гэтай сцюдзёнай вадою...

Так магло падумацца... Так магло ўявіцца... А можа, і сапраўды гэты баец думаў перш за ўсё пра жыватворную ваду і баяўся, што прастрэлены кацялок не ўтрымае яе, калі прамарудзіць час. Магчыма, што і зусім знікла ў яго боязь за ўласнае жыццё. Вось ён узняўся і, выставіўшы перад сабою кацялок, нібы падаючы яго таварышам са свайго акопа, рынуўся наперад... Віктар бачыў, як ён прабег некалькі крокаў... Бачыў, як ён ўпаў. А вось ці папоўз далей — не ўбачыў, бо там была лагчынка...

Перад адыходам у штаб палка Віхораў сказаў санінструктару і свайму сувязному:

— Тут, вядома, ёсць пэўная небяспека. Калі вы адчуваеце страх, то не ідзіце, я вас не няволю, хоць гэта супраць воінскіх правілаў.

— Лепш не ісці вам! — сказаў на гэта санінструктар і паглядзеў на Віктара са спачуваннем і адкрытай, нібы бацькоўскай шкадоўляй: ён быў старэйшы за свайго камандзіра на некалькі год.

— У мяне загад,— ціха прамовіў Віктар.

— Дык тэлефон жа ёсць!
— Мала што!..
— Тады і ў мяне загад! — сказаў санінструктар і павесіў на плечы медыцынскую сумку.

...Ён трымаўся на адлегласці ад камандзіра, але не на такой, каб выпускаць яго з поля зроку... Ён ледзь паспяваў за камандзірам, бо Віктар малодшы... У Віктара намнога большая трэніроўка, а санінструктар прызваны ў армію нядаўна, з вясковай бальніцы, дзе быў фельчарам і акушэрам. Сувязны таксама малады і, як Віктар, жвавы і ўвіротны. Хлапец не толькі не адстаў ад камандзіра, а ўвесь час наравіў быць з ім побач. Віктар разумеў, што юнак залішне рызыкуе. Мабыць, разумеў і сам сувязны, што пагаршае маскіроўку, што дваіх хутчэй заўважыць, ды ўсё ж не адставаў, хоць Віктар зусім не патрабаваў гэтага. Юнак-сувязны, пэўна ж, меў на ўвазе самае важнае і самае небяспечнае для сябе: адвесці, раздвоіць вока снайпера... Пры выпадку прыкрыць камандзіра сабою...

«Толя! — хацеў клікнуць Віктар— Не рызыкуй дарэмна! Галоўнае ж, не паказвай лішне сваю смеласць! Яна і сама пакажацца, калі трэба будзе!»

З болем успомніў, што побач не Толя. Той не надта выстаўляўся з рызыкай, амаль што і не праяўляў яе. Заўсёды меў асцярогу, а калі дазвалялі ўмовы, то і разважлівасць, нават маруднасць, у дзеяннях.

Баец з кацялком у руках, што нядаўна прыбягаў па ваду, сапраўды рызыкаваў сваім жыццём, але наўрад ці думаў пра гэта. Ён проста хацеў наталіць смагу і даць прамачыць рот свайму таварышу. І, магчыма, астаўся жывы, можа, нават не паранены. І нейкая кропля вады, напэўна, асталася ў прастрэленым кацялку...

У нізінцы рос палын. Паўзучы, Віктар прыгінаў яго, часамі ламаў і падмінаў пад сябе. Востра-церпкі і горкі пах забіваў дыханне, але не здаваўся прыкрым: міжвольна думалася, што калі б наламаць гэтага палыну многа ды звязаць мятлу, то дзе ні махні гэтай мятлой, дык усюды з'явіцца надзейная чысціня, і здаровы, жыватворны дух пачне ўладарыць навакол.

Перад галавою адна палыніна рэзка кіўнулася, а потым нібыта падскочыла ўгору і села зрэзаным сцяблом у траву. Віктар не пачуў свісту кулі, але ўбачыў гэты ненатуральны рух палыновага каліўца. Зразумеў, што трапіў пад прыцэл, і ўзняўся, рыўком кінуўся наперад. Упаў у густы куст палыну, на момант прыпыніўся, каб аддыхацца і выбраць зручную мясціну для наступнага прыпынку. А сувязны памчаў далей. У яго не стралялі, а тут верхавінка палыну зноў страпянулася, і цяпер ужо Віктар пачуў, як над яго галавою жыкнула куля.

«Бачыць рамяні на спіне,— чамусьці без страху і асаблівай трывогі падумаў Віхораў.— Сумка трафейная пры боку ды парабелум у кабуры, таксама трафейны. Скінуць бы сумку ды прыхаваць яе ў палыне... А то перашкаджае паўзці... А што там у сумцы? Два раздзельчыкі ўсярэдзіне і абодва амаль пустыя, таму сумка зусім лёгкая і нават не адчуваецца на плячы. Толькі западае на спіну, калі паўзеш.

...Амаль пустая і лёгкая сумка... Таму што яшчэ не набіта паперамі ці картамі. Але ж там найлепшая схованъ для Галіных пісьмаў, якія пашанцавала атрымаць пасля пабыўкі ў Баброўцы. На кожным з іх — «роспіс» Цімкі. Пісаць сам ён яшчэ не спрабаваў, а клаў сваю далоньку на паперку і растапырваў пальцы, а маці абводзіла іх алоўкам. Далонька выглядала вельмі натуральнай, быццам жывой, і такой пяшчотнай, што Віктар прытульваў яе да шчакі, да вуснаў, і яму здавалася, што ўдыхае родны пах Цімкавага цела, чуе яго голас, бачыць твар, вочы. Пераложыць пісьмы ў кішэню гімнасцёркі, дык замочацца потам і расою, заб'юцца пяском і зямлёю...

І яшчэ — закутачак адзін у гэтай сумцы. Туды заткнуты чорны футаральчык з вайсковым пашпартком...

Дык вось жа не здымаецца сумка з пляча, пакуль воін жывы!.. І ніколі не здымецца парабелум з кабурою!.. Хоць і пад страхам смерці! Хоць пры самым цяжкім знявечанні!.. Няхай адзін палец будзе валодаць, няхай самы кволы, мезенец.. Але ён пры патрэбе націсне на курок...

Сувязны таксама прыпыніўся ў палынніку, па-

даўся галавою ўбок і стаў узірацца ў зарасніκі, шукаць камандзіра. Потым махнуў яму рукою, заўважыўшы, пазваў да сябе, быццам запэўніваючы, што тое месца, дзе сам утуліўся, больш надзейнае. Сапраўды, там было спакойна, кулі не свісталі, але Віктар адчуваў, што спакойнасць гэтая знікне, як толькі ён параўняецца з сувязным.

А санінструктара няма, адстаў намнога, можа, нават і зусім вярнуўся ў хутарскі склеп. Пераканаўся, што прапаўзці тут нельга, і вярнуўся: скажа там зампаліту, што яго дапамога не спатрэбілася.

...Раптам старшына апынуўся зусім побач. Віктар яшчэ памятаў гэта... Памятаў таксама, што пры наступным рыўку нешта вельмі вострае працяло яму грудзі... Але не вельмі балюча, ён яшчэ прабег пасля гэтага некалькі крокаў. Яшчэ чуў свой голас, калі папытаў у санінструктара:

— Што гэта, канец?

І пачуў спакойны адказ:

— Ну што вы?.. Зусім маленькая ранка!.. Перавяжу хуценька ды пабяжым далей.

Потым вярнуўся сувязны і памог санінструктару перацягнуць камандзіра ў тое месца, дзе толькі што ляжаў сам: разорка там была ад нядаўняга ворыва і палыннік змяшаўся з раскошнай высокай лебядою. Санінструктар шэптам загадаў сувязному вярнуцца ў склеп і пазваніць у штаб палка, што камандзір роты паранены.

— Цяжка? — спытаў сувязны таксама шэптам, але санінструктар змаўчаў і не падаў знаку галавою, баючыся, што Віктар заўважыць гэты знак.

— Паўзі! — загадаў старшына даволі гучна і сурова.

Гэты загад чуцён быў Віктару, але ўжо зусім невыразна, быццам здалёку, а пра што сябры шапталіся перад гэтым, не дайшло ні да слыху, ні да ўвагі.

Твар санінструктара напружана-спакойны. Вопыт медыка ды ўжо немалая практыка на баявых пазіцыях навучылі яго трымацца, не паказваць хвалявання і трывогі нават пры самых цяжкіх выпадках і здарэннях. Твар санінструктара зусім блізка над Віктаравым тварам: яны амаль сутыкаюцца на-

самі. Але ў тыя кароткія моманты, калі Віктар расплюшчвае вочы, санінструктар аддаляецца: нібы ўздымаецца ўгору, нібы адлятае ўбок. Толькі дотык яго рук увесь час прыносіць боль... Быццам і не рукі гэта, а вострыя, накаленыя ў агні і вельмі доўгія рагаціны, што дастаюць да грудзей нават і з далёкай адлегласці. Рукі дастаюць, а твар знікае і знікае. І ўжо зусім не памятаецца, які ў санінструктара твар... Быццам і не сустракаліся ніколі, не бачыліся кожны дзень...

А горкасць палыну чуецца. І на смак і на нюх. Гаркаты цяпер намнога больш і ў роце, і ва ўсім нутры. Яна забівае і сціскае дыханне... І не дае прабіцца хоць самаму маленькаму струменьчыку свежага, чыстага паветра...

— Вады! — просіць Віктар.

Але ніхто яму нічога не адказвае... Ніхто не чуе яго голасу...

Нарэшце санінструктар заўважае, што камандзір патрабуе вады. Не чуе, а заўважае па кволым варушэнні вуснаў. І адказвае, нахіліўшыся да Віктаравага вуха. Моцна адказвае:

— Вам няможна цяпер вады... Няможна!

Але вусны параненага варушацца зноў...

У асобныя, амаль імгненныя моманты ўспаміналася нядаўняе раненне... Тады не было палыну... Горкасці такой не было... Свае пальцы ўбачыліся разам з травою... Яны былі зялёныя і дрыжалі. Тым і адрозніваліся ад травы, што дрыжалі. А трава расла між пальцамі... Трава нават прымятаю не была, яна блішчэла сонечнай расою...

Тады ўявілася, што на паратунак падаспеў Сокал. Ён спыніў свой адчайны галоп каля таго месца, дзе ляжаў яго гаспадар. Стаяў, апусціўшы грыву, пакуль Віктар не ўчапіўся за яе рукамі. Тады памог устаць... Потым сам знізіўся на пярэднія калені, каб гаспадар мог перакінуць нагу цераз сядло...

Вось калі б і сапраўды з'явіўся Сокал... Санінструктар памог бы ўзлегчы на сядло... Тады б усё ў адзін момант знікла: і горкасць палыну, і колкія пальцы-рагаціны на грудзях, і смага. Вельмі цяжкая, пакутлівая смага...

Сокал выносіць свайго гаспадара з гэтага жу-

даснага, праклятага месца. Там астасцца адзін санінструктар. Ён, можа, і ўратуецца ад варожых куль...

...Смага не праходзіць, але Сокал ведае, як ратаваць гаспадара: ён імчыцца, імчыцца, нібыта ляціць, аж да самай Баброўкі.

Там у Галінай бакоўцы поўнае вядро свежай, крынічнай вады. Галя начэрпае конаўку, падасць абедзвюма рукамі:

— Чаму ты сасмаг? Мой родны!.. Цяпер жа не душна.

— Ад горкасці... Ад палыну...

Выпіўшы цэлую конаўку, Віктар адчувае: у грудзях палягчэла.

— Ты зноў паранены? — пытае Галя.— Цяжка?

— Ды не!.. Зусім маленькая ранка...— Голас нібы яго самога, нібы санінструктара.

...Падышоў Цімка, трошкі большы, як быў у час першай сустрэчы, але ў тых самых з нечага старога пашытых штоніках і даматканай світачцы. Худыя дзіцячыя рукі крыху залішне тырчаць з рукавоў. А на галаве пілотка, тая, што бацька падараваў у першую пабыўку. Зорка блішчыць ярка, у ёй адбіваецца той ранні сонечны праменьчык, што скрозь гушчыню прыжоўклага саду прабраўся да адзінага ў бакоўцы акна.

— Ты з самага-самага фронту? — пытае ў яго Цімка.

— З самага, сынок!.. З-пад куль, з-пад бомбаў і снарадаў.

Бацька ўзяў сына на рукі, прытуліўся лбом да яго пілоткі і сказаў:

— Толя астаўся непахаваны... Разумееш, сынок?.. Не паспеў я...

А яшчэ — не зрабіў самага важнага і неабходнага: не дайшоў да Берліна, не поўнасцю знішчыў ворага. У гэтым быў мой галоўны абавязак. Не паспеў!

— А дзе твой Сокал?

— Добра не ведаю, але ён павінен быць тут! Я напіўся свежай вады, уталіў смагу і палячу зноў на фронт. Яшчэ многа там спраў маіх!.. Калі што не дараблю, то буду спадзявацца на цябе, сынок!.. Ты ўжо вялікі...

... Цімка раптам знікае... Белы Сокал таксама... Перад вачыма паўстае мардаты старшына ў белым халаце, зусім не падобны на санінструктара. Ён расшпільвае Віктараў рэмень. Высока ўздымае рукі, выцягнуўшы рэмень з-пад балючай спіны, і крывіць рот...

«Чаго ён так крывіцца?»

Старшына таропка здымае з рэменя кабуру з парабелумам і хавае пад свой халат.

— Не чапаць зброі! — крыкнуў Віктар.

Побач стаялі санітаркі з насілкамі. Медсанбатаўскі старшына і санітаркі, напэўна, пачулі загад камандзіра, ды не выканалі...

Ці ведаеце вы, што такое запасны полк у вайсковых умовах? Наўрад! Малодшае пакаленне то і напэўна не ведае.

Я таксама не пахвалюся, што ведаю ўсё пра ўсе запасныя палкі, хоць служыў у двух: у кавалерыйскім да вайны і ў пяхотным у час мінулай вайны. Але, мабыць жа, у свой час былі запасныя палкі іншых радоў войск: артылерыйскія, танкавыя, інжынерныя... То пра іх я амаль нічога не ведаю.

Некаторыя штрышкі асталіся ў маёй памяці пра той запасны пяхотны полк, што ў пачатку сорак трэцяга стаяў непадалёку ад Камышына, і там мне давялося трохі паслужыць.

Большасць пехацінцаў трапляла сюды з акаляючых шпіталяў. А ў тых шпіталях лячыліся байцы пасля Сталінградскай бітвы. Каму з іх удавалася вярнуцца ў строй, то да канчатковага прызначэння, а можа, трохі і для далечвання, пасылалі ў запасны полк.

Такім жа манерам трапіў сюды і я. Ці думалася калі, ці гадалася пра гэта? Вядома ж, не. Сёе-тое прыкідваў я пра сваю будучыню, калі служыў да вайны. Вышэйшая педагагічная асвета ёсць, у палкавую школу паслалі. Калі ўсё пойдзе на лад, то пасля школы могуць накіраваць і на большую ваенную вучобу, тады камандзірская служба можа стаць асноўнай мэтай. А чым гэта горш, як быць настаўнікам у сельскай школе?

Другая надзея, больш рэальная — адслужыць добра належныя два гады і вярнуцца дадому, у тую мястэчковую школу, адкуль быў прызваны ў армію.

Не збылося, аднак, ні адно, ні другое: пачалася вайна і ўсё перавярнула, перайначыла. А на фронце я ўжо не надта і заглядваў у асабісты заўтрашні дзень.

На даваеннай вайсковай службе чамусьці не надта бралі пад увагу маю настаўніцкую адукацыю, а ў час вайны, мабыць, узялі, бо прызначылі на такую пасаду, дзе трэба было ўмець сёе-тое пісаць і перапісваць, улічваць і разлічваць, часам прыводзіць да ладу і адшліфоўваць камбацкія загады па батальёну. Қарацей кажучы, даручылі мне выконваць абавязкі ад'ютанта старшага пры асобным аўтабатальёне. У маім падначаленні было тры пісары на чале са старшым пісарам, сяржантам звыштэрміновай службы, начальнік ГСМ, гэта як пазвычайнаму, то загадчык склада гаруча-змазачных матэрыялаў, кухар палявой кухні, які аднекуль прывозіў нам абеды, цяпер ужо добра не памятаю — адкуль. І яшчэ нехта з бытавой абслугі. Акрамя ўсяго гэтага на маёй адказнасці быў вялізны штабны сейф, дзе захоўваліся кнігі ўліку асабовага саставу, службовыя справы камандзіраў аўтарот, аўтаўзводаў і некаторыя іншыя дакументы.

Браўшы мяне ў свой штаб, камандзір аўтабатальёна, пажылы, марудны ў рухах капітан, які, напэўна, ужо даўно мог быць маёрам, а то і падпалкоўнікам, страгавата, бо іначай не мог з падначаленымі, але з ноткай павагі сказаў:

— Ты, Чарот, таксама не з маладых...

— Чаротны,— паправіў я.

— Што значыць Чаротны? Выдумаў нехта! Чарот! І прасцей і панятней! Што, адсрочкай карыстаўся?

— Некалькі год, пакуль вучыўся.

— Якую навуку маеш?

— Педінстытут.

— Увесь, поўнасцю?

— Увесь,— пацвердзіў я.

— Ну, так... Ты мне падыходзіш!.. Толькі не задзірай вельмі нос ад таго, што будзеш тут граматнейшы за ўсіх нас! Нам, брат, не было часу на гэтыя педагогікі... Затое мы ў ваеннай справе!.. А ў цябе — толькі палкавая школа. Старшы сяржант у трыццаць год!..

Капітан прымоўк і адвёў ад мяне стомленыя, глыбока запалыя вочы. Напэўна, сам не надта ўзносіў свае словы, бо душою адчуваў, што яго залатая пара маладосці, калі можна было і вучыцца і спа-

дзявацца на высокія ступені, даўно мінулася, прайшла марна. І ніякай сілай цяпер яе не вернеш, ніякімі намаганнямі не кампенсуеш.

На маім рапарце капітан нешта доўга і ўдумліва пісаў. На гэты час зусім адхіліўся ад мяне, але па тым, як старанна ён маракаваў над лістком паперы, як нязграбна і нязладжана варушылася яго рука з алоўкам ва ўсіх пяці пальцах, я заўважыў, што пісьменнасць зусім не ў дружбе з маім цяперашнім начальнікам.

— Калі будзеш добра спраўляцца,— сказаў мне капітан,— то атэстую на тэхніка-інтэнданта і пашлю дакументы ў штаб корпуса. На страевіка ты не пацягнеш, курсы трэба канчаць. А на інтэнданта пацягнеш!

Не ведаю, як там я цягнуў у штабе аўтабата, старацца, вядома, стараўся, але праз некаторы час капітан спраўдзіў сваё абяцанне — паслаў на мяне атэстацыю. Сёння паслаў, а назаўтра прыехаў у аўтабат ужо гатовы тэхнік-інтэндант Ярызка, чырванашчокі, белазубы і з неадмытымі ад чарніла пальцамі на правай руцэ.

— У мяне ёсць ад'ютант! — запярэчыў камбат, выслухаўшы рапарт навічка.

— Я прысланы старшым ад'ютантам,— удакладніў Ярызка.— Гэта значыць — начальнікам штаба асобнага батальёна.

— Дык у мяне і ёсць такі,— не адступаўся капітан.— Вунь ён,— камбат паказаў на мяне і на шырокі сялянскі стол, за якім я сядзеў.— Старшы сяржант, праўда, але я паслаў атэстацыю.

— У мяне прадпісанне! — упэўнена сказаў Ярызка і на момант прыхаваў белыя шырокія зубы.

Капітан выйшаў з нашага штабіка нічога не сказаўшы, а Ярызка ступіў крок да мяне і, нібы па гатоваму плану, прапанаваў:

— Ты часова будзеш у мяне старшым пісарам. Ладна?

— Тут ёсць старшы пісар.

— Нічога, нічога!.. У адносінах да цябе я з'яўляюся старшым па званню, таму выконвай загад!

Ён звяртаўся да мяне на «ты» з такім упэўненым націскам, быццам меў справу з блазнюком, хоць па ўзросту наўрад ці быў старэйшы за мяне.

Вярнуўся камбат, і я падаў яму рапарт аб пераводзе ў аўтароту зменным шафёрам.

— Правы ў цябе ёсць? — спытаў капітан. І сам жа адказаў: — Хоць нават і няма, то падвучышся. Я цябе разумею, разумею!..

Нашы аўтароты дастаўлялі боепрыпасы на фронт. Машыны часам вярталіся за суткі на сваю базу, а часам і не вярталіся. Было і так, што зусім не вярталіся. Пры больш спрыяльных выпадках прыпаўзалі да свае часці знявечаныя, ледзь жывыя шафёры. Але рэдка надараліся такія выпадкі: як правіла, гінулі пад бомбамі машыны, гінулі шафёры.

Амаль кожны дзень бываў я са сваёй ротай на фронце. Калі за рулём, калі побач з вадзіцелем. Добра, што некалі на курсах Асаавіяхіма я навучыўся вадзіць грузавую аўтамашыну маркі ГАЗ. Паездкі былі найбольш начныя, часам я знурваўся страшэнна, але ўсё роўна адчуваў сябе лепш, чым у падначаленні Ярызкі, нават уяўным.

Праз які месяц камбат дамогся таго, што мяне прызначылі зампалітам аўтароты, але характар маёй работы амаль што не змяніўся: як і раней, я выязджаў на фронт, падмяняў стомленых або, яшчэ горш,— параненых шафёраў, грузіў міны і снарады.

Улетку сорак другога мы каціліся з-пад Барвенкава на Растоў. Пры фарсіраванні Дона Ярызка згубіў штабны сейф: можа, не пагрузіў яго ў спешцы, можа, утапіў у Доне — гэтага я тады не ведаў. У станіцы Вёшанскай Ярызку пазваў следчы ваеннай пракуратуры, і пасля гэтага новы ад'ютант не паяўляўся ў штабе батальёна.

Неўзабаве некуды перавялі і нашага камбата. Апошні раз мы сустрэліся з ім на дарозе за Вёшанскай: я ў кабіне грузавіка, а ён за рулём «газіка». Я ехаў на запраўку, а ён трымаў напрамак на Сталінград.

— Не хочаш на сваё ранейшае месца? — спытаў капітан, прыпыніўшыся насупраць мае кабіны, але не глушачы матора.— Магу закінуць апошняе слова!

— Не трэба! — гучна адказаў я, бо мой матор таксама быў на газу.

— Правільна рашыў! — сказаў капітан, але я ледзь толькі пачуў яго голас. Потым ён паказаў рукою ўпярод, на Сталінградскую дарогу, і ўзяў пад казырок. Я разумеў, што капітан развітваецца са мною, але што ён гаворыць, разабраць не мог: нашы маторы заглушалі словы. Твар у капітана быў хмурны, вочы яшчэ больш запалі, і ва ўсім яго абліччы нельга было заўважыць хоць маленькай рыскі аптымізму. Мне падумалася, што Ярызкава неахайнасць адбілася і на лёсе камбата, хоць ён, лёс гэты, запозненa-капітанскі, і так быў не светлы. Напэўна, пасылалі капітана не на павышэнне і не ў рэзерв на адпачынак, хаця б часовы.

— Можа, яшчэ сустрэнемся! — крыкнуў я капітану.

Але ён не пачуў маіх слоў.

Як думалася мне пазней, мы абодва трапім на Сталінградскі фронт, а што будзе там з кожным з нас, ніхто ведаць не можа. Са мной гэта вырашылася без асаблівай зацяжкі: трапіў з машынаю пад мінамётны абстрэл, быў цяжка паранены і эвакуіраваны ў адзін з камышынскіх палявых шпіталяў. А пажылога капітана больш ніколі нідзе не сустракаў, але чамусьці даволі часта ўспамінаў яго. І цяпер ён мне помніцца, хоць прайшло з таго часу каля сарака гадоў.

Вернемся, аднак, у пяхотны запасны полк, куды трапіў я пасля шпіталя. Ведаў, што гэта тылавы полк, што ў параўнанні з франтавым тут намнога больш людзей, але ні штаба палка, ні іншых яго службаў ні разу не бачыў, бо накіравалі мяне проста ў роту, якая размяшчалася ў адной глухаватай, абочнай вёсцы подалек ад штаба. За ўсё маё прабыванне ў гэтай роце толькі адзін раз бачыў камандзіра палка. Ён завітаў у нашу роту — гэта асабліва мне запомнілася — у даволі адмысловай рэсорнай брычцы, запрэжанай парай вараных стаеннікаў. (Дзе толькі ўзяў такі шыкоўны выезд?) Перад павозкай, пакуль яна з гойданнем і скрыгатам колаў імчалася па няроўнай вуліцы, узнімалі першы пыл два верхавыя ахоўнікі. На фурманаўскім месцы сядзеў ездавы з доўгім, плеценым гарапнікам і сырамцовымі лейцамі ў руках, за ім, як рукою дастаць,

умяшчаліся маёр і яго ад'ютант. Следам, глытаючы той пыл, што ўздымаўся коньмі і коламі, няўмела трасліся ў сёдлах яшчэ два верхавыя.

Усе, хто быў у хатах, павыскоквалі пацікавіцца такой нязвычнай з'явай: калі б праехаў легкавы аўтамабіль, то, напэўна, ніхто не звярнуў бы ўвагі. Але, мабыць, ніякай аўтамашыны ў запасным палку не было.

Маёр, пакуль сядзеў у павозцы і слухаў рапарт нашага камандзіра роты, выглядаў мажным і надзвычай унушальным, а як злез з павозкі, дык і знік за ёй, быццам схаваўся за высокімі поручнямі. Ногі ў маёра былі не толькі залішне кароткія, але і выгнутыя абручом з сярэдзіны, таму сваім ростам камандзір палка выклікаў не толькі здзіўленне, а і нейкую спагаду.

«Калі зняць з яго форму,— падумалася мне,— то ён стаў бы зусім малапрыкметным сярод людзей. І не толькі на павозку пры такім эскорце ніхто б яго не ўзяў, а нават звычайная вясковая фурманка абмінула б без увагі».

Гаварыў маёр з лёгкай картавінкай, з кароткімі перапынкамі паміж сказамі, а часам і асобнымі словамі, але, відаць, валодаў сілай логікі і пераканальнасці, бо наш камандзір роты, старшы лейтэнант Сухамятка, спачатку чырванеў ад яго слоў, а затым стаў бляднець і зморана, нібы пад цяжкім грузам, абліваецца потам. Я прыпыніўся непадалёку і спачуваў свайму ротнаму, аднак жа ніякім спосабам не мог памагчы — струменьчыкі поту, мабыць, халоднага, цяклі ў яго з-пад казырка на лоб і ў вочы, а з-пад скроняў — на плоскія, доўгія шчокі і потым павісалі на вострым падбародку. Уся «трагічнасць» была ў тым, што Сухамятка страшэнна бянтэжыўся ад гэтага, але не мог не толькі выцерці, а нават змахнуць з твару пот, бо рукі нерухома і самааддана трымаў па швах.

— Многа людзей, віжу... балтаецца па вуліцы! — грозна і павышаным тонам прамовіў маёр, і да майго слыху дайшлі гэтыя словы.

— Абед у нас! — таварыш маёр.— Якраз час абеду!

— У падраздзяленні ёсць распарадак дня?

— Ёсць, таварыш маёр!

— Далажыце!

Камандзір роты яшчэ больш заліўся потам і пачаў даводзіць, што асабовы састаў бесперапынна займаецца баявой падрыхтоўкай, а нестраевікі пастаўлены на тэрміновую работу: ніхто ў роце хвіліны вольнай не мае.

У гэты час я заўважыў, што маёр павярнуў галаву ў мой бок, і хоць сонца ў такім сваім павароце зырка біла яму ў вочы, усё ж стаў глядзець на мяне. Хмурыў вочы, але глядзеў пранікнёна і прыдзірліва. На ўсякі выпадак я прыняў стойку «смірна» і па прыкладу свайго камандзіра выцягнуў рукі па швах.

— А гэты старшы сяржант... Чым заняты? — І раптам да мяне асабіста: — Вы чым заняты?

Я без запінкі адрапартаваў, што прыбыў у распараджэнне камандзіра роты для выканання неадкладных даручэнняў.

— Якіх?

Камандзір роты апярэдзіў мяне і далажыў, што лічыць мэтазгодным выкарыстаць сяржанта пры штабе роты як чалавека з вышэйшай адукацыяй.

— А ў маршавую роту... гатовіце людзей? — з націскам на кожным слове спытаў той.

— Хоць сёння магу даць! — адрапартаваў наш камандзір.— Гэта асноўная мая задача!

— Так-так. Там для ўсіх ёсць вакансіі: для ніжэйшай адукацыі, для вышэйшай... І нават для самых акадэмікаў...— Яго прыдзірлівыя, як мне здалося, вочы чамусьці не адводзіліся ад мяне. Вось ён зменшыў сваё прыжмурванне і глядзіць на мае боты з юхтавымі халявамі, крыху паддраенымі суконкай. Я чакаю, што спытае ў камандзіра роты, адкуль у пяхотнага сяржанта такія боты. А камандзір сам не ведае адкуль. Далей адчуваю, што маёр аглядвае мадзьярскую сумку, якая вісіць у мяне на плячы. Гэта я ўжо сам скажу, калі спытае: «Трафейная сумка!.. Падабраў на полі бою, калі вазіў снарады на фронт!»

Потым ён перахіліўся ў процілеглы бок ад мяне і дастаў правай рукою ніжні рубец свае гімнасцёркі, падняў яе, нібы падол, бо інакш нельга было залезці ў кішэню штаноў. Выняўшы пругкую каробку «Беламора», узяў адтуль папяросу, моцна дзьмух-

нуў у белы цыбук. Ад'ютант старанна залэпаў па сваіх кішэнях, шукаючы запалкі. Падляцеў і запаліў сярнічку. Яна патухла. Запаліў яшчэ адну, утуліў аганёк у далонях і паднёс да папяросы. Той прыкурыў і не падзякаваў за паслугу.

Наш камандзір роты з застылым, але ўсё ж цікаўным паглядам чакаў, што маёр прапануе закурыць і яму, добразычліва выставіць у яго бок раскрыты карабок «Беламора». Можа, і не ўзяў бы Сухамятка цыгаркі, з падзякай адмовіўся б, бо сам смаліць салдацкую махру, але была б аказана павага. Ды, відаць, не ўласціва маёру такая здагадлівасць: ён зноў перахіліўся ў процілеглы бок ад мяне і ад камандзіра роты і засунуў «Беламор» у глыбокую кішэню свайго даволі прасторнага галіфэ.

Папыхваючы цыгаркай, госць спавольна, размернымі крокамі рушыў па вуліцы ў напрамку той, па сутнасці, умоўнай пляцоўкі, якую мы называлі вучэбнай плошчай. Тут у нас адбываліся пастраенні, і тут жа стаяў часовы, самадзейны турнік. Ад'ютант, хоць пэўны час стаяў побач, адразу прыняў дыстанцыю — два крокі следам. Наш камандзір да смешнага разгубіўся і не мог выбраць сабе месца ў гэтай хадзе: крочыць поруч з ад'ютантам і даваць тлумачэнні, хоч-не-хоч, у спіну ці параўняцца з маёрам? Але ж той не падаў знаку, каб падначалены наблізіўся. Толькі адзін раз ён зрабіў мала прыкметны паўабарот у бок і кіўнуў, але не ротнаму, а свайму ад'ютанту. Той адразу падаў знак ездавому і верхавым ахоўнікам, каб ехалі следам.

Падышоўшы бліжэй да турніка, маёр раптам зрабіў рэзкі спартсменскі паварот і нечакана для ўсіх ступіў два крокі да перакладзіны. Не выпускаючы з зубоў цыгарку, моцна ўзмахнуў рукамі, схапіўся за перакладзіну і падцягнуўся да такога ўзроўню, калі цыгарка дакранулася перакладзіны. Пыхнуў дымам, задаволена ўсміхнуўся і выпраставаў рукі. Задраўшы ўгору свой двайны, быццам перацяты выемкай падбародак, натужыўся, каб падцягнуцца яшчэ раз і, можа, нават — у мяне з'явілася такое ўяўленне — зачапіцца гэтай выемкай за перакладзіну, калі не хопіць сілы ўтрымацца на руках.

Мне і цяпер помніцца, як гэты спартсмен дрыгаў

каленямі, пыхкаў дымам, сілячыся паўторна дацягнуцца да перакладзіны хаця б упоравень свайго носа, і ніяк не мог: павышаны цяжар яго цела цягнуў уніз. Потым выпала з рота цыгарка і некаторы час дымела на пяску. Ад'ютант некалькі разоў намерваўся падняць недакурак, ды не асмельваўся лезці пад ногі, бо яны дрыгацелі і размахваліся так жвава і неаглядна, што маглі шыбануць па шыі.

Нарэшце лэпнуў на цыгарку сам і патушыў яе ступнёю бота. Раздражнёна глянуў на свае рукі, перавёў вочы на камандзіра роты і крыкнуў:

— Што гэта за спортснарад?! Жардзіна сучкаватая, неабцёсаная!

— Абчэшам, таварыш маёр,— запэўніў наш камандзір роты, падбегшы да самага турніка.— Далонямі адшліфуем! Заўтра ўводзім павышаную праграму фізпадрыхтоўкі!

— Ану, давай сам!

Наш ротны паслушна зняў з плеч палявую сумку, лётам перакінуў яе мне і лёгкім падскокам нібы ўзляцеў на перакладзіну. Падцягнуўся разы тры, саскочыў і па-страявому павярнуўся да госця: — Так точна! Не гладкая перакладзіна! Ваша заўвага будзе ўлічана!

— Гэта загад, а не заўвага!

— Выканаем!

Калі па знаку ад'ютанта параконка з верхавым эскортам павярнула ў процілеглы бок ад турніка і праз хвіліну ўзняла густы пыл на вуліцы, а ў гэтым пыле нібы патанула рэсорная павозка з маёрам і яго ад'ютантам, наш камандзір павярнуўся да мяне і тонам маёра, відаць, наўмысным, загадаў:

— Ану, давай цяпер ты!

Некалі ў кавалерыі я добра круціўся на турніку, а пасля шпіталя яшчэ не трэніраваўся і ў гэтую хвіліну не ведаў, здолею выканаць задачу з асколкам у плечуку ці абсаромлюся. Падцягнуўся я хоць і з большай натугай, як камандзір роты, але па колькасці прыёмаў не адстаў ад яго.

— Ну як? — спытаў камандзір.

— Што як?

— Далоні не намуляў?

— Перакладзіна гладкая! — далажыў я.

— Чаму гладкая?! — жартаўліва абурыўся камандзір роты.— Хіба не чуў, што сказалі?

— Чуў, як вы пацвердзілі!

— А ты б не пацвердзіў?

Мы ішлі да ротнага штабіка, які размяшчаўся ў звычайнай сялянскай хаце, са знешняга выгляду вельмі несамавітай, нават горшай за іншыя, але з той перавагай, што там жыла толькі адна гаспадыня, а больш нікога не было. Сухамятка нейкі час маўчаў, быццам азадачаны маім папрокам. Па службовай субардынацыі ён мог бы і насыпацца на мяне: у арміі не паложана рабіць заўвагі старшым па званню і пасадзе. «Можа, яшчэ і пачне даваць наганяй» — думалася мне. У той жа час мацнела спадзяванне, што камандзір не трымае крыўды. Я ўжо ведаў, што па сваёй натуры чалавек ён не зласлівы і не помслівы. Да прызыву Сухамятка працаваў недзе за Уралам галоўным аграномам МТС і там быў часова забраніраваны. Служба ў запасным палку, ды яшчэ ў такой роце, дзе да бога высока, а да начальства далёка, поўнасцю імпанавала яму.

Страявыя заняткі былі ў распарадку дня, але праводзіліся толькі з тымі байцамі, якія на пэўны час аставаліся вольнымі ад тэрміновых гаспадарчых работ, у тым ліку і на калгасных палетках. Сухамятка, як былы аграном, правільна вырашыў, што дапамога мясцоваму калгасу — таксама баявы абавязак запаснай роты.

А што ж з турнікам, каля якога траха не засыпаўся ротны камандзір? Перакладзіна сапраўды не была каструбаватай, і прычыну прыдзіркі мы разумелі правільна — чалавек хацеў прыкрыць свой зрыў. А вось што не далонямі яна адгладжана, а наждаком таго майстра, якому было даручана зрабіць турнік, гэта таксама было вядома. Да спартыўнай перакладзіны сяды-тады падыходзіў сам камандзір роты, бо пасля раздачы нарадаў яму часам не было чаго рабіць, ды некаторыя камандзіры ўзводаў, вольныя ад страявых і гаспадарчых абавязкаў.

Ужо каля самай штабной хаткі камандзір роты сказаў мне:

— Адрапартаваў ты правільна!.. Добра адра-

партаваў! Я чакаў, што пра сухастой скажаш, які на сабе цягаем... Дзеля гэтага я і выклікаў цябе... Пойдзеш зноў у лес!.. Старшым каманды!

Каля старэнькіх, але чыста падмеценых усходцаў Сухамятка прыпыніўся і, быццам апраўдваючыся перада мною, стаў даводзіць:

— А што я павінен рабіць? Што? Скардзіцца кожны дзень на цяжкасці? Дык хто гэта любіць скаргі? Прышлюць другога, які будзе маўчаць і цягнуць усё на сваёй спіне. Тут дзесяціжыльным трэба быць ці нават сам не ведаю якім. Ніякага транспарту ў роце, ні каняняці, ні калёсіны! Была адна нейкая кляча, дык і тую старшына роты запарыў, заганяў.

— Вунь жа закурэлі вуліцу!..— заўважыў я, паглядваючы на клубы густога пылу перад намі.— Стаеннікі.

— А паспрабуй заікніся пра іх! — падхапіў камандзір роты.

«А ты спрабаваў?» — хацелася мне запытацца, ды ўзяло верх перакананне, што, канечне ж, не спрабаваў, наўрад ці і думаў пра гэта.

— Так што ты яшчэ схадзі сёння...— закругліў нашу размову Сухамятка.— Сам панімаеш... Дровы нам трэба. Потым прыдумаем нешта лягчэйшае для цябе.

* * *

Праз нейкі час камандзір роты прыдумаў тое, што прызначыў мяне памочнікам старшыны роты.

— Ты дзе начуеш? — спытаў, калі я па яго выкліку з'явіўся ў штабную хатку. І сам жа адказаў: — У казарме.— Відаць, бачыў мяне там.

Стаяў на калгасным двары пусты свіран, з шырокімі двайнымі дзвярамі, з дашчанай, нават шчыльнай падлогай, бо некалі туды ссыпалі насенны фонд. Мы прарэзалі там пару вокнаў, пазатыкалі дзіркі пад страхою і зрабілі двух'ярусныя нары. Спалі там упокат, таму, у цеснаце — не ў абідзе, умяшчалася ў свірне два ўзводы. Астатнія байцы і камандзіры жылі па хатах і таксама ў большасці выпадкаў спалі, дзе выпадала: на лавах, на куфрах, а то і проста доле, на разасланай саломе.

Займаліся пад жыллё таксама гумны і адрыны, дзе было сена ці салома.

— Значыць, у казарме? — перапытаў камандзір роты.— Панятна. Ну, гэта далекавата ды не зручна. Трэба, каб ты заўсёды быў пад рукамі.— Ён рашуча глянуў на старшыну роты, які сядзеў на лаўцы ля пісарскага стала і з крывой, нядобрай усмешкай паглядваў на мяне. Не дачакаўшыся ад яго ніякага знаку, дадаў: — Цяпер тут будзеш начаваць! Панятна? — І паказаў пальцам на другую лаўку, амаль процілеглую той, на якой сядзеў старшына, а крыху далей ад яго, ужо за сталом, туліўся пісар. Збоку ад гэтага пісара, амаль на покуці, але на папярочнай лаўцы займеў сабе месца яшчэ адзін пісар, ужо даволі пажылы чалавек у акулярах. Я зразумеў, што яны і спалі на гэтых жа лаўках, можа, крыху адставіўшы на ноч свой рабочы, ён жа і агульнаабедзенны, стол. Абодва пісары адарваліся ад сваіх папер і таксама ўставіліся на мяне. У іх вачах я міжвольна заўважыў не толькі цікаўнасць, але і трывогу. І прычына іхняй трывогі была мне зразумелай.

Справа ў тым, што тая лаўка, якую камандзір роты прымяркоўваў для мяне, была вузейшая за тыя, на якіх удзень сядзелі, а ноччу спалі пісары. І яшчэ — стаяла яна амаль што ў мыцельніку. Я адразу прыкінуў, што калі стары пісар ноччу добра выцягне ногі, то ўпрэцца мне ў галаву. А можа і зусім сапхнуць з лаўкі. Дык пісары, відаць, баяліся, што я запратэстую, тады камандзір роты можа загнаць у мыцельнік каторага з іх.

Каля пустога і халоднага прыпечка стаяла маладжавая, але вельмі худая і з замучаным выглядам жанчына, пэўна ж — гаспадыня гэтай хаты. Камандзір роты звярнуўся да яе:

— Вы не супраць, каб вось наш новы памстаршына начаваў тут у вас на гэтай лаўцы! Толькі начаваў, бо ўдзень яму не будзе часу нават завітаць сюды.

— Дык я што?..— нейк знервавана паварушылася жанчына і абаперлася аголенай сухажыльнай рукой на прыпечак.— Не я ж тут хадзяйка. Няхай спляць, калі ўмесцяцца. Толькі падаслаць у мяне больш няма нічога.

— Падсцілаць? — быццам перапытаў камандзір роты.— Што нам падсцілаць ці насцілаць? Шынель-гаротнік! Ён у нас і падсцілка, і накрыўка, і падушка — усё разам! Яшчэ і звісаць будзе з гэтай лаўкі.

— А што цёлачка тут у нас, то вы ж ведаеце,— дадала гаспадыня.— Куды яе дзець?

— Гадуй, гадуй цёлачку! — ухваліў камандзір роты.— Трэба ж, каб у цябе кароўка была! Нікому яна тут не замінае!

— Яна больш пад ложкам, як кацянё,— заўважыў старшына роты.

Я ўпершыню пачуў зблізку яго голас і здзівіўся, што ён вельмі тонкі, нібы жаночы, і да таго ж — гугнявы.

Гаспадыня акінула хату вялым, абыякавым паглядам, убачыла, што цялятка ляжыць якраз пад той лаўкай, якую камандзір роты адводзіць мне, і прастадушна паясніла:

— Яно і ў мыцельніку часам любіць паляжаць, хоць там і сыравата. Толькі пад стол не лазіць, бо іхнія чаравікі дзёгцем пахнуць.— Ледзь прыкметным кіўком галавы яна паказала на пісараў.

— Ну што вы, дзёгцем! — запярэчыў старшына роты.— Вакса ў нас ёсць!

— Яшчэ горшая за дзёгаць! — адзначыў камандзір роты і весела засмяяўся. Абодва пісары таксама засмяяліся.

Я не аспрэчваў прапанову камандзіра наконт месца маёй начоўкі, бо адчуваў, што гэта загад, а не прапанова. Здагадваўся і аб тым, што калі б пачаў не згаджацца, то старшына роты пусціў бы ў ход свае кепікі: чамусьці мне ўяўлялася, што ён здатны на гэта. Пісары падтрымалі б яго, а тады камандзір роты абавязкова паставіў бы на сваім. Да таго ж мне ўявілася, што ў параўнанні з маімі казарменнымі ўмовамі гэтая лаўка ў мыцельніку, хоць і вузкая і з цялём пад нізам, будзе ўсё ж такі лепшым камфортам. Там я спаў на верхніх нарах паміж двух узбекаў, якія ноччу вельмі сціскалі мяне і абодва страшэнна храплі на розныя галасы. Некалькі начэй я мучыўся, пакуль не прынаравіўся і, казалі, стаў сам храпці так, што заглушаў храпенне суседзяў.

* * *

Старшына роты, па прозвішчу Заміналаў, быў чалавекам ужо не маладым і, як потым я даведаўся, сямейным, хоць гэта не перашкодзіла яму з першых дзён размяшчэння роты ў гэтай вёсцы нагледзець сабе маладушку і ўладзіцца да яе на пастой. Неказісты з выгляду і недабраны ў росце, быццам нейкае ліха напасяродку яго саспявання спыніла яму рост, Заміналаў меў усё ж даволі прыстойны вайсковы выгляд: хадзіў заўсёды чыста паголены, акуратна і стройна падабраны пад вайсковыя рамяні: насіў камсастаўскі рэмень, палявую сумку і нават партупею, якая не была яму прызначана, хоць ён і звыштэрміновік. Твар у яго заўсёды свежы, шчокі ружовыя, нібы толькі прыйшоў з адпачынку. Гімнасцёрка чыстая і нават з кантамі на рукавах ад нядаўняга прасавання. І каўнерык белы, накрухмалены. Усе ведалі, што спрыяла гэтаму яго кватэрная гаспадынька, але ў тыя часы ніхто нікога не папракаў за гэта — хутчэй пазайздросціць мог.

Добрая ўладжанасць, задаваленне вопраткай і амуніцыяй падавалі і добры настрой: Заміналаў ніколі не быў хмурны, а заўсёды весела і крыху хітравата пасміхаўся, з байцамі, з пісарамі і нават з камандзірамі гаварыў адным і тым жа памяркоўным, але крышачку насмешлівым, нібыта недаверлівым тонам. Часам ні з таго ні з сяго ўспамінаў якую-небудзь тагачасную песеньку і пачынаў ціхенька і гугнявенька напяваць яе. Любіў дэкламаваць папулярнае ў тыя часы:

Жди меня, и я вернусь.
Только очень жди...

Галасок тонкі, слабенькі, але не з малой доляй лірызму і нават шчырасці.

На другі дзень пасля таго, як я перабраўся з казармы ў штабную хатку, Заміналаў звярнуўся да мяне, як толькі зайшоў у штаб:

— Ну, як спалася на новым месцы?

Я ў паўжарце адказаў, што, напрацаваўшыся ў лесе, заснеш хоць на голай падлозе.

— Храпеў памстаршына! — раптам заявіў пажылы пісар. Ён не адрываўся ад сваіх папер, падаючы гэты данос на мяне. Я не пачуў злосці ў го-

ласе, але, калі глянуў на яго адутлаватыя шчокі, то зразумеў, што чалавек не жартуе, а сапраўды або скардзіцца на мяне, або папярэджвае, каб я больш не хроп.

— І моцна храпеў? — пасміхнуўшыся, перапытаў старшына.

— Вельмі! — пацвердзіў пажылы пісар.

— То, можа, і цяля збаялася такога храпу,— падпусціў свой жарцік старшына,— ды не падыходзіла да мыцельніка?

Пажылы пісар не падняў галавы на гэтыя словы, а маладзейшы весела засмяяўся і сказаў:

— Цяля не спужалася!.. Мабыць, усю ноч было пад лаўкаю. І цяпер там!

Заміналаў, не губляючы іранічна-здзеклівай міны, спачатку глянуў на пярэстае цяля, якое, падагнуўшы пад сябе ногі, ляжала пад лаўкаю, а потым перавёў пагляд на мяне. Кіўнуўшы пальцам у бок пісараў, тоненька, але даволі пагражальна прамовіў:

— Вось я ўстаўлю вас у нарад на дастаўку дроў, тады будзеце лепш спаць і не пачуеце чужога храпу!

Пажылы пісар змаўчаў, а маладзейшы абыякава заўважыў:

— Ну і што? Хоць свежым паветрам падыхаем!

— Падыхаеце! — пацвердзіў Заміналаў і зноў глянуў на мяне, быццам чакаючы падтрымкі.

Я нічога не сказаў, аднак меркаваў, што старшына здагадваецца, як баляць сёння мае плечы і рукі ад таго ляснога дыхання: учора мы не толькі спілоўвалі і церабілі сухастоіны, а і насілі іх на сваіх плячах у вёску.

Прыйшоў у штаб камандзір роты. Не прыйшоў, а прыбег, нейкі разгублены, памяты, нібы спаў у адзежы. Нават палявыя пагоны на гімнасцёрцы былі прымятыя, быццам пераламаныя ў некалькіх месцах. Старшалейтэнанцкія зоркі ледзь трымаліся паабапал і пасярэдзіне чырвонай палоскі. Некаторыя ражкі прыкметна адагнуліся і тырчалі вастрыём уверх. У параўнанні са старшыной роты камандзір выглядаў зусім несамавіта, аднак пісары ўсхапіліся са сваіх сядзенняў і стаялі да таго часу, пакуль ён не здагадаўся махнуць ім рукою. А здагадаўся не адразу, бо ўсё яшчэ забываў, што ён вай-

сковец, камандзір роты, а не галоўны аграном МТС. У першы момант яму падумалася, што пісары так сабе ўсталі, каб выпрастаць спіны.

— Хлеб у нас ёсць? — звярнуўся ён да старшыны.

— Няма,— адказаў той даволі абыякава і нават не крануўся, каб змяніць стойку, відаць, таксама адчуваў перад сабою штацкага чалавека.

— Як будзеш карміць людзей?

— А так,— яшчэ з большым спакоем адказаў старшына.— Хто прыхаваў нешта з учарашняй пайкі, той паснедае з хлебам, а хто не запаслівы, то пахлябае цёплага крупніку без хлеба.

— Як гэта без хлеба?! — крыкнуў камандзір роты. Ды так крыкнуў, што аконныя шыбы ў хаце зазвінелі, пісары зноў паўскоквалі, а цяля спалохана выскачыла з-пад маёй лаўкі і падалося пад ложак. Заміналаў глянуў спадылба на камандзіра і на ўсякі выпадак стуліў абцасы добрых новых ботаў, хоць і кірзавых, апусціў па швах рукі. Камандзір сапраўды быў у стане такой узрушанасці, якую я нават і не ўяўляў.

— Што б да абеду быў хлеб! — сурова загадаў ён.— Ясна?

— Канечне, ясна,— адказаў старшына.— Але на чым прывезці?

— На самалёце! — не зніжаў тону камандзір,— на паравозе, на сабе!.. Думай, але каб людзі без хлеба не аставаліся! Сам праверу!

— Што з ім здарылася? — дзівіўся старшына, калі Сухамятка выйшаў з хаты.— Мабыць, адтуль пазванілі.— І паказаў чамусьці на столь хаты, а не ў той бок, дзе знаходзіўся штаб палка. Прымоўк на хвіліну, задумаўся.

У гэты момант нехта пастукаў знадворку ў акно. Уткнуўшыся носам у шыбу, углядвалася ўсярэдзіну хаты пласкатварая маладзіца і некаму падавала знакі рукою. Каму ж гэта? Вядома, старшыну — звала яго на снеданне.

Заміналаў зласнавата махнуў ёй рукою, а да мяне загаварыў памяркоўна, дарадчым тонам:

— Ну, што будзем рабіць? Транспарту няма ніякага, а хлеб сапраўды патрэбен.— Зноў змоўк, яшчэ больш задумаўся.— Знаеш што? — працягваў,

паглядваючы на мяне крыху ніякавата і сарамліва.— Ты ідзі ў сталовую і кармі людзей. Скажы там камандзірам узводаў, калі будуць шумець, што хлеб к абеду выдадзім. Ты іх пакармі і сам паснедаеш там. А я тым часам збяру групу надзейных хлопцаў з рукзакамі. Пашлём у пякарню па хлеб. Тут недалёка, усяго які дзесятак кіламетраў. Старшым пойдзеш ты!

* * *

Што за сталовая была ў асобнай роце запаснога палка? Гэта, як і казарма, часова прыстасаванае калгаснае памяшканне, толькі не з саламянай страхою, а чарапічнай. Сталоў тут мала, а сесці дык і зусім не было на чым. Елі ўсе стоячы, як цяпер на дыпламатычных прыёмах. Кожны са свайго кацялка і сваёй лыжкай, што прынёс за халявай бота. У гэтым сэнсе прагадваў толькі я, бо ў мяне ўсё яшчэ захоўваліся кавалерыйскія боты з вузкімі шчыльнымі халявамі і не ўсякая лыжка туды лезла.

Добрая палавіна байцоў, а то, можа, і большасць, снедала ў тую раніцу без хлеба. Ці сварыліся хлопцы, хлябаючы хоць і наварысты крупнік? Канечне ж, сварыліся. Камандзіры ўзводаў нават пагражалі рапартамі ў штаб палка. Аднак мяне не чапалі, бо яшчэ не ведалі, што прызначаны памстаршыною. Я нікому не сказаў пра гэта, прыйшоўшы ў сталовую.

Калі ўсе ўзводы паснедалі і разышліся, я нясмела падышоў са сваім кацялком да раздавальшчыка. Той пагардліва махнуў чарпаком і, амаль не гледзячы на мяне, спытаў:

— А яшчэ пазней нельга было? Чаму не са ўзводам?

— Я цяпер пры штабе роты.

— Пісар?

— Не. Памстаршына. Сачыў, каб усе паснедалі, таму сам не падыходзіў.

—— Па-амстаршына-а! — насмешліва расцягнуў кухар.— Няхай бы ўсім тут сказаў, што ты памстаршына. У самога хоць ёсць пайка?

— Няма,— шчыра прызнаўся я.

Кухар падазрона паглядзеў на маю мадзьярскую сумку і дадаў:

— Раздзяліў бы з намі, тады мы падзяліліся б сваёй порцыяй супу, якая пакуль што плавае на дне катла.

— У мяне няма ні дробкі,— паўтарыў я.— Сёння к абеду прынясём хлеб.

— Адкуль гэта?

— З пякарні.

— Пехатою пойдзеце?

— Пехатою.

— Тады і да вячэры на прынясеце!

Бегучы да штабной хаткі, я з трывогай думаў, што кухар, відаць, мае рацыю. Нават калі і дзесятак кіламетраў да пякарні, як сказаў старшына, то да абеду цяжка будзе вярнуцца з хлебам: невядома, колькі яшчэ там давядзецца прачакаць, пакуль выпішуць тыя баханкі ды выдадуць. Старшына напэўна прыхлусіў — у яго часта праяўлялася такая звычка. Сам ён, канечне ж, не быў там ні разу.

Аднак ісці трэба, што б там ні было. Хоць маршавым крокам, хоць бягом ці подбегам, а хлеб даставіць трэба. Як жывецца байцам без хлеба, я адчуваў па сабе. Добра адчуваў, можа, нават больш, як тыя, што сёння снедалі без пайкі. Ім хоць добрага крупніку налілі па поўнай порцыі, а мне нацадзілі паўчарпака.

На вуліцы, каля штабной хаты, ужо стаяла ў шарэнзе дзесяткі два байцоў з пустымі рукзакамі за плячыма. Каля іх спаважна патупваў старшына роты і тонкім гугнявым голасам падаваў інструктаж. Я на хвілінку заскочыў у хату і ўзяў свой рукзак, каб не вызначацца сярод усіх. І на лесанарыхтоўках я ніколі не выгадваў сабе палёгкі: пілаваў і сек нароўні з усімі, а потым і цягнуў да вёскі якую-небудзь сухую раліну або нёс на плячы такое бервянцо, што праз некалькі крокаў ледзь ногі перастаўляліся, плячо нямела ад болю.

Заміналаў абвясціў, а можа, і паўтарыў пры мне сказанае раней, што я прызначаны старшым групы. Мне было прыемна, што байцы глянулі на мяне прыязна: тут былі амаль усе тыя, што хадзілі са мною

на лесанарыхтоўкі і мы разам пацелі ад пілы, ад сякеры ды яшчэ і ад цягла. А можа, прыязнасць гэтая падспорвалася і тым, што ідзём сёння не па дровы, а па хлеб. А з хлебам усякая дарога не будзе цяжкай.

Мне самому так падумалася, калі надзеў на плечы рукзак. Хоць і галаднаватасць у жываце, хоць кішкі і зайграюць марш недзе пад поўдзень, але ў рукзаку будзе некалькі баханак свежага хлеба, то нават пахам іхнім можна пражыць.

Старшына ўступіў мне сваё месца ля шарэнгі байцоў, і я падаў каманду рушыць па маршруту. Заміналаў прайшоў побач са мною двароў два па вуліцы, потым бадзёра ўсміхнуўся мне, ціхенька, нараспеў паўтарыў сваё «Жди миня, и я вирнусь» ды спыніўся недзе каля трэцяга двара. Я заўважыў, што тут жыла яго пласкатварая маладзіца.

Выйшаўшы за вёску, я пакрочыў наперадзе свае групы і даў такі ход, як некалі на баявых пешаходных маршах: на ўсю шырыню кроку і на ўсю сваю моц. Праз два-тры кіламетры ў мяне пачалі пацець плечы і пад пустым рукзаком. А як будзе з грузам? Але ж каб толькі займець той груз! Колькі яшчэ крочыць да пякарні? Са слоў старшыны я помніў, што гэты хлебны пункт знаходзіцца ў нейкіх Верхавічах. Аднак, праспяваўшы «Жди миня...», ён сказаў, што пякарня ў Бязверхавічах.

Недзе на сярэдзіне дарогі, як мне ўяўлялася, сустрэўся нам дзядок на кволенькай фурманцы. Я прыпыніў яго і спытаў, ці далёка Верхавічы.

Дзядок нейкі час маўчаў, думаў, а потым перапытаў:

— Як вы сказалі, Верхавічы?

— А можа, Бязверхавічы? — удакладніў я.

Дзед яшчэ больш задумаўся:

— Не чуў я тут гэтакіх паселішчаў. Хіба, можа, дзе вельмі далёка? А тут навакол я ўсе вёскі ведаю.

— То, можа, чулі,— пайшоў я на адкрытасць,— дзе тут хлеб пякуць для ваенных? Вялікая пякарня там павінна быць.

— Дык гэта ў Вышкавічах! — узрадавана паведаміў дзед.— У Вышкавічах! Я адтуль еду, муку вазіў ад нашага калгаса.

— А далёка яшчэ да Вышкавіч?

— Ды не. Вярстоў, можа, дзесяць адсюль... А можа, дванаццаць, не больш.

— Ого! — азваўся нехта з байцоў.

Мне таксама хацелася ўсклікнуць «ого!», але чым гэта памагло б? Я меў загад даставіць байцам хлеб і павінен выканаць гэты загад. Нават каб і не меў загаду, то па абавязку службы не мог бы пакінуць людзей без хлеба.

За невялікай горкай была вёска — мы заўважалі гэта па выгану, па высокіх прысадах, зялёныя кроны якіх віднеліся нават з-за горкі. Вышкавічы гэта ці не? Па адлегласці, па стомленасці нашых ног павінна быць ужо гэтая вёска, аднак упэўненасці ў нас не было. Раптам адзін баец вырваўся з групы, апярэдзіў мяне і выбег на горку. Пастаяў там з хвіліну, выставіўшы нос у бок вёскі, смачна ўцягнуў паветра і крыкнуў на ўвесь палетак:

— Хлеб! Чую смачны пах!..

Неўзабаве і я пачуў блізкасць хлебапякарні і ўжо не сумняваўся, што перад намі Вышкавічы.

На зялёнай, хоць трохі і запыленай пляцоўцы каля пякарні мае хлопцы паздымалі з плеч рукзакі і палеглі на іх, хто патыліцай, хто мокрымі ад поту плячамі. Я пайшоў шукаць кладаўшчыка ці якоганебудзь іншага распарадчыка, каб аддаць яму накладную на атрыманне хлеба. Мне паказалі свіран, дзе павінен быць кладаўшчык.

— Падганяй калёсы! — загадаў мне худы і, мабыць, таму з выгляду залішне высокі сяржант. Я здзівіўся, што ён вельмі худы, быццам замораны, а пры такой жа службе, дзе хлеба хапае: у свірне аж дух забівала салодкім і свежым хлебным пахам. Заўважыўшы маё замяшанне, ён сурова спытаў:

— Чуў, што сказана?

— Чуў,— спакойна адказаў я, хоць воінская жылка, якая ўжо ўсталёўвалася і ў маёй душы, падштурхоўвала зрабіць кладаўшчыку заўвагу: «Чаму так размаўляеш са старшым па званню?» Ды стрымаўся, бо нібыта паралізаваў мяне свежы пах хлеба. Успомнілася, што ўжо не раз сустракаліся мне вайскавікі, воляй лёсу пастаўленыя на склад, на кухню або хоць на якую капцёрку. Паступова ў іх выспявала фанабэрыя і адчуванне сваёй выключ-

насці. Няхай бы хто паспрабаваў запярэчыць ці зрабіць заўвагу! Пайшоў бы са склада не з тым, што трэба, а то і зусім з пустымі рукамі.

Замест адказу на грубаватае, але хоць не безнадзейнае запытанне — мог сказаць, што няма выпечкі, і рабі што хочаш — я знакам рукі запрасіў даўгавязага падысці да шырокіх дзвярэй свірна:

— Вось мой транспарт!

— Дзе? — не зразумеў кладаўшчык.

— Адпачывае на рукзаках. Пехатою ішлі.

— Панесяце на сабе? — здзівіўся кладаўшчык.

— А што зробіш? У падраздзяленні сёння — ніякага транспарту!

Кладаўшчык затрымаўся ў дзвярах свірна, нейкі час глядзеў на ляжачых байцоў, якія, напэўна, паснулі пад цёплым сонцам, і быццам бы абдумваў нешта, вызначаў. Яшчэ раз кінуў вокам на накладную, якую трымаў у руках, і, цяжка ўздыхнуўшы, прамовіў:

— Голад не цётка! Давай будзем адважваць!

Упершыню ў жыцці мне давялося сачыць, як кладаўшчык клаў, а лепш сказаць — кідаў цяжкія гіры на вісячы падважнік і вельмі хутка падпіраў рычаг. Яшчэ не ўцямваў я, дзе быў перавес — на пляцоўцы з хлебам ці на гірах, а ён ужо гучна абвяшчаў кілаграмы і адзначаў іх у блакноце. Пасля ішоў за шырму, каб набраць новае бярэмя баханак — мяне кранула, што насіў ён хлеб у ахапку, як дровы,— а я за гэты час павінен быў разгрузіць пляцоўку вагаў.

Хлопцаў не зваў, каб памагалі, шкадаваў будзіць. А між тым падумваў, што памаглі б не толькі насіць і складваць баханкі, а і сачыць за кладаўшчыком: хто ведае, што гэта за чалавек і якія ў яго тут вагі? Адчуваў, што дома давядзецца перадважваць хлеб, бо камандзіры ўзводаў запатрабуюць кожны сваю норму па колькасці байцоў. І не дай бог каму з іх не хопіць!

— Даўно з гражданкі? — спытаў у мяне кладаўшчык, скідваючы на вагі хлеб, зноў жа як дровы, амаль не прыгінаючыся.

— Даўно,— памяркоўна адказаў я.— Пяты ўжо год.

— Што рабіў на гражданцы?

— Настаўнічаў.

Кладаўшчык паглядзеў на мяне неяк крывавата і, як здалося мне, спагадліва ўсміхнуўся.

— Загрыміш у маршавую роту! — раптам упэўнена заявіў ён.— Папомніш маё слова!

— Ужо быў на фронце,— заўважыў я на гэта.— І пайду зноў, калі пашлюць.

— Абавязкова пашлюць! — пацвердзіў кладаўшчык.— У першую чаргу, бо з хлебам ты не справисшся.

— Чаму так думаеш?

— Таму, што хлеб усушку мае... А ў цябе будзе яшчэ і ўтруска: гэтыя твае малайцы з рукзакамі не ўтрымаюцца, каб не адшчыкнуць скарынку.

— Я спадзяюся на сваіх хлопцаў, а на ўсушку ты накінь крыху.

— А мне хто накіне? З мяне патрабуюць гарачы ўзвес.

Калі я раздаваў баханкі байцам і яны ўкладвалі іх у свае рукзакі — па пяць баханак на кожныя плечы, кладаўшчык стаяў ля парога свірна і з сумнай цікаўнасцю назіраў за ўсімі нашымі турботамі. Потым кіўком пальца загадаў мне наблізіцца да яго і амаль шэптам, каб не чулі байцы, сказаў:

— Гэта ты да абеду бярэшся данесці? — паглядзеў на ручны гадзіннік і зноў неяк крыва, нядобра ўсміхнуўся.— І раздаць к абеду?

— Снедалі без хлеба,— гэтак жа ціха паведаміў я.— Адчуваеш сітуацыю?

— Бо дурні там у вас, таму і сітуацыя. Хіба нельга было забраць свой хлеб учора? Усе роты забралі! І не саматугам, як ты!

Мне не было чаго сказаць, таму маўчаў, а кладаўшчык чамусьці не адыходзіў ад мяне і, быццам некага чакаючы, паглядваў на свой гадзіннік.

— Да абеду вы не данясеце,— нібыта па нейкіх прыборах вызначыў ён.— Колькі тут ужо асталося? Бягом бегчы — не дабяжыш: самае далёкае ад прадпункта падраздзяленне. Байцоў заморыш, і ў самога жывот падцягне. Бяры — я дам табе пару баханак на дарогу. На ўсіх! Раздзеліце, то хоць нейкі падмацунак будзе.

* * *

Старшына роты сустрэў нас яшчэ далекавата ад вёскі. У запыленых ботах, з потным ілбом.

— Дзе вы дзеліся?! — накінуўся ён на ўсё маё аддзяленне, а галоўным чынам на мяне.— Паўзяцё, як сонныя мухі!.. Ану, бягом марш!

Я ішоў пярэднім. Па гэтай камандзе прыбавіў кроку, але ўжо з апошняй сілы.

— Бягом! — закрычаў старшына тонка і пранізліва. Адкуль і голас узяўся?

Бегчы з нагружаным рукзаком за плячыма я не мог. Ведаў, што і байцы не здолеюць пабегчы. Тады Заміналаў падскочыў да мяне і затрос кулакамі:

— Ты ведаеш, што рота абедала без хлеба?! Ведаеш?!

— І снедала,— дадаў я.— Дык хто вінаваты?

— От ты ў мяне пашукаеш вінаватага! — прапішчаў старшына мне ў самае вуха, і я міжволі заўважыў, што голас у яго зусім не той, якім ён часта наспеўваў «Жди миня...» — Камандзір роты чакае каля штаба!.. І ўсе камузводы!

«Таму ты і ўцёк адтуль,— падумаў я.— Запыліў блішчастыя боты».

— Вы хоць без хлеба, а паабедалі! — раптам пачуўся голас са строю.— А ў нас саўсэм курсак пустой!

— Ты, Махамедаў, памаўчы са сваім курсаком! — збавіўшы тон да памяркоўнасці, адказаў старшына.— Я ўжо чуў гэта!..— І з такой жа стрыманасцю звярнуўся да мяне:

— Хіба прывалу не рабілі?

— Які там прывал? — здзівіўся я.— Маршавым крокам туды і назад. І там усяго некалькі хвілін патрацілі на пагрузку.

— Дык тут жа рукой падаць!

— А вы былі там?

— Ну, дапусцім, сам не быў,— прызнаўся Заміналаў.— А твой папярэднік, пакуль не паслалі ў маршавую роту, ездзіў туды амаль кожны дзень.

— Ездзіў,— падкрэсліў я.— Ды не хадзіў пяхотою і не цягаў груз на плячах. Прадпункт намнога далей адсюль, чым вы думаеце.

— Што, Верхавічы? — запярэчыў старшына.— Дык паглядзі на карту!

— Не Верхавічы, а Вышкавічы,— удакладніў я.— Вы нават не ведаеце, дзе знаходзіцца пякарня.

Старшына не стаў гэта аспрэчваць і, мабыць, не так па неабходнасці, як для выгляду, што заняты справай, выняў з кішэні штаноў белую насавую хусцінку, нават адпрасаваную, зняў пілотку і пачаў старанна выціраць лоб, даволі пукаты і павялічаны за кошт таго, што над ім ужо не раслі валасы. Выкарыстаўшы яго паўзу, я спытаў:

— Вы, дарэчы, адчуваеце розніцу паміж маршавай ротай і штрафной?

— Чаму ты так пытаеш? — здзівіўся старшына.— Не толькі адчуваю, а і па сутнасці ведаю.

— Я не толькі пра вас асабіста... І некаторыя іншыя тут: «Паслалі ў маршавую...» Хіба туды пад прымусам пасылаюць?

— А ты добраахвотна пойдзеш?

— Пайду! Як жа іначай? Мы страявыя камандзіры, і наша месца на фронце.

Заміналаў цяжка ўздыхнуў і ледзь чутна прамовіў:

— Некаму ж трэба і ў тыле быць, рэзервы гатовіць.

У яго голасе адчувалася фальшывасць.

Праз некаторы час ён зацягнуў на свой лад звычнае «Жди миня, и я вирнусь», але і тут яго голас фальшывіў. Абарваўшы песню, раптам прапанаваў:

— Табе, бачу, цяжка... Дай мне адну баханку... А то і дзве.

Я не даў.

Калі мы ўвайшлі ў вуліцу вёскі і ўжо набліжаліся да штабной хаткі, Заміналаў зноў падаў каманду: «Бягом марш!» Але гэта падавалася ўжо не для нас, а для тых, што чакалі каля штаба: няхай ведаюць, якое старанне праяўляецца!

З таго двара, дзе кватараваў старшына, відаць, пачуўшы чаканы голас, выйшла руплівая маладуха, падалася насустрач Заміналаву.

— Ідзі ў хату! — рэзка загадаў старшына і ўзмахнуў абедзвюма рукамі, нібы збіраючыся штурхнуць жанчыну ў плечы.

Камандзіры ўзводаў са сваімі хлебарэзамі памаглі знясці хлеб у кладоўку, якая была ў двары штабной хаты. Там на прылаўку стаялі малыя двухталеркавыя вагі, і тут жа ляжаў вялікі, з шырокім бліпічастым лязом нож. Я зразумеў, што мне трэба зараз жа пускаць у ход гэтыя прылады і карыстацца імі ўмела і спрытна, інакш камандзіры ўзводаў самі разбяруць хлеб. І тады можа выйсці так, што нехта з іх перабярэ, а некаму не хопіць.

Хлебарэзам я ніколі не быў. Нават, калі і даводзілася некалі ў каўпалку дзяжурыць на кухні, то абіраў там бульбу, насіў ваду, дровы, а хлеба не рэзаў: на гэта былі штатныя хлебарэзы. З вагамі таксама не было ў мяне блізкага знаёмства, асабліва з гірамі, што ў розных калібрах і колерах ляжалі на прылаўку.

Я ўзяў у рукі нож, яшчэ добра не ведаючы, што буду рабіць ім. Па нейкай міжвольнай логіцы праверыў пальцам вастрыню ляза. Потым узмахнуў нажом перад сабою, быццам намерваўся не рэзаць ім хлеб, а секчы. І раптам успомніў, што некалі маці мая нават словы «рэзаць хлеб» вымавіць не магла і нам забараняла. «Кроіць хлебчык»,— гаварыла яна,— «адкроіць скібачку».

— Ну, давай, хлебарэз! — пачуў я грозны выклік з гурту камузводаў, якія стаялі каля кладоўкі.

Нож задрыжэў у маіх руках, і на нейкі момант я адчуў разгубленасць. Раптам уявілася, што перад дзвярыма кладоўкі стаяць не толькі камандзіры ўзводаў і іхнія памочнікі, а ўся рота прыйшла сюды. Усе тыя байцы, якія сёння снедалі без хлеба, абедалі без хлеба! Камандзіра роты няма, старшыны няма!.. Яны збеглі адсюль, узваліўшы ўсю віну на мяне.

Тронак нажа чамусьці гарачэў у маёй руцэ. Занадта хутка гарачэў і быццам бы станавіўся мяккім. Нешта падобнае здаралася часам на фронце перад атакай. Тады награвалася ў руках зброя: вінтоўка ці аўтамат. Але не мякчэла. Наадварот — рабілася яшчэ цвярдзейшай. Тады я ведаў сваю мэту, свае абавязкі...

— А што там рэзаць?! — крыкнуў нехта перад дзвярыма. Грознасці тут было яшчэ больш, як у

папярэднім выкрыку.— Раздавай баханкамі, і ўсё! Я знаю, колькі баханак мне паложана!

— Рэзаць трэба, таварышы! — пачуўся ля дзвярэй памяркоўны голас.— Хлеб палучаны строга па норме і па норме ж будзе выдадзены, пад строгую вагу! Вось у мяне спісак!

Я ўбачыў, што на прыступках кладоўкі праціpае акуляры старшы пісар роты і спакойна, зусім не спяшаючыся, падымаецца ў кладоўку.

— Першы ўзвод! — трошкі павысіўшы голас, выгукнуў пісар. Затым паднёс да акуляраў спіс і ўдакладніў:

— Вам пятнаццаць цэлых і тры дзесятых кілаграма. Падыходзьце сюды, будзем узважваць!

— Якія там яшчэ тры дзесятых? — запярэчыў камандзір узвода.— Па голасу я пазнаў, што гэта ён і падганяў мяне.— Акругляем і выходзіць шаснаццаць!

— Не, таварышы! Строга па норме! — паўтарыў пісар.— Толькі па норме!

Мы з ім пачалі накладваць баханкі на круглую талерку вагаў — гір хапала на дзесяць кілаграмаў. Пажылы пісар вельмі ўмела накладваў і знімаў гэтыя гіры, дзе трэба перасоўваў паказчык грамаў.

— Адрэжце паўбаханкі! — загадваў ён мне.— Адрэжце чвэрць баханкі! Сюды падайце толькі акрайчык!

Я рэзаў хутка, і нават пісар не заўважаў, што раблю гэта ўпершыню. Памятаючы словы матулі, не падымаў высока нож, не калоў вастрыём у мякаць, а браў у рукі баханку, прыціскаў яе, як некалі матуля, да сваіх грудзей і адкройваў столькі, колькі трэба было на давесак.

Пісар увесь час стаяў пры вагах.

— Яшчэ толькі паўтара кілаграма! — нарэшце скамандаваў ён мне.— Для штабнога давольства!

— А ў мяне толькі вось...— разгублена прамовіў я і паказаў паўбаханкі.

— Усяго столькі?! — спалохана спытаў пісар.— Значыць, абважылі вас на пякарні! Я тут не мог памыліцца!

— А можа, нашы вагі?..— памкнуўся я выказаць сумненне.— Ці вывяраліся яны?..

— Сам вывяраў! — упэўнена прамовіў пісар.—

Правільныя яны! Можа, залішне правільныя — гэта другое дзела...

— Што ж будзем рабіць? — не надта затрывожана спытаў я.

У душы брала верх задаволенасць тым, што ўсім узводам хапіла хлеба.

— Што рабіць? — перапытаў пісар.— Камандзіра роты і палітрука забяспечым, а самі пажывём без хлеба. Думаю, што заўтра вы будзеце...

Пісар не даў пэўнага вызначэння маёй дзейнасці, але не цяжка было здагадацца, што хацеў сказаць.

Ідучы ў штабную хату, ён прыпыніўся каля надворных дзвярэй, зняў акуляры і пачаў старанна хукаць на іх і праціраць. Я стаяў побач з паўбаханкай хлеба ў руках.

— Вы раней не мелі справу з лічбамі, з вагамі?.. З размеркаваннем, так сказаць?

— Не меў.

— Я адчуваю гэта... Хоць лічу вас чалавекам адукаваным і вопытным... Не ва ўсім, канечне. Чалавеку і не пад сілу ведаць усё. Асабліва ў сферы забеспячэння. Я дваццаць год працаваў у прадмагу, а вось бачыце!.. З першага разу даў маху.

— Чаму так? Узважвалася ў нас усё дакладна.

— Таму і не хапіла хлеба.— Пісар павёў вачыма на тую паўбаханку, якую я трымаў у руцэ.— А яшчэ ж старшынісе трэба даць.

— Якой старшынісе? — здзівіўся я.

— Той кабеціне, у якой ён прыжыўся. Тырчыць тут пад акном. Не дай ёй, то...

Я зноў глянуў на сваю паўбаханку, зноў з болем у душы падумаў, як яе дзяліць на траіх. А пісар між тым заўважыў:

— У вашага папярэдніка не было недастачы. Ні разу! Затое — лішкі былі. А гэта таксама кепска.

«Адкуль жа лішкі? — Гэта яшчэ больш насцярожыла мяне.— Можа, у пякарні ён умудраўся браць больш? Але ж там даўгавязы кладаўшчык таксама свайго не ўпусціць».

Прыкра было абдумваць усё гэта, бо ніколі ў жыцці не меў дачынення да такіх спраў, але цяпер абставіны прымушалі: ведаў, што заўтра зноў давядзецца ісці пехатою па хлеб, зноў трэба будзе

дзяліць яго па ўзводах. Тут воінскі абавязак, ад яго не адмовішся. Ляжаць у акопах, страляць у ворага, ісці ў атаку — таксама не было звычным для мяне. Аднак, калі трэба было, то рабіў усё гэта. Цяпер вось здаецца, што лягчэй было б зноў рынуцца ў атаку, чым раздзяліць гэтую рэштку хлеба, што трымаю ў руцэ. Уздрыгвае мая рука, крыху нямеюць пальцы, уяўляецца, што паўбаханка паступова цяжэе і цвярдзее. Пальцы ўжо не адчуваюць мякаці, і я бяру хлеб у другую руку. У гэты момант лаўлю сябе на тым, што прагна гляджу на хлеб і зноў чую яго вельмі прывабны пах: хочацца адламаць скарыначку ды ўкінуць у рот. І не есці, не жаваць, а трымаць у роце ды смактаць. Наўрад ці ёсць на свеце што-небудзь смачнейшае, як скарыначка са свежай духмянай баханкі.

Не мінаюць маю руку з хлебам і акуляры пажылога пісара. Я гэта заўважаю і баюся, што ён услых скажа аб тым, пра што я падумаў. І што яму адкажу? Магчыма, што і ён снедаў і абедаў без хлеба.

Пісар адводзіць акуляры ад хлеба і працягвае сваю развагу:

— Яно, разумееце, як?.. З практыкі ведаю: вось вазьмі прадукт з адных вагаў і пералажы на другія... Можа быць розніца: у адзін бок ці ў другі. А дакладней, раўнамернасці не будзе. Часцей за ўсё трохі перацягне недастача. А калі яшчэ транспарціроўка! Тады ўжо і ўсушка, і ўтруска... Пры оптавых аперацыях гэта пэўным чынам улічваецца. А ў нас як? Скажаш байцу, што яго пайка ўтраслася і таму атрымоўвае менш? Што ён табе адкажа?.. Значыць, не скажаш? А што рабіць?

— Што? — паўтарыў я.

Пісар змаўчаў, падаўся ў хату і толькі ўжо ў сенцах, пры такім змроку, калі можна было прыхаваць выраз свайго твару, па-змоўніцку прашаптаў:

— Трэба патрошку недаважваць. Усім па якому граму... Ніхто не заўважыць, а баланс сыдзецца, Паверце майму вопыту.

Мне было агідна слухаць такія парады, але схопліваца са старым у сенцах таксама было недарэчна, таму я ўзяўся за клямку дзвярэй. Пісар прытрымаў маю руку і яшчэ цішэй дадаў:

— Нічога кепскага вам не раю... Ваш папярэднік рабіў так. Ніхто не прыкмячаў, а мяне не правядзеш!.. Я заўважыў, што ён падкладваў невялічкую магнітку пад чашу вагаў. Пралічыўся трохі, пагарэў на лішках, але можна ж...

Я не даслухаў пісара і рэзка адчыніў дзверы ў хату.

* * *

Назаўтра стаў збірацца ў дарогу адразу пасля ранняга снедання. Намагаўся займець тую ж групу байцоў, з якой хадзіў учора, але старшына не даў. Ён увесь час паглядваў на мяне спадылба, відаць, крыўдаваў за ўчарашняе, а яго маладуха дык наўмысля пераняла мяне на вуліцы і, растапырыўшы рукі, закрычала:

— Вы што ж, толькі пра свой жывот думаеце?.. Чалавек зрабіў вам дабро, а вы яго куска хлеба лішылі! Я да камандзіра палка дайду!

Перад самым адыходам у прадпункт я забег у штабную хату па рукзак і ўбачыў, што пісары сядзяць за сталом перад чыгунком бульбы, зваранай у мундзірах. Хукаюць на гарачыя бульбіны, перакатваюць з рукі ў руку і ядзяць не абіраючы. На мой прыход малодшы пісар не звярнуў ніякай увагі, быццам дзверы і не адчыняліся, а пажылы звесіў галаву над сталом і рабіў выгляд, што вельмі ж заняты і яму цяпер не да мяне.

— Можа б, і вы гарачанькую? — прапанавала гаспадыня, кормячы пойлам цяля.

Малады пісар паспешліва выняў з чыгунка аж тры бульбіны, паклаў іх радком каля сябе і стаў заўзята дзьмуць на пальцы, а пажылы неяк наўмысля запырхаўся, глытаючы сопкую бульбу, і быццам не чуў запрашэння гаспадыні.

— Дзякую,— сказаў я жанчыне.— Мне трэба ісці.

— Не забудзьцеся пра нашу ўчарашнюю размову! — нагадаў пажылы пісар, калі я ўжо адчыніў дзверы.

Не сорамна яму нагадваць! Няўжо сам ён мог бы абважваць? Учора мне не верылася ў гэта, а вось цяпер, пасля яго папырхвання з гарачай бульбі-

най у роце, узнікалі сумненні. Што гэта? Праява несумленнасці, ужо звычнай для яго, ці надзённая практычнасць чалавека, які заўсёды памятае, што свая кашуля бліжэй да цела? І першае і другое грунтуецца на адным: менш клопату і турботаў. Забяспечыць роту хлебам своечасова і ў поўнай норме пры цяперашніх абставінах даволі складана: трэба думаць, хваляваца ды трывожыцца. То навошта ўсё гэта? Падклаў пад вагі жалезінку і жыві спакойна, пакуль жывецца... А там вайна ўсё спіша!..

Навошта старшыні роты ды нават і камандзіру ламаць галаву, дзе і як дастаць транспарт для перавозкі хлеба? Потым яшчэ адказвай за яго: калі гэта якая збракаваная аўтамашына, то шукай для яе шафёра, дрыжы за спраўнасць, здабывай дзе хочаш гаручае і змазачнае. Калі жывое цягло — конь ці вол, то іх жа трэба карміць, даглядаць. І запрэгчы трэба мець у што.

А тут — амаль ніякіх клопатаў! Людзей хапае!..

Такія думкі трывожылі мяне і раней. І не ў запасным палку, а на полі бою.

Міжвольна ўспомнілася мне, як у пачатку вайны наш стралковы ўзвод паслалі на разведку боем.

Як толькі мы выйшлі на чыстую раллю і прабеглі некалькі крокаў, варожыя кулямётчыкі адкрылі па нас шквальны агонь і адразу вывелі са строю некалькі чалавек, у тым ліку камандзіра ўзвода. Астатнія ўціснуліся ў раллю і застылі, імітуючы забітых. Як толькі хто асмельваўся павярушыцца, на яго градам сыпаліся кулі: поле было прыстраляна.

Я тады быў памкамузвода і знаходзіўся на левым флангу. На маім напрамку чарнеў невялічкі хлевушок з саламянаю страхою. Ён амаль не перашкаджаў немцам браць нас на прыцэл, бо яны сядзелі значна вышэй гэтай будыніны. Аднак жа чым бліжэй мы падпаўзалі да хлевушка, тым змяншалася наша небяспека. Пад самай сцяною немцы зусім не бачылі нас, і тут я загадаў акопвацца тым, хто здолеў дапаўзці да вуглоў будынка.

На жаль, вельмі мала дапаўзло: кулямётчык Саша, малады і на рэдкасць прыгожы, светлалобы хлопец, яго другі нумар Наташа, не надта прыго-

жая дзяўчына і невялічкага росту, але ўсе мы ведалі, што Саша для яе быў даражэйшы, можа, нават за ўласнае жыццё. Следам за імі прабраліся да нашага хоць і вельмі ненадзейнага ўкрыцця яшчэ тры байцы, у тым ліку нізенькі і тоўсценькі ўзбек Рахмат.

Саша і Наташа адразу павярнулі кулямёт і сталі біць па ворагу з-за вугла хлевушка доўгімі і, як я заўважаў, даволі меткімі чэргамі. На іх была асноўная надзея, бо ні вінтовак, ні ручных кулямётаў пры нас не было, аўтаматным жа агнём нельга было дастаць ворага з нашых пазіцый.

— Пасылай па падмогу! — крыкнуў мне Саша, мяняючы кулямётную ленту.— Немец падпаліць хлеў, і тады хана! Снарад патрэбен!

Малодшы сяржант Саша быў вопытным і смелым воінам. Я адчуваў, што ён падае мне правільную каманду, адзіна магчымую ў гэтых умовах. Але як яе выканаць? Лёгка сказаць — пасылай па падмогу! Каго пашлеш, як пашлеш? Хто здолее дайсці пад такім прыцэльным агнём? Язык не варочаўся аддаць такі загад. Голас прападаў, як толькі намерваўся разявіць рот. Вось яны, мае сябры, ляжаць непадалёку ад мяне, старанна акопваюцца ля процілеглага вугла будыніны. Іх усяго трое. Адзін ужо немалады чалавек, нядаўняга прызыву, відаць, з партызанаў. Дасягнуць гэтага рубяжа, дзе мы цяпер, цамог яму, напэўна, шчаслівы выпадак, бо постаць яго мажная і нават у ляжачым стане даволі прыкметная як мішэнь. Паслаць яго — гэта амаль наўмысна забіць чалавека, бо ворагі адразу заўважаць, як толькі адпаўзе ад будыніны.

Другі баец — невызначальнага ўзросту, худы, бледнатвары, з хранічнай хрыпатцою ў грудзях — можа не вытрымаць пластунскага тэмпу і не дапаўзе да штаба роты. Трэці — Рахмат. Ён, вядома ж, чуў патрабаванне кулямётчыка Сашы, але не вызваўся добраахвотна папаўзці ў наш тыл. Між тым, толькі на яго можна было б у тую хвіліну паспадзявацца: маленькі, вяртлявы, малапрыкметны.

— Пасылай хутчэй! — зноў пачуў я рэзкую і гучную каманду. Голас не Сашаў, нават незнаёмы мне, бо вельмі на высокіх і адчайных нотах. Такога голасу я не чуў раней, але цяпер ведаў, што кры-

чыць Наташа,— больш тут няма каму. Адчайнасць у яе крыку, магчыма, мне ўявілася, а пранізлівая гучнасць вымагалася абставінамі — трэба было перакрычаць кулямёт.

Я падпоўз да Наташы, лёг побач і закрычаў у самае вуха:

— Табе трэба прабірацца ў тыл! Табе!..

Крычу, а голасу свайго не чую — кулямёт заглушае. Трывожуся, што і яна не чуе, таму паўтараю:

— Пластуном прапаўзеш!.. Разоркаю!.. Ты лепш за ўсіх дaложыш абстаноўку, а я тут замяню цябе!

Наташа ўголас не адказвае, толькі заўважаю, што нервова задрыжэлі яе рукі, калі даставала з каробкі апошні шлейф кулямётнай ленты. Потым з рашучым адмоўем закруцілася яе галава, ужо без пілоткі, гладка прычасаная на роўны радок і з тонкімі, як у школьніцы, касічкамі. Яны сабраны на патыліцы ў невялічкую куксу і прыколаты. Трымаюцца пакуль што...

Саша таксама без пілоткі; высокі, гладкі лоб паблісквае потам.

«Дзе ж іхнія пілоткі?» На колькі можна, аглядваю замежак, на якім ляжым, і зноў чую рэзкі голас Наташы:

— Не трась часу! Пасылай Рахмата! Я не пайду адсюль!

— Яна не пойдзе! — паўтарыў Саша.

Ні ў тую хвіліну, ні потым я так і не займеў пэўнай яснасці, чаму Саша не падтрымаў мяне. Збаяўся падставіць дзяўчыну пад адкрыты варожы агонь ці ўлічваў яе характар: не пакіне друга ў бядзе, і ніяк не прымусіш яе зрабіць гэта. Нават загад можа не выканаць.

А тым часам хто мог вызначыць, дзе больш небяспекі: там, па дарозе ў тыл, ці тут, на лініі агню? Калі немцы падпаляць будыніну, якая пакуль што прыкрывае нас, то наўрад ці ўцалеем усе мы.

— Рахмат! — на ўсю моц свайго голасу клікнуў я.

У той жа момант баец апынуўся побач.

— Пойдзеш у тыл і дaложыш камандзіру роты абстаноўку! Скажаш, каб тэрмінова падаў гаўбіцу! Ясна?

— Ясна! — адказаў Рахмат і ад мяне ж павяр-

нуўся, каб узяць курс на той населены пункт, адкуль мы выйшлі ў разведку.

— Назад можаш не вяртацца! — дадаў я.

Рахмат нічога не адказаў на гэта, можа, нават і не пачуў, бо ў той момант быў ужо далекавата ад мяне.

Пакуль дазвалялі ўмовы, я сачыў за ім: дапаўзе ці не? Будзе нам падмога ці не?

Рахмат папоўз жвавенька і такою разоркаю, што яго мала і відно было. На першай адлегласці памагала яму наша будыніна, а на самым небяспечным, прыцэльным месцы нямецкія кулямётчыкі не адразу заўважылі пасланца, бо Саша прыглушыў іх сваімі амаль бесперапыннымі чэргамі. Потым... У мяне аж у сэрцы пахаладзела: Рахмат выскачыў з разоры і, прыгнуўшыся, пабег, як заяц, віляючы ў бакі. Варожыя кулямётчыкі адкрылі шквальны агонь. Пыл ад куль уздымаўся з прысушанай раллі, прыкрываў Рахмата ад мяне і, магчыма, ад фашысцкіх кулямётчыкаў. Аднак убачыў я, што Рахмат упаў. Папоўз далей ці не папоўз? З дрыжэннем у сэрцы я ўглядаўся ў воблачкі шэрага пылу амаль на падыходзе да нашай вёскі...

Раптам крык Наташы:

— Ракета!

Я азірнуўся і ўбачыў, ужо нават пачуў, што проста на нас з асляпляльным блішчаннем і шыпеннем спускаецца з невялікай траекторыі вогненны клубок. Я жвава схапіў лапатку і адбіў ракету ўбок, а нашы байцы засыпалі яе зямлёю. Усе мы разумелі, што гэта азначае. На першы раз вораг прамахнуўся, і вогненная ракета не пацэліла ў саламяную страху хлевушка. Наступным разам яна пацэліць. І мы тады не здолеем засыпаць яе зямлёю: на страху пад варожымі кулямі не ўзлезеш, ды не паспееш узлезці — сухая салома адразу шугане полымем.

Ракетай падпалілі страху ці запальнымі кулямі, гэтага я ўжо не бачыў, але немінучая бяда бязлітасна налягала на нас: страха пачала гарэць, і хутка полымя так разбушавалася, што вогненныя шматкі саломы сталі падаць на нас, на ствол кулямёта, які і так быў ледзь не дачырвана накалёны.

Давялося змяніць нашы пазіцыі.

Высокае полымя з дымам пакуль што прыкрыва-

ла нас ад ворагаў, але ж гэта толькі лічаныя хвіліны. Страха успыхнула, як порах, нібы ўзляцела ў паветра і адтуль стала спорна асядаць чорным попелам і вогненнымі клубкамі. Кроквы таксама неўзабаве рухнулі, і наш выратавальны ўтулак паступова знікаў: варожыя кулямётчыкі білі проста па агні, і некаторыя кулі ўжо дасягалі нашых пазіцый. Гэта яшчэ і ад таго, што блізка пад вогненны зруб, які трохі і засланіў бы нас, мы не маглі падпаўзці: гарачыня перашкаджала.

— Патроны! — раптам пачуў я каманду Сашы і адразу падпоўз да другога нумара:

— Чаму не падаеш? Ёсць яшчэ ленты?

Дзяўчына маўчала. На яе вучнёўскіх косках ціха і ўжо непагрозліва астывалі абвугленыя шэравата-чорныя саломіны. Я змахнуў іх рукою і адчуў на пальцах цёплую макрату...

— Падавай, Наташа! — ласкава, але патрабавальна папрасіў кулямётчык.

Дзяўчына не паварушылася і ніякага голасу не падала. Я ўзяў з яе рук скрынку з кулямётнымі лентамі, намацаў толькі адну.

— Вось патроны! — далажыў Сашу, але ён не ўзяў іх, ён ужо трымаў у руках усыпаную попелам галаву Наташы і з адчайным спалохам аглядваў яе твар, шыю, маленькія і пяшчотныя блінчыкі вушэй. Усюды былі падцёкі крыві, а раны быццам нідзе не відно было, мабыць, прыкрывалася валасамі.

— Ёсць санітар?

Сашава запытанне падавалася мне, хоць сам ён ведаў, што і санінструктар, які пайшоў са ўзводам, астаўся на раллі, і наша санітарка Лена, лепшая сяброўка Наташы, таксама недзе там.

Выхапіўшы з кішэні гімнасцёркі санітарны пакет, Саша падхапіў дзяўчыну на рукі і на коленцах панёс бліжэй да вогненнай заслоны. Я лёг на яго месца за кулямётны шчыт. Падаўся трошкі ўбок ад прыстралянага немцамі месца і, залажыўшы новую ленту, даў кароткую чаргу па страсе procілеглай будыніны. Толькі цяпер заўважыў, калі добра ўгледзеўся праз прыцэл, што варожыя кулямётчыкі абстрэльваюць нас з амбразур, прабітых у чарапічнай страсе. Калі там у іх і мураваныя стаякі побач, то ворагі амаль што не ўбойныя для нас. Прытушыцца,

асядзе полымя нашага хлевушка, І тады яны ўбачаць, што нас тут усяго чатыры чалавекі. Могуць абысці з флангаў, калі ўздумаюць узяць у палон. Але і зверху мы для іх — адкрытая мішэнь.

Трэба ўсё ж такі берагчы патроны.

Раптам падскочыў да кулямёта Саша, адштурхнуў мяне і так націснуў на гашэтку, што ледзь не паўленты вылецела адразу.

— Як Наташа? — крыкнуў яму проста ў вуха, а ленту на момант прытрымаў.

— Давай! — крыкнуў на мяне Саша.— Да апошняга давай!..

Я разумеў, што чалавек у адчаі і, можа, нават не ўлічвае, што патронаў у нас мала. Падаў частку зарадаў ды зноў спытаў пра Наташу.

— Падай усё! — замест адказу загадаў Саша.— А сам акопвайся! І глыбей, глыбей! Скажы хлопцам! Будзем займаць кругавую абарону!

Сашаў голас дрыжэў, горка перапыняўся, але камандзірскі тон не траціўся. Гаварыў ён праўду: ствараліся такія абставіны, што нічога іншага не аставалася, як укапацца ў раллю і стаяць да апошняга. Вось толькі — з чым стаяць? Кулямётная лента канчаецца, запасу няма. У Сашы на поясе некалькі ручных гранат, у мяне ў кішэнях дзве «лімонкі». Ці ёсць што ў хлопцаў, якія ўкопваюцца цяпер у глыбіню больш ад блізкага полымя, чым ад варожых куль? Аўтаматы іх бачу — тырчаць рулі з ячэек. А што там у іх на паясах ці ў кішэнях, мне і раней не было відно.

Падаў я Сашу апошнія патроны, а сам толькі ўзяўся за лапатку, як адчуў, што нехта вельмі лёгка, нібы з асцярогай дакрануўся да майго пляча. Я рэзка азірнуўся:

— Рахмат! Дарагі!..

— Ваша заданне выканаў! — ледзь прамовіў баец і паклаў зняможаную галаву на зацярушаны попелам замежак. Хлапца нельга было пазнаць: на носе і на лбе — закарэлая і прысыпаная пылам кроў, на плоскіх, запацелых шчоках таксама крывавыя падцёкі.

— Ты паранены? — трывожна спытаў я.— Дзе рана?

Рахмат адмоўна пакруціў галавой:

— Не ранены!.. Не можа быць, каб ранены!.. Недзе так крыху драпнула...

— Каму далажыў там?

— Камандзіру роты. Але ён ужо сам бачыў...

— Што робіць?

— Пабег да пушкароў.

Варожыя кулямётчыкі ўзмацнілі агонь, напэўна, ведаючы, што наша палаючая будыніна ўжо намнога менш засланяе нас, бо страха апала, а сцены абвугліліся. Кулі прабівалі зруб, вырывалі адтуль вугалі і з шыпеннем упіваліся ў раллю. Наш кулямётчык раптам замаўчаў. Я павярнуўся да Сашы і ўбачыў, што яго на ранейшым месцы няма. Хлопец рыўком падаўся наперад, бліжэй да ворага, і з новай пазіцыі, відаць, больш прыцэльнай, пусціў доўгую чаргу.

— Кароткімі давай! — крыкнуў я ў адчаі, быццам чалавек сам не ведае, што трэба ашчаджаць апошнія патроны. І нібы ў адказ на мой загад Сашаў кулямёт быццам удавіўся нечым цвёрдым і заглух зусім. Саша не варушыўся.

— Няўжо і яго забілі? — ціха і квола прамовіў, нібы прастагнаў, Рахмат.— Увесь узвод наш ляжыць... Увесь узвод!..

Я вельмі выразна пачуў Рахматавы словы... Ён амаль прашаптаў іх, а мне ўявілася, што сказаў моцна, на ўвесь палетак, каб і тыя чулі, што ляжаць цяпер на раллі, калі хто з іх жывы...

— Акапацца можаш? — спытаў я і падаў Рахмату сваю лапатку.

— Ды што гэта паможа?..— пачулася збоку.

Я не верыў, што гэта Рахмат сказаў. І следам яшчэ:

— Я шчасліваму выпадку верыў... Толькі выпадку!.. А цяпер...

— Што цяпер? — спытаў я. Здаецца, і моцна спытаў, але голасу свайго не пачуў. Нешта гучнае заглушыла мой голас, і ў першы момант я нават не зразумеў, што гэта. Заўважыў толькі, што Рахмат раптам узняўся, скрозь сіняватае полымя перад намі глянуў на варожыя кулямётныя гнёзды.

— Наш снарад! — усклікнуў радасна і абедзвюма рукамі выцяў сябе па баках: пыл ад яго штаноў ледзь не забіў мне нос.

— Лажыся пакуль! — крыкнуў я і схапіў яго за кароткую нагу, паваліў на зямлю.

— Не даляцеў крыху! — удакладніў Рахмат.— Але нічога! Цяпер даляціць!

Сапраўды, наступным снарадам нашы артылерысты пацэлілі ў чарапічную страху будынка з варожымі кулямётчыкамі. Я ўжо сам бачыў, як вобдлака пылу ўзнялося над гэтай страхою, а потым з вялікай прабоіны стаў сачыцца дым, напэўна, ад выбуховай сумесі.

Саша раптам выскачыў з-пад шчытка кулямёта і з гранатай у руцэ кінуўся да варожага будынка.

— За мною! — крыкнуў ужо на адлегласці і невядома нават каму — мабыць, нам з Рахматам.

Я зарадаваўся, што Саша жывы, але адразу бегчы за ім не лічыў патрэбным, бо ўжо відна была наша перамога: вораг спыніў агонь нават пасля першага снарада.

Праз некаторы час да мяне стаў даносіцца знаёмы голас нашага камандзіра роты:

— Упярод, упярод!..

Неўзабаве ён дабег да нашага недагарэлага будынка, лёг побач са мною.

— Гэта ты?.. Чаротны?.. Камандзір узвода дзе?

— Там, дзе і ўвесь узвод,— сумна адказаў я і агляннуўся, спадзеючыся, што ўбачу хоць каго-небудзь з тых, што да гэтага нерухома ляжалі на раллі: можа, хто ўстаў на кліч камандзіра роты ды пабег за ім. Ніхто не ўстаў. Ніхто не чуў яго закліку...

— Вайна-а,— уздыхнуў камандзір роты.

— Вось каб адразу з гаўбіцы!

— А хто ведаў, што так?..— Ён запнуўся, не знайшоў патрэбнага слова і з нейкай стыхійнай палёгкай накінуўся на мяне: — Ты заўсёды... Я і раней заўважыў гэтую тваю схільнасць да панікі... Слабасць!..

— А гэта! — паказаў я на кулямётчыцу Наташу, якая ляжала каля недагарэлага зруба. Вочы яе былі прыцярушаны попелам, і мне ўяўлялася, што яны глядзяць на нас сумна і дакорліва. Адна вучнёўская касічка расплялася і адкінулася крыху ўбок. Яе кончыкі прыгарэлі... Я чуў адметны пах прыпаленых валасоў...

* * *

Другі выхад па хлеб здаўся мне больш уладжаным, чым папярэдні. Мы раней выйшлі, раней прыйшлі. І дарога быццам бы цягнулася менш. Разгрузіліся яшчэ да абеду, і байцы з маёй хлебнай групы, давольныя, пайшлі ў сталовую.

Неўзабаве з'явіўся ў кладоўцы пажылы пісар, прынёс свежую раскладку, і мы рашылі, пакуль узводных няма, разважыць хлеб, каб потым выдаць без затрымкі. Узялі першы ўзвод: адзін стосік баханак на вагах, другі... Потым — адна дадатковая баханка да стосіка — многа, без яе — мала. Трэба класці паўбаханкі. Узяў я хлебарэзаўскі нож, распалавініў баханку і перш-наперш пачуў здзіўлены вокліч пісара, а потым уцяміў і сам, у чым тут дзіва: мякіш у баханцы амаль напалавіну быў выбраны.

— Вы прывал у дарозе дазволілі! — папракнуў мяне пісар.

— Не, што вы?... Нідзе не спыняліся!

— Вады піць каго адпускалі?

Я ўспомніў, што гэта было, але ж ніхто не затрымліваўся ні каля калодзежа, ні, тым больш, калі забягаў у хату, наганяў строй у тую ж хвіліну. Ды яно ж і падумаць грэх, што нехта з мае групы мог выдраць мякіш з чужой баханкі. Мне было прыкра так думаць.

— Давайце праверым увесь хлеб! — прапанаваў пісар.

Мы пачалі перакладваць баханкі і перш за ўсё ўзважваць іх на руках. Выявілі яшчэ дзве баханкі лягчэйшых. Прыгледзеўшыся, заўважылі на іх малапрыкметныя стулінкі ў ніжняй скарынцы.

— Што будзем рабіць? — спытаў пісар, зняўшы акуляры і ўставіўшыся глыбокімі, ужо адцвілымі вачамі мне ў твар.

Я разгублена маўчаў. Гэта быў такі агідны і бязлітасны «сюрпрыз» для мяне, што я не ведаў, як на яго рэагаваць, што рабіць, што сказаць. Раптам амаль усе мае хлопцы, з якімі я хадзіў па хлеб, пачалі ўяўляцца мне з панапіханымі мякішам ратамі... Яны ішлі і скрытна жавалі... Давіліся, але жавалі... Таму і маўчалі ў страі, што жавалі, жавалі...

— Прыйдзецца раскінуць недастачу на ўсе ўзводы — прапанаваў пісар.— Бо калі недададзім аднаму ўзводу — будзе ЧП, пацягнуць у штаб палка. А так — на першы раз, можа, і абыдзецца.

— Ашукаць усіх байцоў? — нязгодліва перапытаў я.— У чым жа яны вінаваты?

— А хто вінаваты? Вы?

— Выходзіць, што я.

— Тады аддавайце хлеб, вярніце недастачу! А дзе вы яе возьмеце?

— Збяруцца камандзіры ўзводаў,— пачаў я меркаваць, нібы развaжаць сам з сабою ў пошуках рашэння,— скажу ім усю праўду і пакажу выедзеныя баханкі.

— А што ім да гэтага? — скажуць камандзіры. Вам загадана даставіць ім хлеб, і вы павінны выканаць загад. А за невыкананне... Самі знаеце.

— Аддам свае па́йкі,— пачаў я шукаць аргументы.— Паабяцаю, што вярну з'едзены ў дарозе хлеб...

— Быццам вы самі яго з'елі?..



Ноччу сапраўды мне снілася, што я выдраў са свежай баханкі мякіш і еў. Уяўлялася, што гэта мой мякіш, выданы мне на паёк, і я колькі хачу, столькі і ем. Смачны мякіш, пахучы... Ем яго на поўны рот, а ён не меншае... Жую, каўтаю, а ён не каўтаецца. І здаецца — чую сваё жаванне. Мабыць, усе чуюць, хто стаіць каля мяне... Яны чакаюць, калі я дажую і выдам ім хлеб на паёк.

— Хлебарэз! — крычыць нехта каля кладоўкі. Я прачынаюся, з болем у душы адчуваю, што ніякага мякішу ні ў маіх руках, ні ў роце ў мяне няма, а нейкае жаванне і сапраўды чую. Сціпваюся і прыслухоўваюся. Быццам пад маёю лаўкаю нехта нешта жуе... Апускаю ўніз руку і намацваю мяккую і цёплую шчацінку цяляці.

«Што яно там жуе? Мабыць, жуйку сваю... Няхай сабе жуе, малое...»

Адчувальна захацелася есці самому, бо ні ў

абед, ні ўвечары ў сталоўку не хадзіў. Брыдка было паказвацца людзям на вочы: хто паверыць, што сёння ў хлебарэза няма ні кусочка хлеба? Прасцей жа так: людзям недадаў, а сябе не пакрыўдзіў! Старшына Заміналаў напэўна так і думаў, гэта мне відно было па яго вачах.

Сон у тую ноч аказаўся мацнейшы за голад, і таму я неўзабаве заснуў зноў. Прачнуўся на дасвецці, як заўсёды, стаў хутка збірацца, бо меў намер адразу ісці ў пякарню, калі не з байцамі, то аднаму. Нават лепш было б аднаму! І прасіць там кладаўшчыка, а калі трэба будзе, то і начальніка пякарні, а то і яшчэ каго вышэйшага... Прасіць ад усёй душы, ад сэрца... Не адступацца, пакуль не выпрасіш, не вымаліш... Чаго? Ды ўсё таго ж, галоўнага, што ляжыць на сумленні, што гняце душу, азмрочвае, зацямняе жыццё — тры баханкі хлеба!

Працягнуў руку пад лаўку, каб узяць свае боты, ды зноў намацаў мяккую поўсць цяляці. Яно не паварушылася ад майго дотыку, напэўна, спала.

Пісары таксама паўставалі, малодшы чамусьці стаў цікавацца, як я збіраюся і вось шукаю пад лаўкаю свае боты. А сёння, дык і не пад лаўкаю, а пад цялём — пісар, мабыць, ведаў пра гэта. Выняў я свой бот з-пад цяляці і яшчэ не паспеў агледзець яго, як пачуў гучны рогат малодшага пісара.

— Чаго ты? — здзіўлена спытаў у яго пажылы пісар, праціраючы акуляры.— Сон смешны сасніў?

— Не сон, а вунь! — кіўнуў пісар на мой бот.— Цяляці таксама жвачкі не хапае!

Гэты гладкатвары, самазадаволены нестраявік рагатаў на ўсё горла, а ў мяне слёзы на вочы набеглі, калі ўбачыў, што цяля зжавала халяву майго бота. Ды так зжавала, што за гэтае месца і ўзяцца нельга было — разлазілася юхта. Няўжо і другі бот такі? Выцягнуў, агледзеў пад несціханы рогат пісара. Не, другі бот цэлы. Хапіла цяляці на пэўны час і адной халявы. Але ж мала радасці: у адным боце не выйдзеш!

— Сціхні ты! — крыкнуў на свайго малодшага напарніка пажылы пісар.— Совесці ў цябе няма! У чалавека гора, а ты!..

— Якое тут гора! — раптам стуліўшы губы, ад чаго твар адразу пазласнеў, агрызнуўся малодшы

пісар.— Вунь без хлеба людзі, дык гэта гора! А тут... Падумаеш!.. Бот цяля пажавала!.. Не з'ела ж!

Пажылы пісар надзеў акуляры, падышоў да мяне, узяў у рукі пажаваны бот і паднёс да акна, якое ўжо добра забялела і пачало асвятляць вялікі пісарскі стол, укладзены рознымі папкамі і паперамі.

— Такога бота цяпер, бадай, нідзе не знойдзеш,— упэўнена сказаў ён, агледзеўшы абутак і абмацаўшы пальцамі юхту.— З дому яшчэ ці як?

— У кавалерыі выдалі,— удакладніў я.

— У кавалерыі? — перапытаў пажылы пісар.— Вы служылі ў кавалерыі? Калі? Да вайны?

Я кіўнуў галавой.

— О, там добра адзявалі, хараша! Некалі і штаны хромам абшывалі.

Падышла гаспадыня і таксама ўзяла ў рукі пажаваны бот. Скрывілася горка і балюча, ледзь не праз слёзы загаварыла, паглядваючы пад лаўку, дзе ляжала цялё:

— Ну хто мог падумаць?.. Чорт яго надаўмеў!.. Хіба я не кармлю яго, не паю?.. Усе ж ночы там спала, пад ложкам!..

Гаспадыня вельмі шкадавала сваё цялятка, але відно было, што цяпер злавала на яго і, можа, нават пабіла б, калі б яно было хоць трохі большае. Мяне таксама разбірала зло на гэтую няўцямную жывёліну, але стрымліваўся з павагі да гаспадыні, ды і ведаў, што нічога ж не зробіш з дурным цялём: хіба яно наўмысля хацела нарабіць мне столькі шкоды?

Між тым цялё нібы адчула, што пра яго нядобра гавораць, узнялося на ногі, стала насупраць мяне, шырока расставіўшы ўсе чатыры капыты, і пачало глядзець мне ў твар ласкава і жалліва. Ну як цяпер на яго скажаш хоць адно кепскае слова! Глядзела на мяне цялё і глядзеў малодшы пісар. Ён чамусьці перастаў рагатаць: можа, заўвага пажылога напарніка падзейнічала, а можа, кранула мазгі і тое, што я ўсё ж такі кавалерыст і, у працілегласць яму, абмежавана-годнаму, з'яўляюся страявым камандзірам, хоць і пасля ранення. Для яго гэта недасягальна.

На вуліцы было ўжо зусім светла, калі я выйшаў за вароты штабной хаткі. З горыччу ў душы паглядзеў на пажаваную халяву свайго бота. Яна ўжо не магла так гладка і зграбна аблягаць лытку, як аблягала раней. Яна, правая, стала нават карацейшай за левую, таму што залішне маршчынілася і асядала.

Мне трэба было тэрмінова пабачыць камандзіра роты або хоць старшыну, каб далажыць ім, што неабходна зараз жа ісці ў пякарню. Перад вачыма надакучліва паўставаў даўгавязы, худы кладаўшчык, які ўсіх сваіх кліентаў называе на «ты», нават старшых па званню. Перад ім трэба будзе клянчыць, прасіць... А што зробіш?.. Дзе іначай дастанеш хлеба?.. У каго?.. За што?... Якой цаною? На ўсё пайшоў бы, калі б залежала ад самога!.. Ад уласнага старання, намагання, нават подзвігу!.. Ды хлеб пры гэтых абставінах толькі ў даўгавязага кладаўшчыка.

Зноў, як і ноччу, мне пачуўся пах свежага хлеба, зноў усю маю істоту адолелі клопаты аб хлебе. І не для таго, каб самому хоць паспытаць яго, бо ўжо ледзь не забываўся смак хлебны, а каб разлічыцца з тымі, каму недадаў на паёк, зняць сваю віну перад імі. Разлічыцца і астацца чыстым перад усімі... Смела глядзець кожнаму ў вочы...

З нечага двара раптам выскачыў сабака і прабег па вуліцы амаль паўз мае ногі. Мне выразна ўбачылася, што ў яго ў зубах падгарэлая скарынка хлеба, і я па нейкаму падсвядомаму рэфлексу кінуўся за ім. Сабака падаўся наўцёкі, а я, мабыць, доўга бег бы следам, калі б не сустрэўся камандзір роты.

— Куды ты, Чаротны?! Што з табою?

— У яго хлеб! — амаль механічна прамовіў я, спыніўшыся.— Вялікая хлебная скарынка!..

Камроты падышоў, моўчкі падаў руку:

— Галадаеш?.. Бачу, ведаю... Сам сябе морыш... А не вінаваты — таксама ведаю!.. Дык гэта я... А з усімі астатнімі як быць? Галава кругам ходзіць...

Я далажыў камандзіру пра свой намер зараз жа ісці ў пякарню, каб сёння ж пагасіць недастачу па хлебу. Далажыў таксама, што пакінуў у пісара рапарт аб тэрміновым накіраванні на фронт.

— З маршавай ротай? — перапытаў Сухамятка.
— Так, з маршавай!
— Заўтра прыязджае прадстаўнік з Курскай дугі,— ніякавата гледзячы ў зямлю, паведаміў камандзір.— З гвардзейскай дывізіі. Але цябе я не ўключаю. Ты яшчэ тут патрэбен.
— Прашу ўключыць!
— Ты ўсё абдумаў?
— Усё!
— Нешта я не памятаю, каб хто прасіўся туды добраахвотна.
— Калі я першы, то тым лепш!
Сухамятка замоўк, ціха павярнуўся і пайшоў да штабной хаткі, паказаўшы мне рукою, каб ішоў побач. Загаварыў недзе перад апошнім дваром.
— Я душою разумею цябе... Страявы камандзір, старшы сяржант... Не тут твае месца... Тым больш у гэтакай ролі снабжэнца...
— Хлебарэза,— удакладніў я.
— Ну, няхай сабе і так,— згадзіўся Сухамятка.— Тут мая віна!.. Не знайшоў табе адпаведнага месца ва ўвераным мне падраздзяленні. Не ўсё ўлічыў, прадумаў... А тут яшчэ старшына такі шалапутны!
Раптам ён ажывіўся, схапіў мяне за плечы і павярнуў тварам да сябе:
— Слухай! Давай, знаеш, што зробім?! Я назначу цябе старшыной роты, а Заміналаў будзе памочнікам. Няхай ён хоць адарвецца ад сваёй кабеціны ды пакруціцца, паверціцца наконт дастаўкі хлеба! Паглядзім, як у яго?..
— Не магу больш заставацца! — рашуча заявіў я.— А з хлебам тут заўсёды будзе туга, пакуль няма транспарту.

Старшына роты ўсё ж навязаў мне групу байцоў з рукзакамі для дастаўкі наступнай выпечкі хлеба. Прысягнуў, што ўдалося падабраць самых лепшых, самых надзейных, і вызначыў двух камандзіраў аддзяленняў для непасрэднага нагляду за нагружанымі рукзакамі.
— Будзе ўсё добра! — запэўніваў старшына.— І ты свой рапарт забярэш назад. Паспееш яшчэ стаць гвардзейцам!

Адмовіцца ад групы я не мог, пайшоў з байцамі. Большасць з іх былі ўжо знаёмыя мне. Ніводнаму з іх я ні разу не сказаў кепскага слова, ні ў чым не папракнуў, аднак жа амаль усе пaглядвалі на мяне недружалюбна, быццам бы тоячы нейкую крыўду. Відаць, старшына іх нажучыў.

«За што крыўдуеце? — з горкасцю думалася мне.— Хіба я ваш хлеб умінаў? Хоць з нейкай малапрыкметнай недастачай, але вы атрымалі свае пайкі. А я ўжо каторы дзень без хлеба... І не таму, што яго няма ці нехта зняў мяне з давольства!.. А проста з-за таго, што некаторыя з вас, можа, і не з гэтай групы, з'ядалі маю норму. І не скажу каторыя, не магу сказаць!.. Ва ўсіх у вас вельмі сумленныя, разумныя твары, сурова і самавіта падцятыя вусны...»

Паспрабаваў я загаварыць з хлопцамі, але гаворка не клеілася. Уступалі ў гаворку толькі камандзіры аддзяленняў, якія ішлі па хлеб упершыню, астатнія хто-ніхто часам пакіўвалі галовамі, аднак ратоў не раскрывалі.

«Чаго ж вы, хлопцы? — хацелася мне запытацца.— Цяпер жа хлеба ў рукзаках няма! Вось калі б назад ідучы вы праявілі такую вытрымку!..»

Маўчанне ў страі працягвалася і па дарозе назад. Даволі спрыяльна гэта было для мяне, мацнела спадзяванне, што хлеба сёння хопіць на ўсіх. Каб яшчэ больш было такой упэўненасці, я пайшоў на некаторую жорсткасць і забараніў нават кароткі прывал, не дазволіў таксама спыняцца ля калодзежаў.

Развеску хлеба ў кладовай зрабіў у прысутнасці камандзіраў аддзяленняў. Двух кілаграмаў усё ж не хапіла.

Прыйшоў пажылы пісар, з ім развaжылі яшчэ раз. Сапраўды, ёсць недастача!

Што ж гэта такое? Я ж ведаю, што даўгавязы кладаўшчык прыняў на душу маю шчырую скаргу, што хлеба ўвесь час не хапае, і набавіў крыху на сваіх вагах. Акрамя таго даў пяць баханак асабіста мне. Мае хлебарэзаўскія вагі таксама не могуць так бязлітасна хлусіць.

Зноў давялося агледзець, абмацаць кожную баханку. Тут з цікавасцю і абурэннем узяліся пама-

гаць мне камандзіры аддзяленняў. І знайшлі дзве над'едзеныя баханкі. Знешне так умела замаскаваныя, што ніякае пільнае вока не заўважыць.

— Ці прыкмячалі вы што? — спытаў я ў камандзіраў аддзяленняў, ужо не спадзеючыся на сваю назіральнасць.

— Не, нічога не прыкмячалі.

Гаварыў я з людзьмі на гэты раз без асаблівай трывогі. І адчаю ў маім голасе не было. Што ж ты зробіш? Напэўна, ёсць у хлебнай камандзе такія хітруны, што не мне з імі зладжваць! Важна тое, што цяпер яны не падрэзалі мяне пад корань — сваім уласным запасам я пакрыю недастачу і разлічуся за мінулую вымушаную пазычку.

Паабедаўшы ў сталовай, ■ зайшоў у штабную хатку, каб трошкі адпачыць пасля «хлебнага маршу» і падрыхтавацца да заўтрашняга паходу з маршавай ротай. Малодшы пісар паднёс мне згорнуты ў дзве столкі сшыткавы лісток паперы.

— Што гэта? — спытаў я, не беручы ў рукі ліст.

— Ваш рапарт наконт маршавай,— адказаў пісар і зрабіў такую здзеклівую міну, што мне прыкра было глянуць яму ў твар.— Можа, не трэба!..

— Зарэгіструйце і пусціце ў ход! — рашуча сказаў я.— Камандзір роты ўжо знае!

Рука пісара з лістком у пальцах пачала маруднa апускацца, твар скрывіўся, а вочы вылупіліся і дзікавата ўставіліся на мяне.

— Можа, сапраўды не варта спяшацца,— падаў голас пажылы штабіст.— З хлебам у вас наладжваецца, а на фронце вы ўжо былі. І кроў пралівалі. Няхай перш ідуць тыя, хто яшчэ і не нюхаў пораху.— Памаўчаў стары задумліва, а потым ціха, нібы толькі самому сабе, дадаў: — Тут, мабыць, і мы... вашы суседзі па начлегу, у нечым вінаваты... Адчуваю гэта, а выказаць не магу... Не атрымалася ў нас адзіная сям'я ў адзінай хаце. Хоць і прычын для гэтага, здаецца, не было.

— А цяля? — раптам спытаў малодшы пісар і ў той жа момант, нібы клоун, змяніў маску на твары, стаў злым і здзеклівым.— Цяля — асноўная прычына!

— Пры чым тут цяля? — нечакана пачуўся ня-

згодлівы голас гаспадыні. (Ніхто з нас і не ведаў, што ў гэты час яна стаяла ў запеччы і чула нашу размову.) — Цяля дык яно што?.. У яго і розум цялячы. А вось у цябе, Іван?..

«Разумная і сумленная жанчына наша гаспадыня! — з асалодай падумалася мне.— Адно слова «Іван» — і ўсё стала на сваё месца. А магла б не назваць малодшага пісара... Нікога не назваць, бо, можа, усе аднолькава мы ёй надакучылі...»

Малодшы пісар не рашыўся ўступаць у спрэчку з гаспадыняю, моўчкі адышоў ад мяне і паклаў мой рапарт у папку.

Назаўтра на дасвецці, калі я збіраўся адыходзіць у маршавую роту, гаспадыня нячутна падышла да мае лаўкі, моўчкі спынілася паблізу ад мяне,— я не адразу і заўважыў. Стаяла з нейкім клункам у руках і спачувальна назірала, як я з вялікай асцярогай, каб не парваць зусім, нацягваў на правую нагу пажаваную цялём халяву свайго бота.

— Ідзяцё ўжо? — сумным голасам і, як мне здалося, нават са шкадаваннем спытала жанчына.

— Іду,— упэўнена адказаў я.

— То як жа вы ў такім абутку? — Яна вачыма і ледзь прыкметным рухам клунка паказала на мой правы бот.

— Ды ўжо ж як-небудзь дайду, а там нешта знойдзецца на замену.

— То, можа, тут заменім? — Яна жвава разгарнула клунак і паклала на лаўку побач са мною добрыя юхтавыя боты, густа змазаныя тлушчам. Сама села тут жа.— Ад майго засталіся,— працягвала горна і тужліва.— Мабілізаваўся ў пачатку вайны і як атрымаў там нешта казённае, то свае боты прыслаў дадому. Давайце памераем!

— Дзякую вам! Пайду ў сваіх,— адмовіўся я.— Мужавы боты беражыце, ён яшчэ сам вернецца ды зносіць.

Жанчына заплакала і ўтуліла твар у тую прасцінку, якой да гэтага былі абгорнуты боты.— Не прыйдзе ён ужо, мой кармілец... Вунь пахаронка ў шуфлядзе.— Яна паказала вачыма на той стол, на якім ляжалі розныя казённыя паперы. Пісары яшчэ

спалі на сваіх лаўках. А можа, і не спалі, ды не варушыліся і не падавалі ніякага голасу. Вочы ў жанчыны былі заліты слязамі. Нішто так не хвалюе мяне і не коле ў сэрца, як раптоўныя і шчырыя жаночыя слёзы. Таму хоць і з бояззю, але глянуў я ў вочы гаспадыні. Мабыць, упершыню глянуў, бо і яна, як мне здавалася, увесь гэты час, пакуль я начаваў на яе мыцельнікавай лаўцы, ні разу адкрыта не глянула на мяне, а ўсё быццам хавала свае вочы або пазірала куды ўбок. І міжвольна заўважыў цяпер, што ў жанчыны вельмі прыгожыя вочы: светла-блакітныя, выразна-поўныя, без ніякіх зажмурынак у кутках.

— Не адмаўляйцеся,— шчыра прасіла яна.— Вы ж на фронт ідзеце!..

Я нязгодліва пакруціў галавой.

Прачнуўся малодшы пісар, падняў з-пад стала галаву, і гаспадыня паспешліва загарнула ў прасцінку боты, устала з лаўкі.

* * *

Камандзірам маршавай роты быў малодшы лейтэнант, вельмі яшчэ маладзенькі па ўзросту, мабыць, толькі што з курсаў. Напэўна, для таго, каб выглядаць больш унушальна пры размове з падначаленымі, часам намнога старэйшымі за самога, ён неяк ненатуральна выпростваўся і надзімаў губы, нібыта збіраўся затрубіць. З пяхотнай гвардзейскай дывізіі, якая размяшчалася на Курскай дузе, паблізу ад станцыі Паныры, яго прыслалі да нас у запасны полк, каб сфарміраваць тут маршавую роту і прывесці ў адзін з палкоў гэтай дывізіі.

— Вы тут хлебарэзам былі? — спытаў малодшы лейтэнант, стоячы бокам да мяне і сурова надзьмуўшы вусны.

— Зусім нядоўга,— адказаў я.— Усяго некалькі дзён.

— А чаму так? Чаму адразу ў маршавую?

— Я падаў адпаведны рапарт.

А што, здарылася што-небудзь? Недастача?

— Не. Усё ў парадку! Я з фронту сюды трапіў і хачу зноў на фронт.

— Добраахвотна, значыць? — Малодшы лейтэ-

нант крыху павярнуўся да мяне, акінуў вокам з ног да галавы. Вусны яго быццам бы палагаднелі.— Хочаце, я прызначу вас старшыной маршавай роты? Часова, вядома, на перыяд нашага маршу.

— Калі вы пытаеце згоды, то я скажу, што не,— адказаў я.— Пайду радавым.

— Вы страявік? Кім на фронце былі?

— Памкамузвода, пазней — нампалітрука.

— Будзеце тут камандзірам узвода! — надаўшы голасу самую большую цвёрдасць, сказаў малодшы лейтэнант.— Гэта — загад!

Маршавая рота фарміравалася большай, чым звычайная, баявая. Узвод таксама набіраўся большы. Калі сабраліся ўсе навабранцы, мне давялося пастроіць першы ўзвод. І ўпершыню за ўсё сваё прабыванне ў запасным палку я ўспомніў пра свой камандзірскі голас, якому мяне прывучылі яшчэ ў каўпалку, і падаў сапраўдную страявую каманду. У вачах знаёмых байцоў-хлебнікаў заўважыў здзіўленне: напэўна, ніхто з іх не думаў, што хлебарэз умее камандаваць і валодае правіламі страявой службы. У часы хлебных і лясных паходаў я ні разу не падаў страявой каманды.

Былыя хлебнікі глядзелі на мяне крыху разгублена, а я на іх — пранікнёна і з пэўнай цікаўнасцю. Мяне ўвесь час мучыла тое, што мякішныя выдзіралы так і асталіся нявыеўленымі. І не мог я вызначыць цяпер, трапіў хто з іх у мой маршавы ўзвод ці ўхітрыўся астацца на месцы?

Я наўмысна зацягнуў стойку па камандзе «смірна», каб лепш разгледзець кожнага байца. Чамусьці ўзнікла і ўсё больш мацнела надзея, што тут вызначу, хто выдзіраў з баханак мякіш, усё роўна як душу з майго цела. І калі вызначу, то выганю са строю: з такім чалавекам на фронт не пайду!

Ад майго падазронага і, мабыць, вельмі суровага пагляду некаторыя байцы апускалі вочы, а некаторыя сустракалі мае вочы таксама прамым і смелым паглядам, нават даволі настырным.

«Мякішнікі» таксама могуць так глядзець»,— падумалася мне. Гэта не прастачкі, не наіўныя абжоры! Напэўна, была ў іх немалая практыка запускаць руку не толькі ў хлебны мякіш.

Падышоў малодшы лейтэнант, і я далажыў яму аб гатоўнасці ўзвода да маршу. Ён нічога не адказаў, а мне хацелася аж крыкнуць яму на вуха, што трэба павітацца з байцамі і падаць каманду «вольна!». Замест гэтага малодшы лейтэнант палез у свой планшэт і выняў адтуль згорнутую ў некалькі столак карту. Адгарнуўшы адну столку, кіўком галавы падазваў мяне.

— Вольна! — падаў я каманду ўзводу і наблізіўся да камандзіра.

— Вось маршрут! — ціха прамовіў малодшы лейтэнант і ўказальным пальцам стаў вадзіць па карце.— Запомніце ці лепш запісаць?

— Лепш запішу,— згадзіўся я і паспешліва расшпіліў сваю трафейную сумку.

— Вы пойдзеце ў галаве калоны! — загадаў камандзір.— Мне паложана замыкаць.

На другі дзень нашага паходу я адчуў, што мяне пачынае з галавы падгарачваць, а з ног — халадзіць. Праява даволі знаёмая, таму што разы два находзіла на мяне да ранення. Спачатку быццам толькі слабінка, лёгкая марачынка і рэдкае патрэсванне, а потым так затрасе, закалоціць, што аж на нагах не ўстаіш. А вось у шпіталі ні разу не было ні гарачкі, ні дрыжыкаў. Таму я смела адказваў урачам, калі пыталіся, чым хварэў: «Нічым!»

— А ўсё ж такі? — пачала аднаго разу дапытвацца маладая фельчарыца, трымаючы чарнільную ручку над вялікім разлінееным лістом.— А ўсё ж такі?.. Вы нават і насмаркам не хварэлі?

На кончык пяра яе прыпапсаванай аўтаручкі набегла дрыготкая кропля чарніла. Фельчарыца настойліва глядзіць на мяне, чакае адказу, каб нешта напісаць на лісце. А я сачу за чарнільнай кропляй, якая вось-вось упадзе на паперу.

— Дык што? — паўтарае фельчарыца.

— Клякса! — амаль міжвольна вымаўляю я.

— Якая клякса? — фельчарыца не здагадваецца, бо не глядзіць на паперу.

— Кропля ўпадзе,— удакладняю я.— Прападзе ваша анкета.

— А-а!..— спахопліваецца дзяўчына, якую ўжо завуць лейтэнантам медыцынскай службы. І форма

на ёй адпаведная, новенькая, хораша падагнаная. Дзяўчына трошкі зачырванелася, што не заўважыла здрадніцкую кроплю, схапіла прамакатку і ўжо больш не глядзела на мяне.

— Дык што? — ужо з ноткай недаверу спытала яна.— Так і пакінем чысты ліст?

— Ну, запішыце хіба трасцу,— прапанаваў я.

Фельчарыца здзіўлена глянула на мяне і яшчэ горш пачырванела, відаць, ад разгубленасці.

— Мабыць, трасца ў мяне была,— паўтарыў я больш выразна.— Але гэта ўжо даўно.

— Знабіла вас? — няўпэўнена перапытала дзяўчына.— Дык, можа, ліхарадка, малярыя?

— Па-нашаму трасца,— не адступаўся я ад свайго.— Калаціла так, што аж зубы ляскалі.

— Можа, эпілепсія? — занепакоілася дзяўчына.

— Трасца! — сказаў я цвёрда і ўпэўнена.

Цяпер, успамінаючы даўні эпізод, хацелася б і ўсміхнуцца, ды нядобрае адчуванне, што гэтая самая трасца яшчэ недзе тоіцца ў мяне ўнутры, прыпалохвала і вельмі псавала настрой. Я ведаў яе бязлітаснасць і небяспечнасць. Яе нельга перахадзіць ці перастаяць на нагах, пераадолець за якую гадзіну ці дзве. І прыходзіць яна, як на вялікае зло і няшчасце, у такі час, калі чалавеку і на хвіліну нельга выбыць са строю, калі ён знаходзіцца на самай вастрыні сваёй адказнасці за вялікую справу. Няхай бы страсянула мяне тады, калі трэба было ісці на пякарню па хлеб! Пайшоў бы нехта іншы, хутчэй за ўсё — Заміналаў, і тады не аднаму мне давялося б катаваць сваю душу за недастачу хлеба.

Цяпер мой узвод ідзе галаўным... Ідзе на фронт. І хто ведае, як там усё будзе. Па словах камандзіра маршавай роты, там з дня на дзень чакаюць наступлення фашысцкай зграі. А можа, нашы і апярэдзяць ворага? Можа, здарыцца так, што мой узвод проста з маршу кінуць у бой. А я не ў страі...

Каб хоць лякарства якое было пры сабе! Чым ратавацца, як утрымацца на нагах? З кожным кіламетрам мне станавілася ўсё горш і горш: я ўжо ледзь перастаўляў ногі. Здавалася, што калі б упаў вось тут пры дарозе, то ўжо і не ўстаў бы.

Увесь свет туманіўся ў вачах, байцы ўзвода ўяўляліся нейкімі мітуслівымі істотамі.

На кароткім прывале ў прыдарожнай вёсцы сеў я на лавачку ля сухога плятня і адразу зваліўся: трасучка стала разносіць усё цела, зубы стукалі так, што нават і на адлегласці было чутно.

Падышоў камандзір роты.

— Што з вамі? У чым справа? — Вусны са светлым пушком пад носам, як заўсёды, надзьмутыя, в ў вачах трывога, юнацкая разгубленасць.— І пот з вас льецца... Я прышлю санінструктара.

...Мне тады ўявілася, што прыйшла ка мне тая самая фельчарыца, якая некалі ў шпіталі запаўняла маю гісторыю хваробы. Але боты ў гэтай былі кірзавыя, з шырокімі, не на яе нагу, халяўкамі. Дзяўчына выняла з санітарнай сумкі градуснік, расшпіліла маю гімнасцёрку...

Пакуль змяралася тэмпература, малодшы лейтэнант балюча моршчыў лоб, відаць, нешта абдумваў самастойна, не спадзеючыся на дапамогу санінструктара. Мне здавалася, што яго лоб вельмі вялікі і жоўты, як спелы гарбуз.

З пацямнелай ад часу хаткі, што стаяла за плятнём і толькі двума кустамі жоўтай вяргіні крыху засланялася ад вуліцы, выйшла пажылая жанчына ў вязаным кабаціку, у цёплай хустцы, але босая — ногі запыленыя да самай спадніцы. Моўчкі стала каля лаўкі, сашчапіла пад грудзьмі рукі...

Санінструктар выняла ў мяне з-пад пахі градуснік, узняла яго, як свечку, вышэй галавы і здзіўлена замаргала чырванаватымі ад стомы павекамі.

— Амаль крытычная!..— шапнула камандзіру роты.— Я і не ведаю, што гэта!..

— А што ж тут ведаць? — раптам азвалася жанчына ў кабаціку.— Кожнаму відно, што трасучка гэта! Трасца!.. У нас тут усе двары ператрасло!.. Чалавека накрыць трэба добра, коўдрамі, каб выпацеў, выпарыўся... А потым і яшчэ ёсць сродкі... Нашы мясцовыя...

— Дык, можа б, вы, цётачка, памаглі нам? — звярнулася да жанчыны санінструктар.

— Бабачка,— ледзь чутна прашаптаў малодшы лейтэнант, але, паглядзеўшы на жанчыну ўважлівей, не паўтарыў услых. Твар яго пасвятлеў, з вус-

наў знікла надзьмутасць, а на вочы наплыла шчырая і адкрытая ласкавасць. З гэтай ласкавасцю ён пачаў глядзець на гаспадыню хаткі і чакаць яе адказу. Калі пераводзіў пагляд на санінструктара, дык таксама з такой жа ласкавасцю і ўдзячнасцю.

— Як жа не ратаваць чалавека, калі ён у бядзе? — сказала гаспадыня, не надта і чакаючы, каб яе прасілі, угаворвалі.— Давайце перанясём яго ў сенцы, там у мяне ложак у кутку.

Бабка ці цётка, гэтага я і потым добра не вызначыў, накрыла мяне спачатку кажухом, а наверх яшчэ дзвюма, а можа, і трыма коўдрамі. І ўся гэтая адзежа яшчэ доўга ходырам хадзіла на мне ад дрыжыкаў і калатнечы. Камандзір роты зацягнуў прывал наколькі мог... Пэўна ж, ні наколькі не мог, але, мабыць, ішоў на рызыку. Ведаў, што пакінуць мяне ў чужых людзей не мае права, а здаць на рукі медыкаў не было ніякай магчымасці. Дзе тыя медыкі?.. Дзе той транспарт, каб завезці хворага ў які шпіталь?.. Другім разам зайшоў у сенцы, калі мне ўжо стала трошкі лягчэй. Сеў на ложку побач з санінструктарам, надзьмуў вусны, бо, мабыць, збіраўся аддаць нейкі загад.

— Слухайце! — загаварыў да мяне ціха, але ўпэўнена.— Абстаноўка складваецца так, што я вымушаны пакінуць вас тут... Другога варыянта не бачу... Але загад будзе такі, каб вы самастойна з'явіліся на месца прызначэння.

— Ёсць з'явіцца на месца прызначэння! — ледзь варочаючы языком, паўтарыў я.— Калі можна, то запішыце мне нумар часці.

— Запішу! — амаль падхапіў маю просьбу камандзір роты.— І сам распішуся!.. Сваю паруку дам!..

— А з цёткай я пагаварыла,— дадала санінструктар.

Як толькі вайскавікі выйшлі з сянец, да мяне падышла гаспадыня і таксама села на краёк ложка, ласкава спытала:

— Ну што, салдацік, ужо душна стала?

— Вельмі душна,— амаль паскардзіўся я.— Можа, зняць з мяне кажух ці хоць адну коўдру?

— Не, мілай, нічога не будзем здымаць,— спа-

гадліва запярэчыла гаспадыня.— А што пацееш, то гэта к лепшаму... Калатні не будзе... Смагу адчуваеш?

— Вельмі!.. Усё ўнутры сохне...

— Зараз я табе кіслага малачка прынясу... А потым траўкі завару... Карыцы... Ляжы спакойна, як дома... Даўно не быў дома?

— Ой даўно, цётухна, вельмі даўно!..

— Я, мабыць, бабка табе... Не цётухна,— лёгка запярэчыла гаспадыня.— Табе колькі гадкоў?

— Ды ўжо хутка пад тры дзесяткі набярэцца,— прызнаўся я.— Стары ўжо!..

— Да старасці то яшчэ далёка,— не згадзілася гаспадыня.— Але твой камандзір, відаць, малодшы?.. У цябе, мабыць, браня была?

— Не, я служыў і да вайны.

— Далёка матка твая ці хто з родных?

— Далёка адсюль... У Беларусі...

І далей я не мог гаварыць... Хацеў прыхаваць ад гаспадыні, што мне ўспомнілася матуля, уявілася родная хатка з такімі ж, як тут, сенцамі... І нечаканая горнасць сціснула мне дыханне. Жанчына ўсё ж заўважыла гэта, спачувальна, з пяшчотай загаварыла:

— Ты не сумуй вельмі, не перажывай!.. Я разумею, што ў адзіноце ды яшчэ пры хваробе бярэ за душу адчай. Але не даходзь да гэтага... Трымайся!.. Тут табе таксама не чужыя людзі... Я не пакіну цябе, пакуль не ачуняеш...

Неўзабаве я заснуў і, відаць, моцна, бо апошнія часы кепска спалася мне ў запасным палку і асабліва ў мінулую ноч у дарозе. Прачнуўся я цяпер у спалоху ад моцнага выбуху за сцяною сянец. За той сцяною, ля якой упрытык стаяў мой ложак. Сэрца калацілася ад нечаканай трывогі, ад невядомай прычыны, бо дрыготкі ад хваробы ўжо не было. Мне стала святлей у вачах, але спалох ад выбуху не праходзіў. Што здарылася? Няўжо бомба ўпала непадалёку ці варожы снарад даляцеў? Прыслухаўся, ці не чутно чаго навакол? Не, усюды ціха, спакойна, і летняе святло бадзёрымі праменьчыкамі нібы жывымі і жыватворнымі струменямі ўліваецца ў закрытыя з усіх бакоў сенцы. Знаходзіць сабе шчыліны недзе пад страхою ды яшчэ пра-

цінае цёмную занавеску акна. У кутку паскрыпвае цвыркунчык. Ён і да гэтага паскрыпваў,— я чуў яго. Але нечаканага выбуху, відаць, і ён спужаўся, на нейкі час замоўк. Неўзабаве зноў пачаў сваю аднастайную, ды ўсё ж не сумную для мяне песню.

«Мабыць, нічога кепскага не здарылася, калі цвыркунчык не прыцішыўся надоўга. Звычайна ён адчувае трывогу і асабліва — блізкую небяспеку».

Потым мне падумалася так: «Паляжу, яшчэ крыху, пачакаю, паслухаю. Калі выбух не паўторыцца, то, значыцца, нешта выпадковае адбылося, зусім мясцовае. Калі ж зноў штосьці грымне паблізу, то трэба будзе зваць гаспадыню і дазнавацца, якая тут прычына».

Адчыніліся надворныя дзверы і ўпусцілі мне ў сенцы цэлую хвалю свежага вясковага паветра ды яркі і шырокі, як мне здалося, вельмі вясёлы і бадзёры прамень сонца. Я аж вочы зажмурыў. А потым убачыў, што ў сенцы ўвайшла гаспадыня, як і раней, босая, у кабаціку, але без хусткі, з сабранымі ў вялікую сівую куксу валасамі. Гэта яе падмаладзіла і неяк адразу кінулася мне ў вочы. А яшчэ зацікавіла тое, што жанчына, ціха набліжаючыся да мяне, вінавата і сарамліва пасміхалася і час ад часу паглядвала на нейкія чарапкі, якія трымала ў абедзвюх руках.

— Ну, як вам? — спытала, убачыўшы, што не сплю. Пасля таго, як даведалася, што я ўжо не малады, перастала зваць мяне на «ты», хоць мне гэта і не надта імпанавала: няхай бы звала, як і ў першыя часы, салдацікам, няхай бы прымала маладзенькім.

— Што гэта бухнула так моцна? — замест адказу спытаў я.

— Вельмі злякаліся?

— Не вельмі, але страсянуўся... Можа, бомба, можа, што?..

— Ды не...— яшчэ вальней і весялей засмяялася жанчына і выставіла перада мною рукі з чарапкамі.— Усё, дзякаваць богу, спакойна ў нас... Ціха... Гэта я патрэсканым чаганом грукнула ў вашу сценку, каб налякаць вас... А як вы злякаецеся, дык і трасучка адступіцца... Мы ўсіх так лечым.

Гаспадыня не хавала сваёй сарамлівай усмешкі.

Сарамлівай, але задаволенай. Па яе вачах я заўважаў, што яна рада за сваю ўдачу: чыгун разбіўся добра і падаў патрэбны, нечаканы выбух, злякнуў хворага, дык цяпер усё пойдзе на папраўку. А калі ў адказ ёй і я ўдзячна ўсміхнуўся, жанчына ледзь не залілася ўцешным смехам, падсела да мяне на ложак і з гучным бразгатам высыпала сабе на прыпол чыгунныя чарапы.

А мяне чаму пацягнула на лагодную ўсмешку? Па-першае, прыемна было пачуць, што навакол усё ціха і спакойна. А следам — такая навіна для мяне, такі спосаб лячэння!..

Зірнуўшы на важкія аскабалкі на прыполе ў гаспадыні, я смяшліва паспачуваў:

— Вялікі чыгун разбілі... Мабыць, патрэбны?.. Шкада!..

— Дык ён быў трэснуты ўжо... Адварыў сваё.

— Аплясці б яго дротам, то і яшчэ варыў бы.

— Дзе таго дроту тонкага ды гладкага цяпер знойдзеш? — спакойна запярэчыла гаспадыня.— Толькі калючы ўсюды. Ды і аплятаць у нас ніхто не ўмее.

Мне ўспомнілася, як некалі ў нас дома нават стары гліняны гаршчок не прападаў: калі даваў трэшчыну, то бацька праседжваў над ім адзін са сваіх досвіткаў і ўмела аплеценая пасудзіна зноў ішла на прыпечак.

— Я і цэлага чагана не пашкадавала б дзеля такой справы,— тым часам дадала жанчына.— Яшчэ... Няхай толькі сцямнее.. Я пашапчу вам на ваду і дам напіцца... Шэпты таксама памагаюць... Толькі калі вы смяяцца не будзеце.

— Не буду,— паабяцаў я.

Ужо не першы раз схватваў мяне такі паганы прыступ, таму я ведаў, што ён пакалоціць, пamyчыць ды і пойдзе, але не хацелася крыўдзіць жанчыну і адхіляць яе шчырыя старанні дапамагчы мне.

— Вы, мабыць, есці хочаце? — клапатліва запыталася жанчына, устаючы з ложка.

Я трошкі падумаў, уявіў, што я магу тут з'есці, і адказаў, што не цягне мяне пакуль што ні на якую ежу.

— А калі я вам блінчыкаў ячных напяку? У мя-

не крыху мукі ёсць. Блінчыкаў, свежанькіх, са смятанкаю... Га?..

Гэтага я ўжо многа год не спытваў. Нават і пры гарачцы цёплыя блінчыкі наўрад ці ўявіліся б нясмачнымі. Ды яшчэ са смятанкай... Я прамаўчаў.

Назаўтра на дасвецці падалося, што быццам бы стала намнога лягчэй. Устаў з ложка, выйшаў у двор і адчуў, што ногі пада мною ўсё роўна як чужыя, нават на вуліцу сам не выйдзеш.

— Куды гэта вы? — пачуўся з-за хаты голас гаспадыні.— Яшчэ рана вам уставаць... Рана!.. Яшчэ дзянькоў два вам... А тады правяду!..

Жанчына прымоўкла, апусціла падол над мокрымі ад расы нагамі... Відаць, праполвала нешта ў агародзе. Апусціла і вочы з дрыжачымі павекамі: штосьці раптоўнае ўсхвалявала яе.

Я не вяртаўся ў сенцы, чакаў, што жанчына яшчэ скажа. І яна дадала:

— Як сваіх некалі праводзіла... Усіх паправодзіла: сыноў — спачатку аднаго, потым другога... А вось нядаўна і старога свайго... У абоз узялі... І адзінота, і пустота цяпер у мяне... Да таго сумна робіцца, што на слёзы цягне... Страх нейкі забірае, жудасць... Раней мух з хаты выганяла... Улетку... Як усе людзі... А цяпер не выганяю... З дасвеццем пачынаюць гудзець, дык мне весялей робіцца — усё ж не адна ў хаце...

У дзень майго адыходу гаспадыня спякла ячную перапечку і яшчэ гарачай паклала мне ў рукзак. У дарозе я адчуваў ласкавае цяпло на спіне. І не душнае яно было, не змарлівае... Перапечка была ў тым самым рукзаку, у якім нядаўна я насіў хлеб з ваеннай пякарні. Стамляла тая ноша, пад канец дарогі рабілася пакутліва цяжкай. І нагадвала ледзь не кожную хвіліну аб тым, што ніводнай крышынкі з усяго гэтага цяжару сам не спажывеш, бо пры разважванні, напэўна, зноў некаму хлеба не хопіць.

Цяпер я ўжо не хлебарэз... Цяпер у мяне і нажа ніякага няма, нават складанчыка...

— Захочацца ў дарозе, то адломіце з крайку...,— наказвала гаспадыня.— Перапечка бухоная,

бо я ў цеста кіслага малачка падмяшала і трошкі соды.

Гаспадыня праводзіла мяне да канца вуліцы. Развітваючыся, горка заплакала, затуліла твар ражком белай хусткі.

— Можа, надарыцца... Можа, бог прывядзе...

Я разумеў, што яе слёзы і гэтыя словы звернуты не да мяне: думае яна і пакутуе па сваіх родных. Але і мне было неяк асабліва цёпла і ўмільна на душы, бо ўжо ў каторы раз успомнілася, што мая матуля не магла праводзіць мяне на фронт... Яна і цяпер не ведае, дзе я і што са мною... На жаль, і я нічога не ведаю пра яе...

— Можа, надарыцца, можа, бог прывядзе...— паўтарыла жанчына. І дадала: — То не мінайце мой куток... Не забывайце старую, адзінокую...

* * *

Полк ужо вёў бой, калі я з'явіўся ў штаб.

— У першы батальён! — загадаў памначштаба, нават не глянуўшы на мае дакументы і не выслухаўшы да канца мой рапарт.— Там усё раскажаш!

Але там яшчэ горш не было часу ні мне расказваць, ні ім выслухоўваць мае паведамленні. З батальёна паслалі ў роту, з роты — у той узвод, які павінен быў вось-вось выпаўзці на папаўненне самай перадавой лініі. Там насядалі варожыя танкі.

— Здымі рукзак! — пачуў я каманду за сваімі нагамі. Азірнуўся, убачыў, што за мною паўзе малодшы лейтэнант, і на нейкі момант мігнулася, што быццам бы той самы, які быў камандзірам маршавай роты. Толькі голас, здаецца, не той.

— Па рукзаку будуць біць,— удакладніў малодшы лейтэнант, напэўна, камандзір узвода.

Загад трэба выконваць, але як яго выканаць?! Не ведае ж камандзір, што ў маім рукзаку вельмі дарагая і запаветная для мяне паклажа — палавіна той перапечкі, якую спякла мне гаспадыня. Нібы матчын падарунак... Нібы матчына ахова ад усіх бед і няшчасцяў...

— У траншэйку злева! Марш! — падаў узводны каманду.

І я выканаў апошні загад.

У траншэі некалькі байцоў ляжала на праходзе, і ўсе ў такіх позах, што твараў іхніх я не бачыў. На аднаго незнарок наступіў, звальваючыся ўніз, але ён не адсунуўся і нічога не сказаў. У тым сектарыку, які агляпуў я ў першы момант, стаяў ля бруствера толькі адзін баец і трымаў у руцэ звязку гранат.

— Бачыш? — спытаў ён, калі я стаў побач.— Зноў сунуцца!.. Быццам ведаюць, што ў нас тут самы слабы ўчастак.

— А што хлопцы?... Параненыя ці гэтак выкарыстоўваюць перадышку?

— Выкарыстоўваюць! — крыўдліва прамовіў баец і адвярнуўся ад мяне.— Была тут калі перадышка?.. Гэта ж табе не ў запасным палку!

— Адкуль вядома, што я з запаснога?

— Рукзак за плячамі... З хлебам...

— Як ты здагадаўся, што з хлебам?

— Па духу чую! Бяры гранаты, звязвай!.. Вунь у нішы!

З нашага тылу ўдарыла артылерыя, снарады пачалі рвацца ля варожых танкаў, і яны быццам прыпыніліся. Баец адвёў зрок ад поля бою і ўважлівей глянуў на мяне.

— Відаць, не мне вам загадваць,— крыху сумеўшыся, прамовіў ён,— а вы тут будзеце камандаваць. Мабыць, за камандзіра ўзвода прысланы?

— Не. За радавога,— адказаў я.— Так што можаш загадваць, табе відней, што тут трэба рабіць.

Баец яшчэ раз акінуў мяне з ног да галавы і недаверліва спытаў:

— А за што вас у радавыя?

— Ні за што,— спакойна адказаў я.— Трасучка схапіла ў дарозе, дык адстаў ад маршавай роты... Цяпер прыйшоў і адразу сюды.

— Паспелі на сваё,— цяжка ўздыхнуўшы, сказаў баец.— Вы адзін тут?

— Чаму ж адзін? Цэлы ўзвод скаціўся ў траншэі... Крыху правей адсюль. А ваш камандзір дзе?

— Добра не ведаю,— сумеўся баец.— Даўнавата яго не чутно, а тут ён дзе,— вольнай рукою баец

паказаў на дно траншэі,— ці параненым выбыў, не паспеў я заўважыць: усё з гранатамі стаю. Пэтээраўцаў сярод вас няма?

— Не відно было.

— І супрацьтанкавых гранат ні ў кога?

— Не бачыў. У мяне няма. Іх наогул яшчэ, мабыць, не выпускаюць.

— Выпускаюць! — запярэчыў баец.— Я чуў ад некага, калі ў абароне тут стаялі. Не з пляшкамі ж ісці на танкі!..

— Звязкамі будзем,— не зусім упэўнена паабяцаў я.— Добра, што звычайныя гранаты ёсць.

— Імі трэба толькі каб пад гусеніцу,— удакладніў баец.— Цяжка пацэліць...

— А вунь жа ляжыць падбіты «тыгр».

— Дык і баец наш там ляжыць,— сумна павedаміў мой сусед.— Я кінуў звязку... Грымнула, засланіла ўсё пылам і дымам, а танк ідзе — па скрыгату чуем. Тады Сцяпан, напарнік мой па кулямёту, выскачыў з траншэі і падпоўз пад самую гусеніцу...

Далей мы абодва нейкі час не маглі гаманіць: сусед мой зрабіў выгляд, што вельмі ўжо ўглядаецца ў варожыя танкі, а я пачаў шарыць вачыма па тым месцы, дзе загінуў Сцяпан. У вачах туманілася... Напэўна, у абодвух...

— Даўно стаіш тут? — улучыўшы момант, калі баец трошкі адхіліўся адназірання, спытаў я.

— З досвітку,— адказаў сусед. Голас быў ужо без трывогі, з пэўнай цвёрдасцю.— Спачатку «юнкерсы» пікіравалі амаль на самыя акопы, а потым атакі танкавыя... Вось ужо трэцяя насоўваецца... Трымаемся таму, што нашы саракапятчыкі малайцы: многа «тыграў» і «пантэраў» падбілі. Мы з кулямётаў, а бліжэй і з аўтаматаў жывую сілу іхнюю знішчалі. З гранатамі ішлі толькі на тых, што прарываліся і перлі проста на нас...

— Нашы тут загінулі ад снарадаў? — нібы навічок на вайне, спытаў я.

— Біў прамой наводкай,— паясніў баец.— З гармат і з буйнакаліберных кулямётаў. Амаль увесь бруствер разбураны. І кулямёты нашы... Мой «максім», а ў хлопцаў «дзегцяровы» — таксама выведзены са строю. Толькі гранат трохі асталося...

Хоць і засыпаныя былі... Адкапаліся, калі суседзяў сваіх адкопваў.

Я працягнуў руку ў нішу і нават вобмацкам вызначыў, што гранат там яшчэ мнагавата.

— А чым іх звязваць? — спытаў я, хоць і адчуваў недарэчнасць такога пытання. «Звязвай чым хочаш! — мог адказаць мой сусед.— Мазгуй сам! Дзяры на палосы свой рукзак!..»

Аднак баец нічога не сказаў. Ён выняў з кішэні шараварaў дзве вяровачкі, скручаныя з пасконня, і моўчкі працягнуў іх мне. Я хутка, без усякіх замінак, хоць рабіў гэта ўпершыню, звязаў два пакункі ручных супрацьпяхотных гранат, паклаў іх на той частцы бруствера, які збольшага ўцалеў.

— Звяжыце больш! — нібы загадаў, нібы папрасіў баец і падаў мне яшчэ некалькі вяровачак.— Ды пастойце хвіліначку за мяне, пакуль можна. У мяне ўжо ногі падкошваюцца.— Ён сеў на жоўты пясок ускрай сценкі траншэі і стомлена выцягнуў ногі ў жаўтаватых ад жвіру кірзавых ботах. Спінаю прытуліўся да сцяны траншэі і адкінуў галаву — пілотка ад гэтага насунулася на вочы. Мне заўважылася, што яго вочы раней заплюшчыліся, чым закрыліся пілоткай.

— Есці хочаш? — ціха спытаў я.

Баец нічога не адказаў і не падаў ніякага знаку: ні адмоўнага, ні дадатнага. Аднак калі я паднёс яму акрайчык перапечкі, то ўзяў у руку і адхіліў з вачэй пілотку.

— Дзякую вам,— прамовіў стрымана, але відно было, што са шчырасцю.— Можа, і сабе не пакінулі?

Я выставіў руку з такім жа акрайцам.

— Калі паспеем гэта з'есці,— жартаўліва загаварыў баец,— то яшчэ паваюем!

— Паспеем! — запэўніў я.— «Тыгры» быццам прыглушыліся там, баяцца нашых пушак.

Укусіўшы на поўны рот перапечкі, я паклаў рэшту ў нішу, побач з гранатамі, каб вызваліць рукі для важнай і неадкладнай работы — падрыхтоўкі звязак гранат. Перад тым, як укусіць яшчэ раз, забыў дзьмухнуць на акрайчык і неўзабаве адчуў на зубах жарсценне пяску. Аднак жа смак перапечкі не зменшыўся.

Што важней было ў гэтую хвіліну для майго суседа — падхарчавацца ці паспаць, цяжка было вызначыць. Мне здавалася, што ён прагнуў і да аднаго і да другога. Пілотка зноў навісла на вочы, але і перапечкі ён з рук не выпускаў і кусаў яе часта, нібыта баючыся траціць час на жаванне.

Ад варожых пазіцый пачуўся раскацісты гром недалёкіх залпаў, і снарады прагудзелі над нашымі галовамі. Потым залпы паўтараліся, але мы ўжо не ўслухоўваліся ў іх, а з трывогай сачылі, наколькі можна было ўлавіць вушамі, дзе падаюць варожыя снарады, ці не намацваюць яны наш перадавы рубеж.

— Па артылерыі б'юць! — упэўнена сказаў мой сусед.— Нашы саракапяткі хочуць прыдавіць. Значыцца, пойдуць танкі зноў.

Гаворачы спакойна, баец з такой паспешнасцю даядаў перапечку, што мяне апаноўвала трывога і міжвольнае чаканне нечага надзвычай небяспечнага. У той жа час хацелася зняць з плеч свой рукзак і выдаць суседу дабаўку.

...Рукі мае здрыганулiся ад моцнага, блізкага выбуху. Балюча сыпанула ў вочы пяском, дыханне сціснула, быццам заткнула атрутнай гаркатою. Працёршы рукавом вочы, убачыў ля сваіх ног недаедак перапечкі. «Мой гэта ці суседскі?» Неўзабаве адчуў, што мой у руцэ. Глянуў на суседа: ён больш нахіліўся да сцяны акопа і быццам вальготна адпачывае. Адпачывае, але не жуе... «Падаць яму недаедак?» Кідаюся да байца і заўважаю, што з яго правай скроні сочыцца кроў...

Мне хацелася б расказаць па парадку, што і далей было з намі абодвума, асабліва з маім суседам, але, на вялікі жаль, не магу гэтага ўспомніць: неўзабаве на пэўны час у мяне і ў самога не было памяці. Апрытомнеў я ў маленькім бліндажыку, па ўсіх кутках застаўленым тэлефоннымі апаратамі. Па камандах капітана, які там быў, я бесзразумеў, што гэта пункт сувязістаў. Капітан беспярапынна трымаў ля вуха трубку, прымаў паведамленні, загады і сам загадваў, не кідаючы трубкі: пасылаў сваіх сувязістаў то туды, то сюды на

сточванне праўдаю. Заўважыўшы, што я прыйшоў да памяці, загадаў:

— Не марудзь, сяржант! Калі можаш хоць варушыцца, то давай жмі ў медсанбат! Тут лагчынкаю прапаўзеш!..

«А як я трапіў сюды?» — хацелася мне спытаць у капітана. Ён нібы адчуў маё жаданне і сказаў сам:

— Няслі цябе санітары, кантужанага... Ды не данеслі. Тут такое пачалося... І лепшага не чакаць да ночы... Можа быць горш...

Я пацягнуў да сябе свой аўтамат і сабраўся выконваць загад капітана, але ён раптам прыпыніў мяне:

— Пачакай! Аўтамат пакінь тут! Нам спатрэбіцца! Вінтоўку вазьмі!.. Вунь стаіць каля ўсходцаў.

Вінтоўка здалася мне такой цяжкай, што, каб ускінуць яе на плячо, нельга было і думаць. Хіба толькі як-небудзь валачы побач з сабою па траве.

Я так і зрабіў. Выбраўшыся з бліндажа, папоўз па зялёнай канаўцы, відаць, адзіным шляху зносін для сувязістаў. Вінтоўку, як жардзіну па вадзе, цягнуў за сабою. Куды вяла сухая канаўка, добра не ведаў, толькі адчуваў, што далей ад самай перадавой лініі. Сустрэў сувязіста з катушкай тэлефоннага дроту за плячыма. Перш чым размінуцца, спытаў, куды вядзе канаўка.

— Куды вядзе, туды і прыпаўзеш, калі не прыхлопне мінаю! — падазрона азваўся сувязіст.— А ты што, паранены?

— Рана, мабыць, не цяжкая,— спадзеючыся на спагаду, адказаў я.— Левая рука не валодае. А вось кантузія!.. Ледзь ачомаўся ў вашым бліндажыку.

— А-а, дык гэта ты? — здагадаўся сувязіст.— Бачыў цябе!.. У фрыцаўскай касцы ляжаў... Нашы яшчэ там?

— Былі там... Але колькі часу паўзу, не магу вызначыць: у вачах жоўта, і ў галаве страшэнна шуміць.

— Ну паўзі, паўзі! — прамовіў сувязіст.— Там наперадзе — вада... Але глядзі не высоўвайся!.. Ухлопае адразу! Тут ён прарваўся ў адным мес-

цы... Паставіў куляметы з фланга... Каска трафейная ў цябе адкуль?

— Не ведаю. Мабыць, нашы надзелі, калі страціў пілотку.

— Ну паўзі, паўзі!.. Добра, што галавы не страціў!.. Патроны ёсць?

— Не магу праверыць... Адна рука...

— Давай сюды!

Сувязіст амаль вырваў у мяне вінтоўку, энергічна лязгануў затворам:

— Ёсць абойма! Мала. Даць яшчэ адну?

— Дзякую! — Я засунуў абойму ў верхнюю кішэню свае гімнасцёркі і папоўз далей.

— Глядзі ж трымайся! — сказаў сувязіст наўздагон.

«Мабыць, ненадзейны я для яго,— падумалася мне.— Вельмі разгублены, нерашучы... Валасы потныя, прылямчаныя... І рукзак за плячамі, як некалі торба з пастухоўскім полуднем...»

Уявіўся я сам сабе такім, і раптам сумна і прыкра стала на душы: «Можа, і сапраўды мне толькі ў кладоўцы стаяць ды хлеб разважваць. Быццам і не ваяваў я раней, не быў пад Барвенкавам і пад Растовам, не займаў абарону каля доміка Шолахава ў Вёшанскай, не паранены ў баях пад Сталінградам?»

Перабітае плячо стала горш балець, магчыма, ад трывожных думак. Левая рука зусім не валодае, нельга нават пальцамі паварушыць. Уся нагрузка на правай: і початка вінтоўкі, і падбароднік нямецкай каскі. «Ці здолею стрэліць адной рукою, калі спатрэбіцца?..»

Каску зняў з рукі і надзеў на галаву. Маскіроўка? Для варожага снайпера, можа, і так: тут сапраўды ўжо могуць быць і немцы. А для гарматы ці міномёта — разбору няма: варожая тэрыторыя, і ўсё. Нізіна скрозь перакапана снарадамі.

Вось і тая крынічка наперадзе, пра якую гаварыў сувязіст. Яе трэба перапаўзці, а мо пераплысці, не высоўваючыся з раўчука. Як перапраўляўся сувязіст — яго справа. Можа, ён і не лазіў на той бок крыніцы. А можа гэта балотца, а не крынічка?

Пацягнула вільготным халадком, калі я падпоўз зусім блізка да вады. На цёплых беражках вадаём-

чыка поўзалі пчолы. Яны знаходзілі тут нейкую спажыву для сябе. Калі ім можна жывіцца такой вадою, то і мне... Пацягнуў трошкі з-пад купінкі і адчуў у роце нешта цёплае і мылкае... «Не, не крынічка гэта!»

Перапаўзаць усё роўна трэба. Рызыкнуць, перабегчы берагам? Дык жа кулі свішчуць і асколкі ад снарадаў і мін. Відаць, прарваліся танкі ў наш фланг. Стаяць на нашых пазіцыях і перарэзваюць дарогу кулямётным і гарматным агнём. Адчуваецца, што далекавата стаяць, бо «смаляць» з усіх відаў зброі без асаблівага прыцэлу — снарады рвуцца на ўсёй нізіне, разрыўныя кулі буйнакаліbernага кулямёта трашчаць у сухім асоце і кустоўях лебяды па ўсёй тылавой плошчы. Варожыя мінамёты таксама б'юць здалёк, перанёсшы агонь з нашых пазіцый, бо інакшай ужо можна нашкодзіць сваім. Раўчука мінамётчыкі не бачаць і пакуль што не «намацваюць» яго. Калі ж хоць трошкі высунуцца з гэтага адзінага тут укрыцця, то наводчыкі «засякуць» і тады не ўратуешся.

Трэба як можна хутчэй вырывацца адсюль... І наперад, толькі наперад, хоць выбухі чуюцца і там. Страшней трапіць у палон, чым загінуць. Прыкрыўшыся сваімі гарматамі, могуць рынуцца сюды варожыя аўтаматчыкі, і тады як адаб'ешся ад іх з адной рукой ды толькі з дзвюма абоймамі?

...Плюхнула вада. Мне пачулася, што перада мною, але слыху свайму не паверыў: гэта, мабыць, пада мною, калі перакідваў вінтоўку сабе на плечы, каб не замачыць затвор. Зноў нешта плюхнула. Сапраўды перада мною — я ўзняў галаву і глянуў наперад. Гэтым жа раўчуком насустрач мне лэпаў, прыгнуўшыся, хлопец у форме нашага байца, але без ніякага галаўнóга ўбора і без зброі. Адна рука ў кісці заматана нейкім рыззём.

— Лажыся! — мабыць, па інстынкту самааховы (баец дэмаскіруе раўчук) скамандаваў я больш узмахам рукі, чым голасам, і наставіў на яго вінтоўку. Той паслухмяна лёг у лужу, толькі перавязаную руку трымаў над галавою: быццам уратоўваў яе ад вільгаці, быццам падаваў знак, што хоча здацца ў палон.

— Плыві сюды! — паказаў я руляю вінтоўкі.

Хлопец пачаў старанна ўпірацца вольнай рукою ў зялёны схіл раўчука і набліжацца да мяне. Вочы яго дзіка і спалохана ўставіліся ў рулю мае вінтоўкі, і бязвольнае, нібы паралізаванае, цела быццам само плыло да жудасна цёмнага і бясконца глыбокага прадоння смертаноснага ствала.

— Ты куды? — грозным шэптам спытаў я ў хлопца.

Яго вочы раптам збянтэжана замаргалі, і ў іх я ўлавіў іскрынку радасці:

— Вы хіба наш?.. Савецкі?..

— А ты чый?

— У вас каска нямецкая... І карабін...

— У мяне вінтоўка! Марш наперад! Перада мною!

— Дык там ужо нямецкія аўтаматчыкі...

— Марш! — прыкрыкнуў я і паварушыў вінтоўкай.— І не ўздумай дрэйфіць!..

Хлапец апусціў перавязаную руку, жвава перавярнуўся да мяне нагамі і, апіраючыся локцямі на белаватую ад вільгаці траву, імкліва папоўз, амаль паплыў туды, дзе, па яго словах, шнырвалі варожыя аўтаматчыкі. Я ледзь паспяваў за ім. Вада ў раўчуку была цёплая, і хоць адчувалася яна толькі жыватом і каленямі, усё ж насцярогу павялічвала: можа, дзе яма наперадзе ці якая міна неразарваная. На сушы не заўсёды ўбачыш, а пад вадою і пагатоў.

Мой затрыманы панікёр, відаць, не думаў пра гэта і гробся наперад на ўсю сваю моц і без ніякай асцярогі. Вядома ж, у яго была перавага ў тым, што ён ужо зведаў гэты раўчук. Наконт варожых аўтаматчыкаў наперадзе я верыў і не верыў. Калі ён мяне прыняў за немца, то магло і да гэтага штосьці памітусіцца ў яго зрэнках: у страху вочы вялікія.

Раптам мой «палоннік» супыніўся і, пагрузіўшы неперавязаную руку да самага локця ў ваду, азірнуўся на мяне. У гэты ж момант быццам над самымі вушамі грымнула адразу некалькі выбухаў. Не паспела адлегчы ў вушах, як выбухі паўтарыліся: яшчэ бліжэй, яшчэ мацней.

— Нашы «кацюшы»! — крыкнуў мой «палон-

нік», і ў яго зычным голасе я пачуў узнёслую радасць.

«Чаго радуецца? Гэтыя ж снарады могуць упасці і на нас». Але мне і самому стала радасна. Хацелася адказаць на бадзёры вокліч суседа самымі надзейнымі словамі і дараваць яму, можа, толькі імгненную слабінку ці разгубленасць, магчыма, папрасіць прабачэння за лішнюю падазронасць. Пэўна ж, абодва мы адчулі, што вораг далей не пройдзе, што адкоціцца ён назад з усімі сваімі «тыграмі» і «пантэрамі». Аднолькава адчулі.

Пацэліць наш снарад у мяне ці ў яго? Відаць, хопіць аднаго і на двух. Усяго два асколкі спатрэбяцца, каб астацца тут нам абодвум. Астацца навечна. Тым больш, што па некалькі асколкаў у нашых тканках ужо ёсць. Варожых, вядома. А тут свішчуць паўз вушы свае асколкі і таксама пагражаюць смерцю. Няўжо і так можна памерці?..

Быў выпадак у маім франтавым мінулым, што выклікаў я агонь артылерыі на варожыя пазіцыі, якія знаходзіліся зусім блізка ад нашай абароны. Даў пэўныя каардынаты, а наводчыкі трошкі не разлічылі і ўдарылі з недалётам — па нас саміх. Помню, тады я спалохаўся, страшна было чакаць смерці ад сваіх снарадаў. Цяпер чамусьці не страшна, бо не знікае ўпэўненасць, што свой снарад не закране свайго чалавека, а будзе знішчаць толькі ворага.

Відно, што гэтак жа думае і мой «палоннік». Як салдат, хоць, напэўна, і не доўгай службы, ён разумеў, што трэба як мага хутчэй выбірацца з агнявой зоны, і таму рушыў па канаўцы так, што аж пырскі пачалі ўзнімацца ад махання яго рук. Ужо і бінтоў на руцэ не было відно, мабыць, стаў грабціся і параненай рукою. Я з натугай паспяваў за ім... І ўсёй істотай адчуваў, як дрыжэла, як калацілася зямля ад выбухаў нашых снарадаў...

«Браткі наводчыкі! Далей трошкі вазьміце! Далей! Варожыя танкі за намі!.. Тыя, якіх мы не здолелі падбіць!..»

* * *

Другім разам апрытомнеў я ў медсанбаце. Напэўна, неўзабаве пасля таго, як мяне туды даставілі, бо пачуў нібы праз сон, як нехта нараспеў сказаў:

— Запа-а-слівы!.. Перапе-ечачка ў рукзаку!..— Голас жаночы, сакавіты, малады.

— І вінтоўка пры ім была,— дадаў нехта з мужчын.— Не толькі перапечка.

Калі расплюшчыў вочы, то адразу ўбачыў перад сабою ўзнятую ўгору руку з мокрай перавязкаю — яшчэ не паспелі замяніць бінты. Па гэтай руцэ пазнаў свайго «палонніка», ён сядзеў на ложку насупраць. Заўважыў, што я здзіўлена і падазрона гляджу на яго, падаўся тулавам да мяне, напэўна, збіраючыся нешта сказаць, але ў гэты час у дзвярах палаты пачуўся бойкі, амаль падлеткавы голас:

— Іваноў! На перавязку!

Потым такія ж бойкія і частыя крокі здрыганулі падлогу ля майго ложка, і я ўбачыў дзяўчынку з выгляду сапраўды школьнага ўзросту, а па гадах, то, можа, крыху старэйшую.

— Вы самі можаце ісці, Іваноў? — спытала яна ў майго суседа.

Той змераў вачыма худзенькую, кволенькую постаць ледзь не ўдвая абгорнутую белым халатам, і спагадліва ўсміхнуўся:

— А калі не магу, тады што?

— Памагу! — упэўнена сказала дзяўчына.

— Хадзем, хадзем! — памяркоўна прамовіў Іваноў і ўстаў з ложка, відаць, наўмысля выпрастаўся на ўвесь рост, каб паказаць, што дзяўчынка яшчэ і да пахі яго не дарасла і колькі такіх школьніц спатрэбілася б, калі б давялося нясці яго на насілках.

...Вярнуўся Іваноў з белай павязкай на шыі, адпушчанай да жывата, а ў гэтай павязцы ляжала туга і гладка забінтаваная левая рука. Хлапец прыціснуў руку да шырокага жывата, шчыльна абцягнутага свежай кашуляй — відаць, нялёгка было знайсці кашулю на такі рост,— а гледзячы на яго збоку, можна было падумаць, што ў чалавека забалеў жывот. На твары ж, аднак, не заўважалася ні-

якіх пакут: напэўна, і рука яго толькі шчымела ад ёдавай прачысткі, а вялікага болю не давала, бо рана там была павярхоўная. Што ж да жывата, то ён, калі трохі і ныў, дык толькі ад чакання абеду.

Памутнеў у хлапца пагляд толькі тады, калі ён, узлёгшы правым локцем на падушку, стаў глядзець на мяне. Глядзеў настырна, доўга не адводзіў вочы, быццам пранізваў мяне сваім зрокам. Я пакуль што не адзываўся на яго гэтае пранізванне і не вельмі паказваў, што адчуваю яго пагляд. Інтуітыўна здагадваўся, што Іванову не па душы маё апрытомванне. Магчыма, ён яшчэ сумняваецца — сапраўды так адбылося ці гэта толькі часовае прабуджэнне? Мабыць, чуў перад гэтым, што ўрачы шапталіся каля мяне даволі трывожна і адзін з іх вельмі ж безнадзейна заківаў галавою.

Гэтае ўрачоўскае шаптанне над маёй галавою ўжо трохі чуў і я, але не мог разабраць, хто дзе шэпчацца і аб чым. А сусед, пэўна ж, услухоўваўся ў словы ўрачоў і, мабыць, больш за іх хацеў вызначыць мой лёс. Калі чалавек не прачнецца, то разам з ім навечна ка́не ў ваду і ўсё тое, што нядаўна адбылося ў зялёным раўчуку. Калі ж адыдзе кантузія, то, напэўна, запросіць да сябе прадстаўніка адпаведнага аддзела і раскажа ўсё, як было.

— А як вы самі потым уратаваліся? — можа спытаць афіцыйны прадстаўнік.

І вось мы абодва ў адной палаце.

Іваноў, напэўна, мог бы адказаць на гэтае пытанне, а для мяне пакуль што ўсё пакрыта густым і цёмным туманам, нават часткова і тое, што было да залпаў нашых «кацюшаў». Толькі адчуванне радасці захавалася, яно і цяпер пануе ў свядомасці: «Хоць і глухата ў вушах ад сваіх снарадаў, абы перамога заваёвана!»

Іваноў устае, садзіцца каля задняга пярыла свайго ложка, бліжэй да мяне, і спагадліва пытае:

— Як сябе адчуваеце? — І не чакае адказу, а высвятляе абставіны далей: — Вы пазнаеце мяне? Вядома ж, пазнаеце! А калі сумняваецеся, то скажу сам, што я той самы... Сапраўды той, на каго вы настаўлялі вінтоўку. Было такое няшчаснае зацямненне мазгоў у мяне...

— А дзе мая вінтоўка цяпер? — спытаў я і свай-

го голасу не пачуў. Толькі ў вушах нешта заскрыпела, загуло.

— Я прынёс яе сюды,— спакойна паведаміў Іваноў.— І руказак таксама. Вы крыху адсталі ад мяне там, у раўчуку. Вас засыпала выбухам, а мяне не. Я вярнуўся ў тую варонку, што з'явілася на тым месцы, дзе хвіліну назад былі вы. А мог бы не вярнуцца... Як вы думаеце?

— Калі б мог, то не вярнуўся б,— заўважыў я.— Навошта гэта падкрэсліваць?

— Сапраўды, навошта? — згадзіўся Іваноў.— Вярнуўся я і адкапаў вас, аглушанага... А потым і вінтоўку вашу знайшоў... І руказак... Толькі нямецкую каску не шукаў. Ляжаў потым побач з вамі ў варонцы... Намацваў пульс і спадзяваўся на адно: адцягне кантузію зямля-матка і вы будзеце жыць. Злёгку прысыпаў вас зямлёю і зверху. І сам прысыпаўся, каб які шалёны асколак не зачапіў. Крыху аддыхаўшыся, пацёг вас па раўчуку далей, пакуль не сустрэліся свае... Цяжкавата было з адной рукою: і вінтоўка, і руказак, і вы...

Да мяне зайшоў урач у суправаджэнні той жа малалеткавай медсястры — гаворка з Івановым прыпынілася.

— Што, з адной часці? — спытаў урач Іванова і паказаў вачыма на мяне. Іваноў патупіўся і маўчаў, а я адказаў, што ў апошнім баі былі разам.

— О, дык мы ўжо і размаўляем! — узнёсла прамовіў урач.— І чуем усё! Дайце, дайце-ка ваш пульс!

Урач правёў пальцамі па маёй аголенай руцэ — шырокі рукаў кашулі сам сабою закасаўся,— адразу намацаў пульс і задаволена паківаў галавой.

— Рана ваша як? — спытаў з цікавасцю.— Баліць? — І не чакаючы майго адказу, звярнуўся да медсястры: — Калі перавязвалі?

Дзяўчына сумелася, бо яна мяне не перавязвала, а Іваноў сказаў:

— Іх у дарозе перавязалі, бо крыватюк быў.

— Крывацячэнне? — перапытаў урач. І загадаў сястры: — Дагаварыцеся з перавязачнай і зараз жа вазьміце! Самі ісці зможаце? — звярнуўся да мяне.

— Паможам! — сказаў Іваноў.

— Ну вось!.. І ўсё будзе добра! — упэўнена пра-

мовіў урач, устаўшы з майго ложка.— Малайцы вы абодва! Спадзяюся, што хутка будзеце даганяць сваю часць.

Урач бадзёра, шырокімі крокамі падаўся да дзвярэй, а медсястра-школьніца дробненька пашлёпала за ім.

Наша палата — зусім маленькая, хоць і прадаўгаватая, з адным вузкім акном, з якога не знята драцяная пераплётка. Відаць, нейкая кладоўка раней тут была. Пасля таго, як пайшлі ўрач і медсястра, у нас стала так ціха, што нават дыханне адзін аднаго мы добра чулі. У такіх умовах нават з незнаёмым загаворыш, калі не спіш ці не задыхаешся ад болю. А тут зручны выпадак узнавіць размову з суседам, пакуль не прыйшлі браць мяне на перавязку. Рупіла даведацца, што хлопец адчуваў, калі падымаў угору руку перад нямецкай каскаю. Але Іваноў апярэдзіў мяне, ціха прамовіў:

— Дзякую вам!.. Шчыра дзякую!..

— За што? — пацікавіўся я.

— За тое, што ваявалі разам са мною ў апошнім баі. Так вы сказалі ўрачу.

— Мы яшчэ паваюем,— памяркоўна заўважыў я.

Іваноў парывіста выставіў абедзве рукі да дзвярэй,— там нехта ўжо шлёпаў тапачкамі, і хлапец нібыта хацеў прытрымаць дзверы, каб хоць хвілінку не перашкаджалі,— загаварыў паўшэптам, але адчайна, з болем, з трывогай і, як мне адчулася, зусім шчыра:

— Каб вы ведалі, каб паверылі, як гэтага я хачу! Жыццё маё ў тым, каб пад вашым вокам, пад кулі ды пад снарады!.. Каб вы пераканаліся, што не здраднік я і не палахлівец!.. Не абпалены яшчэ, не абстраляны... Гэта праўда! Мяне з партызанаў мабілізавалі. Але ў партызаны я сам пайшоў, добраахвотна, хоць дома заставалася адна старая маці. Там не даводзілася часта хадзіць у атаку, але на заданні хадзіў і заўсёды выконваў загад.

— І чаму ж усё-такі?..— нагадаў я, даючы хлапцу зразумець, што нядаўняе здарэнне не знікла з мае памяці, а тым больш з душы.— Табе здалося,

што няма іншага выхаду, ці параліч нейкі памутніў мазгі?.. Мне проста цікава, пра што ты думаў, што адчуваў у тую крытычную хвіліну, калі падняў руку перад нямецкай каскай.

— Мне здалося, што варожыя аўтаматчыкі акружылі мяне.

— Здалося, ці сапраўды дарога была перакрыта?

— Мільгалі перада мною такія ж каскі, як і ў вас.

— То я ж не немец, бачыш! Можа, і там былі нашы хлопцы. Нямецкія каскі цяпер усюды валяюцца.

— Мне падумалася, што немцы.

— Ну, а далей?

— Сам не памятаю, што далей. Мабыць, спалох адолеў — страшна стала гінуць...

— А чаму быў без вінтоўкі?

— Не далі мне, калі адпраўлялі з перадавой, да медсанбата блізка.

Мне ўжо стала падумвацца пра свой рукзак і ладны кавалак перапечкі ў ім, бо падмацавання харчовага нам чамусьці не прыносілі: магчыма, раздатчыцы ненаўмысля праміналі нашу палату. Памкнуўся я спытаць у суседа, дзе ён паклаў мой рукзак, і ў гэты час пачуў голас нібы з-пад ложка: хлапец зноў загаварыў сабе пад коўдру:

— Што зрабілі б вы ў тых крытычных абставінах, я чамусьці добра ўяўляю. Немцы з флангаў, немцы кругом, а ў вас вінтоўка ў адной руцэ... Пяць патронаў у абойме, а запасу няма... Вам не далі запасу, бо не ў атаку пасылалі, а ў медсанбат. Чатыры кулі выпусцілі, а што рабіць з пятай?.. Гранат на поясе не было — сам пераканаўся, калі цягнуў вас. Пятую кулю вы трымаеце да апошняга. І верыце, што пераможаце... Моцна верыце ў сваю перамогу, хоць і з адной куляй... А я тады страціў веру... На адзін момант пахіснуўся і лічы, што загінуў, хоць і жывы цяпер.

— Не загінуў,— запярэчыў я.

— А навошта жыць далей з такою плямаю на душы?

— Мы яшчэ паваюем! — паўтарыў я сказанае раней.

— Адзін вы знаеце пра маё нядаўняе замарачэнне,— гаварыў далей хлапец.— А мне ўяўляецца, што ўвесь свет ведае пра гэта. І галоўнае тут — я сам ведаю. Адзіны мой паратунак цяпер уяўляецца мне — зноў апынуцца ў мокрым раўчуку з вашай вінтоўкай у адной руцэ, з адной апошняй куляй у абойме супраць сотняў варожых куль, нацэленых у маё пераноссе, у галаву, у грудзі... І не страціць веры ў перамогу, у жыццё...

— Ты не ведаеш, дзе мой рукзак? — перабіў я развагі суседа.— Там у ім крыху перапечкі было.

— У вашай тумбачцы,— ахвотна і з нейкай аблёгкай адказаў Іваноў.— Я паклаў яго туды. Дастаць?

Іваноў сеў на мой белы зэдлік, а я пачаў аднаруч развязваць свой рукзак. Ад яго пахла лугавой травою, торфам і ўжо нечым медыцынскім, запазычаным у тумбачцы. Макраваты вузел моцна зацiснуўся, і я адной рукою не мог яго развязаць. Хлапец памог мне. Рукзак шырока расхінуўся, і адтуль запахла ячнай перапечкай. Хораша запахла і свежа.

Прыціснуўшы ражок акрайца сваім падбародкам, я разламаў хлеб папалам. На маю шыю і на расхлістаныя грудзі пасыпаліся ўжо чарстваватыя крышынкі. Аддаўшы палавіну акрайца суседу, а сваю паклаўшы побач на падушку, я стаў згортваць з сябе крышынкі, каб па нашай колішняй хатняй завядзёнцы ўсыпаць іх у рот. І ў гэты момант адчуў пальцамі, што адна крышынка быццам бы залішне сухая і цвёрдая. Паднёс да вачэй і жахнуўся: гэта быў асколак ад снарада.

— Ён жа мог быць і ў сэрцы,— смачна ўмінаючы перапечку, жалліва прамовіў Іваноў.— І ў лёгкіх мог быць...— Раптам войкнуў і шырока адкрыў рот, перастаў жаваць. Двума пальцамі палез у рот і выцягнуў адтуль яшчэ адзін асколак, большы за той, што ўпаў мне на грудзі. Паклаў жалезінку сабе на далонь... Цяпер ужо не гэтак шкодную, як раней, а небяспечную толькі тым, што магла паламаць зубы. Доўга і ўважліва разглядваў асколак, а жаваць не пакідаў. І без ніякай асцярогі, без недаверу да перапечкі, а быццам яшчэ з большай павагай да яе

і пашанай. Зжоўваў і пракоўтваў адзін кавалак перапечкі, адкусваў другі. Адкусваў смела, упэўнена і жаваў так цвёрда і заўзята, што здавалася, ніякі асколак не вытрымае, раструшчыцца ў яго зубах.

Я наталяў сваё прагаладанне з большай асцярогай: смачная перапечка, памятная і дарагая мне яшчэ і тым, што ўзяла на сябе мае асколкі. Але ж і зубоў было шкада. Жаваў мякішок і з прыемнай цеплынёй на душы ўспамінаў тую бабульку, якая спякла і падаравала мне гэтую перапечку.

## Частка першая

Па местачковай вуліцы спакойна і самавіта патупвала каза. Падышоўшы да ваенкамата, яна спынілася каля грузавой машыны, накрытай брызентам. Па ўсёй вуліцы ніякай пашы для казы не было, а каля ваенкамата і пагатоў: тут усё ўсюды вытаптана, уціснута або разварочана коламі і пакрыта густым пылам. Можа, таму казе і заманулася паспрабаваць смак брызенту, а заадно — сцягнуць яго з машыны ды пацікаваць: што там ім накрыта? Яна стала на дыбкі і ўлавіла барадатым ротам той, ужо і да гэтага размахручаны і нібы пажаваны, рог брызенту, які звісаў з борта машыны і злёгку матляўся на ветры.

Падбегла бабка з лазовым дубцом у руцэ: з-за машыны я і не заўважыў, адкуль яна вынырнула. Замахнулася на казу, мерачыся выцяць па кароткім хвасце, ды пашкадавала жывёліну, толькі дакранулася лазою да шэрай поўсці. Каза мацней пацягнула за казённую накрыўку, але не сцягнула яе зусім і апусцілася на пярэднія ногі, таму ні мясцовая бабка, ні я, зусім не мясцовы, не даведаліся, што ляжала ў ваенкамацкай машыне. Бабка пагнала жывёліну дадому: каза не супраціўлялася, часамі нават узнімалася на бег, і, калі трапляла на лапінкі яшчэ цэлага старога бруку, я чуў, як дробна цокалі яе капыты.

Міжвольна злавіў сябе на тым, што мне прыемна глядзець на гэтую бабку з лазовым дубцом у руцэ і на яе казу. Прыемна і нават крышку зайздросна. Вось яны прыгоняцца або, скажам лепш, добрай воляй прыйдуць дадому, абмяняюцца пяшчотнымі дабротамі: бабка дасць казе пойла, а каза бабцы — малака, і пасля гэтага абедзве пойдуць на адпачынак. Як кожным адвячоркам летняга дня... І спаць будуць спакойна і бестурботна, як кожную ноч...

А мне дык яшчэ і невядома, давядзецца ў гэтую ноч адпачыць хоць хвіліну ці, можа, і не давядзецца. Бабка з казою падавалі надзею на лепшае: калі яны такія спакойныя, то і ўсё навакол павінна быць спакойна. Машына з брызентам каля ваенкамата? Дык што? Яе нават і не пільнуе ніхто. Можа, так куды збіраліся людзі ды не паехалі? Можа, шафёр іхні захварэў ці перапіўся? Быў жа я нядаўна ў ваенкамаце, браўся на часовы ўлік, як адпускны з выпадку аперацыі ў назе. Узялі на ўлік і ні слова не сказалі пра эвакуацыю...

Вечарэе. Ціха ў мястэчку, і здаецца, што нібыта залішне маўкліва. Пасля знікнення бабкі з казою — ніводнага чалавека на гэтай вуліцы. Яе накрыж перасякае другая вуліца, доўгая і ўжо цёмная ў канцы. На ёй таксама зусім ціха, і ніякага святла ні ў адным акне. Няўжо людзі так рана паклаліся спаць? Ці проста пазашываліся ў хаты і моўчкі сядзяць, нечага чакаюць?..

У маленькай раённай гасцініцы — Доме калгасніка — таксама цёмна. Там адпачывае некалькі чалавек з Мінска. Не камандзіровачных, а тых, што намерыліся эвакуіравацца са сталіцы, бо туды ўжо налятаді варожыя самалёты. Дык што, калі выпадкова і наляцелі?! Іх жа адагналі нашы лётчыкі!

У гасцініцы, у адным утульным куточку, адпачывае і мая жонка, Таня. Прытамілася, ідучы са мною ад самага шклозавода. І я адчуў знямогу, таму што ўсю дарогу клыпаў з кіёчкам у руцэ — швы на назе яшчэ балелі.

Мне трэба было ісці ў Клічаў, бо Асіповіцкі ваенкамат, які быў значна бліжэй ад шклозавода, на мае тэлефонныя званкі не адказваў. Потым нехта з мясцовых прызыўнікоў паведаміў, што той ваенкамат ужо эвакуіраваўся.

Ну дык і што, калі эвакуіраваўся? Паспяшаліся людзі, паддаліся паніцы! Клічаўскі ваенкамат вось жа і не думае эвакуіравацца! І добра, што я цяпер на ўліку тут, а не ў Асіповічах.

Адпачне Таня, і я крыху замгну дзе-небудзь на лавачцы, а потым пад світанне, калі ўсё будзе добра, рушым дадому, да яе бацькоў. Я толькі што прыехаў да іх з адпускнымі дакументамі, радаваўся, што адпачну, тут падлячу нагу, якую пашкодзіў

на вучэбных скачках у кавалерыйскім палку. І вось адразу ж радыё: «Нямецкія фашысты напалі на нашу Радзіму!..»

Тані не надта і трэба было ісці са мною ў Клічаў, але яна не рашылася пусціць мяне кульгавага ў далёкую дарогу — ад шклозавода да Клічава больш дваццаці кіламетраў. Меркавалася, што возьмемся на вайсковы ўлік і вернемся.

Так яно і павінна быць! Баі ідуць недзе на граніцы, дык жа — далёка ад шклозавода, вельмі далёка! «Чужой зямлі мы не хочам, але і сваёй зямлі, ніводнай пядзі сваёй зямлі не аддадзім нікому!»

Праўда, учора фашысцкі самалёт скінуў бомбу каля шклозавода, на чыгуначны мост цераз Бярэзіну. Скінуў, ды не пацэліў! Трасцу яму!.. Наляцелі нашы знішчальнікі...

Паспяшаліся асіповіцкія ваенкаматчыкі! А можа, яны ад'ехалі куды, каб там спакайней праводзіць мабілізацыю? Вораг не дапне да Асіповіч! Выхварае!..

Перад вечарам бачылі з Таняю паветраны бой. Над самым Клічавам. Два нямецкія знішчальнікі супраць нашага бамбардзіроўшчыка. Усе клічаўцы высыпалі на вуліцу. Калі задыміўся варожы самалёт і пачаў падаць, людзі рынуліся ў той бок, яшчэ, можа, і не ведаючы чаго, не разумеючы сваёй мэты.

У небе працягваўся адчайны паядынак. Потым задыміліся абодва самалёты і сталі зніжацца ў другім канцы мястэчка. Людзі не ведалі, куды бегчы...

Праз некаторы час на вуліцы з'явілася палутарка з трыма параненымі лётчыкамі. У аднаго з іх была забінтавана галава, а ў астатніх бінты бялелі ў каго дзе: у першага пад расшпіленай гімнасцёркай на ключыцы, у другога — з-пад закасанага рукава на локці. Машына спынілася каля ваенкамата, і адразу ж яе акружылі клічаўцы. Усе радаваліся, што лётчыкі-героі збілі два фашысцкія самалёты і самі асталіся жывымі, нават не вельмі цяжка параненымі. Ніхто з іх не ляжаў у кузаве, а ўсе сядзелі і размаўлялі з людзьмі бадзёра і ўпэўнена, часам нават жартавалі.

Машына падышла да мястэчковай сталовай, і шафёр у цывільнай вопратцы, відаць, мясцовы, апусціў борт кузава. Лётчыкі пачалі злазіць. Мы з

Таняй падышлі бліжэй, каб памагчы ім, але падтрымка спатрэбілася толькі таму лётчыку, у якога была перавязана галава.

Увесь экіпаж пайшоў у сталовую абедаць. Паходка ў хлопцаў роўная, спакойная: ніякай вайны нідзе няма і ніякага паветранага бою над Клічавам не было — проста з манеўраў ваенныя прыехалі...

Я ўспомніў, што і Таня нічога зранку не ела, пацягнуў яе ў сталовую.

— Няёмка,— засумнявалася яна.— Там жа лётчыкі-героі!

— Яны хлопцы свае,— пераконваў я.— Мы ім замінаць не будзем.

Клічаўцы ў сталовую не пайшлі, але ад лётчыцкай машыны не адыходзілі. Некаторыя, больш цікаўныя, спрабавалі апытаць шафёра:

— Дзе ўпаў самалёт?

— Як ураталіся лётчыкі?

— Куды яны цяпер паедуць?

Аднак вадзіцель, пажылы ўжо дзядзька, відаць, па сваёй інтуіцыі адчуваў, што залішняя даверлівасць тут не да месца, і трымаў язык за зубамі. На большасць запытанняў або зусім не адказваў і толькі пакручваў падстрыжанай «пад вожыка» галавою, або сцвярджаў, што нічога не ведае: вось спатрэбілася, дык падаў машыну.

У сталовай смачна пахла квашанай капустай і смажанінай. Афіцыянткі ў белых фартушках падавалі добры, наварысты боршч, густы, жоўты ад тлустай падліўкі гуляш і свіныя адбіўныя. Лётчыкі выбралі лепшае з гэтага, разбавілі шчодрую тлустасць страў трыма стопкамі гарэлкі, якія з вялікай павагай падала ім афіцыянтка, і сталі ўсмак, але моўчкі налягаць на густую, трохі аздобленую бураком і бульбай капусту, на адборныя, як для герояў, пахучыя і яшчэ гарачыя выразкі свініны. Праз нейкі час перапыніліся, і адзін з іх, той, што паранены ў руку, раптам весела і бестурботна засмяяўся і валявіта паглядзеў у той бок, дзе бялеў кароткі фартух афіцыянткі. Тая адразу ж падбегла да іхняга стала.

— Яшчэ тры па сто! — сказаў лётчык і, быццам для большай выразнасці, паказаў гэта пальцамі.

Забінтаваная галава раптам нязгодліва закру-

цілася, нібы з-пад самага бінту пачуўся ціхі голас:

— Не трэба, хлопцы! Не той час!

...Лётчыкі некуды паехалі, пройдзе некалькі дзён, і яны зноў стануць у строй. А ў мяне заныла пад сэрцам, ды ўжо каторы раз: чаму выпала так, што сам выбыў са строю?! І хто ведае, на які час, калі здолею вярнуцца?.. Калі быў у клічаўскага ваенкома, ён паклікаў да сябе ўрача з медкамісіі, загадаў мне разуцца і паказаць ёй — гэта была пажылая жанчына — усе свае швы і рубцы на назе. Урач не толькі поўнасцю пацвердзіла мае шпітальныя дакументы, а наогул забараніла мне хадзіць і вельмі здзіўлялася, калі я сказаў, што прыйшоў са шклозавода пехатою.

— Гэта ж такая адлегласць! — абуралася яна.— Як вы маглі?..

— Далекавата,— згадзіўся я.

— Вы губіце сябе! Так можаце астацца без нагі!

Райваенком, з дзвюма шпаламі на чырвоных пятліцах, спачувальна паківаў мне галавою і сказаў:

— Следуйце, старшы сяржант, дадому і спакойна праводзьце там свой паложаны водпуск. Калі ўзнікне неабходнасць, паведамім!

Пакуль тое ды другое, пачало змяркацца. Ісці дадому ноччу мы не рашыліся, і вось я паддзяжурваю на клічаўскіх вуліцах. Сухі, змешаны з гноем і розным мястэчковым брудам пясок пашорхвае ў мяне пад ботамі. Ад маруднага, запаволенага кроку ледзь чутна падзынькваюць у цішы мае шпоры. Я іх не зняў, бо яны так хораша ўлягліся, нібы прыраслі да абцасаў, так аздаблялі ўдала падабраныя на складзе юхтавыя боты, што часам уяўлялася мне: боты без шпораў — гэта не боты, а так, нейкая нязграбнасць пехацінская. Кавалерыя падабалася мне яшчэ і тым, што там не насілі абмотак.

...Гудзяць, ныюць жылы ў назе, і на сон пачало хіліць. Але са сном дык можна саўладаць, тут вайсковы вопыт ёсць, займеўся за два гады службы. А вось нага можа і самлець, падкасіцца — трэба недзе сесці, пасядзець, даць ёй адпачынак. Прадоўжная, крыжам ад ваенкамата вуліца амаль скрозь вясковая: без бруку, без тратуараў, а розніцца ад вясковай, мабыць, толькі тым, што нідзе не знай-

дзеш лавачкі ля двара, ды яшчэ — пад засенню магутнай, разгалістай таполі або ліпы, як у маёй роднай вёсцы. Сядзеш, бывала, на тую лаўку — надзейны цень у цябе над галавою ў самы спякотны дзень, ніводная кропля не ўпадзе за каўнер, калі раптам пачнецца дождж. А тут нават і прысадаў амаль што няма.

Чаму давялося паддзяжурваць? Дзеля чаго? Калі адчуваеш, што асаблівай трывогі няма, то ідзі ў гасцініцу ды адпачывай да золаку.

Уся бяда ў тым, што такой упэўненасці ў мяне не было. Магчыма, вайсковая звычка не дазваляла пакідаць пост, хоць ён і добраахвотны, але хутчэй за ўсё — інтуітыўнае прадчуванне раптоўнай нечаканасці не давала спакою. Ваенкамацкая машына, накрытая брызентам, падмацняла гэты неспакой. Яна ўсё яшчэ стаяла ля ганка, і брызент пачынаў прыпадаць цёплай расою. Калі б мясцовая каза не пажавала яго і не спрабавала сцягнуць, то, відаць, мяне самога падмыла б на гэта: машыну і ноччу ніхто на вуліцы не ахоўваў. Але не хацелася праяўляць залішнюю цікаўнасць. Тым больш, што калі я падыходзіў да ваенкамата, то заўважаў, што ў адным бакавым акне ледзь прыкметна бліщчэў агеньчык, напэўна, прабіваючыся скрозь шчыльную занавеску. Казу дзяжурны ваенкаматчык мог і не заўважыць, а вось пачні сам пароцца ў кузаве, то можа і ўзняць трывогу.

Каля аднаго цёмнага будыначка, падобнага на свіран, але з пакатымі прыступкамі ганка, што вытыркнуўся амаль на сярэдзіну вуліцы, пачуўся слабы, ледзь улоўны пах хлеба. Яшчэ не глянуўшы на будынак — ён ужо амаль поўнасцю патануў у вільготнай цемры,— я зразумеў, што гэта той самы хлебны магазінчык, можа, адзіны ў мястэчку, ля якога ўдзень тоўпілася многа людзей. І на гэтых прыступках тапталіся людзі, вядома ж — не лавачкі. Пяску і бруду — тоўсты слой, але мне давялося сесці тут, бо не прымошчвацца ж вайсковаму чалавеку дзе-небудзь пад плотам.

Пах хлеба стаў перамешвацца з гаркаватым водарам драсёну, які, мабыць, буяў непадалёку. Міжвольна ўявілася, якімі змрочнымі выходзілі з мага-

зіна, якое гора адчувалі тыя людзі, каму хлеба ўчора не хапіла. Асабліва бежанцы з Мінска.

— Перада мною апошнюю баханку аддалі,— жалліва скардзіўся лысы чалавек з саламяным капелюшом у руках. Нават акрайчыка не асталося.

— А можа, і асталося! — пачуўся рэзкі жаночы голас.— Хіба яны аддадуць апошняе?

— Можа, і не аддадуць,— згадзіўся чалавек.

Пакрыўджаны пакупнік, відно было, што ён з бежанцаў, стаяў у натоўпе воддаль ад нас з Таняй і відзён быў нам толькі са спіны і трохі збоку. Аднак Таня адразу кранула мяне за руку і ціха сказала:

— Гэта ж дэкан нашага факультэта! Помніш?

Высокая, сутулая спіна ў тую хвіліну павярнулася, і я ўбачыў, што чалавек сапраўды знаёмы, толькі вельмі змяніўся з твару: пахудзеў і пастарэў, на плоскіх, апалых шчоках тырчала і ледзь не паблісквала срэбрам кароткае, пругкае шчацінне. Вочы заглыбіліся, а павекі слязліва пачырванелі. Ён глянуў на мяне, таму што яго суседка, залішне маж-ная і з выгляду занадта злосная жанчына, выставіла ў мой бок руку і стала гучна і ўладарна патрабаваць:

— А вось ваенны!.. Нават камандзір, здаецца!.. Давайце папросім!.. Ды што прасіць! Даручым яму праверыць магазін! Я ўпэўнена, што там яшчэ ёсць хлеб! Для сябе хаваюць!

Чалавек даверліва падаўся да мяне, потым нібы збянтэжыўся, узяў капялюш у зубы і стаў разгублена лэпаць доўгімі далонямі па кішэнях шэрага, з запыленымі плечукамі пінжака. Знайшоў акуляры ў тонкай пазалочанай аправе, абедзвюма рукамі нацягнуў іх на вочы.

— Пачакайце, пачакайце...— няўпэўнена прамовіў ён, накінуўшы капялюш на лысіну,— нешта мне здаецца... Вы наш студэнт? Антошын, калі не памыляюся?

— Дык вось жа! — падхапіла жанчына і таксама падышла бліжэй.— І я цяпер бачу, што наш, хоць вы наўрад ці памятаеце мяне: у хімлабараторыі працавала. Таварыш Антошын! Памажыце нам праверыць гэтых ашуканцаў! У людзей такая бяда, а яны... Мы выскачылі з Мінска як стаялі... Нават

дадому забегчы не змаглі, бо там ужо ўсё гарэла.

Жанчыны гэтай я сапраўды не ведаў, а свайго былога дэкана пазнаў, як толькі ён павярнуўся да нас. Да здзіўлення асунуўся чалавек за мінулыя два гады... А можа, не так за гады, як за мінулыя суткі...

— Правяраць магазіншчыкаў няёмка,— сказаў я, крыху здзіўлена паглядваючы больш на жанчыну, чым на дэкана, чалавека вельмі блізкага па колішніх сустрэчах на літфаку і ўсё ж, мабыць, далекаватага па ўласцівасцях душы.— Права такога ў нас няма, а галоўнае — хацелася б верыць клічаўцам: няўжо яны будуць утойваць хлеб ад людзей, якія трапілі ў бяду?

— Што ж нам рабіць?.. Што рабіць? — ужо ледзь не заплакала жанчына.— Хоць ты з голаду памірай! У нас няма ніякага правіянту... А калі і тут не дастанем?..

Дэкан маўчаў, апусціўшы галаву так нізка, што калі б не гарбінка на носе, то акуляры, напэўна, упалі б у пясок. Я міжвольна ступіў паўкрока бліжэй з намерам адразу падняць акуляры, калі яны ўпадуць, і падаць пажылому, відаць, нашчэнт знясіленаму нечаканай бядой чалавеку. Яго маўклівасць і бязвольная ссутуленасць выклікалі спагаду: мне вельмі хацелася б падняць яго акуляры, нават выцерці іх, калі набяруцца пяску... А што яшчэ зрабіць яму добрае, карыснае? Не так жанчыне, якая выцірае хусцінкай ужо заплаканыя вочы, як менавіта яму, чалавеку, з якім на працягу некалькіх год сустракаліся амаль штодзённа? Канечне ж, дастаць хлеба!

Пакуль што я не ведаў, куды падацца, куды рынуцца, якія захады прыняць, але вельмі яскрава адчуваў, што павінен зрабіць, можа, нават нешта надзвычайнае, каб памагчы дэкану. Магчыма, у гэтым і ёсць мая першая задача ваеннага часу.

— Давай папросім у сталовай,— шапнула мне Таня.— Калі яшчэ адкрыта.

Сапраўды! Калі адкрыта! Абедалі там параненыя лётчыкі — ім нічога не шкадавалі. Чаго ні папрасіў, таксама падалі. Афіцыянткі такія спаважлівыя, памяркоўныя. Можа, і буфетчыца паспачувае вайскавіку.

— Пойдзем са мною! — рашуча прапанаваў я свайму беламу начальству.

— Куды? — пацікавілася жанчына.— Другога хлебнага магазіна, здаецца, няма.

А дэкан і тут не азваўся словам, быццам не пачуў маёй прапановы, аднак адразу рушыў следам за намі.

Сталовая была ўжо закрыта. Няўдача моцным болем адазвалася ў мяне пад сэрцам, але рашучасць у гэты момант пераадольвала ўсё: я не паказваў ніякай разгубленасці, я гатоў быў хоць дзверы выламаць, каб апынуцца там, адкуль і цяпер струменіла пахам смажаніны і капуснай квашанкі.

Не меўшы пакуль што нічога надзейнага, я загадаў мінчанам і нават Тані чакаць мяне на вуліцы, а сам падаўся ў двор сталовай. Праз некаторы час вярнуўся адтуль з дзвюма баханкамі хлеба і папяровым скруткам, з якога ішоў рэзкі водар добра аздобленых цыбуляй і часнаком катлет.

— Халодныя,— нібы просячы прабачэння ў нашых знаёмых, сказала Таня.— Але што зробіш?

— Дык і гэта нам? — узрадавалася жанчына.— Нічога, што халодныя! Нічога!..

Як мне ўдалося здабыць такую правізію, расказваць не хацелася, ды мінчан гэта і не цікавіла, а толькі Таня раз-пораз заглядвала мне ў вочы і быццам збіралася спытаць:

«Няўжо ты прымусіў людзей аддаць табе столькі харчоў?»

«Не, не прымусіў,— адказаў я вачамі.— Самі паспагадалі».

Прыціскаючы свежую баханку да ўпалых грудзей, дэкан нізка нахіліў перада мною больш запыленую, чым пасівелую на скронях і на патыліцы галаву, працягнуў мне руку.

І вось цяпер ужо колькі разоў успамінаецца мне гэтае далёкае ад штучнасці і прафесійнай традыцыйнасці нахіленне. Ён некалі нізка нахіляўся над кафедрай, калі чытаў нам лекцыі па гісторыі партыі. У звычным нахіленні ён аднойчы стаяў за афіцыйнай трыбунай і разносіў нас з Таняй за тое, што мы адкрыта і настойліва выступілі за правядзенне дзяржаўных экзаменаў на нашым курсе, а

большасць студэнтаў былі супраць іх, бо адкрывалася магчымасць атрымаць прызначэнні без экзаменаў і без атэстатаў, а толькі з часовымі даведкамі. Дэкан спачатку стаяў за экзамены, потым пачаў хістацца, потым паддаўся большасці і займеў непавагу да нас. Забыўся і аб тым, што сярод той большасці, якая выступала супраць экзаменаў, якраз больш за палавіну было слабых студэнтаў, якія баяліся экзаменаў.

Усе тыя нахіленні былі іншымі, зусім не падобнымі на цяперашняе ўпадзяку за хлеб.

Пах хлеба з магазіна, на прыступках якога я сядзеў, яшчэ раз нагадаў мне пра нядаўнюю сустрэчу з дэканам ды пра некаторыя эпізоды студэнцкага жыцця, хоць часам і не радасныя, а ўсё роўна незабыўныя і любыя сэрцу. Вельмі даўнімі яны здаюцца цяпер, далёкімі, незваротнымі...

Дэкан з баханкай хлеба на грудзях таксама запомніцца мне надоўга. Цяпер, прытуліўшыся на прыступках, я амаль што цешыўся тым, што ўдалося памагчы чалавеку. Магчыма, толькі дзеля гэтага варта было прыходзіць у Клічаў.

...Прыдрамнуць бы і самому... Шынель пры мне. Можна і прылегчы тут, пакуль вартаўніка няма. Шынель пад бок, шынялём і накрыцца. Але ж і так цёпла, быццам нават душнавата. Камары пачынаюць збірацца, гудуць, звіняць каля вушэй. Хутка іх процьма наляціць сюды: чалавека яны чуюць здалёк.

...Нейчы голас данёсся быццам бы з канца вуліцы. А можа, камары зазвінелі гуртам і патрывожылі вуха... Яно толькі злёгку прыкрыта каўняром шынял. У спрасонні гэта падалося адчайным дзіцячым крыкам. Я адхіліў шынель, стаў прыслухоўвацца. Камары дзынкалі спакойна, не пагражальна, быццам толькі лашчачыся, і ніякай трывогі не стваралі.

Крык паўтарыўся ўжо бліжэй. Я ўсхапіўся, падскакам выбег на сярэдзіну вуліцы, стаў углядацца ў той канец, адкуль пачуўся голас. Вячэрні змрок быў густы, і нельга было нікога ўбачыць.

— Немцы ў Нясяце! — нарэшце пачуў я ўжо зусім блізка. І ў той жа момант убачыў, што з пры-

леснага канца вуліцы насустрач мне бяжыць вясковы хлапчук, без шапкі, у расхрыстанай світцы, і раз-пораз, у вялікай адчайнасці і трывозе, паўтарае гэтыя страшныя словы:

— Немцы ў Нясяце!

Я ведаў, што недзе тут ёсць станцыя Нясята, але дзе яна — не ўяўляў.

— У Нясяце танкі нямецкія! — паведаміў хлапчук, падбегшы да мяне.— Многа танкаў! І матацыклы! — намагаўся ён давесці, напэўна, як ваеннаму чалавеку.— Бяда, бяда!..

І пабег далей.

— Колькі да Нясяты? — спытаў я наўздагон. Але хлапец не адказаў, мабыць, не пачуў майго запытання.

У каго ж даведацца? Дзе тут каго знайсці?

Адчайны і панічны голас начнога апавяшчальніка ўсё аддаляўся ад мяне і, напэўна, даляцеў ужо да ваенкамата. А там тэлефонная сувязь, там павінны ведаць, праўду хлапчук выкрыквае ці здуру наводзіць паніку. Калі гэта якая правакацыя ці проста дурнота — можа, хлапец здурнеў з перапалоху, то гэтак усё і прымецца. Калі ж што іншае?..

Я ледзь не забыў пра свае швы наназе і з усяго спрыту падаўся да ваенкамата. Насустрач нехта зашлёпаў па пяску, падобна — лапцямі. Твар у твар насустрэўся з дзядулем звышпаважанага ўзросту: такому ўжо і хадзіць наўрад ці можна, а ён, стары небарака, хоць і хрыпла дыхаў, але намагаўся разпораз падбягаць. Дзед быў у кажусе і ў зімовай шапцы-вушанцы. Шапка, відаць, ужо доўга служыла яму і так паднасілася, што не трымаліся на падшыўцы не толькі надвушнікі, але і сам налобнік. Ён апусціўся ледзь не на нос старому і таму прыкрываў вочы, напэўна ж, і без гэтага падслепаватыя.

Дзед траха не наткнуўся на мяне. Разгледзеўшы вайсковую форму, адступіў назад, адхіліў налобнік.

— Я гэта... Вось сюды... Да магазіна... Вартаўніком я тут!..

Задышка не давала яму гаварыць, густа аброслы белай шчэццю рот шырока разяўляўся пры вы-

дыху і шчыльна стульваўся пры ўдыху. Стары быццам бы зусім задыхаўся.

— Дык чаго вы так спяшаецеся? — прыязна спытаў я.— Ля магазіна ўсё спакойна, толькі што быў там.

— Пазнюся я... Разумееце?.. Вы ўжо даруйце мне, старому... Унучка дома расплакалася, а мацеры няма...

— Я, дзеду, не патрульны і нават не тутэйшы... Мне тут... Адным словам, чулі вы, як крычаў тут адзін?

— Ды сустрэў яго... І чуў, чуў!.. Ён у нас трохі мехам выцяты, але, можа, і праўду выгуквае. Бог яго ведае... А магазін трэба пільнаваць... Заўтра свежы хлеб прывязуць...

Стары памкнуўся шыбаваць далей, але я на хвілінку затрымаў яго.

— Скажыце, дзядуля, гэтая самая Нясята, пра якую ён крычаў, далёка адсюль?

— Ды вось яна! — ужо з трывожным сумненнем прамовіў дзед. І махнуў рукою ў канец вуліцы.— Зусім блізка, усяго сем вярстоў адсюль.

Гэта ўзрушыла мяне горш, чым панічныя крыкі хлапчука. Калі гэта праўда, то недзе на світанні немцы будуць тут. Старога вартаўніка ля магазіна яны могуць і не заўважыць, а вось ваеннага на вуліцы... Апаліла жудаснае ўяўленне аб пагібелі не ў баі, не ў акопах, а каля клічаўскага ваенкамата... І яшчэ горшае — трапіць у лапы фашыстаў жывым... Ды не аднаму, а з Таняй... Яна, можа, нават і спакойна адпачывае ў гасцініцы... Хлапчуковага крыку не чула...

Няхай адпачывае!.. Вось хутка высветлім у ваенкамаце, што там здарылася. Магчыма, хлапчуку нешта падалося... Ніякіх немцаў у Нясяце няма... І не могуць яны там быць... Паблізу баёў не было... Наша абарона яшчэ далёка ад Клічава...

Каля ваенкамата яшчэ пахла перагарам бензіну ад нядаўняга газавання аўтамашыны... Ля самага ганка, на незабрукаванай палосцы,— глыбокі след ад новага грузавога ската: ён не толькі бачыўся, ён нават намацваўся нагамі. Дзверы ў вузкі цёмны калідорчык, дзе нядаўна давялося з цяжкасцю разбі-

раць шыльды некалькіх кабінетаў, былі адчынены і паціху матляліся, нібы іх пакалыхваў лёгкі вецер. Але ж ветру не было. Я зразумеў, што ваенкаматаўцы толькі што рушылі, нават не паспеўшы зачыніць службовыя дзверы.

...На скрыжаванне спавольна выйшаў вялікі, адкормлены кот, відаць, са сталовай. Увесь чорны. А можа, і шэры, ды здаўся мне чорным у змроку. У гэтыя хвіліны ўсё ўяўлялася чорным, нават будынкі ваенкамата і гасцініцы. Кот пастаяў на скрыжаванні, потым, нібы ад уцехі, што ніхто і нішто яму цяпер не перашкаджае, сеў тут і стаў ляніва пакручваць шыяй і пабліскваць вачамі. Заўважыў мяне, напэўна, адзінага бяздомка на ўвесь Клічаў, спыніў пранізлівыя глядзелкі на мне, але з месца не зрушыўся.

— Ну і сядзі тут, пакуль сядзіцца,— сказаў я кату.— Ты ўжо, напэўна, выспаўся і паспіш яшчэ, калі захочаш... Ніякай трывогі ў цябе няма.

Кот неўзабаве пабег і знік недзе за плотам, а я адчуў сябе зусім адзінокім і ў гэты момант не ведаў, што вырашыць, што рабіць. Раптоўнае і надзвычай спешнае знікненне клічаўскіх ваенкаматаўцаў, вядома ж, не стасавалася з той ціхай спакойнасцю, якая панавала ў начны час у мястэчку, але гэтая спакойнасць не ўяўлялася мне зусім трагічнай: можа, па службе куды выехалі? Упэўненая разважнасць ката зноў жа схіляла да лепшых думак: жывёліна, асабліва хатняя, чуе бяду дачасна.

...І ўсё ж такі збег кот са скрыжавання. Няўжо пачуў тое, што мне яшчэ не чутно і не відно?

Праз нейкую хвіліну ці дзве падалося, што быццам нешта заляскатала ў канцы той вуліцы, якая вяла на Нясяту. Няўжо кот пачуў гэта раней? А можа, ашукаўся і мяне ашуквае: у вушах маіх нешта змянілася. Выйшаў на скрыжаванне, на тое месца, дзе нядаўна сядзеў кот, прыслухаўся: сапраўды нехта ехаў па прасёлкавай дарозе. Грукату не чутно, бо пясок тут усюды, і ляскат калёс раз-пораз даносіўся.

«Можа, калгаснікі вязуць што-небудзь з поля?»

Пайшоў вуліцаю насустрач невядомым фурманкам. Хто б ні ехаў адтуль, з-пад Нясяты, то ўсё ж больш ведае, як гэты хлапчук, што нарабіў трывогі.

Нагаласіў, напалохаў і знік. Дзе ён цяпер? Магчыма, дабег да свае хаты і супакоіўся, спіць цяпер.

Выйшаўшы на сярэдзіну вуліцы, я стаў напружана ўглядацца ў начны змрок, каб хутчэй вызначыць, хто едзе насустрач, і раптам імгненнае і вельмі рэзкае святло, быццам нечаканай маланкай, паласнула мне па вачах.

— Хто там? — неўзабаве данёсся патрабавальны голас.— Бягом ка мне!

Бегчы-то я не пабег, але крок паскорыў. Мяне сустрэў вайсковец з наганам у руцэ. Яшчэ раз бліснуў у твар ліхтарыкам, асвяціў сінія пятліцы.

— Кавалерыя? Чаго ты тут, сяржант?

Я моўчкі паказаў адпускныя дакументы і закрочыў побач з вайскоўцам. Ён ішоў уперадзе паравонкі. Чорныя ў змроку коні, а на самай справе, відаць, гнядыя, цяжка дыхалі ад натугі, бо везлі па пяску даволі доўгую, як мне здалося, дальнабойную гармату. За ёй віднеліся яшчэ коні ў спараных запрэжках. Першую пару я добра бачыў, тым больш, што ў аднаго каня была забелінка на лбе: яна быццам падсвечвала дарогу. Астатнія фурманкі вызначаліся сілуэтамі, але я ўжо добра ўяўляў, што гэта за абоз.

— Адступаеце? — шэптам спытаў я ў вайскоўца. Зблізку мне ўжо відно было, што гэта не малы камандзір: па тры эмалевыя квадрацікі былі ў яго на цёмных пятліцах і па тры ўгольныя палоскі на рукавах гімнасцёркі.

— Не адступаем, а выконваем план перадыслакацыі,— не ў тон мне, але даволі гучна адказаў старшы лейтэнант і паклаў наган у кабуру. Потым бліснуў ліхтарыкам на чатырохкутнік палявой карты, што была ў яго пад слюдой планшэта, і рэзка спытаў:

— Гэта Клічаў?

Я пацвердзіў. І спытаў пра Нясяту: ці праўда, што там немцы?

— Што такое Нясята? — перапытаў камандзір.— Станцыя, што за намі? Адкуль вядома, што там немцы?

— Крычаў тут адзін, бегучы па вуліцы.

— Паніку наводзіш, сяржант! Глядзі, а то я магу даставіць куды следавает!

— Ніякая дастаўка мне не страшна,— абыякава адказаў я і ўважлівей паглядзеў на лейтэнанта. Па ўзросту ён быў не старэйшы за мяне, але звяртаўся на «ты» па той грубаватай субардынацыі, якая ў тыя часы бытавала ў некаторых воінскіх часцях.

Мяне падмывала сказаць яму тое, што я думаў наконт яго так званай перадыслакацыі: ці ведаеш сам, куды вязеш гарматы? Але ў той жа момант падумалася пра Таню, якую ледзь упрасіў хоць крышку адпачыць у гасцініцы, пераканаў, што ноч будзе спакойнай, а там, можа, і дзень нічога кепскага не прынясе, і мы вернемся дадому. Пачаў я самым ласкавым тонам прасіць лейтэнанта сказаць мне праўду аб гэтым сектары фронту, бо нейкай інтуіцыяй улаўліваў, што чалавек ён не жорсткі.

— У мяне тут жонка ў гасцініцы... Разумееце? І там многа людзей, бежанцаў з Мінска... Што ім сказаць? Я астаўся дзяжурыць ноччу пры ваенкамаце... Абяцалі ўзяць мяне ў выпадку эвакуацыі. Але зніклі раптоўна... Што ж мне рабіць, часова нестраявому? Не трапляць жа фашыстам у палон.

— Трэба адступаць, сяржант! — нібы загадаў вайсковец.— І неадкладна! На світанні акупанты могуць быць тут!

* * *

Кіёчак гнуўся, калі я мацней абапіраўся на яго, спяшаючыся ў гасцініцу. Ён лазовы. Шукаючы па дарозе сюды, з чаго б выразаць сабе падпорку і падспорку ў хадзе, спыніўся каля вялікага куста лазы. Тут хоць пяць кійкоў можна было выразаць, бо найбольш роўныя сцяблiны былі жоўтыя і крыху падсохлыя: нехта садраў з іх кару яшчэ вясною. На цэлую пáру лапцей з аднаго куста. Вядома ж, лепш для кійка — маладая бярозка або клянок, дубок, ды сухімі такія дрэўцы не трапляліся, а з лісцем шкада было іх зрэзваць.

Бег я па клічаўскім пяску, як толькі мог пры маіх швах на галёнцы. Чым больш набліжаўся да цёмнага будынка гасцініцы, тым мацней адольвалі мяне трывога і няпэўнасць маіх асабістых рашэнняў: сказаць Тані ўсё, што пачуў ад вайскоўца, і

неадкладна падавацца ў дарогу разам? А можа, усё ж такі ўгаварыць яе вярнуцца дадому, пакуль яшчэ не зусім закрыта дарога. Хто пра гэта ведае? Калі фашысты прыйшлі ў Нясяту, то, магчыма, ужо занялі і той пасёлак пры шклозаводзе, у якім жылі Таніны бацькі.

Мучыла назойлівае і страшнае ўяўленне, хоць, можа, і дачаснае, што акупанты ўжо абпорваюць і абшукваюць сціплую кватэрку, абмацваюць і абнюхваюць той куток, дзе яшчэ мінулай ноччу так добра спалася. Можа, і асталося там што-небудзь з вайсковых рэчаў: запасная сарочка, напрыклад. Добра, калі паспелі яе прыхаваць...

У гасцініцы паўнютка начлежнікаў. Спяць людзі не толькі ў пакоях, а па ўсіх кутках і нават пасярэдзіне вузкага і цёмнага калідора. Прабрацца да таго пакойчыка, дзе адпачывала Таня, і не закрануць нікога, не патрывожыць, было амаль немагчыма. Прыгнуўшыся над ляжачымі ледзь не ўпокат людзьмі, я асцярожна, дзе кіёчкам, дзе рукою, намацваў месца, куды можна ступіць, часам пераступаў цераз клункі, вузлы і чамаданы. Усе, як на нейкую бяду, спалі моцна, нібы хто снатворнага ім падсыпаў: ні адзін начлежнік не паварушыўся ад майго дотыку, не падаў голасу, ні аб чым не спытаў.

Таня не спала. Яе пакойчык быў адчынены, і яна чула, што нехта прабіраецца па калідоры. І, відаць, была ўпэўнена, што гэта я, бо прыўзнялася насустрач, як толькі мне ўдалося пераадолець апошнюю перашкоду (у пакойчыку таксама спалі людзі на падлозе) і наблізіцца да яе ложка.

— Што, пойдзем? — спытала яна, быццам увесь час ведала, што іначай і быць не можа, што каб адпачыць да світання абаім — нават і думаць нельга.

— Пойдзем,— ціха адказаў я.

Павага да людскога спакою засцерагала мяне ад лішняга руху ці гуку — не хацелася нікога будзіць. Аднак на суседнім ложку раптам нехта паварушыўся, трывожна ўздыхнуў, і потым адтуль пачулася прыглушанае запытанне жанчыны:

— Няўжо немцы?

— На жаль, так,— амаль прашаптаў я, нібы толькі для яе адной.

— Дзясанты гэтыя ці як?.. Што ж нам рабіць?..

Яна жвава ўзнялася, расштурхала некага побач з сабою і стала паспешліва збірацца.

— Не дэсант, а варожыя танкі ў Нясяце,— удакладніў я, адчуваючы, што ад мяне, як ад вайскоўца, яна чакае поўнай праўды.

Прабірацца да выхаду было лягчэй.

— Немцы ў Нясяце! — абвяшчала жанчына кожнаму, хто замінаў на дарозе. І людзі ў трывозе ўставалі, хапаліся за свае клункі.

— Зноў паніка! — пачуўся з кутка раздражнёны і прыглушаны сном мужчынскі голас.— І колькі гэтых панікёраў развялося! Вось я вазьму цябе, языкастую, за шкірку ды адвяду куды трэба!

— А ты дрыхні, калі не верыш,— рэзка адказала жанчына.— Я добрым людзям кажу, а не табе!

* * *

Усе клічаўскія сцежкі-дарожкі выводзілі на Магілёўскую шашу, але мы не пайшлі следам за людзьмі, а ўзяліся на прасёлкавую дарогу, паралельную шашы, і далей увесь час трымаліся бакавых сцяжын. Гэта вымагалася перш за ўсё тым, што мне трэба было часта адпачываць у дарозе, каб суцішаць балючую млявасць у назе. А дзе прыпынішся на шашы, калі цяпер там ледзь не ўвесь свет! Макаваму зярняці няма дзе ўпасці — скрозь машыны, танкі, фурманкі... І людзі, людзі... Цэлыя натоўпы людзей!.. Усе падаюцца да Дняпра. Далей вораг не пойдзе!.. Далей яго не пусцяць.

І Таня верыла, што далей ворага не пусцяць.

— Нам бы хоць да Цяцерына!..

Што такое Цяцерын у нашым жыцці? Гэта маленькае мястэчка, дзе мы абое працавалі ў школе: яна ў пятых-сёмых класах, а я — у восьмых-дзевятых. Абое вялі ўрокі мовы і літаратуры. Першыя крокі самастойнай дзейнасці, першыя радасці сумеснага жыцця... Мне часам здавалася, што ці не залішне многа шчасця прывальвала нам тады? Любімая работа, харошы калектыў у школе, поўны дастатак матэрыяльны, вельмі нязвычны для нядаўніх студэнтаў. Галоўнае ж — найлепшы лад і

шчырасць між намі. Увесь час мы адчувалі, што іначай нават існаваць не здолеем. Калі мне часам снілася, што мяне кудысьці пасылаюць, а Таня астаецца адна, то прачынаўся ў халодным поце і трымцеў ад жаху і спалоху.

Наша школа стаяла на зялёным узгорку, пад якім цякла чыстая, вясёлая рэчка Друць. Ад былой фальваркоўскай сядзібы тут асталося некалькі старажытных ліп. Яны раслі цяпер не ў стройных радах, а дзе якой удалося ўцалець, таму цень ад іх на захадзе сонца падаў на школу разнастайна: дзе на акно, дзе на дзверы, а дзе — на стары чарапічны дах. Шэры, змрачнаваты будынак яшчэ больш змрачнеў ад гэтага.

Сцежка ў школу ішла праз вялікі эмтээсаўскі сад. Кожную раніцу бег я па гэтай сцяжынцы і ног пад сабою не чуў, нібы дзіўныя крылы няслі мяне да самага рачнога беражка, скрозь зялёнага, чароўна зацішанага чаратамі.

У адну такую раніцу ў цемнаватым калідоры школы, каля адзінага акна, стаяў з папкаю ў руках сакратар Цяцерынскага сельсавета і нешта выдаваў пад распіску маладзейшым настаўнікам.

«Можа, зарплату?» — падумалася мне, і ўзнёсласці яшчэ прыбавілася.

— Вось і вам!..— сказаў сакратар, калі я падышоў бліжэй.— Распішыцеся ў атрыманні!

Гэта былі не грошы! Гэта была позва з ваенкамата!..

Сельсавецкі выканавец чамусьці ўсміхнуўся, уручаючы мне афіцыйны лісток. Што тут смешнае? Хіба толькі тое, што рука ў мяне задрыжала, калі прымаў позву...

Канечне ж, не соладка гэта, хоць і правамерна. Меў я адтэрміноўку па прызыву, як студэнт... Войскі нашы ўжо рушылі ў вызваленчы паход пад Польшчу... Дык позва ў ваенкамат павінна была чакацца з дня на дзень. Але ж няхай бы самога сакратара сельсавета, гэтага дыстрофіка, паклікалі ў ваенкамат на другі месяц пасля жаніцьбы! Паглядзець бы, як у яго затрымцелі б рукі!..

...Дома я не паказваў ваенкамацкага загаду. Думалася, што хоць на які дзень яшчэ захаваю наш сямейны спакой. Няхай Таня пакуль што не ведае!

Але яна дазналася адразу... Праз некалькі дзён праводзіла мяне, учарнелая ад гора і пакуты...

Цяпер сустрэла амаль праз два гады. Таго самага, ды з кіёчкам у руках...

«Няхай хоць з кіёчкам, ды пабудзе са мною, хоць некалькі дзянькоў!..»

Дык вось жа — вайна!..

— Нам бы да Цяцерына! — паўтарае Таня.— Развіднее, то будзем пытаць у людзей, як найпрасцей узяцца... Ты акрыяў бы там, пакуль водпуск... Немцы не дапнуць туды?.. Нашы не пусцяць?

...Жаба плюхнула ў лужыну, калі мы сышлі на абочыну дарогі, каб хоць хвілінку адпачыць.

— Балотца тут,— сказала Таня.— Можа, яшчэ крышку пройдзем?

— Не магу.

Яна больш не пыталася. Яна ведала, што калі я спыніўся, то сапраўды не было ўжо сілы ісці далей.

Купіна пад нагамі? Няхай сабе купіна, абы сухая. Мы сяк-так умясціліся. Я адчуў пад бокам бажарсткаватую мякаць балотнага моху. Запахла багуном. Ведаў, што ад яго баліць галава, але ж за якую хвіліну не забаліць. Выцягнуў балючую нагу, абцас бота патануў у вадзе. Нічога! Абы назе лягчэй, не так ные. Адгудзе крыху, і пойдзем далей. З кіёчкам, з падпоркай...

Таня шукае сухога месцейка, каб пакласці свой клуначак і каб ён быў мне за падушку. Сама не кладзецца. Адчуваю, што яна баіцца тут засынаць: жабы ўсюды. А могуць быць і гадзюкі. Я ж засынаю адразу.

Ведаю, што нават за хвіліну майго адпачынку Таня ахвяравала б усім, аднак неўзабаве чую, што яна мяне будзіць:

— Уставай, Васілька, уставай!..

Расплюшчваю вочы і бачу над сабою альховае лісце і жвавую, непаседлівую птушачку між ім. Нейкім цудам птушачка трымаецца, як жук, пад лістом і вышуквае там сабе спажыву. Значыць, ужо развіднівае, значыць, не адразу пачала будзіць мяне Таня. А здавалася, што я толькі-толькі звёў вочы...

— Ты чуў? — запытвае Таня. І глядзіць на мяне спалохана і роспачна. У вачах — шкадоўля, што пе-

рарвала мне сон, не дала адпачыць, хоць трохі набрацца сілы.

— Нічога не чуў. А што?

— Бамбілі Клічаў. Вунь паглядзі!

Прыўзняўшыся, я глянуў у той бок, адкуль мы нядаўна выйшлі. Там шырокім, няроўным зарывам шугала полымя і густы, чорны дым вялізнымі клубамі ўздымаўся ўгору, быццам імкнуўся зліцца з ціхімі золкавымі аблокамі. Ды не ўдавалася чужароднаму дыму, змешанаму з гарэлінай варожых фугасаў, дасягнуць летніх, недажджлівых воблачкаў. Яны быццам адштурхоўвалі дым ад сябе і прымушалі яго зноў згушчацца і падаць на зямлю.

Хоць і за лесам быў Клічаў і мы ўжо далекавата адышліся ад яго, але дым ад пажару быў відзён. І пэўна ж, у Клічаве быў гэты пажар, больш за намі ніякіх паселішчаў не было.

— І выбухі ты чула? — спытаў я ў Тані.

— Я думала, што і ты чуў,— адказала яна.— Ды не мог прачнуцца ад стомленасці. Моцныя былі выбухі. Мне здавалася, што нават тут зямля калацілася.

— Што ж там гарыць?..

Таня маўчала. Адкуль ёй ведаць, што там загарэлася, куды немцы кідалі бомбы. Ваенкамат на плошчы... Даўно пусты... Гасцініца... Дзякуй богу, яна таксама павінна быць пустая: добра, што ўдалося папярэдзіць начлежнікаў.

— Ніякіх там ваенных аб'ектаў...— пачаў быў даводзіць я вайсковую логіку, але адчуў няёмкасць ад сваіх слоў: якая там логіка, які там сэнс? Па дарозе ў Клічаў даводзілася назіраць, як варожы самалёт пікіраваў на звычайную вясковую фурманку.

Мне адчувалася, што пра тое ж думае і Таня. Скінулі бомбы на гасцініцу... А там не было ніводнага ваеннага... Там спалі бежанцы, абяздоленыя ліхалеццем людзі. Колькі іх загінула б ад адной бомбы?!

Купіна пад намі і то быццам абжылася, прыгрэлася, падсохла. Нават шкада яе пакідаць... А людзі вымушаны былі пакінуць свае самыя блізкія, самыя родныя куткі, часам не паспеўшы і развітацца з імі. Прытуліліся ў дарозе, яшчэ не далёка ад родных

мясцін... Засыналі з надзеяй, хоць і вельмі няпэўнай, але ўсё ж усцешнай, што надыдзе новы дзень і прынясе шчасце: можа, з'явіцца магчымасць вярнуцца дадому...

Таня не гаварыла мне пра гэта ні ў Клічаве, ні да Клічава, аднак я ўвесь час адчуваў, што і ў яе недзе глыбока ў душы не застывала спадзяванне вярнуцца ў родны кут. Вядома ж, не адной, а са мною...

Пажар у Клічаве... Гарэла гасцініца... Гарэў, напэўна, той ложак, тая ацепленая целам пасцелька, на якой, колькі таму часу назад, Таня адпачывала... Знік назаўсёды часовы, нечаканы ўтулак. Можа, і дамашняга кутка ўжо няма?.. І ўсіх родных, што асталіся там...

Пажар у Клічаве... Чорныя клубы дыму быццам даплывалі да той купіны, на якой давялося прыпыніцца... Быццам нават пах дыму адчуваўся... Горкі, прыкры, жудасны... І ён, мабыць, выціснуў з Танінай душы апошні промнік надзеі на хуткі зварот дадому...

— Магчыма, што ўжо і немцы ў Клічаве,— ціха гаворыць Таня.

Яна не падспешвае мяне ўставаць і ісці, але я сам разумею, што марудзіць нельга, што калі не прыкласці ўсе намаганні, каб хутка аддаліцца ад гэтых месц, то вораг па шашы можа апярэдзіць нас. Тады... Што тады, я ў тыя часы не надта ведаў, стараўся не думаць пра гэта, аднак і калі сядзелі на купіне, і пазней мне ўяўлялася пры такіх думках нешта да чарнаты ў вачах змрочнае і жудаснае. І ўсё ж не пагібельнае, не смяртэльнае!.. Паміраць мне не хацелася, і нават думкі пра гэта адляталі прэч. Я адчуваў, што і Таня да роспачы не даходзіла, хоць трывожылася, часам нібы гублялася. Яна пакутавала больш за мяне, і я гэта адчуваў на кожным кроку. Ні яна, ні я не маглі тады па-сапраўднаму ўявіць, што такое акупацыя. Чорная навала пагражала мільёнам людзей, бо, вядома ж, не ўсе паспеюць эвакуіравацца. Якая небяспека пагражае мільёнам, такая і яшчэ аднаму цывільнаму чалавеку. А вось што азначае палон для савецкага воіна, тут увесь адказ заплываў жудасцю, змрокам і мучыў душу балючай крыўдай: чаму нам абаім столькі няшчасцяў выпала? І ўсе адразу, ледзь не наніз-

валіся адно на адно. Самае цяжэйшае — мая небаяздольнасць у такі суровы час. Салдат перад ворагам!.. На сваёй зямлі, але перад ворагам. І без ніякай зброі! Старшына нашай палкавой школы прыняў па ведамасці і здаў на боесклад мой карабін, начышчаны да ўнушальна-грознага бляску і густа змазаны ружэйным маслам. Забраў ён таксама і мой клінок, які ўдалося мне зручна падабраць на боескладзе: не надта доўгі, якраз па майму росту, і не надта цяжкі, якраз па маёй руцэ. Прыдзірліва аглядваючы перад водпускам маё выхадное абмундзіраванне, гэты ж старшына стаў узырвацца і на мае блішчастыя шпоры, загадаў зняць.

— Курсанту такія не паложаны!

— А якія ж?

— Радавыя, а ў цябе камандзірскія!

Я не выканаў гэты загад старшыны.

Цяпер успомніўся мне наш старшына з маёй зброяй у руках. Не малады ўжо, з вялікай па гадах выслугай і таму з немалым ваенным вопытам, хоць і вельмі аднабаковым. Мая насцярога да яго з'явілася пасля таго, як ён аднойчы зрабіў мне заўвагу:

— Чаму вы кажэтэ: разрешите пройти! Трэба — разрэшитэ пройты!

Насцярога потым змянілася непавагай за тое, што ён за дзесяць год службы ў арміі не засвоіў нават самых хадавых рускіх выразаў, а заўсёды гаварыў: рукамы, нагамы, пальца́мы. Годнасць чалавечую ён вызначаў толькі па воінскіх званнях, і мая асвета ды прыхільнасць да чытання, калі дзе выпадала хвілінка, выклікала ў яго злосную насмешку і здзекі.

— Эй ты, высокая абразаванія! — назырыўся ён аднойчы на мяне.— Вазьмі вунь тую вязку саломы ды занясі ў стайню!

А вязку тую і дваім цяжка было б падняць.

Цяпер крыўда на старшыну нібыта затухала, усё асабістае пачынала адыходзіць у нейкую недасягальную далечыню і там расплывалася, патанала ў бяздонні. Душу запаланяў горычны боль ад таго, што цяпер надарылася, а яшчэ горш ад таго, што сам не паправіш гэтага, не прадухіліш, не падасі руку дапамогі сваім саслужыўцам, якія, напэўна, лоб у лоб сутыкнуліся з ворагам.

У нашым эскадроне штодзённа і строга па графіку «р-рубілі» лазу і не надта думалі пра вайну. За ўсю службу толькі адзін раз мне давялося пачуць пераканаўчую ісціну, што ваяваць нам давядзецца. Сказаў мне гэта адзін малапрыкметны камандзір узвода, быццам бы па сакрэту. А старшына ў тыя часы дастаўляў лазовыя дубцы на палігон і, напэўна ж, лічыў, што робіць самую важную справу.

Што ён робіць цяпер, калі ўвесь полк пайшоў на вайну? Ніколі не бачыў я, каб ён браў у рукі клінок ці карабін. Магчыма, і ў сядле трымацца не мог, бо калі трэба было куды ехаць, то запрагаў коней у старую кулямётную тачанку.

Раптам уявілася мне, што яго калымагу перавярнула выбуховай хваляй. Коні ўзвіліся на дыбкі, рванулі ўбок, потым застылі ад асколкаў, а старшына нейкім цудам ўратаваўся пад калёсамі. І доўга не вылазіў адтуль, напэўна, баяўся, бо чуў над сабою гул варожых самалётаў.

А калі б я апынуўся побач з ім?.. Памагаць гэтаму чалавеку ці не памагаць?.. Можа, і ў яго трапіў асколак?

Лепш не задумвацца, і ў той жа момант кінуцца на выручку. Ці памог бы ён, калі б я апынуўся ў падобных абставінах? Відаць, памог бы, але з новай абразай. І чамусьці зусім выразна прагучаў у маіх вушах яго фальцэтны здзеклівы голас: «Эх ты, высокая абразаванія!»

Мы ішлі з Таняй, ішлі... Як маглі, колькі мелі сілы, аддаляліся ад ворага... А мяне ўвесь час адольвала думка, што ўцякалі мы, а не проста ішлі. Ну, няхай Таня, дык яна цывільная. А якое права маю я ўцякаць ад ворага? Кавалерыст, малодшы камандзір! Умею рубіць лазу, але ж валодаю і абодвума кулямётамі: ручным і станковым. Добра страляю з карабіна: не так даўно на стрэльбішчах заняў першае месца ў эскадроне. А цяпер вось клыпаю з голымі рукамі, на кіёчак абапіраюся...

...Ідзём з Таняй, нідзе не супыняемся, хоць нага мая вельмі ные. Ад гэтага я, мабыць, крыўлюся, але сам не заўважаю, Таня заўважае.

— Прысядзем на хвілінку, ты адпачнеш!

— Пайшлі далей, пайшлі!..

Я ўтаймоўваў свой боль і крыўду тым, што не

даваў сабе перадышкі, прымушаў нягнуткую нагу сяк-так падначальвацца мне нават тады, калі ўжо амаль не адчуваў, ёсць яна пада мною ці няма.

І ўсё думалася пра полк. Стаяў ён зусім блізка ад румынскай граніцы. Там я і пакінуў яго, пасля аперацыі. Была ўпэўненасць, што часова. Блізкія сябры-аднапалчане трохі зайздросцілі мне: «Хоць з кіёчкам, але пабудзеш дома... Пабачыш жонку, сваіх родных... І школу, нашу Цяцерынскую...»

Яны, гэтыя самыя лепшыя мае сябры, былі да прызыву цяцерынскімі настаўнікамі. Усе ўжо сямейныя, як і я, бо прызваныя пасля даўгаватай адтэрміноўкі. Нашы жонкі, вядома ж, пісалі нам пісьмы. Каторая ў месяц раз, каторая ў тыдзень, а кабета Лагунова, самага старэйшага сярод нас, прысылала пісьмы амаль штодзённа. Нагрузка ў эскадроне была вялікая, хвілінкі ў дзень не выбераш, каб прачытаць пісьмо. Трэба было перш за ўсё вельмі добра даглядаць коней. Не толькі найлепш і па графіку карміць і паіць іх, а некалькі разоў на дзень чысціць, вышкрэбваць спіну, падчароўе, расчэсваць грыву, хвост. А яшчэ ж амаль кожнага дня мыць і хвост, і грыву. Ды не абы-як мыць, а цёплай вадою з мылам. У нашых салдацкіх умывальніках іншы раз мыла не хапала. А на конскія патрэбы старшына акуратна выдаваў нам па куску на хвост.

Гэтаму прыдавалася асаблівае значэнне, бо лічылася, што конь у баі — асноўная сіла. Такія словы станавіліся запаветнымі, і калі іх вымаўляў наш старшына, то заўсёды рабіў спасылку на камандарма Будзённага. Словы вымагалі практыку. Лічы, што кожнага тыдня ў нас праводзілася так званая вывадка. Што гэта такое? А перш за ўсё, тое, што нас падымалі амаль па трывозе і па камандзе «бягом» вялі на канюшню. Там мы расхватвалі вёдры з цёплай вадою. Сапраўды расхватвалі, бо ў нашым эскадроне ўсім вёдзер не хапала. Гэтак жа, як падсцілкі на стойлы. Тут старшына, відаць, меў пацеху ад таго, што прымушаў нас ламаць адзін аднаму шыі, кідаючыся ў атаку на растрэсеныя цюкі саломы або на гэтыя самыя вёдры з цёплай вадою. Хто не захапіў патрэбны ахапак саломы, таго конь аставаўся не падасланы, хто не займеў своечасова цёплай вады, той не паспяваў вымыць конскі хвост.

Усё гэта лічылася парушэннем дысцыпліны і падлягала адпаведнаму спагнанню.

Пасля старраннага мыцця хвастоў і грываў коні выводзіліся на пляц перад канюшняю, і кожны баец стаяў навыцяжку каля свайго каня. Добра, калі толькі аднаго. Вельмі рэдка так бывала, каб мы чысцілі па аднаму каню. Свайго, на якім ездзіш на вучэнні, а галоўнае — «р-рубіш» лазу і часта рызыкуеш адсекчы яму вуха — не грэх і пачысціць. Да свайго каня прывыкаеш, і ён да цябе прывыкае. Але ж кожны дзень даводзіцца чысціць і даглядаць яшчэ і камандзірскіх коней. Пародзістага каня камандзіра палка нам, былым настаўнікам, чысціць не давяралі, хоць ён лічыўся пры нашым эскадроне. Але хапала коней сярэдняга і ніжэйшага камсаставу: камандзіра эскадрона, палітрука, нампалітрука, камандзіраў узводаў, памкамузводаў і самога старшыны. Належала таксама, і гэта натуральна, чысціць коней сваіх таварышаў, якія няслі ў гэты час каравульную службу, дзяжурылі на кухні, знаходзіліся ў санбаце або на гаўптвахце. Конь жа не вінаваты, што яго гаспадара няма.

Такім чынам, на кожнай вывадцы даводзілася стаяць не пры адным кані, а часта пры двух і трох. І за чысціню ўсяго гэтага пагалоўя несці поўную адказнасць.

Калі вывадка была толькі эскадроннай, то на праверку выходзілі свае камандзіры і рэдка які-небудзь прадстаўнік са штаба палка. А калі палкавая, то збіралася ўсё вышэйшае камандаванне на чале з камандзірам палка. Былі выпадкі, што дзеля гэтага выязджалі з Кіева спецыяльныя прадстаўнікі ваеннай акругі.

У нашым эскадроне хадзіла тады чутка, што быццам нехта з вышэйшых кавалерыйскіх начальнікаў на такіх вывадках вымаў з кішэні чысценькую і гладка адпрасаваную жонкай насоўку, цёр ражком гэтай насоўкі па конскім хвасце і, калі заўважаў, што ражок пацямнеў, загадваў пасадзіць таго байца, што стаяў пры кані, на гаўптвахту.

Наш камандзір палка насоўкі з кішэні не вымаў і на гаўптвахту байцоў не саджаў, але адносна конскай чысціні быў вельмі патрабавальны і рабіў заў-

вагі адпаведным камандзірам, а тыя зрывалі сваю злосць на байцах.

Аднаго разу атрымалі нечарговыя нарады амаль усе цяцерынскія настаўнікі: Лагуноў, Данскі, Патрончык і я. Прыкра было слухаць, калі старшына перад усім строем распякаў нас:

— Эх вы, высокая абразаванія! Конскія хвасты пачысціць не ўмееце!

Аднак я заўважыў, што ў Лагунова насмешліва свяціліся вочы і быццам бы нават задаволена. Калі ішлі на канюшню, ён даверліва сказаў мне:

— Няма худа без дабра: за ноч я хоць пісьмы жончыны прачытаю.

Мы паспрыялі яму ў гэтым, бо ведалі, што чалавек ужо цэлы тыдзень носіць у кішэнях непрачытаныя пісьмы. Ды не маленькія, не лаканічныя, а не менш як па чатыры сшыткаваныя старонкі ўбористым почыркам. Адны вітанні ды выцалоўванні займалі ў кожным пісьме амаль цэлую старонку. Такое пасланне на хаду не прачытаеш, а трэба ж яшчэ і адпісаць. Як знайсці час? Акрамя догляду коней, была ж яшчэ зброя, якую трэба было трымаць у найлепшым парадку, былі кулямётныя тачанкі, нарыхтоўка фуражу ды розныя іншыя гаспадарчыя ды санітарныя работы. Гэтыя іншыя старшына наравіў даручыць найбольш нам, былым цяцерынскім настаўнікам.

У тое дзяжурства мы ўтраіх намагаліся выконваць усе работы па канюшні без Лагунова, каб даць яму магчымасць разгрузіцца з жончынымі пісьмамі. Уладзіўшыся пад ліхтаром на цюку прасаванага сена, ён расклаў вакол сябе праштампаваныя канверты адпаведна датам і старанна, адно за адным чытаў. Твар яго свяціўся радасцю і шчырым умiленнем. Калі мы з тачкаю сена ці саломы праязджалі блізка, ён глядзеў на нас з удзячнасцю, а вочы, сарамліва паблісваючы слязамі, надта ж выразна запрашалі:

«Ну, спыніцеся хоць на хвілінку, паслухайце, як яна піша, як сваю душу расхінае!.. Ніколі не думаў, што ўмее гэтак!..»

Калі добра накормленыя і напоеныя коні недзе пад поўнач пачалі драмаць, некаторыя нават палягглі жыватамі на сухі подсціл, мы з Патрончыкам так-

сама крыху прыдрамнулі: наглядчыкам аставаўся адзін Данскі. Потым і яму далі крыху паспаць. Лагуноў жа ўсю ноч не звёў вачэй: спачатку доўга і ўважліва, нібы хацеў завучыць на памяць, чытаў кожнае пісьмо, напэўна, асобныя мясціны перачытваў па некалькі разоў, а потым папрасіў у нас дазволу адпісаць жонцы на яе такія хваляванні і ласкавасці. Мы дазволілі, і ён разгарнуў перад сабою вучнёўскі сшытак, нагнуўся над ім і не разгінаўся аж да світання. На цемя нагола абстрыжанай галавы падаў вузкі прамень ліхтара, аднак святла хапала і для сшытка. Лагуноў пісаў алоўкам, сяды-тады падстругваючы яго кішэнным сцізорыкам. Пісьмо выходзіла, напэўна, доўгае, падрабязнае, каб на ўсё там быў адпаведны адказ, асабліва на палкія пачуцці, пра якія ён, мабыць, упершыню даведаўся.

Дык вось жа — бог з ёй, з той крыўдай на старшыну! Што з ім будзе, тое і будзе. Можа, героем стане ў гэтую нечаканую ды негаданую вайну. Але ў душы маёй недзе прыхоўваецца сумненне, што такія людзі могуць стаць героямі. А Лагуноў можа стаць. Ціхоня ён і сціпляга. Нават старшыне ніколі рэзкага слова не сказаў, хоць той даволі часта шкіляваў з яго. Некаторыя лічылі майго сябра трохі слабаватым, бязвольным, а мне добра было вядома, што гэта не так. Памяркоўны ён, ціхі, дашчэнту кампанейскі, да самаахвярнасці адданы дружбе, але дзе трэба праявіць цвёрдасць духу, то зробіць гэта без ёты хістання.

На першых днях службы, калі я яшчэ не ўмеў як след валодаць верхавым канём, адзін стаеннік з запасных камандзірскіх скакуноў вельмі небяспечна панёс мяне па гарнізонных прасторах. Гэта азначае вось што: хітры і нахабны выгуляш, каб у ахвоту размяцца самому і правучыць незнаёмага седака, закусвае цуглі і ва ўсю сілу прэ галопам, куды яму ўздумаецца. Пакіраваць ім нельга, бо хітрэц моцна трымае цуглі зубамі, на шэнкелі і шпоры не зважае.

Мой нахабнік вынес мяне ў поле і там, пэўна, меў намер выштурхнуць з сядла, а самому пагуляць, параскашаваць на прасторы. Такія выпадкі ў палку

былі і амаль заўсёды канчаліся цяжкай траўмай для байца.

На маё шчасце, непадалёку быў Лагуноў. Ён ускочыў на свайго ўжо добра аб'езджанага каня і кінуўся мне на выручку. Мой зламыснік, відаць, падумаў, што яшчэ адзін свавольнік выскачыў на пагулянку ў поле, і не стаў уцякаць ад яго. Лагуноў перасцігнуў майго скакуна, параўняўся з ім і, схапіўшы за левы повад, рэзка пацягнуў убок. Цугліна саскочыла з конскіх зубоў, наш двайны націск павадамі на дзёсны абразуміў гуляку, ён адчуў, што свавольнасць яго скончылася, і пачаў здавацца. Я ўжо не адпускаў павадоў, і мы з Лагуновым поруч даехалі да стайні.

Пры глыбокай удумнасці, пры ўспамінах быццам бы лягчэй клыпалася, хоць часам мне ўжо здавалася, што не адна нага ў мяне баліць, а абедзве, і стукат у галаве ўсё мацнеў і вастрэў. Я пэўна не ведаў, уступілі нашы эскадроны ў бой з ворагам ці не, але меркаваў, што павінны ўступіць. І ўяўляўся мне Лагуноў сярод тых, хто кінуўся ў рашучую і адчайную атаку на ворага. І наш сябрук Данскі побач з ім, і Патрончык... Блішчаць, пераліваюцца грозным ззяннем клінкі над іхнімі галовамі... Не лаза перад вачамі, а жалезныя каскі... Няхай сабе! Умелы, натрэніраваны ўдар клінка рассякае і жалеза. Ці пойдуць вычышчаныя і выпешчаныя коні нашага эскадрона пад агонь на ворага? Мой конь, мой Белы, як яго звалі ў эскадроне, пойдзе. І даўганогі, паджарысты скакун Лагунова таксама пойдзе. А не вытрымаюць, упадуць пад кулямі коні, то нашы цяцерынскія хлопцы рынуцца ў атаку пехатою... З клінкамі, з карабінамі... З чым ёсць!..

Як мне ў гэты момант хацелася быць там, з імі, маімі вернымі сябрамі, аднапалчанамі!.. А ў сэрцы калола, калі пачынаў уяўляць, як цяпер нехта другі ездзіць на маім Белым і, можа, нават у бой пайшоў на ім... А хто ён, той цяперашні даглядчык і гаспадар майго каня? Ці паважае яго Белы, як паважаў мяне?.. Ці зладзяцца яны ў баі? А можа, першая куля падкосіць белага прыгажуна і астанецца ён ляжаць далёка відным белым копчыкам...

Таня, напэўна, здагадалася, пра што я думаю,

каго ўспамінаю. І не перабівала мяне, нічым не перашкаджала. Вядома ж, адчувала, што ў мяне цяпер на душы... І моўчкі падзяляла са мною аднолькавае, бязлітаснае няшчасце: уцякаць ад ворага на сваёй жа роднай зямлі. Уцякаць, пакінуўшы ўсё і ўсіх. І хто ведае, на які гэта час? Павітацца не паспелі з самымі блізкімі: я не здолеў убачыць матулю. Развітацца не паспелі з тымі, з кім давялося сустрэцца: Таня не сказала сваім родным «Будзьце здаровы!» Яна выйшла з дому, каб толькі правесці мяне за раку...

* * *

На абочыне дарогі — рэдкі змешаны лясок: дзе бярозка, дзе алешынка, дзе кучаравая, з самага нізу бязладна разгалістая хваінка. Паміж дрэвамі — густая, свежа-зялёная, але да карэння згрызеная жывёлай трава. Напэўна, яшчэ ўчора тут пасвілася некалгасная чарада кароў, а можа, і авечак, бо ў некаторых мясцінах, асабліва на ўзгорку, уся зеляніна ўтаравана да пяску.

— Вось тут мы адпачнем,— сказала Таня, і на гэты раз так цвёрда і настойліва, што і пярэчыць ёй не было як. Але я сказаў:

— Не! Пойдзем далей!

— Я ўжо стамілася,— паскардзілася Таня.

Уважлівей угледзеўшыся ў прыдарожнае рэдкалессе, я заўважыў, што непадалёку пад разгалістымі бярозкамі-блізняткамі нехта ляжыць, паклаўшы ногі на нізкую раліну.

— Бачыш, Вася? — тонам ласкавай просьбы звярнулася да мяне Таня.— Тут яшчэ нехта адпачывае. Цянёк там і суха.

Жонка мела рацыю, але на мяне падзейнічала яшчэ і тое, што чалавек пад бярозкамі ўзняў ногі на раліну. Мне так захацелася прыняць такую ж позу, што раптам пачало здавацца, нібыта ў гэтым мой паратунак, адзіная магчымасць вярнуць сабе хоць трохі сілы.

Мы збочылі ў лясок, і я там адразу нагледзеў такі куст дзябёлага алешніку, які і цень дае густы, утульны, і мае такія прыземістыя раліны, на якія

можна будзе пакласці выцягнутыя ногі. Куст быў амаль побач з тымі бярозкамі-блізнятамі, дзе адпачываў нейкі чалавек, напэўна, таксама бежанец, але мяне так пацягнула хутчэй легчы, што я нават не паглядзеў уважліва ў яго бок. А Таня чамусьці з асцярогай шапнула мне, калі мы ўжо селі, а лепш было б сказаць — проста пападалі пад кустом:

— Вельмі ж на Гароха змахвае... Няўжо мне гэтак здаецца?

— Якога Гароха?

— Ну, што ў нас у інстытуце быў... Старшыня мясцкома. Забыў?

— Ды помню! Але які чорт яго сюды прынёс?

— Ціха! Ён, здаецца, не спіць, толькі вочы заплюшчыў... Відаць стаміўся, як і мы.

— Няхай ляжыць, не чапай яго.

Мне вельмі хацелася, каб нас цяпер ніхто не чапаў, каб займець хоць хвілінку сапраўднага спакою, так неабходнага ў гэты момант. Аднак не паспеў я ўладзіць у алешніку сваю зацёклую ад тупога болю нагу і хоць крышку звесці вочы, як пачуў дрыготкае шалясценне лісця бярозак-блізнятаў. Ветру не было, альховы куст, пад якім мы з Таняй збіраліся размясціцца, дыхаў цёплым спакоем, ніводзін лісток на ім не варушыўся. Мы разумелі, што бярозку штурхаў нагамі сусед, мабыць, намерваўся прыпадняцца ці, можа, зусім устаць, але не звярталі на гэта ўвагі. Хоць у такой незвычайнай вандроўцы, можа, і на руку было б сустрэць харошага спадарожніка, але з гэтым, што ляжаў пад бярозкамі, нам чамусьці не хацелася зблiжацца. Калі спраўдзіцца Таніна меркаванне, што гэта, як ні дзіўна, наш знаёмы па інстытуту, дык ён такі знаёмы, што лепш бы і не знацца з ім. Калі ж гэта выпадковы, чужы чалавек, то няхай сабе ідзе сваёй дарогай.

Аднак сусед хутка падаў голас, і маё здзіўленне яшчэ пабольшала: мне здалося, што я пазнаў гэты голас. Больш двух год прайшло з таго часу, як ён раз-пораз гучаў у маіх вушах: гугнява-скрыпучы і не мужчынскі па тэмбру, а быццам нейкай старой кабеты з вусамі. І бывала — так раздражняў і злаваў мяне гэты голас, што нават калі і не кепскія словы вымаўляліся чалавекам, усё роўна

я не мог спаважліва слухаць яго гаворку. Але вельмі рэдка Гарох вымаўляў добрыя словы.

— Я гляджу на вас і гляджу...— тым часам прагугнявіў сусед.— І вачам сваім не веру... Няўжо гэта вы? Антошыны? Ты, Васіль, хоць і ў ваеннай форме, але ўсё ж я пазнаю цябе... І Таню... Куды ж вы? Ваеннаму ваяваць трэба, а не... Га? Няхай ужо мы, інваліды з самага нараджэння... Бязногія... А ты хіба паранены? Дык яшчэ ж не было калі... Мо пад бомбу трапіў?

Я нічога не адказваў і не паварочваўся ў той бок, адкуль сыпаўся гэты каскад запытанняў. Гарох, цяпер и ўжо ўпэўніўся, што гэта ён, яшчэ не наблізіўся да нас, яшчэ я зусім не бачыў яго, а ўяўленне супраць волі падало мне перш за ўсё яго доўгі, сухі нос з пучкамі чорных валасоў у шырокіх ноздрах, плоскія і нібы бяскроўныя або з халоднай крывёй шчокі з неаднолькавымі падоўжнымі баразнамі ад скроні да падбародка: на адной шчацэ такая баразна была ўжо глыбакаватая, быццам у пажылога чалавека, а на другой яшчэ толькі пачыналася.

Неўзабаве Гарох апынуўся каля нас: нібы падпоўз, нібы падкрочыў са стогнам і кракатаннем — я гэтага не заўважыў, бо як лёг ды ўладзіў на ўзвышшы ногі, дык амаль што не меў сілы нават паварушыцца, а не то што павярнуцца насустрач нечаканаму спадарожніку. Гарох павітаўся з Таняй, потым працягнуў руку мне, і зноў, як з сеўніка, пасыпаліся яго словы, дзе да ладу, а дзе і без ладу, і без сэнсу:

— Ого!.. Дык у цябе і трохкутнікі?.. Сяржант ці старшы?.. Здарова! Камандзір, значыць? Ці палітработнік? А можа, пісар штабны? Нешта пятліцы ў цябе?.. Не разбяру... Сінія... Пагранічнік, ці што?..

— У пагранічнікаў — зялёныя,— паправіла яго Таня.

— О, не была б жонка ваеннага!.. Дык куды шлях трымаем? Відаць, адна дарожка ў нас: адзін інвалід, другі паранены.

— У яго цяжкая аперацыя была на назе,— зноў паправіла Таня.— Дакументы адпускныя ёсць.

— О, дык гэта добра! Не затрымаюць у дарозе. Мяне дык могуць затрымаць... Яшчэ прызыву не праходзіў: усё адтэрміноўкі... Але з вамі, можа, і я праскочу... Хоць трохі далей... Тут і ваенкаматаў ніякіх няма.

Таня трохі перакідвалася з ім словамі, а я маўчаў. Мне не хацелася пачынаць з ім гаворку, асабліва ж адказваць на яго частыя запытанні: па-першае, знямога мая вымагала спакою, а па-другое, моўчкі мне лепш было назіраць і ўспамінаць пра мінулае, ад чаго я ніяк не мог адысці. Спачатку ўразіла тое, што маё нядаўняе ўяўленне аб знешнасці Гароха амаль поўнасцю супадала з тым, што бачыў цяпер: такія ж складкі-барозны на шчоках, толькі, здаецца, трошкі паглыбелі, такі ж бясколерны, нібы застылы твар, і нават па-ранейшаму тырчалі пучкі валасоў з носа. Некалі, пры сустрэчы з ім, мне часам хацелася ўхапіць якія-небудзь нажнічкі ды адчыкнуць у яго гэтыя пучкі. Аднаго разу я так і сказаў яму.

— Затое пылам не дыхаю! — злосна адпарыраваў Гарох.— А ты дыхаеш!.. Наогул трэба будзе яшчэ пацікавіцца, чым ты дыхаеш!

Пагроз яго я не баяўся, але былі такія студэнты, што баяліся або пабойваліся і на ўсякі выпадак саступалі яму з дарогі. А ён уявіў сабе, што сапраўды мае ўладу над людзьмі, можа ўплываць на жыццё-быццё студэнтаў і нават на дырэкцыю інстытута. Дзеля гэтага ішоў у яго ў ход усякі сродак, асабліва такі, што нельга было аспрэчыць.

Зайшоў я аднаго разу ў вольную аўдыторыю, каб папрацаваць над новым выпускам насценнай газеты. Убачыўшы за выкладчыцкім столікам Гароха і яшчэ аднаго студэнта, які ссутулена сядзеў насупраць, памкнуўся вярнуцца, але Гарох супыніў мяне:

— Пачакай! Табе, як рэдактару, карысна паслухаць, пра што тут будзе гаворка. Ты быў на мітынгу, прысвечаным выбарам у Вярхоўны Савет?

— Быў,— яшчэ не здагадваючыся, куды хіліць Гарох, адказаў я.— Дык што?

— І ты быў? — звярнуўся Гарох да таго студэнта, што сядзеў перад ім, нібы перад выкладчыкам, які прымаў залікі.

— Быў і я,— адказаў студэнт і паўтарыў маё запытанне: — Дык што?

Гарох зрабіў удумлівую вытрымку, уперыўся вачыма ў студэнта насупраць і загадкава заківаў доўгім носам, нібы збіраўся клюнуць хлапца ў лоб. Потым перавёў нос на мяне і запытаў:

— А хто сярод вас пусціў тады рэпліку, калі народ стаў апладзіраваць прэзідыуму?

— Якую рэпліку? — запытаў я.

— Шкодную!

— Ты скажы якую? — намагаў я.— Гэта ж табе не жарт!

— Я і не жартую,— прагугнявіў Гарох.— Тут за такія жартачкі некаму непаздаровіцца. «Апладысменты па заказу». Чуў такую?

— Не чуў! — рашуча заявіў я.— Не чуў і не мог чуць, бо ніхто ні з нас, ні каля нас гэтага не гаварыў.

— Не чуў, кажаш? — Гарох кіўнуў носам у мой бок.— Табе, Антошын, мог бы я і паверыць, што не чуў: загаварыўся з кім-небудзь, ты, кажуць, і на лекцыях часам загаворваешся. А вось Апанасенка,— указальны палец Гароха, нібы дула пісталета, пагрозліва наставіўся на студэнта.— Мікола Апанасенка не мог не чуць гэтага. Факт!

— Як жа я мог чуць... Як?.. Што вы?.. Ніхто ж не гаварыў гэтага!..— Студэнт-першакурснік, смуглявенькі, драбнатвары хлапец, відаць, нядаўна з вёскі, назваў Гароха на «вы» і стаў увачавідкі бляднець і разгублена міргаць павекамі, напэўна, адчуваючы, якая бяда навальваецца на яго.— Не чуў!.. Чэснае камсамольскае!

— То, можа ж, не глухі! — задаволена прамовіў Гарох і нават зрабіў спробу ўсміхнуцца. Ён адчуваў асалоду ад збянтэжанасці Апанасенкі і тут ужо гатоў быў нібыта і падабрэць, і працягнуць руку сваёй ахвяры, ■ потым штурхнуць яго ногцам яшчэ далей у пекла.— Цікава! І не глухі і не чуў! А кожнаму ж вядома, што нават глухі чуе, калі сам гаворыць.

— Не разумею вас... Што гэта?.. Пра што вы? — Апанасенка прыпадняўся з крэсла, у адчаі агледзеўся на мяне, потым зноў сеў, працягнуў рукі да Га-

роха.— Тут нешта страшна непанятнае!.. Вы што?.. На мяне намякаеце?

— Не намякаю, а прынцыпова гавару: варожую рэпліку пусціў ты! А знаеш, як мы паступаем з ворагамі народа?

— Ды што за глупства! — крыкнуў я і падышоў да Міколы Апанасенкі, каб падтрымаць яго за плечы: хлопец зваліўся на столік перад сабою і стаў калаціцца, як у ліхім прыпадку.— Ён стаяў на мітынгу каля мяне!.. І нічога не гаварыў! Паклёп гэта!

— У мяне ёсць факты! — кіўнуўшы носам у мой бок, сказаў Гарох.— І пакрываць варожую вылазку я не буду!..

— Якія ў цябе факты? Я ж табе кажу, што мы з Міколам побач стаялі!.. І я ручаюся за яго! Ніводнага слова там хлопец не вымавіў!.. Гэта ж праўда! Калі трэба, то я пісьмова пацверджу!

Гарох адкінуўся на спінку крэсла і чамусьці пачаў раскацiста смяяцца і раз-пораз ківаць дзюбайносам. Нічога не гаварыў, а толькі смяяўся здзекліва і нахабна...

Вось і цяпер я пачуў такі ж смяшок. Мяне аж страсянула. Не ўтрымаўся, каб не глянуць на яго твар. Глянуў. Доўгі нос з пучкамі чорных, трохі запыленых валасоў быў настаўлены на мяне і нібы сам сабою, незалежна ад гаспадара ківаўся. Мяне ледзь не пачало трасці, як некалі Міколу Апанасенку. З болем у душы ўспомнілася, што знік тады хлопец з інстытута. Нас з Таняю неўзабаве паслалі на работу, а потым я мабілізаваўся ў армію.

«Дзе Апанасенка?» — хацелася мне крыкнуць так, каб сваім гарачым выдыхам зварухнуць чорныя пучкі ў Гарохавым носе і адштурхнуць да сябе яго твар.

Гарох! А ў інстытуце ён зваў сябе Гарохаў: дзве апошнія літары да свайго прозвішча прыставіў сам.

Цяпер на нагі кволіцца, лічыць сябе інвалідам, а два гады назад выйграў інстытуцкі кубак па бегу. Наўрад ці ў яго што-небудзь перайначылася за апошнія гады. І вось з ім выпадала ісці далей. Я разумеў, што адвязацца ад яго цяпер нельга, і маўчаў, а Таня, не надта ведаючы мае адносіны да

яго, быццам бы і давольна была спадарожніку: усё ж такі ўтраіх смялей. Калі я трохі аддыхаўся, яна развязала свой клуначак з матчынай шарсцяной хусткі і выняла адтуль тую паўбаханку хлеба, што я выпрасіў у клічаўскай сталовай, і некалькі халодных катлет. Хлеб нерашуча затрымала ў руках, напэўна, прыкідваючы, як яго дзяліць.

— А ў мяне нож ёсць! — задаволена сказаў Гарох і палез у кішэню брызентавага плашча, на якім ляжаў пад бярозамі, а цяпер прывалок яго за сабою пад альховы куст.—Добра, што ў вас хоць які запасік... А ў мяне — нічоганька... Не паспеў захапіць... Вось толькі нож... Ды свет не без добрых людзей... Дойдзем да якой вёскі ці хутара... Ваеннаму то, напэўна, уважаць...

Потым ён звярнуўся толькі да мяне:

— Ты, Васіль, асабліва і не выстаўляйся, што ў цябе аперацыя, а не рана. Ідзе вайна... Кожнага могуць раніць... Асабліва ваеннага...

За мяне адказала Таня:

— Як яно ёсць, так і скажам, калі папытаюць. У дакументах напісана.

Яна адкроіла тры скібкі хлеба: дзве большых і адну меншую, відаць, сабе, на кожную скібку паклала па адной катлеціне — зноў жа сабе меншую — і падала адну большую скібку мне, другую Гароху. Той нешта прамармытаў у знак падзякі і пачаў есці. Я не глядзеў, як ён есць, мне ўсё яшчэ не хацелася паварочваць галаву ў яго бок, але па свісту ў яго носе і па чвяканні адчуваў, што жуе ўсмак, прагаладаўся добра.

Счакаўшы некаторы час, я ўсё ж спытаў пра Апанасенку:

— Дзе ён цяпер, як жыве?

— Які гэта Апанасенка? — перапытаў Гарох.— З якога курса?

— Мікола Апанасенка,— удакладніў я.— Некалі ты дапытваў яго. А заадно і мяне. Памятаеш?

Гарох кіўнуў носам, засмяяўся адной палавінай рота, і складка на гэтай шчацэ стала глыбейшай.

— Па-першае, трэба рэчы называць сваімі імёнамі,— заўважыў ён з папрокам.— Я не дапытваў Апанасенку, а пры табе сказаў яму тое, што павінен быў сказаць. Па-другое, лёсы такіх людзей мя-

не не цікавяць: не ведаю, дзе ён цяпер, але здагадацца пра гэта не цяжка.

На нейкі момант у нашым лагерку запанавала цішыня: я не палез у спрэчку з Гарохам, ведаючы, што з гэтага не будзе ніякай карысці. Таня не ўмешвалася ў нашу размову, хоць таксама ведала Міколу Апанасенку і не адзін раз пыталася пра яго. Гарох моўчкі склаў свой нож і стаў, няўпэўнена і часта пагдядаючы на Таню і рэштку хлеба ў яе руках, пераварочваць кішэняю наверх свой брызентавы плашч. Адчуўшы, што мы з Таняю не надта «ўзрадаваны» яго адказам пра Апанасенку, відаць, намерыўся правесці сярод нас растлумачальную работу і пачаў так:

— Цяпер у нас толькі адно павінна быць у галаве, а не якіясьці там Апанасенкі. Вораг напаў на Радзіму! Нашы войскі героічна змагаюцца... І ні адной пядзі сваёй зямлі!.. Гм, гм...— Тут у яго ў горле нешта запяршыла.— Мы павінны стальной сцяною!.. Усе — як адзін!.. Не ведаю, як вы, а я вось да першага ваенкамата!.. І хоць падводчыкам, калі ў строй не возьмуць, хоць падносчыкам патронаў!.. Як змагу, чым змагу, буду памагаць сваёй арміі!..

— Трэба ўжо ісці памаленьку,— перапыніла яго Таня.— Сонейка з паўдня звярнула. Вася, як ты?

Стомленасць мая яшчэ не прайшла, і гудзенне ў галёнцы быццам бы не паменшала. Да таго ж вельмі хацелася спаць, бо ўжо суткі амаль не зводзіў вачэй.

— Давай я цябе падтрымаю! — зусім нечакана прапанаваў Гарох.— Біты бітага, як кажуць...

Нібы варам абдаў мяне, я ўстрапянуўся, адмоўна заківаў галавой і стаў намагаць усе сілы, каб устаць. Таня падала мне руку, але і ад яе дапамогі я адмовіўся. Балючасць у назе нібы прыглухла, нібы перамясцілася ў тую глыбіню, дзе паралізуюцца нервы і ўся галёнка робіцца дзеравянай. Ніколі мне не ўяўлялася, як бязногія ходзяць на пратэзах, а цяпер міжвольна я зраўноўваў сябе з імі.

Абапіраючыся на кіёк, імкліва падаўся на дарогу. Побач клапатліва крочыла Таня, у адной руцэ трымаючы свой зусім сплюшчаны пасля пера-

кускі клунячак, а другою ўсё ж намерваючыся пры неабходнасці падхапіць мяне. Хоць і вельмі падабалася мне тое месца пад альховым кустом, дзе мы адпачывалі, і цягнула яшчэ раз глянуць на яго, аднак я не азіраўся — не хацеў спаткацца вачамі з Гарохам. Мільганула надзея нават на тое, што ён не пойдзе з намі, а вернецца пад свае ўтульныя бярозкі і зноў уляжацца там, з дамашняй раскошай ускладзе на белую раліну ногі.

Гарох рушыў за намі. У дарозе на гаворку надта не навязваўся, відаць, ужо сцяміў, што мне цяжка з ім размаўляць, што я не магу дараваць яму паклёпу на Апанасенку, жыццё якога, напэўна ж, сапсавана. Відаць, здагадваўся Гарох і аб тым, што я ўвесь час думаю пра гэтага чалавека і з самай чыстай шчырасцю шкадую яго. З першакурснікаў літфака я мала каго ведаў, а яго прыкмеціў перш за ўсё з-за таго, што ён заўсёды хадзіў з кніжкай у руках і, як толькі выпадала зручная хвіліна, выбіраў дзе-небудзь утульны куток і з захапленнем чытаў. Незадоўга да выпадку, які цяпер у памяці, я прапанаваў яму напісаць заметку ў інстытуцкую насценгазету. Ён згадзіўся і праз некалькі дзён прынёс свой матэрыял. Падказаная мною тэма была вырашана, але не звычайным допісам, а вершам. Я здзівіўся:

— Перапісаў адкуль?

— Не, што вы? — Мяне ён зваў на «вы», як і Гароха, але тут, мабыць, зважаў на мой узрост: я прыйшоў у інстытут позна, ужо з пэўным стажам журналісцкай работы.

— Няўжо сам?..

Апанасенка зачырванеўся, як вучань, і ледзь прыкметна кіўнуў галавою.

— Мы гэта змесцім! — упэўнена сказаў я.

Цяпер мне было няёмка і цяжка ўспомніць, што падвёў тады хлапца, не стрымаў свайго слова — верш быў заклеены другім матэрыялам ўжо ў гатовай газеце...

Ідзе чалавек — няхай ідзе. Не праганяць жа нам яго!.. Ды яшчэ такога звышнадзейнага, з гатовымі рашэннямі на ўсе выпадкі жыцця, нават нечаканыя, непрадбачаныя. А колькі будзе такіх выпад-

каў і з'яў? Магчыма, дзе-небудзь узнікне быццам і неадольная цяжкасць для нас абаіх, асабліва калі на якой заставе Таню пашлюць у адзін бок, а мяне — у другі. Можа, хоць Гароха пакінуць са мною. Трохі акрыяю пры яго дапамозе, а потым апынемся ў адной воінскай часці, дадуць адзін кацялок на дваіх...

Прыкра на душы ад такіх думак, але ж хоць паглядзеў бы, як пакажа сябе чалавек у акопах: высуне галаву над бруствeрам ці будзе сядзець пад нагамі ў іншых і замінаць на праходзе? Затрасецца, задрыжыць яго цела, калі пачуе каманду: «У атаку марш!»? Падхопіць вокліч: «За Радзіму, за Сталіна!»? Ці змаўчыць, прытворыцца глухім? А можа, і паўторыць заклік, ды з акопа не вылезе.

Нядобра думалася пра чалавека, які па неспадзяваным выпадку стаў нашым спадарожнікам. Можа, і па шчаслівым выпадку: магчыма, і ў дарозе, і ў баях, якія мне ўвесь час уяўляюцца непазбежнымі, Гарох праявіць сябе зусім не так, як мне цяпер міжвольна ўяўляецца. Канечне ж, цяпер я не ўсё пра яго ведаю. Можа, перайначыўся за апошнія гады? Можа, пасаду займеў такую, што пакажа дакументы і не пашлюць яго на перадавую разам са мною, а дадуць нечым кіраваць у тыле, пры якім-небудзь штабе ці шпіталі. І стане ён зноў глядзець на мяне зверху ўніз, як некалі ў настаўніцкім інстытуце...

Адным словам — ідзе чалавек, то няхай ідзе.

Прыслуха́ліся да гулу машын і лязгату гусеніц на паралельнай шашы... Паглядвалі на неба і часам не маглі вызначыць, чые самалёты над намі: свае ці варожыя... Дзе можна было, рабілі кароткі прывальчык. Таніных запасаў харчоў пры старраннай ашчаднасці ледзь хапіла на адзін дзень. У прыдарожнай вёсцы я знайшоў калгаснага кладаўшчыка і выпісаў у яго круглую баханку хлеба дамашняй выпечкі і кусок ляжалага сала. Начавалі тут жа, з дазволу старшыні сельсавета, які вельмі прыдзірліва праверыў нашы дакументы, асабліва мае.

Недзе пад канец наступнага дня яшчэ здалёк убачылі даволі выбіты машынамі і фурманкамі паваротак направа, абазначаны высокім, пачарне-

лым слупом з плоскім зазубленым указальнікам. Гарох ледзь не подбегам пусціўся на гэтую дарогу, спыніўся ля слупа і стаў чакаць нас. Пакуль чакаў, то ўсё паглядваў у даль гэтай прасёлкавай дарогі: яна, даволі роўная і месцамі зялёная між каляінамі, як вокам дайсці, пралягала праз вялікі яравы палетак, дзе зялёны, а дзе ўжо спела-жаўтлявы, і знікала ў далёкім, аж цемнаватым ад гушчыні лесе.

Калі мы падышлі і параўняліся з указальнікам, Гарох прыняў жалобна-ўрачыстую паставу, нібы хацеў перахрысціцца перад слупом, потым узняў руку да дзюбы ўказальніка і нібы загадаў нам:

— Чытайце, што там напісана!

Прачытаць было цяжка, таму што даўні надпіс, зроблены чорнай фарбай, нібы дзёгцем, амаль зусім выгараў, крыху прыкметнымі былі толькі найбольш тлустыя палосы асобных літар і кропка ў канцы слова.

— Гэта Залессе! — з дрыжаннем у голасе сказаў Гарох. І, відаць, заўважыўшы па нашых вачах, што назва вёскі нам нічога не нагадвае — у Беларусі дзесяткі Залессяў,— дадаў: — Мая родная вёска!.. Тут я нарадзіўся! Тут я вырас!.. Тут мая маці жыве і цяпер!.. Тут!.. І вось я!..— Ён выцяў далоняю сабе ў грудзі.— Колькі збіраўся!.. Колькі разоў намерваўся адкласці ўсе свае справы ды наведаць матулю!.. Сустрэцца са сваімі роднымі ды землякамі, якія добра ведаюць і памятаюць мяне... Якія...

Я крануў Таню за локаць, каб ісці далей, бо падумаў, што Гарох не пойдзе цяпер з намі, і рушыць на Залессе. І не асуджалі б мы яго за гэта: чаму ж не пабачыцца з маткаю, не развітацца з ёю ў такі грозны час? Будзе жаданне, то яшчэ і дагнаць нас можна: калі Гарох бег да свайго ўказальніка і на гэты момант забыўся пра сваю кволасць, то я заўважыў, што ногі ў яго здаровыя — захоча, дык можа ісці хутка, нават бегчы. Але ён нібы пералавіў мае думкі:

— Вы, бачу, насцярожыліся...— пачаў ён, угледаючыся ў цёмную зеляніну далёкага лесу, бо адтуль даносіўся гул самалётаў.— Чакаеце, што махну адсюль у сваю вёску і там утулюся... Туды, мо-

жа, і вораг не дойдзе... Дык не будзе гэтага! Не будзе! Не ў роднай хаце, не пры матчынай ласцы цяпер наша месца!.. Няхай даруе мне мая матуля!.. А твая, Васіль, табе! Напэўна ж, і ты хацеў наведаць сваю маці! Паспеў ці не паспеў?

— З братам сустрэліся...— сумна прамовіла Таня.— А пагаварыць і не давялося.

— Усё рушыцца, усё!..— падхапіў Гарох і зноў уставіўся ў неба, нават вуха рукой адтапырыў, каб лепш выслухаць, адкуль ляцяць самалёты.

Убачыўшы нарэшце, што яны вынырнулі з-за лесу і бяруць кірунак на захад, працягваў:

— Я асабіста перакананы, што гэта ненадоўга!.. Не можа быць іначай!.. Вунь, бачыце?.. Ідуць нашы!.. Ідуць на граніцу!..

— Дык немцы ўжо ў Клічаве,— нясмела заўважыла Таня. Яна толькі і падтрымлівала размову з Гарохам, а я ўсё яшчэ не мог пераадолець пачуццё адчужанасці да яго: добрыя словы не ішлі на душу, а кепскія не хацелася гаварыць у дарозе.

— Ударым, і адкоцяцца!..— не зніжаў свайго пафасу Гарох.— З тылу ўдарым! Нашы граніцы былі на замку і будуць!

Я таксама стаў сачыць за самалётамі, якія набліжаліся да нас сапраўды з усходу. І хоць кожнае слова Гароха, як у ранейшых тырадах, так і ў гэтай, гучала для мяне фальшыва, у асобныя імгненні ўсё ж з'яўлялася жаданне паверыць яму і хоць трошкі пажыць радаснай надзеяй. Калі б спраўдзіліся яго словы цяпер, то, здаецца, знайшлася б у мяне духоўная сіла ў нейкай аснове верыць яму і потым. І нават мінулыя яго ўчынкі, магчыма, успрымаліся б крыху мякчэй, зніходлівей.

Таня ўзяла мяне за локаць, каб адысці пад густую крону бліжэйшай хваіны: яна не была ўпэўнена, што гэта нашы самалёты. Не так па вызначэнні сілуэтаў, як па інтуіцыі: колькі ні ішлі мы з ёю — і да Клічава, і ад Клічава, колькі эскадрылляў ні бачылі, то ўсе аказваліся варожымі. Толькі бой паветраны над Клічавам астанецца ў памяці.

Я разумеў, што мне, як ваеннаму чалавеку, трэба было б адразу сказаць, чые самалёты набліжаюцца да нас, ды хіба мая віна ў тым, што за два гады службы я нічога не бачыў, акрамя трох «К» —

карабіна, клінка і каня. Мне вельмі хацелася верыць Гароху, які абхапіў рукамі ўказальны слуп і гатоў быў скакаць ад радасці і ўзбуджэння, што ляцяць нашы. Адхіліць жа Таніна маўклівае патрабаванне — на ўсякі выпадак прыхавацца ад гэтых самалётаў — таксама не асмельваўся.

Грымотны выбух скалануў зямлю быццам у той момант, як чорныя сілуэты пралятаді над намі. З раскідзістага голля хваіны на нас з Таняю пасыпаліся сухія шыпулькі. Адкуль яны і ўзяліся ўлетку? Гарох упаў на калені перад указальнікам і рукамі ўхапіўся за слуп. Трымаўся ў абдымку і зацята глядзеў на мяне, у вачах яго стаяў здзіўлены спалох.

— Няўжо там немцы?.. На шашы?..— І павярнуў кручок носа да Тані, мабыць, ужо ведаючы, што я не ўступаю ў гаворку з ім.— Значыць, мы адрэзаны?.. Значыць...— І пачаў перабіраць пальцамі па прыбуцвелым знізу слупе і брацца ўгору, нібы намагаючыся ўстаць і не маючы на гэта сілы.— Бывай, мая матуля, бывай!..

— Хутчэй за ўсё гэта варожыя самалёты,— падала голас Таня,— і білі яны па нашых. А з вамі што?.. Памагчы ўстаць?

— Не трэба.

Калі самалёты аддаліліся, з шашы сталі даносіцца людскія стогны і жаллівы плач дзяцей.

— Пойдзем туды! — настойліва сказала Таня.— Трэба памагчы людзям, як зможам.

Яна сказала гэта мне, а на Гароха і не глянула ў гэты момант, відаць, мяркуючы, што ён не адарвецца ад слупа. Але, як толькі мы абтрэсліся ад сухіх шыпулек і рушылі прасцяком да шашы, ён узняўся, абняў слуп ужо каля самага ўказальнага клінка і са стогнам гучным голасам стаў паўтараць:

— Бывай, мая матулька, бывай!..

І што далей мы адыходзілі, то яго стагнанні падаваліся мацней...

* * *

У адной прыдняпроўскай вёсцы на вуліцы тоўпіўся вялікаваты гурт людзей. Мы падыходзілі ту-

ды не з добрай ахвотай, але абмінуць гурт нельга было — хочаш не хочаш, а сутыкацца трэба.

— Мітынг нейкі,— выказаў меркаванне Гарох.

Не, на мітынг не падобна было: ніхто нічога асобна не гаварыў, ды ніякага прыладку для аратара не бачылася — трыбуны ці хоць якога бервяна пры плоце, каб стаць вышэй.

Запрыкмеціўшы нас, двое мужчын аддзяліліся ад натоўпу і рушылі нам насустрач. Крокі іх былі вельмі хісткія — вецер падзьме, дык і ўпадуць. Аднак што возьмеш са старых? Так мне падумалася, бо сачыў больш за іх хадою, а на абліччы не зважаў: ведаў, што маладых мужчын у вёсках цяпер няма. Здзівіўся, калі ўбачыў зблізку, што адзін з іх быў яшчэ быццам бы ў прызыўным узросце: рыжавалосы, нязграбны і неахайны, увесь у поце (сонца якраз стаяла на поўдні і пякло добра), пярэдняя палавіна белай замызганай рубашкі ўцягнута ў пыльныя штаны, а другая палавіна вісела ззаду.

— Хто такія? — выгукнуў гэты хлапчак на пэўнай адлегласці. І тут яго так матнула ўбок, што ледзь утрымаўся на адной назе і то пры дапамозе дзядка, ужо зусім сівога і кволага, які дробненька клыпацеў побач. Пакуль хлапец трымаў нагу на перавесе, з яго сандаліны, надзетай набасанож, сыпаўся брудны вулічны пясок.

— Можа, шпіёны якія?

— Дурань ты, Саш! — адказаў яму дзядок.— Калі і шпіёны, то хіба яны скажуць табе?

— Дакументы праверым! — намагаў той і нават паспрабаваў выпрастацца, паказаць усю сваю сур'ёзнасць.— Дзізярціры, відаць, а можа, дзясанты пераадзетыя!

— Сам ты дэзерцір! — з абурэннем сказаў Гарох і выйшаў наперад, рашуча наблізіўся да п'янага правяральшчыка.— Табе ў армію трэба, а ты тут п'янствуеш! От я цябе самога!..

Саш залыпаў чырвонымі ад пітва і гарачыні вачамі і трохі суняўся, а дзеду мы паважліва сказалі, хто мы такія і куды ідзём.

— Ідзіце з богам! — сказаў дзядок.— Калі да Дняпра, то тут ужо і недалёка. Там мост ёсць і

паромы. Мосцік на гэтым месцы не праезджы, стары ўжо, але перайсці можна.

Мы наблізіліся да натоўпу. Гэта не сход быў, не мітынг і не які-небудзь іншы дзелавы збор. Тут проста кааператыўшчыца выкаціла на вуліцу бочку пладова-ягаднага віна і рашыла адным махам, на разліў і, мабыць, па зніжанай цане, прадаць яго, каб не асталося ворагу. Перад гэтым, відаць, такім жа чынам яна распрадала бочку павідла. Цяцер парожняя бочка ляжала бокам каля крамы, і дзеці капашыліся каля яе. Некаторыя з хлапчукоў ласы былі б зазірнуць і ў вінную бочку, але адтуль іх праганялі дарослыя. Сярод гэтых дарослых былі ўжо і такія, як рыжы Саш,— ледзь трымаліся на нагах, ледзь варочалі языкамі, аднак займалі яшчэ адну чаргу, каб атрымаць дабаўку.

Каля натоўпу пераважаў дух кіслага перагару, але зрэдку ўдыхаўся і водар свежага віна, падобнага на дамашнюю настойку. Мне так захацелася ўзяць хоць глыток гэтага пітва, што, здавалася, апошні рубель аддаў бы на гэта. Паглядзеў на Таню, і яна, пэўна, па вачах адгадала маё жаданне.

— Купіць табе прагнаць смагу?

Я кіўнуў галавой і, мабыць, вельмі радасна, бо заўважыў у чыстых крышталіках Таніных вачэй вясёлыя агеньчыкі. Яны ўспыхнулі ў адказ на маю ўсмешку і раптам патухлі:

— А ў што ж и вазьму? Там на разліў, а ў нас нічога няма.

Дзядок, што быў пры нас, пачуў Таніны словы і адразу затурбаваўся:

— І вы хацелі б, як той кажа, з мірам?.. Дык чаму ж, пакуль яшчэ бочка не апусцела... А посудку я вам знайду, папрашу ў каго-небудзь...

І пасемяніў дзядок на дзіва жвавенька і лёгка. Не прайшло і хвіліны, як ён вярнуўся і абедзвюма рукамі, відаць, хочучы паказаць асаблівую павагу, падаў Тані сіні кубачак, яшчэ зусім новы, чысты, з некранутай белай паліроўкай усярэдзіне, але без вушка, мабыць, нехта адбіў.

— Можа, калі трэба, то я скажу, каб і наліць без чаргі?.. Там мая дачка пры бочцы.

— Дзякую,— сказала Таня.— Я сама пастаю.

Таня пайшла ў чаргу, а мы з Гарохам выбралі больш-менш утульны цянёк пад зарослым лопухам плятнём і селі там, адкінулі галовы на сухі, аж траскучы ад сушыні пляцень. Мне вельмі хацелася выцягнуць ды на што-небудзь прыпадняць сваю нестраявую нагу. Але куды ж ты выцягнеш на вуліцу? Выгадвалася толькі адно: легчы галавою да каляін, а нагу пакласці на пляцень.

Я паспрабаваў зрабіць так, і Гарох лёг такім жа манерам. Ён ускінуў ногі ледзь не на самы верх плятня.

Таня, лічы што, і не стаяла ў чарзе: толькі падышла з кубачкам у руцэ, знайшла крайняга, як знаёмы дзядок зноў апынуўся побач і прапанаваў:

— Дайце я падступлю да бочкі!..

Ужо скрозь лёгкую, але вельмі слодычную дрымоту я пачуў, што Таня ціха апусцілася каля мяне на калені і прашаптала:

— Вось, прынясла...

Я расплюшчыў вочы і ўбачыў, што яна аберуч трымае сіні кубачак і наровіцца, каб не разліць з яго хоць кропелькі, бо кубачак напоўнены па самыя беражкі. Дзіўна, як стары, у якога ўжо рукі падрыгваюць, здолеў паднесці Тані такую поўную пасудзіну.

— Надпі трошкі сама,— папрасіў я.

— Не, я не буду! Вазьмі ты з маіх рук!

Яна, як маленькаму, дагадзіла, наблізіла кубачак да маіх вуснаў, і я, перш-наперш, адчуў прывабны сокавы пах вадкасці, а потым, прыпадняўшыся, убачыў, што пітво гэтае жаўтлява-зеленаватае і крыху нагадвае аўтол. І ўсё ж глытнуў з кубачка, смага адразу пачала быццам бы адлягаць. Тады і я добра пацягнуў, пакінуў у кубачку толькі як дно прыкрывалася. Кіўнуў у бок Гароха, і Таня зразумела.

— Вы не спіце? — звярнулася яна да суседа.

Гарох не спаў. Я здагадваўся, што ён ужо даўно цікаваў за нашымі з Таняй намерамі: моцна соп носам, рэзка варушыўся, відаць, імкнуўся выказаць сваю нязгоду, а можа, і пратэст. Мабыць, яго абурала тое, што людзі п'юць на вуліцы сярод бела дня. Напэўна, цягнула і на прамову з гэтай прычыны: «Ідзе вайна, а ў вас тут п'янка!..» Тым больш

не падабалася яму, што і мы хочам далучыцца да гэтай папойкі. Аднак кубачак з рук Тані ўзяў. Узняўся на локаць, уткнуў свой нос, як дзюбу, у самую глыбіню кубка, можа, нават і памачыў кончык носа, і раптам на маё здзіўленне, перакуліў увесь кубачак над ротам. Смачна крэкнуў, як дзе на баляванні, і пачаў здымаць ногі з плятня. Кубачак трымаў у руцэ, Тані не вяртаў. Рухі былі рэзкімі і рашучымі.

Мяне разбірала цікавасць: пачне зараз разносіць нас ці кінецца на людзей, што стоўпіліся каля бочкі?

Аднак Гарох, як толькі наблізіўся да чаргі, дык высока над галавою ўзняў кубачак, перавярнуў яго ўверх дном, нібыта каб усе бачылі, што пусты, і моцна спытаў:

— Хто крайні?

— Крайніх няма,— пачуўся нейчы смяшок у адказ,— бочка круглая, усе вакол яе стаім!

— Дык за кім жа мне? — паўтарыў Гарох.— Тут на які раз лыкануць! — І ён замахаў над людскімі галовамі пустым кубкам.

— Ды не тутэйшаму, дарожнаму чалавеку то і ўступіць можна. Адным кубкам усёй бочкі не вып'еш!

Першы кубак Гарох асушыў, не адыходзячы ад бочкі, папрасіў паўтарыць, заплаціў і, трымаючы руку з кубкам перад сабою, накіраваўся да плятня.

— Давайце і мы, калі ўжо так!..— Усеўся побач са мною і наставіў кубак у мой бок.— Чым мы горшыя за гэтых людзей? Га? Праўда, і не лепшыя, але што ўжо зробіш?.. Вайна, сапраўды!.. Давай, Васіль. Можа, гэта апошняя наша аддушына!..

Я марудзіў браць кубак і, напэўна, гэтым даў магчымасць Гароху працягваць сваё выказванне:

— Думаеш, я не бачу, не адчуваю, што ты неяк усё бокам да мяне?.. Адчуваю і разумею... Але жыццё пражыць, як кажуць... Я ўсё-такі на мнагавата старэйшы за цябе... Гадоў мо на чатыры. Ты з якога?

Я не адказаў, але ён, відаць, не звярнуў на гэта ўвагі і працягваў:

— Дык гэта ж таксама мае значэнне... Я ўжо да інстытута на адказных пасадах быў... Нямала

пераплётаў усякіх прайшоў, перажыў... А ты мне студэнціка нейкага... Ну, давай папалам!.. Можа, у адной акопіне будзем.... Ты яшчэ пераканаешся, што я... Адным словам, давай: ты пачынаеш, я канчаю!.. Кісляціна, відаць, з адных падалак, але нічога!

— Вазьмі, калі так просяць,— сказала Таня. І я ўзяў у рукі кубак, адразу, не сказаўшы ні слова, адпіў амаль палавіну віна і рэшту вярнуў Гароху.

— Можа, і Таня? — прапанаваў ён, але і ў голасе адчувалася надзея, што яна адмовіцца, і кубак ён не падаў ёй, а трымаў перад сваім носам. Як толькі яна адмоўна кіўнула галавой, ён амаль адным глытком пракаўтнуў усё віно, мне нават здалося, што проста нагбом выліў у сваё горла добрага паўкубка кіслай, трохі падспіртаванай вадкасці. Некалі я ведаў аднаго чалавека, які ўмеў, быццам не каўтаючы, перакуліць у рот шклянку гарэлкі. Але ён лічыўся ў нас нейкім фокуснікам у гэтай справе. А тут без ніякіх фокусаў: момант — і зусім пусты кубак. Гарох неахвотна перадаў яго Тані.

Хоць і слабае фруктовае віно, напэўна, з якога-небудзь мясцовага завода, аднак жа нас абодвух яно добра разабрала. У мяне ў вачах раптам стаў падскокваць і вытвараць розныя выкрунтасы гнілы вясковы пляцень. Гледзячы на Таню, мне чамусьці хацелася шчыра і весела ўсміхацца, быццам паказаць ёй, што вось жа могуць быць моманты шчасця нават і ў такіх неверагодных абставінах, як нашэсце ворага на нашу зямлю. І цягнула на песню, ціхую, задушэўную, толькі для Тані, каб толькі яна слухала і таксама адчула хоць хвіліну шчасця. А гаварыць не хацелася нічога, бо пры ўсёй незвычайнасці моманту мне ўсё ж не забывалася, што побач ляжыць, зноў упёршы ногі ў пляцень, чалавек, які не павінен слухаць тое, што мне карцела сказаць сваёй жонцы, самаму блізкаму на ўсім свеце чалавеку. Колькі я перадумаў пра яе ў час свае службы ў каўпалку, як радавалася душа, калі пусцілі дадому, хоць і па няшчасным выпадку. А прыехаў, дык і пагаманіць спакойна не давялося... І невядома, калі што палепшыцца, што

чакае нас не толькі заўтра, паслязаўтра, а нават сёння, праз гадзіну, праз некалькі хвілін.

Гарох вытраўляў свой хмель яшчэ большым патокам слоў, але я заўважаў, што сярод іх траплялiся і праўдзівыя, нават нечым цікавыя. Мой прыліў душэўнай дабраты зменшыў маё раздражненне ад яго голасу, у асобныя моманты мне здавалася, што Гарох быццам бы хораша гамоніць, амаль мілагучна.

— Вось як некалі быў я памочнікам старшыні аднаго вялікага гарсавета,— працягваў Гарох свой жыццяпіс.— Няважна якога! — павысіў ён тут голас, быццам я папытаў у яго пра гэта.— Цяпер ужо не мае значэння... Скажу толькі, што горад той абласнога маштабу. Усе скаргі і просьбы ішлі праз мае рукі... Машына амаль поўнасцю была ў маім распараджэнні... А потым, калі ён аказаўся не тым чалавекам...

Тут Гарох прыпыніўся, а мяне ледзь не падмыла спытаць: як жа ты працаваў не з тым чалавекам? Такі пільны, такі напрактыкаваны?..

Між тым Гарох выкладваўся далей:

— Пакуль падабралі новую кандыдатуру, месяцы два прайшло... І амаль усе справы вялікага горада ляжалі на мне. Мог бы і астацца там, намеснікам старшыні, ды што без асветы?.. Адна прафтэхшкола была ў мяне за плячыма... Дык хіба можна ў наш час з адной прафтэхшколай?.. Пацягнула на вучобу... І цяпер у нас з табою хоць і не надта высокія дыпломы, а ўсё ж ёсць... Дыпламаваныя мы, значыць... Можа, і спатрэбіцца калі... Цяпер-то я не па дыплому працаваў, не па асноўнай спецыяльнасці... Вы ж абое ведаеце — я гістарычны канчаў. Папрасілі ўзначаліць адну ўстанову... Прыйшлося згадзіцца. Раз даверылі мне, дaручылі...

Таня пачынала ўжо непакоіцца, я заўважыў гэта і сам стаў прыкідваць, якім бы гэта чынам закругліць суседава спавяданне, бо адчувалася, што яму і канца не будзе, ды тут дапамог выпадак — падышоў да плятня рыжы Саш. Відно было, што ён яшчэ разок прыклаўся да бочкі, закусіў, відаць, падскрэбкамі павідла, бо на верхняй губе пабл-

сквала барвовая палоска. Узяў намер зноў пагаварыць з намі, але ўжо іншым тонам.

— Бачу я, што вы людзі свае,— пачаў ён, звяртаючыся больш да Гароха,— раз не мінулі нашага сённяшняга збору, не пабрэзгавалі раздзяліць з намі, так сказаць... Не па радасці, не па шчасці сабраліся мы сюды... Можа, заўтра, а то і сёння і мы пакінем свае родныя хаты, развітаемся з сялом і пойдзем на ўсход, як і вы. А ў мяне дык павестка ёсць на прызыў... Во яна! — Саш абедзвюма рукамі адхіліў замурзаную верхнюю кішэньку свае рубашкі і выняў адтуль згорнутую ў некалькі столак зеленаватую паперку.

— Пакажы! — зацікавіўся Гарох. Разгарнуў позву, уважліва прачытаў.— Дык дзе цяпер гэты ваенкамат? Ведаеш яго дыслакацыю?

— Што? — не ўцяміў Саш, не звычны да вайсковых тэрмінаў.

— Ну, тое месца, дзе размясціўся ваенкамат?

— Дык там жа ўказана! У нашым райцэнтры!

— Няма цяпер у вашым райцэнтры нікога! — рашуча прамовіў Гарох.— Ты гэтую павестку колькі дзён носіш?

— Усяго два дні! — пачаў апраўдвацца Саш.— Яна ішла доўга... Пошта цяпер не ездзіць...

— Шукай цяпер у полі ветру! —узвысіў Гарох голас, адчуўшы што Саш мае ў натуры слабінку і крыху сумеўся перад незнаёмымі людзьмі, можа, нават начальнікамі.

— Знайду, знайду! — стаў запэўніваць Саш.— Абавязкова знайду! Ваенкамат за Дняпром недзе.

— Ну, вось і мы шукаем,— памякчэў Гарох.— Хоць і без павестак, але шукаем... Дабравольна! Зразумеў?

— Ды чаму ж не разумець? І я дабравольна... Ніхто ж мяне за каўнер не цягне... Мала што павестка! Паслалі ды і забылі... Каму вядома, атрымаў я гэтую павестку ці не атрымаў? Так што і я сам іду, па сваёй уласнай ахвоце!

— Саш! — пачуўся хрыплаваты голас з натоўпу.— Ты чаго там?.. Добрым людзям адпачываць мяшаеш... Ідзі сюды-ы!

Хлопец махнуў у той бок рукою, але нічога не адказаў. Неўзабаве дзядок сам прыклыпаў да нас.

— Дзякую вам за кубачак,— сказала яму Таня і працягнула руку з парожняй пасудзінкай.

— Няхай будзе пры вас,— адвёў яе руку дзядок.— Можа, спатрэбіцца ў дарозе... Вады недзе напіцца...

* * *

На падыходзе да Дняпра мы пачулі з узлеску зычны, папераджальны голас:

— Спынецеся, спынецеся! Не ідзіце сюды!

Потым убачылі і чалавека на гэтым узлеску, даволі пажылога, але яшчэ з добрым голасам і ладнай, роўнай постаццю. Ён махаў нам рукамі і паказваў, каб звярнулі ўправа, на той узлесак, дзе ў гэты момант быў ён і нібыта прыхоўваўся за альховымі кустамі.

Перад намі ўзнімаўся ўзгорак, на які ўзыходзіла добра ўкатаная грунтавая дарога. Мы ведалі, што за ўзгоркам павінен паказацца Днепр. Нас цягнула туды, і таму нечаканае папярэджанне, мабыць, па неабходнасці пастаўленага тут чалавека, крыху збянтэжыла нас: «У чым справа? Чаму нельга падыходзіць да таго рубяжа, на якім вораг будзе спынены? Абавязкова спынены і разгромлены!» На гэта мы з Таняй спадзяваліся, а Гарох меў цвёрдую ўпэўненасць, што фарсіраваць Днепр ворагу не ўдасца.

На покліч дзеда мы крыху звярнулі ўправа, але ўсё-такі браліся на ўзгорак, быццам самі ногі няслі нас туды: шырокі зялёны прастор вабіў нас, а з Дняпра цягнула свежым водарам. Нават на самым грабяні ўзгорка расла густая выпасная трава. А бліжэй да Дняпра? Напэўна ж, не знайсці нідзе лепшага выпасу для жывёлы! І нам бы тут адпачыць пры вадзе.

Я заўважыў, што зусім нядаўна, можа, і сёння, тут пасвіліся калгасныя ці саўгасныя каровы, бо свежыя, яшчэ не прыпалыя пылам сляды капытоў траплялiся ў тых месцах дарогі, дзе не магла ўрасціся трава.

Дзед з узлеску ўсё сачыў за намі і папераджальна памахваў рукамі.

— І што яму трэба! — зласнавата выказаў сваё здзіўленне Гарох.— Вораг жа не з таго боку прэ!

Бачачы, што мне ісці на ўзгорак яшчэ больш цяжка, Гарох доўгімі, прыгінастымі крокамі апярэдзіў нас і падаўся адзін да Дняпра. Можна было падумаць, што ён і зусім пакіне нас, ненадзейных у доўгай хадзе, і адразу пашыбуе на мост, калі ён там ёсць, за ўзгоркам. А няма, то пераплыве Днепр. Ці ўмее толькі плаваць? На тым баку — ужо ніякай небяспекі!

І вось раптам Гарох спыніўся і стаў пільна, прыклаўшы далонь к брывам, углядацца не ў той бок, дзе павінна быць пераправа, а ў процілеглы ад узлеску. Што там можа быць на чыстым прасторы, на добрым выпасе? Дзед рашуча замахаў яму рукамі, голас старога пачаў ужо нават зрывацца.

— Вы што, пагібелі?.. Пагібелі захацелі? Міны там! Кажу — міны!

Гарох стаяў, як ачумелы. Ён ужо баяўся ступіць крок не толькі наперад, але і назад, а тым больш — убок, каб рушыць да ўзлеску, дзе стаяў дзед. Калі мы падышлі бліжэй, Гарох стаў падаваць трывожныя знакі і нам, а сам увачавідкі збляднеў і быццам неяк вузіўся, ніжэў, нібы сціскаўся ад нястрымнага холаду. Потым і зусім апусціўся на калені. Нам толькі паказаў удаль, квола ўзняўшы руку, а вымавіць нічога не мог.

Ды тут і не трэба было ніякіх слоў, усё, што прывяло да здранцвення Гароха, мы з Таняю ўбачылі самі. Мы ўбачылі той калгасны ці саўгасны статак, які ўяўляўся мне тут на раскошным прырэчным выпасе. Сённяшні статак, відаць, нядаўна прыгнаны сюды на сочную траву ды на ціхі звычны вадапой. І вось ён усёй шчыльнай чарадою перад нашымі вачамі, у такім жа гуртавым парадку, як скіроўваўся да Дняпра, як імкнуўся хутчэй дайсці да берага і асвяжыцца чыстай вадою, памачыць хвасты ды сагнаць імі аваднёў са спін і бакоў.

І ніводная рагулька не дайшла да вады. Статак ляжаў, але не ў такой раскошы і вольнасці, як на стойле пасля прагнага вадапою. Дарэмна будуць чакаць рагулек на ферме, а можа, некаторых і дома, каб падаіць іх ды напаіць сырадоем дзетак. Калі б прыйшлі сюды даяркі і гаспадыні (а яны,

можа, і былі), то і не пазналі б сваіх карміцелек: ад некаторых з іх асталіся толькі тулавы ў лужынах спёклай крыві. Амаль увесь прырэчны выпас чарнеў ад гэтай спёкласці, і густая трава тут быццам раптоўна абгарэла, зрыжэла, а месцамі і струхнела ад страшэнных выбухаў.

— Што гэта такое?.. Што мы бачым?..— пачаў нібы стагнаць, нібы дапытвацца Гарох, усё яшчэ стоячы на каленях.— На сваёй роднай зямлі, у такой далечыні ад фронту!.. Як ты думаеш, Васіль?.. Ты чалавек ваенны.

— Відаць, замініравалі нашы падыход да Дняпра,— падаў і сваё меркаванне.— А той, хто ведаў пра гэта, не паведаміў людзям.

— Дык жа дзед там стаіць!

— Яго паставілі пасля выбухаў.

— Я задаўлю яго!..— трасучыся, як у сутарзе, прапішчаў Гарох.— Вось гэтымі, сваімі рукамі!.. Калі толькі ён вінаваты!..

Гарох трымаў рукі над галавою... Пальцы растапырыў, нібы і напраўду хацеў схапіць некага за горла. Але адчувалася, што ў пальцах не было пруткасці і належнай сілы, яны квола і непаслухмяна згіналіся і выпросталіся ды ўвесь час дрыжалі.

— Хадзем туды! — запатрабаваў Гарох.

Голас яго павысіўся і займеў нават рашучы, начальніцкі тон, а ногі ў каленях быццам не мелі сілы выпрастацца і трымалі прысутуленую постаць усё на тым жа месцы: Гарох толькі галаву павярнуў у той бок, адкуль нядаўна чуліся воклічы старога вартаўніка. Відно было, што наш спадарожнік баіцца першым скрануцца з месца, напэўна, мяркуючы, што міны тут закладзены ўсюды, і, можа, толькі прыдняпроўскі ўзлесак не замініраваны, таму і патупвае там неспакойны дзед.

Таня пайшла сцяжынкай, што ледзь прыкмячалася на самым узгорку. Сцяжынка была вузкая, як на аднаго чалавека, відаць, пратапталі яе напрадвесні, калі на рачной пойме было яшчэ вільготна. Вяла яна да ўзлеску.

Прысігаўшы следам за намі, Гарох адразу накінуўся на вартаўніка:

— Вы куды глядзелі?! Як маглі дапусціць, каб

столькі дзяржаўнага дабра загінула? Злачынства!.. Судзіць вас мала!..

На маё здзіўленне, стары пачаў гаварыць спакойна і зусім ціха, нават сіплавата: можа, голас сарваў, папярэджваючы тут людзей, а хутчэй за ўсё — надакучыла яму апраўдвацца перад людзьмі і перад самім сабою, магчыма, і не хацелася апраўдвацца.

— Каб я ведаў, то, канечне ж, не гнаў бы сюды,— ледзь не шэптам пачаў дзед.

— Як вы сказалі? — аж заходзіўся ад абурэння Гарох.— Вы самі і прыгналі сюды кароў?

— Сам,— прастадушна паўтарыў стары.— Бо я тут пастух наняты. Не ведаў жа нічога! І ўчора сюды прыганяў, і кожны дзень... Ноччу тут падклалі міны.

— Дык гэта не калгасныя і не саўгасныя каровы? — крыху знізіў тон Гарох.— Што тут у вас, калгас ці саўгас?

— Калгас Варашылаў,— адказаў дзед.— Але гэта нашы каровы, не калгасныя. Я наняты пасвіць ад сяла... А калгасныя ўчора пагналі за Днепр. Асталіся толькі нашы... Ды вось... І мая кароўка тут лягла...

Дзед зняў з пянька нешта падобнае на шапку — чорнае, памятае, нібыта і без казырка, выцер ім пот з ілба і, як я заўважыў, заадно і слёзы, потым абыякава махнуў гэтым выціррадлам і стаў гаварыць далей:

— Наконт суда, кажаце... Дык хіба страшны мне яшчэ які суд?.. Вунь судзілі ўжо надоечы... Сабраліся гаспадыні... Гаспадароў толькі што лішыліся — на фронт мужчыны пайшлі... А тут і каровак... Ва ўсіх малыя дзеткі... У мяне ў самога двое ўнукаў...

— А там мінаў няма? — спытаў Гарох, паказваючы рукою на ўзлесак, у бок Дняпра.

— А хто ж іх ведае,— няўпэўнена адказаў дзед.— Каля нашай вёскі то відно, што няма: праходзілі тут людзі... А ля берага?.. То ваенная тайна. Можа, і ведаў хто ў праўленні ці ў сельсавеце... Тых ужо няма на месцы.

— А дзе ж яны? — прыдзірліва дапытваўся Гарох.— Яшчэ ж фронт далёка!

— Гэтага я вам не магу сказаць,— цярпліва і не трацячы сваёй ціхай памяркоўнасці, прамовіў стары.— Бо і сам не ведаю.

Гарох сеў на той прычарнелы бярозавы пянёк, на якім толькі што вісела дзедава шапка, тужліва і разгублена паглядзеў на сонца, якое ўжо знізілася і аддалілася на захад і пасылала адтуль зыркія косыя прамяні ўсяму прыдняпроўскаму прастору.

— Пераначаваць у вёсцы можна? — спытаў у дзеда патрабавальна і настойліва. Потым разгублена глянуў на мяне, на Таню і дадаў: — Вечарэе ўжо... За Днепр нам сёння не прабрацца.

— Добрым людзям то чаму ж,— гасцінна адказаў дзед.— Можна і пераначаваць... Мясцоў хапае... Вы бежанцы, мабыць?.. Тут многа людзей падалося за Днепр. Ваенныя дык ужо раненыя некаторыя і кантужаныя, не тут кажучы... Вы, таварышок, таксама ранены? — звярнуўся ён да мяне.— Ужо ў баях пабывалі?

— Са шпіталя,— адказаў я.— Адпушчаны часова. А гэта жонка мая,— паказаў я на Таню.

— Памагае вам ісці?..— паспачуваў стары.— Дык вам і вельмі трэба аддыхнуць... Можа, яшчэ і спакойна ў нас будзе ноччу.

— Да каго там звярнуцца? — не адыходзіў ад афіцыйнага тону Гарох.— Хоць які член сельсавета ў вас астаўся?

— А нашто ён вам? — нібыта здзівіўся стары.— Да каго зойдзеце, той і пусціць. Калі не пабрэзгуеце, то заходзьце да мяне. Крайняя хата з гэтага, што адсюль відзён, канца. Новы лабок, яшчэ не пафарбаваны... Скажаце нявестцы, што я прыслаў, Несцер.

Мы пайшлі ў Несцераву вёску. Таня ўвесь час наравіла ісці наперадзе і каб якраз па той вузкай, да пяску выбітай сцяжынцы, па якой хадзіў вяскоўвы статак, напэўна, той, што ляжыць цяпер непадалёку ад свайго звычайнага вадапою. Лёг там навечна.

Гарох плёўся далекавата ззаду, не надта адставаў ад нас, аднак відно было, што і не надта імкнуўся наблізіцца.

Я прыпыніў Таню і пайшоў побач з ёю. Незалежна ад таго, якія меркаванні выношваў цяпер у

сваёй душы Гарох, мы павінны былі самі абдумаць, што рабіць далей. Перш за ўсё — ісці за Днепр цяпер жа, не зважаючы на позні час, ці пераначаваць тут у вёсцы?

— Як ты, так і я,— сказала Таня.— У полі за Дняпром пераначуем, калі да якога пасёлка не дацягнем. У лесе!.. Цяпер мне нічога не страшна! Абы з табою!..

Паспаць бы хоць гадзіну на дзедавым сене ці на саломе — лепшага б і не сасніць ніколі. І смага вельмі мучыла. Чамусьці ўжо даўно перасушвала яна рот, дзеравяніла язык і рабіла яго зусім непаваротлівым, нібы чужым. Спачатку ўяўлялася спакуслівая асалода — упасці на зялёны бераг Дняпра і ўткнуцца носам і вуснамі ў халодны свежы струмень... Цяпер думалася аб тым, што на Несцеравым двары павінен быць калодзеж... З высокім жураўлём ці доўгім калаўротам. І драўлянае, прапітанае вільгаццю вядро будзе прывязана да трывалага каната ці ланцуга... Загрыміць вядро, глуха і ўсё больш аддалена, падаючы ў калодзеж... І чутно будзе, як шлёпнецца днішчам па вадзе, потым перавернецца і патоне ў чыстай, прыемна-сцюдзёнай вадзе. У зубах крыху заломіць ад такой вады, затое смагу яна ўтоліць хутка і сілу падтрымае.

— Можа, хоць кроплю малака? — сумна прамовіла Таня і паглядзела на свой клуначак, які трошкі пакруглеў ад угорнутай туды дараванай пасудзінкі.

У мяне аж у вачах пацямнела ад жадання глытнуць сырадою, але адразу мільгнула перад вачамі тое, што нядаўна бачылася на беразе Дняпра.

Каля Несцеравай хаты нас дагнаў Гарох.

— Дык начуем?! — нібы спытаў ён, нібы загадаў.

Мы яшчэ не ведалі, што адказаць, бо ваганне наша не ўлягалася.

— Уладкуемся...— больш сам сабе і Тані, чым яму, пачаў гаварыць я,— заснём моцна... А прачнёмся пры немцах?.. Што тады?

— У цябе форма...— буркліва заўважыў Гарох.— Адзець бы што-небудзь вясковае... На ўсякі выпадак, канечне...

Мяне падмывала кінуць яму слоўца, ды Таня была побач, пашкадаваў яе вуха.

— Змяні свой фрэнч! — стрымаўшы абурэнне, параіў я.— А то ён у цябе залішне кіраўнічы, хоць і не ваенны.

Гарох прайшоўся пальцамі па круглых гузіках, звычна затрымаў руку за бортам, ды міжвольна апусцілася рука, квола павісла збоку: гузікі былі расшпіленыя.

— Так, так,— пасля сумнага памоўчвання стаў выкладвацца наш спадарожнік.— Не мінуць бяды нам абодвум. Не мінуць... У мяне яшчэ ж вось гэта...— Ён выняў з унутранай кішэні фрэнча складны раменны кашалёк, падобны на невялікую папку, дастаў адтуль чырвоную кніжачку партбілета і службовае пасведчанне.

— А ў мяне кандыдацкая,— сказаў я, але паказваць Гароху не стаў, а толькі памацаў верхнюю кішэньку гімнасцёркі. Яна ляжала там разам з адпускнымі дакументамі.

— Абодвум нам,— паўтарыў Гарох.— Абодвум!.. Тым больш калі гэтак будзем абараняцца...— Ён павярнуў галаву і паказаў носам у той бок Дняпра, дзе ўзарваўся статак.— Накідалі мін без толку, без розуму...

Раптам ён стаў уважліва і быццам бы неяк прыдзірліва глядзець на Таню, нібыта нешта вышукваючы ў яе сціплай адзежы. Тая аж засаромелася, пачала разгублена аглядваць сама сябе. Я таксама заўважыў гэта, і ўжо ледзь не пацягнулася мая рука ўзяць яго за доўгі нос ды адвесці вочы ў другі бок, як ён сам апусціў галаву і стаў гаварыць сабе пад нос нешта зусім невыразнае. Таня звярнула на гэта ўвагу толькі таму, што пачула сваё імя.

— Што, што? — настойліва і раздражнёна перапытала яна.

Мяне здзівіла яе насцярожанасць.

— Я кажу...— больш пэўна стаў ён цягнуць далей.— Я спадзяюся, што ты, як сапраўдная патрыётка, магла б памагчы нам...

Таня затрывожылася:

— У чым памагчы? Як? Усё, што я магу...

— Ты ж разумееш,— унушальна працягваў Га-

рох,— а Васіль, канечне ж, тым больш... Нам з ім няёмка хадзіць па сяле ды выменьваць у каго цывільную адзежку... Хаця б світку якую... А табе гэта прасцей... Жанчына з жанчынай хутчэй дамовіцца... Улічыўшы, канечне, што мяняем новае на старое...

Вочы ў Тані раптам гнеўна заблішчалі, і гэты амаль вогненны бляск перакінуўся на мяне і нібы абпаліў маё нутро.

— Нічога я мяняць не буду! — крыкнуў я так, што аж Таня здрыганулася, а жанчына, што непадалёку корпалася ў агародзе, раптам выпрасталася і пачала глядзець на нас цікаўна і здзіўлена. Схамянуўшыся, я прыціх, Гарох таксама пакуль што не падаваў голасу, і ў гэтай вячэрняй цішыні пачуўся нудлівы і, мабыць, ужо зацяжны плач дзіцяці.

— Дык я ж толькі меркаванне...— паспрабаваў апраўдвацца Гарох.— Хацеў як лепш... З гісторыі партыі вядома, што нават Ленін мяняў сёе-тое з вопраткі, калі гэтага патрабавалі абставіны... Падполле, маю на ўвазе... Канспірацыя... А мы цяпер амаль што ў падполлі... Немец прэ па пятах...

— Мне здаецца, што спасылка на Леніна тут не да месца,— стрымліваючы сваё абурэнне, заўважыла Таня.— Мала таго, што гэта вельмі нясціпла, дык яшчэ і непісьменна, бо нельга раўняць тыя ўмовы з гэтымі!

— Адным словам,— дадаў я,— хочаш мяняцца — ідзі па дварах сам! Я нікуды не пайду і Таня не пойдзе!

— Ну, а што далей? — пачаў быццам бы здавацца Гарох.— Стаць ахвярай фашыстаў?.. Ты адразу трапляеш у палон, я ў лагер... А можна думаць і пра горшае... З камуністамі яны не вагаюцца...

— За Дняпром далучымся да сваіх! — рашуча сказаў я.— Станем у строй!

— З кійкамі ў руках? — здзекліва ўсміхнуўся Гарох.

Гэтая мая рашучасць у голасе засмуціла Таню. Вядома ж, яна і без слоў разумела, што наш намер завітаць у Цяцерына ды хоць дзянёк адпачыць там — не можа збыцца. Адчувала, што і расставанне наша недзе не за гарамі. Аднак пакуль не чула

пра гэта ад мяне самога, то, відаць, боль у душы не заўсёды даходзіў да вострай нястрымнасці. Цяпер вочы яе патухлі, звыклая жвавасць у рухах знікла. Гарох яшчэ падаваў нейкія свае меркаванні, намагаўся нешта даводзіць, абгрунтоўваць, ды Таня ўжо не слухала яго, рупліва аглянула наваколле, напэўна, першая заўважыла хату з новым лабком і паспешліва накіравалася да жанчыны, якая ўсё яшчэ аставалася на прыгуменні.

Плач дзіцяці даносіўся да нас усё больш зычна і ўражальна: мабыць, нешта вельмі баліць малому, калі так бесперапынна плача. Дзіця заходзіцца, а маці быццам без увагі да гэтага, штосьці прапалвае і выбірае на агародзе. Сядзіба ад той хаты, што з новым лабком, значыцца, Несцерава. І плач дзіцяці чуцён з гэтай хаты... Хуценька вярнулася Таня, пагаварыўшы з жанчынай. Паведаміла, што гэта і ёсць Несцерава нявестка.

— А стары не абяцаў прыйсці? — спытала жанчына, калі даведалася, што мы ад Несцера.

— Нічога не гаварыў,— сказала Таня.

— Пайшоў, крошкі хлеба не ўзяў. Гэта ж такое няшчасце ў нас... Такое няшчасце!..

— Можа, яго хто замяніць нанач? — паспачувала Таня.

— Ды наўрад,— усумнілася жанчына.— А калі хто і прыйдзе, то стары не пакіне таго месца: вельмі ж мучыцца сваёй віною перад людзьмі... А хіба ён ведаў?..

Несцерава нявестка, яшчэ маладая і даволі мілавідная жанчына, запрасіла нас у хату, заклапацілася, каб чым-небудзь падхарчаваць бежанцаў. Я папрасіў толькі вады. На ложку сядзеў, падабраўшы пад сябе босыя ногі, хлопчык гадоў двух. Пры ім стаяла дзяўчынка, трохі старэйшая. Абое з цікавасцю ды з нейкай насцярожанасцю глядзелі на нас, хлопчык нават перастаў плакаць, калі мы пераступілі парог. Аднак вочы яго былі яшчэ ў слязах і на шчоках не высахлі мурзатыя раўчукі.

— Гэта ён плакаў? — звярнулася Таня да гаспадыні і ласкава паглядзела на малога.— Такі вялікі ўжо ды прыгожы!.. Брыдка табе плакаць!

— Дык вось жа, малочнік!..— пачала нібыта скардзіцца маці, але ў голасе і радасць была, што

людзі хваляць сынка.— Без малака жыць не можа!.. Нічога яму не давай, абы толькі малако. Ды яшчэ парное. К гэтаму часу кароўка наша дадому прыходзіла. А цяпер... Вы ж ведаеце... Вось ён і плача... Не верыць, што карміцелькі нашай ужо няма...

— Вунь, вунь!..— паказаў хлопчык пальцам у мыцельнік і зноў заплакаў.

— Што вунь? — з ласкавай спачувальнасцю папытала ў яго маці.— Слоік стаіць? Дык пусты ён бачыш?..— І паясніла Тані: — Гэта я ў гэты слоік яму малако налівала... Глядзіць на пасудзінку і плача.

— А што, калі б папрасіць у каго?..— па-сяброўску зашаптала Таня жанчыне на вуха.— Няўжо ва ўсім сяле ні ў кога няма шклянкі малака?

— Наўрад, наўрад,— закруціла галавой гаспадыня.— У адной там на самым канцы, кажуць, асталася карова — не паспела выгнаць. Дык вельмі скупая тая жанчына, не падзеліцца... Праўда, і ў самой у яе малыя дзеці.

Праз некаторы час Таня, нічога не сказаўшы нам, выйшла з хаты. Каб не аставацца з Гарохам, неўзабаве выйшаў і я. У двары было да глухаты ціха і быццам бы зусім пуста без каровы. Ля адрынкі лянiва граблася ў старой мякіне запозненая на седала кура. Ці яна і была тут адна на ўвесь двор, ці адбілася ад свае чарады? І ва ўсёй вёсцы не чутно было нічога жывога, быццам амярцвела ўсё, быццам у маўклівай жалобе ўсімі тут памiналася гібель статка.

Наступаў прыцемак. Мяне пачынаў адольваць сум без Тані, асабліва калі ўпэўніўся, што ў двары яе няма. А потым і трывога стала падбірацца пад сэрца: куды яна магла пайсці? Чаму нічога не сказала мне?..

За сенцамі быў адкрыты хлевушок, адтуль пахла стойлам і свежым сенам. Відаць, там адна палавіна была адгароджана для каровы, а другая для сена. Мне ўявілася па даўніх успамінах, што ў майго бацькі таксама была такая завядзёнка — трымаць спажыву пры карове, хоць для сена ў яго было асобнае гуменца.

Пах Несцеравага сена пераважаў над пахам

стойла, мабыць, усё яно было мурожнае ды напалам з чаборам. Паляжаць бы хоць хвілінку на такім сене — не ўявіш большай асалоды, але я адчуваў, што як толькі схілю галаву ды выпрастаю сваю адзеравянелую ад стомы нагу, то наўрад ці саўладаю з сабой, каб адагнаць сон. А Тані ўсё няма. З ёй нават яшчэ не дамоўлена канчаткова, начуем мы тут ці ўсё ж рушым за Днепр.

Абапёршыся на кіёк і гэтым даўшы палёгку назе, якая стала яшчэ больш ныць, пасля таго як пасядзеў крыху ў хаце, я на момант завагаўся, падацца мне ў адрынку з сенам ды там пачакаць Таню ці даклыпаць да каліткі, якая была напалавіну адкрыта, і паглядзець на вуліцу. Можа, дзе там жонка?

Калітка ціха скрыпнула, калі я крануў яе. На завесах хадзіла лёгка, і калі да майго дотыку стаяла нерухома, то гэта паказвала, што тут быў поўны зацішак. Подыху ветру не адчувалася і на вуліцы, надыходзіла тая цудоўная летняя ноч, калі збажына і садавіна спеюць нават і без сонца.

Успёршыся локцямі на верхняе пярыльца варот, я ўглядаўся ў самы канец вуліцы, там было ўжо амаль зусім цёмна. А калі добра не бачыш, то і не верыш, што нідзе нікога няма. Мне чамусьці ўяўлялася, што Таня недзе там, што вось-вось яна вынырне са змроку і я здалёк пазнаю яе імклівую хаду...

Ды не было пакуль што нікога. Павярнуўся да адрынкі, яшчэ раз аглянуў двор. Запозненай куры ўжо не было. І адчулася мне, што я адзіная жывая істота, якая тырчыць цяпер на вуліцы.

Праз нейкую хвіліну непадалёку ад варот нешта варухнулася ў густым драсёне. Я схамянуўся, але ў той жа момант нібы і зарадаваўся: не адзін тут, ёсць яшчэ нехта! Непадалёку стаяў на трох нагах нечы дварняк і са стрыманым недаверам глядзеў на мяне. Адкуль ён з'явіўся, я не заўважыў, бо не глядзеў на выган. А цяпер бачыў яго круглыя жаўтаватыя вочы — яшчэ хапала на гэта віднаты,— вызначыў, што і па масці ён жоўты, толькі белыя плямы, як лапіклы на адзежы, быццам прышытыя да бакоў і да сцягна.

— Ну, што? — абазваўся я да сабакі.— Ідзеш дадому? А ці ёсць табе куды ісці?

Ён даверліва падкульгіцаў да мяне, падагнуўшы заднюю нагу, спыніўся ля варот, узняў угору галаву.

— На міну трапіў ці як? Чаго кульгаеш?

У вачах сабакі было столькі разумення, што мне здавалася, быццам ён успрымае мае словы і хоча неяк адказаць мне, ды не мае на гэта божага дару.

— Ты, можа, ад Несцера? — запытаў я.— То заходзь у двор! — І прыадчыніў калітку.

Сабака некаторы час не кратаўся з месца, а потым вышэй падцягнуў заднюю нагу і пакульгіцаў далей па вуліцы. На праёмчык у калітцы не звярнуў увагі.

...Таня з'явілася амаль знянацку: загаманіўшы з кульгавым дварняком, я не заўважыў, як яна вынырнула са змроку. У руках яе быў той сіні кубачак, які нам нядаўна падаравалі ў адной вёсцы.

— Малому, каб не плакаў?

— Ледзь выпрасіла,— шэптам загаварыла Таня.— Такая скупая жанчына!.. І вось толькі ў яе асталася карова...

— Ну нясі... Аддай малому! Ды прыходзь!.. Я ў адрынцы буду... На сене...

З Таняй мне трэба было яшчэ параіцца, абмеркаваць нашы бліжэйшыя маршруты. Магчыма, і не затрымлівацца тут, хоць, можа, такога зручнага ўтулку для начлегу ўжо і не займееш. Мабыць, гэта апошні ўтулак...

Чароўны пах чабарку ў сене ахутаў мяне незвычайнай ласкаю і быццам з усіх куткоў адрынкі навеяў на мяне сон. Як ні супраціўляўся дрымотам, як ні прымушаў сябе адганяць сон і дачакацца Тані, пах чабарку ўзяў сваё — заснуў я хутка і моцна, самым здрадніцкім і небяспечным для такога часу сном.

«А калі б раптам самалёты варожыя?.. Ды на самую адрынку?.. А калі б танкі варожыя?..»

Гэты дакорлівы голас, нібы свой, нібы чужы, я чуў ужо ў сне.

«Дык мы ж ідзём адсюль! Ідзём! Вось толькі Таня затрымалася... Корміць малога... Няхай не плача малы з голаду!..»

Мне пэўнілася, што трымаю свой кіёк у руках, збіраюся ісці да Дняпра... Падыходзіць Таня і кажа: «Навошта табе гэты кіёк?.. Ты ўжо здаровы, нага загаілася...»

Сапраўды загаілася... Чабарок вылечыў. Ступаю без кійка — ніякай млявасці... «Пайшлі хутчэй! — кажа Таня.— Давай пабяжым, пакуль мост на Дняпры не ўзарвалі...» І мы пабеглі — нібы паляцелі...

— Ты ж галодны,— клапатліва гаворыць Таня. Вусны каля майго вуха... Ад цёплага казытання я прачынаюся і з горнасцю адчуваю, што не бягу, не лячу, а ляжу на сене... Таня пры мне з кубачкам у руках: — Прымгнуў трошкі... Мне так шкада было цябе будзіць... Я пакінула табе кроплю малака... І хлеба свежага гаспадыня лусту адрэзала... З'еш ды паспіш яшчэ.

— А ты?

— Я таксама пасплю... Чула на тым канцы вёскі, што немец яшчэ далёка адсюль. Можа, і не папрэ далей...

Нешта моцна і пранізліва закрычала над галавою: я спалохаўся і прахапіўся. На гладкай жэрдачцы, пакладзенай наўскасяк над пустым стойлам, сядзела, ўвабраўшы ў пер'е галаву, тая старая кура, што адвячоркам жывілася каля хлевушка, а побач з ёй на ўвесь свой галагуцкі рост стаяў рыжы, з вялізным чырвоным грэбенем певень і бадзёра пакручваў доўгай шыяй, відаць, збіраўся падаць голас яшчэ раз.

«Дзякуй, сусед! — падмывала мяне сказаць яму.— Разбудзіў упору!»

Сапраўды, ужо нават у кутках хлевушка было віднавата. Мы выйшлі ў двор. Следам за намі з'явіўся і певень, а куры яшчэ не было: відаць, яна мела не зусім птушыную звычку — пазней садзіцца на седала і пазней злазіць. У хаце было ціха, дзеці яшчэ спалі. Гаспадыня таксама магла сёння не ўставаць на дасвецці — каровы няма: ні даіць, ні выганяць не трэба. Аднак я заўважыў, што нехта ўжо мільгнуў у хаце ля акна. Можа, Гароха будзілі па яго просьбе.

Ідучы да студні, каб зачарпнуць сцюдзёнай вады, я заўважыў ля задняй падрубы хлевушка таго

кульгавага дварняка, з якім учора размаўляў каля варот. Ён крыху вінавата, але разумна паглядзеў на мяне, нібы прывітаўся, а потым выцягнуў пярэднія лапы пад падрубу і пачаў старанна грабці.

«Якая там спажыва для сабакі? — падумалася мне.— Бяздомнік, мабыць... Галадае. Учора зваў сюды, дык не пайшоў...»

Між тым кульгавы стараўся на ўсю моц і разпораз паглядваў на мяне, нібы хацеў сказаць: «Пачакай, не адыходзь!.. Тут нешта ёсць!..»

Падышла Таня. Я паказаў ёй, як шчыруе пад падрубаю сабака, але не прыпыняўся, каб дачакацца і пацікаваць, што там выграбецца, бо вельмі спяшаў, каб хутчэй выйсці адсюль.

— Зойдзем на хвілінку ў хату, развітаемся з гаспадыняй.

У руках гаспадыні я заўважыў Гарохаў фрэнч з вялікімі круглымі гузікамі. А яго самога не відно было ў хаце.

— Дзе ж ён? — спытаў я, шарачы позіркам па кутках.— Гаспадар гэтага фрэнча?

— Дык пайшоў! — неяк здзіўлена і неспакойна паведаміла жанчына.— Хіба вы не ведаеце?.. Яшчэ давідна пайшоў. А фрэнч пакінуў... За дзедаву світку аддаў... Не ведаю, што яшчэ скажа дзед, калі вернецца з дзяжурства. Канечне ж, з такімі гузікамі ён фрэнча не надзене.

Толькі цяпер я заўважыў, што ў руцэ жанчыны бліснулі маленькія нажнічкі...

Несцер спускаўся з узгорка, калі мы выйшлі за ваколіцу вёскі і ўзялі напрамак на Днепр. Твар яго быў змораны і да таго пастарэлы за ноч, што здавалася, быццам мы вельмі даўно не бачылі гэтага чалавека. Стары нёс у правай руцэ сваю змятую і падобную на згорнутую анучу кепку. Галава пакіўвалася ад няроўнай хады, сівыя валасы вецер раздзьмуваў і закрываў пасмамі вочы, а лысіну агаляў. Каб не пазналі мы Несцера, як толькі ён паказаўся на ўзгорку, каб не ведалі, адкуль ён ідзе, то маглі б падумаць, што чалавек вяртаецца з могілак і не надзявае шапкі таму, што яшчэ моліцца па нябожчыку.

Мы супыніліся, каб развітацца са старым і рас-

пытаць, як зручней перабрацца на той бок Дняпра.

Стары прыветна ўзмахнуў шапкай, пазнаўшы нас яшчэ сподалеку.

— Раненька вы! — заўважыў, калі наблізіўся.— Можна было яшчэ трохі аддыхнуць. Дзе начавалі?

— У вас,— адказала Таня.— Дзякуй вам.

— На свежым сене,— дадаў я.

— Так, цяпер каровы няма...— сумна прамовіў стары,— то і сена маё... Дарэмна касіў, сушыў... А дзе ж ваш трэці? У фрэнчы каторы?..

— Пайшоў некуды адзін,— сказаў я дзеду.— Яшчэ ноччу... А фрэнч свой у вас пакінуў...

— То гэта нешта нядобрае з чалавекам,— насцярожыўся стары.— Нашто мне гэты яго фрэнч? А сам што?.. Без нічога пайшоў?.. Голы?..

— Нешта надзеў там узамен.

— Патрэбна мне яго мяна!..

Стары паказаў нам, як лепш прайсці да Дняпра і пераправіцца на той бок.

— Там мосцік яшчэ трымаецца... Немец бамбіў нядаўна... Калі нашы не замініравалі яго гэтай ноччу, то пройдзеце паціху... Пераберацеся.

Стары зыбучы мост праз самае вузкае плёса Дняпра яшчэ вісеў на высокіх прыбуцвелых быках, хоць быў разарваны выбухамі ў двух месцах. Людзей тут не было, усе тоўпіліся ля недалёкага парома. Наконт замініравання таксама ніякіх указак ці папярэджанняў ля моста не заўважалася. Мы намерыліся як-небудзь перабірацца цераз гэты мост, хоць перапаўзці тыя часовыя пераклaдзіны, што былі на разрывах. Але на адным такім вузкім месцы, як на дзіва, нам перагарадзіла дарогу карова з вялікімі, пагрозлівымі рагамі і мажнымі, амаль на ўвесь мост, пярэстымі бакамі. Яна, нібы насуперак нам і ўсім тым, хто падаваўся на той бок Дняпра, асцярожна, але ўпэўнена клыпала на гэты бок, на свой звычны, і, напэўна, мела накірунак дадому, у свой хлеў ці на сваю ферму.

Павага наша да пярэстай рагулі была, вядома ж, самай лепшай: мы спрабавалі прылашчыць яе, каб сяк-так размінуцца, хоць упрыцірку з яе добра нахарчаванымі бакамі, або нават пралезці пад бакамі. Відаць, адбіўшыся ад эвакуіраванага статка, карова добра напасвілася ў прыдняпроўскай пой-

ме, а тады надумала падацца дадому. Таня і ласкавыя словы ёй гаварыла, і лустачку хлеба падавала, аднак пярэстая не саступала з дарогі і, калі мы падыходзілі зусім блізка, настаўляла на нас вялікія, вострыя рогі.

Давялося ўступіць ёй дарогу. Мы з мірам і паслухмянасцю рушылі назад, а карова, як на павадку, пакрочыла за намі.

На зялёным беразе, парослым кустамі алешніку і ракіты, рагуля спынілася, і Таня першая заўважыла ў яе вачах ласку і тужлівую пакуту. Таня паднесла ёй тую лустачку хлеба, што давала на мосціку, і карова выцягнула насустрач шыю, лізнула па жаночай далоні шырокім, шорсткім языком.

— Яна, можа, суткі не доена,— сказаў я, крыху саромеючыся таго, што яшчэ з пастухоўскіх год запомніў, як пазнаваць такі стан дойнай каровы.

Таня паглядзела на вымя рагулі і занепакоена паківала галавой:

— Саскі распіраюцца, аж сочыцца з іх малако!.. Яна ж упасці можа ад болю.

— Ты калі-небудзь даіла карову? — спытаў я і хацеў сам жа адмоўна пакруціць галавою, але пачуў упэўнены адказ:

— Даіла. У нас была карова, хоць мы і заводскія.

— Паспрабуй хоць трохі спусціць ёй малако!

Рагуля нібы разумела нашу размову, паглядвала на нас вялікімі круглымі вачамі і памахвала доўгім і пышным знізу хвастом, бо ўжо надлятала летняя заедзь.

— Вазьмі кубачак,— папрасіла Таня,— ды зачэрпні чыстай вады! Я абмыю ёй саскі.

Пярэстая без ніякага знаку нязгоды, быццам нават з удзячнасцю, падпусціла Таню пад сваё набухлае вымя. З саскоў адразу палілося малако, як толькі Таня дакранулася да іх, каб памыць. Потым яна стала здойваць пярэстую ў кубачак, невялікая пасудзінка напоўнілася хутка, і Таня падала яе мне. Падала, нічога не сказала, бо, канечне ж, не ведала, ці люблю я сырадой, ці здолею піць непрацэджанае.

А я падумаў: «Што ж, у Днепр выліваць такое

багацце?» І выпіў. Вярнуў Тані пусты кубачак. Яна падала мне зноў поўны, але ўжо са скібачкай хлеба наверсе.

— А ты сама не магла б падхарчавацца такім чынам? — паклапаціўся я.

— Потым,— адказала Таня.— Трэба спачатку кароўку выратаваць.

З поўным кубкам малака для Тані мы заспяшаліся на мосцік, ужо неяк інстынктыўна баючыся, што зноў нешта перашкодзіць нам перабрацца на той бок. Рагуля з ласкавым сумам некаторы час пaглядвала нам услед, аднак на мосцік за намі не пайшла.

— Ідзі дадому, кароўка! — клікнула ёй Таня.

Калі мы яшчэ раз азірнуліся, пярэстай ужо не было на тым месцы, дзе мы яе пакінулі. Паслухала жанчыну — пайшла дадому. А дзе яе дом? Калі гэта ферма таго калгаса, дзе мы толькі што былі, дык хто яе там прыме? Хлявы зачынены — жывёлу пагналі за Днепр. От каб яе Несцер убачыў ды ў свой хлевушок з духмяным сенам загнаў! Было б малачко для малога хлопчыка, які жыць не можа без сырадою. Была б уцеха старому Несцеру...

Таня пачала снедаць на другім беразе Дняпра.

— Як манна з неба...— з сумнай усмешкай прамовіла яна, узняўшы на ўзровень вачэй сіні кубачак.

Я намагаўся не глядзець, як яна кусае хлеб і патрошку запівае малаком.

— Харошая кароўка... Малако густое, смачнае...

Гэта зноў гаворыць Таня. Яна імкнецца ўцягнуць мяне ў гаворку, каб не сумаваў. Яна адчувае, па якой прычыне я смуткую. І ў самой, напэўна, сэрца абліваецца слязьмі, але не паказвае выгляду, пераадольвае свае пакуты, каб мне было лягчэй.

Колькі мы ідзём, ад Клічава, я, здаецца, ні разу не сказаў, што за Дняпром павінны будзем развітацца. Хіба, можа, намякнуў як-небудзь неасцярожна. Але не памятаў гэтага. Таня сама зразумела, што набліжаецца такая непазбежнасць і ніякімі сіламі-волямі яе не мінеш: не абыдзеш, не аб'едзеш.

Як усё гэта адбудзецца, дзе і якім чынам, мы

не ведалі. Магчыма, і доўга яшчэ прыйдзецца ісці, пакуль сустрэнецца на дарозе якая воінская часць. Тады трэба будзе самім звяртацца да камандзіра... Таня лепш за мяне ведала, але адчуваў гэта і я, што без медыцынскай дапамогі ўжо не абысціся — швы на назе пачынаюць загнойвацца. Трэба прасіцца ў санчасць, а там могуць і затрымаць...

— Можа, яны і мяне возьмуць?..— раптам вымаўляе Таня. Я чую яе голас, але не веру, што гэта яна сказала, раблю выгляд, што не пачуў ці зусім не звярнуў увагі.

Яна дакранаецца кубачкам да майго пляча:

— Чуеш, што я кажу?

Я паварочваюся да яе тварам, гляджу і любуюся, як яна прыхінулася плячыма да маладой бярозкі. Дрэўца не здрыганулася ад яе дотыку, не паварушыла зялёным, яшчэ зусім свежым, не кранутым асенняй крохкасцю лісцем. Бярозка нібы папрыгажэла і набралася большай трываласці ад прыхілення такой суседкі, што сама нагадвае маладое вясенняе дрэўца: стройная, пяшчотная, поўная жыцця і светлых надзей.

Як жыць будзеце, калі хлыне сюды варожая навала? — карціць мне спытацца і ў бярозкі, і ў Тані. Ты, бярозка, як устаіш тут адна пры дарозе, без падтрымкі тваіх лясных сёстраў і братоў? Тыя гуртам растуць воддаль ад цябе і не здолеюць падаць сваю сястрынскую, брацкую руку...

Як ты жыцьмеш без мяне, мая харошая, верная сяброўка і спадарожніца? Чамусьці мне адчуваецца, што ўжо апошні раз мы снедаем разам... Апошні раз мая балючая нага адпачывае пры табе на прыбуцвелым пенчуку, які тырчыць з прыдарожнага зелля. Яшчэ не многа прайшлі мы пасля начлегу, а ўжо і патрэбен адпачынак...

— Ты чуеш?..— зноў пытаецца Таня.

— Чую. Ты хочаш, каб яны ўзялі цябе... Дык хто гэта яны?

— Ну, тыя ваенныя, да якіх ты звернешся.

— Адкуль ты ведаеш, што я цяпер буду звяртацца? Можа, лепш — правяду цябе да Варонежа, аддам на рукі тваёй сястры, а ўжо адтуль папрашуся на фронт?

— Ты так не зробіш! Я адчуваю гэта! — Таня

ўзмахнула пустым кубачкам.— Варонеж далёка, колькі часу спатрэбіцца, каб дабрацца туды? Ды яшчэ — як дабрацца?

— На першай жа станцыі мы сядзем у цягнік.

— Нас не пусцяць.

— Чаму?

— Я чула, што патрабуюць эвакуацыйных дакументаў.

— Возьмем на эвакапункце! У нас ёсць прычына — родзічы ў Варонежы.

— Тут я астануся! Пры табе!

— Якім чынам?

— Санітаркай у шпіталі.

— А калі не будзе тут шпіталя?

— У медпункт пайду!

— А ён у акопах.

— І я ў акопы!..

Ідучы далей, мы працягвалі абмяркоўваць справы, якіх яшчэ не ведалі і не маглі ведаць. Напэўна, самы высокі і самы рашучы начальнік, які мог сустрэцца на дарозе, не здолеў бы сказаць нам нешта вызначальнае і канчатковае наконт нашага далейшага лёсу. Бо наўрад ці і сам мог прадбачыць, што яго чакае нават праз гадзіну, а не то што праз дзень ці два.

І ўсё ж нам карцела гаварыць пра гэта і, вядома ж, не дзеля таго, каб наблізіць наша расставанне, а знайсці, вышукаць нейкую магчымасць хаця б крыху адцягнуць яго, калі ўжо нельга будзе пазбегнуць зусім.

— Да Варонежа фронт не дойдзе,— намагаўся я падрыхтоўваць Таню да самага горшага з таго, што магло спасцігнуць нас. Сам страшэнна баяўся разлукі, словы пра гэта вымаўляліся з болем у душы, аднак замоўчваць відавочнае, нібы ўтойваць яго, было яшчэ цяжэй.— Там будзе месца, дзе я цябе знайду... Пісьмы буду пісаць... А можа, і я мецьму пэўны адрас?.. Дачакаюся твайго пісьма...

Пяхотны маёр, што сустрэўся нам на дарозе, вельмі хутка і без ніякіх ваганняў вырашыў нашы справы.

— Старшы сяржант? — чамусьці перапытаў ён, пачуўшы мой кароткі рапарт. І паглядзеў на мае

пятліцы. А я глянуў на каўнер яго гімнасцёркі: яна была прымятая і запыленая, але дзве шпалы на чырвоных пятліцах блішчэлі ад гэтага, здавалася, яшчэ больш ярка.

— Кавалерыст? Паранены?

Я стаў тлумачыць сутнасць справы, але маёр перабіў мяне рэзкім патрабаваннем.

— Дакументы?!

Пакуль я вымаў з кішэні шпітальныя дакументы, маёр спехам, але дарэчы задаў мне яшчэ некалькі пытанняў:

— Сверхсрочнік?

— Не. Карыстаўся льготай, як студэнт.

— Што скончылі?

— Пединстытут.

— Ну што ж, ну што ж...— абыякава паўтарыў ён, разглядаючы мае дакументы.— І такія людзі ў арміі патрэбны... Тым больш... што і воінскае званьіцэ ёсць... У санчасць! — загадаў ён аднаму з байцоў, што суправаджалі яго, і аддаў яму мае дакументы.— Падлечым — і ў строй!

На Таню ён чамусьці не звярнуў увагі і, толькі ўбачыўшы, што я вельмі ўстрывожыўся, запытаўся:

— Спадарожніца?

— Жонка! — крыўдліва адказаў я.

— Развітвайцеся! — загадаў маёр і памкнуўся адысці ад нас, бо па дарозе насустрач ішла яшчэ нейкая група ваенных.

— Таварыш маёр! — звярнуўся я да яго, ледзь не ловячы за рукаў.— Яна магла б тут... Санітаркай пры шпіталі... Ці яшчэ дзе...

— Адставіць! — прыкрыкнуў на мяне маёр.— У ваенны час мы цывільных жанчын не бяром!

— Дазвольце хоць да санчасці прайсці разам!

— Дазваляю!

Санчасць аказалася непадалёку. Мы дайшлі да яе хутка, бо ўзброены баец з маімі дакументамі ў руках падспешваў нас.

Гэта былі апошнія крокі нашага сумеснага шляху ад Клічава.

У адным баі пад Рагачовам мінным асколкам прабіла маю кандыдацкую картку, і пасля таго я стаў насіць свой партыйны дакумент у старэнькім ужо, але акуратным, з харошага хрому планшэціку, які падараваў мне яшчэ ў каўпалку адзін малодшы палітрук, загадчык палкавой бібліятэкі, за тое, што ў вольныя хвіліны я памагаў яму разбірацца ў кнігах. Кандыдацкую картку ў цвёрдай вокладцы я паклаў глыбока ў планшэцік разам з любіцельскай, яшчэ студэнцкай фатаграфіяй Тані. Думалася, што тут больш гарантыі на захаванне, аднак праз некаторы час трапіў пад такую бамбёжку, што выбуховай хваляй сарвала з мяне каску і планшэтку, а самога аглушыла.

Ачомаўшыся, кінуўся шукаць планшэтку. Поўзаў па зарослым васількамі, незасеяным палетку, перабіраў, перамацваў пальцамі свежы жоўты пясок варонак, і такая згубная роспач адольвала мяне, што, здавалася, лепш было самому сцячы крывёю, чым страціць партыйны дакумент і адну-адзіную, відаць, апошнюю ў Тані фотакартку.

Ужо крывавымі ад шоргання далонямі, анямелымі пальцамі нарэшце намацаў кончык вузкага раменьчыка... Ад радасці і надзеі запякло пад сэрцам. Пацягнуў за гэтую почапку, а яна выцягнулася з гурбы пяску з адным маленькім і бліскучым кольцам, падобным на шлюбны пярсцёнак. На гэтым кольцы раней вісеў адным ражком планшэцік, а цяпер яго не было. Другі канец раменьчыка быў абарваны недзе пасярэдзіне.

У мяне зноў пацямнела ў вачах, аднак у падсвядомасці ліпела надзея, што, можа, і планшэцік тут пад насыпам, можа, ён не адляцеў далёка ад сваёй неразлучнай почапкі.

Часу ў мяне не было, але ўсякая правінка па воінскай дысцыпліне выглядала для мяне маламалазначнай у параўнанні з жаданнем знайсці самае дарагое ў маім жыцці. Пехацінскай лапаткі пры мне не было, таму я намогся рукамі разграбці вялікі насып ад цяжкай бомбы. Добра, што яшчэ зямля не зляжалася і не была надта камяністай,— я запускаў пальцы ў глыбіню гурбы і адграбаў цэ-

лыя лавіны ад сябе або пераварочваў іх ды браў на сябе. Абшарыў потым і абмацаў усю варонку ад бомбы і, ужо знямажаны работай і змучаны адчаем, заўважыў у чырвонай вільготнай гліне забруджаны і пашарпаны асколкамі, а можа, і вострымі каменьчыкамі, рубчык планшэткі. Хуценька выграб астатняе, што там уцалела. Каб дзе трапілася нешта падобнае на дарозе, то ніколі не сказаў бы, што гэта нейчая планшэтка. І не падняў бы. А тут я не зважаў, што адзін ражок у яе адарваны, што і сама нібы перарэзана напалам, толькі на адной жылцы трымаюцца раскладныя часткі, што пад слюдою жоўты пясок,— стаў з дрыжыкамі ў пальцах і ва ўсім целе вымацваць і выгледжваць: ці ёсць там мая кандыдацкая картка? Ці ёсць тое дарагое і незабыўнае, што ляжала побач з партыйным дакументам?

Параканаўшыся, што, на маё шчасце, нешта асталося, я пабег у свой стралковы ўзвод, якім тады камандаваў, яшчэ не маючы афіцэрскага звання, хоць атэстацыя была паслана даўно. Стуліўся ў часовым бліндажыку і пачаў складваць і склейваць тое, што яшчэ можна было прытуліць адно да аднаго. У кандыдацкай кніжачцы захаваліся нумар, частка маёй фотакарткі і першая палавіна прозвішча. Імя і па бацьку ішло радком ніжэй і асталося поўнасцю.

Партыйны дакумент жывы, хоць і пакалечаны! Яго прымуць на абмен, яму павераць! Дзеля гэтага я гатоў быў хоць і ўсю ноч поўзаць ля варонак, хоць цэлыя горы зямлі разграбці рукамі.

Цвёрдая вокладка запаветнага дакумента ўратавала Таніну фатаграфію. Яе прысыпала глінаю, але яшчэ не зусім размачыла, толькі верхнія ражкі павільгатнелі і скурчыліся. Сцёр я асцярожна гліну, дзьмухнуў на глянцавітую паверхню — і на мяне ласкава і пранікнёна глянулі Таніны вочы... Быццам бы жывую ўбачыў, быццам сустрэў вось тут, у акопах. Не збаялася фронту, не схіснулася перад варожымі кулямі, бомбамі, снарадамі, з'явілася проста на перадавой...

Пасля гэтага яшчэ мацней адчуваў я, што Таня пры мне, пры маёй душы і сэрцы. І не толькі яе фотакартка, ўратаваная ад варожых снарадаў, ад-

капаная з глінiстага пласта ў глыбокай варонцы, а яна сама, мужная і смелая, стойкая і цярплівая ў пераадоленні розных жыццёвых перашкод, цяжкасцей і выпрабаванняў. Яна не адступалася ад мяне на нязведанай дарозе, яна паўзла, крочыла і бегла ўпоравень са мною...

Немалы час я цешыў сябе ў думках спадзяваннем і нават цвёрдай верай, што Таня дабралася да Варонежа, што знайшла там сястру Ліду і яны неяк уладзіліся на жыццё-быццё. Усё ж такі ўдзвюх, не ў адзіноце.

Калі выпадала хоць маленькая перадышка ў баях ці прыпынак на ваенных дарогах, я пісаў у Варонеж, на Лідзін адрас, які пакінула мне Таня. Пісаў таксама з медсанбатаў і палявых шпіталяў, куды трапляў часта.

Можна падумаць, што трапляў па хваробе, бо недалечаным пайшоў ваяваць. Не. Швы мае зарубцаваліся, пасля некалькіх умелых перавязак, здаровыя вены ў назе ўзялі на сябе нагрузку тых папсаваных, якія мой смелы выратавальнік хірург у свой час выразаў. Я без зацяжкі стаў у строй і разам з усімі франтавікамі пераносіў усе пакуты, складанасці, а часам і радасці вайны.

«Якія радасці? — можа ўзнікнуць пытанне.— Хіба яны маглі быць у часы нашых паражэнняў і адступленняў, у часы жудасных страт?»

Так, маглі. Але апісаць гэта цяжка. Як захлыналіся гарачай радасцю нашы сэрцы, калі ўдавалася адбіць танкавую атаку, або ўдыхваць дым ад полымя на бранi варожага танка, або вярнуць толькі што страчаную вёску, дзе ўчора начаваў і піў у бабкі сырадой!!! Гэта можна адчуць і зразумець, толькі перажыўшы ўсё самому.

У медсанбаты і палявыя шпіталі трапляў я пасля раненняў. Як мне здавалася, даволі цяжкіх, а ўрачы аглядвалі і бадзёра запэўнівалі:

— Праз тыдзень вернешся ў строй!

У час адной атакі мне так разанула асколкам па шыі, што пацямнела ў вачах, трава пада мною здалася чорнай, мільгнула жудасная думка пра смерць. А прывезлі ў шпіталь, глянуў малады, бравы хірург, падобны на таго, што рабіў мне аперацыю ў каўпалку, і проста ў вуха — тое ж самае:

— Праз тыдзень вернешся ў строй!

Не паверыў я таму самаўпэўненаму хірургу і, як толькі крыху адсопся, напісаў лісток Тані, згарнуў у трохкутнік і папрасіў сястру адаслаць. Спадзяваўся, што тут напэўна дачакаюся адказу: крывавая разорына пад вухам хаця б за месяц зажыла.

Але хірург сваё спраўдзіў — на восьмы дзень выпісалі. Яшчэ моцна балела шыя, яшчэ галаву я трымаў набок, а ўжо ў палату прынеслі выпісныя дакументы.

— Павінна быць пісьмо,— сказаў я медсястры.— Перашліце мне!

— А куды вам пераслаць? — спачувальна запыталася яна.— Дайце адрас!

Сапраўды, адрас! А які ў мяне адрас? Хіба я траплю ў тую часць, адкуль нядаўна выбыў? Наўрад! Мы ўжо наступалі, мая рота, магчыма, ужо недзе пад Смаленскам. Камандзіры стралковых узводаў усюды патрэбны. Камандзіраў узводаў не хапае. На такую адзінку штабныя кадравікі глядзяць як на зручную затычку бліжэйшай шчыліны і не дазволяць адзінцы траціць час, каб дагнаць сваё падраздзяленне,— пашлюць адразу на які-небудзь прарыў.

Так здаралася са мною даволі часта. Для штабнікоў гэта, відаць, мела станоўчы сэнс: больш апаратыўнасці. А для нас грэшных набывала вельмі змрочны паварот. У мяне амаль кожны раз здаралася так, што не паспею яшчэ з байцамі пазнаёміцца, як след агледзець баявыя пазіцыі, я ўжо зноў паранены. Няхай нават не цяжка, але ўсё роўна ў страі не астанешся. А там — новы ўзвод, новая рота...

Цяпер іншы раз я адчуваю няёмкасць ад настырных здзіўленняў: «Столькі ваяваў, а баявых ардэноў мала!» І ў вачах такога субяседніка лаўлю хітранькае сумненне: «Мабыць, гэтак ты і ваяваў, браток!..»

Я не апраўдваюся перад такімі недаверкамі. Хіба ён паверыць, што іншы раз маё новае накіраванне нават не даходзіла да штаба палка, што часам я ішоў у атаку, яшчэ як след не пазнаёміўшыся з камандзірам роты, а камбат нават прозвішча майго не ведаў. У пачатку бою ад мяне яшчэ тхло

шпітальнымі бінтамі, бо яны прыкрывалі старую рану. А ў сярэдзіне бою ці, пры лепшым зыходзе, пад канец часта санітары намотвалі на мяне новыя бінты. Яны чырванелі ад свежай крыві.

Недзе ўжо ў другой палавіне свайго веку ў мяне часамі з'яўлялася і такое забабоннае пажаданне нібыта ў адказ сваім недаверкам: «Каб мне яшчэ столькі гадкоў пажыць, колькі разоў даводзілася хадзіць у атаку на ворага!»

У тыле не быў ні разу. Маючы дыплом педагога-літаратара, не займеў ні адной вольнай гадзіны, каб прачытаць байцам лекцыю... Валодаючы практыкай журналіста, не знайшоў у страі зручнай хвіліны, каб напісаць заметку ў франтавую газету. Пакутую цяпер ад таго, што не мог весці ніякага дзённіка.

Пісаў толькі Тані. Тут бывала, што і на хаду, і за кошт сна, і нават пад кулямі і снарадамі. Пісаў дзеля яе і гэтым цешыў сябе, бо ўсё ж спадзяваўся, што пісьмо знойдзе яе. Няхай хоць ёй будзе лягчэй на душы ад таго, што займее вестку пра мяне, што ўбачыць руку, адчуе голас і ўявіць мяне жывога, нязломнага. А яе заўсёды ўяўляў такой.

Пад самы канец трэцяга года вайны мяне ўсё ж накіравалі ў тылавы шпіталь. Тут ужо хто ні аглядваў раны, то не мог сказаць: «Праз тыдзень пойдзеш у строй!» Хірург адхіляўся ад мяне і пачынаў доўга, змрочна думаць або дзяліцца патаемнымі меркаваннямі са сваім калегам, зрэдку вымецджваючы па аднаму лацінскаму слову. Каб ён здагадваўся, што прыкладна такі ж набор латыні, як у яго, быў і ў мяне, то зусім маўчаў бы. Я ж не прызнаваўся ў сваім гуманітарным здабытку, і гэта памагала мне разгадваць намеры хірургаў адносна майго лячэння. Намеры былі змрочныя...

Сусед па палаце, груднік, як звалі яго медсёстры, гэта значыць паранены ў грудзі, гаварыў мне, быццам суцяшаў:

— Ну, можаш напісаць, калі ёсць каму, што ўжо адваяваўся, больш цябе не пашлюць на фронт. А мне зноў туды. Станкача не панясу — я першым нумарам быў,— дык ездавым, раз рукі, ногі цэлыя.

Але мне горка было слухаць такія суцяшэнні.

Усім цяжка на фронце! Амаль ніхто з франтавікоўакопнікаў не ўхаваны ад ран і кантузій, ні на кім, нават на высокіх камандзірах, няма такой брані, каб не прабівала куля. Аднак жа яны будуць змагацца да перамогі, многія дойдуць да Берліна. Са зброяй у руках, а не ездавымі. Ды нават і ездавому намнога лепш, чым зусім нестраявому, па сутнасці — інваліду.

Напісаць было каму, хоць мая надзея на адказ усё меншала і меншала. Я ведаў з франтавых газет, што Варонеж адзін час быў захоплены акупантамі. Потым вызвалены нашымі войскамі. Як гэта адбілася на лёсе Тані і Ліды? Ухаваліся яны там ці былі эвакуіраваны ў больш глыбокі тыл?

Трэба пісаць, шукаць, дамагацца хоць якой весткі. Але як пісаць? Прасіць каго-небудзь, каб напісаў пад маю дыктоўку? Дык што падумае Таня, калі ўбачыць чужую руку?! Чакаць таго шчаслівага часу, калі сам здолею напісаць? Дык ці хутка ён будзе?..

...Чарговая атака рэшткі маёй стралковай роты пачала, як кажуць, захлёбвацца, як толькі мы выпаўзлі з хмызнячку на адкрытае поле. Непадалёку наперадзе быў сухі раўчук. Я меў намер вывесці байцоў туды і часова акапацца, каб потым выбраць момант і рушыць далей. Перада мною ўзняўся аўтаматчык, даў некалькі кароткіх чэргаў і раптам упаў, аўтамат адляцеў ад яго і ледзь не ўдарыў мяне па галаве. Я падхапіў аўтамат, кінуўся да байца, і ў гэты момант побач разарвалася міна...

Што здарылася з тым аўтаматам, я даведаўся пазней — яго разбіла асколкамі, а што сам астаўся без рук, адчуў адразу.

...Цяпер у шпіталі лаўлю ў хірургаў лацінскія словы, з якіх разумею, што яны збіраюцца ампуціраваць мне рукі. Няўжо абедзве? Як гэта можна? І без адной — які жылец на свеце? А без дзвюх?!

Стаў я прыглядацца да аднаго хірурга, старэйшага за астатніх па ўзросту і старшага па званні — падпалкоўніка медыцынскай службы. Мне адчулася, што ў яго больш спагады да мяне, як у некаторых яго малодшых калег.

Аднаго разу я прызнаўся падпалкоўніку, што расшыфраваў усе іхнія меркаванні адносна маіх

ран. Ён здзіўлена зірнуў на мяне паверх цёмных рагавых акуляраў і ўстаў з майго жалезнага, нацягнутага пакручастымі спружынамі, нібы разладжанымі струнамі, ложка. Пры кожным маім руху гэтыя спружыны-струны гучна трэнькалі і гудзелі, іржава і да прыкрасці сумна.

Назаўтра падпалкоўнік падышоў да мяне яшчэ да абходу, асцярожна, ведаючы натуру майго ложка, прысеў на краёк жалезнай рамы каля маіх ног.

— Заходзіў у аддзел,— даверліва паглядваючы на мяне, паведаміў ён.— Думаў, прыйшло што-небудзь з часці ваша асабовае. Нічога, акрамя пасведчання, няма. Ды і то, здаецца, старога.

— Новага не паспелі выпісаць,— удакладніў я.— Толькі тыдзень пабыў у гэтай часці.

— Ну, а кадравая справа, службовая? Ёсць дзе-небудзь?

— Недзе ёсць,— крыху разгублена адказаў я.— Можа, ходзіць з палка ў полк, з батальёна ў батальён.

— Ды мне гэта не трэба! — дружалюбна запэўніў хірург.— Проста хацеў бліжэй пазнаёміцца, не турбуючы хворага. Вы часам не медык, скрыты ад медыцыны?

— Не, я філолаг. Латынь вывучаў па ўласнаму інтарэсу.

Пазней я прызнаўся пажылому хірургу, што да вайны працаваў у газеце, пісаў нарысы і апавяданні і што за галоўную мэту ў сваім жыцці трымаў пісанне, калі хопіць жылак, то мастацкае.

Хірург глядзеў на мае забінтаваныя рукі і маўчаў... Доўга глядзеў і маўчаў...

— Зробім усё, што ў нашых сілах,— сказаў нарэшце і незнарок успёрся рукою на спружыны майго ложка: яны трэнькнулі і пачалі вісклява звінець. Звіненне гэтае перашкодзіла мне расслухаць, што яшчэ сказаў падпалкоўнік, перш чым адысціся да другога хворага.

Пасля таго дня пажылы хірург прысутнічаў на кожнай маёй перавязцы, іншы раз сам перавязваў і аднаго разу сказаў сваім асістэнтам, але так, каб пачуў і я:

— Абедзве рукі... Наўрад!.. Не ў нашых сілах... Але адну трэба ўратаваць.

«Каторую? Левую ці правую?»

Гэтак хацелася мне крыкнуць нібы ад радасці, нібы ад горкага адчаю. Цяпер я і сам не магу ўспомніць, што больш адольвала маю душу. Канечне ж, маладыя сілы падавалі надзею на поўную папраўку, страявую. Гэта ўжо колькі разоў пацвярджалася практыкай: даваенную траўму пераадолеў, лічы што, на хаду, на перадавой ледзь не кожны тыдзень выбываў са строю, але праз тыдзень, не больш як праз два, вяртаўся ў строй. З такім духоўным настроем цяжка было схіліць думку нават на самае маленькае інвалідства. Астацца без рукі, хоць сабе і левай, уяўлялася амаль пазбаўленнем жыцця. Але ж не выходзіла з памяці і тая хірургічная латынь, па якой мне вядома было, што мяне збіраюцца пусціць на свет без абедзвюх рук. Калі верыць гэтаму, то абяцанне падпалкоўніка павінна б мяне ўзрадаваць: усё ж такі наперадзе яшчэ нейкае жыццё, магчымасць трымаць лыжку, здароўкацца з людзьмі і нават аддаваць чэсць ваеннаму начальству. Галоўнае ж — пісаць, прабірацца, хоць паўзці па сваёй найбольш светлай і надзейнай дарожцы. Можа, таму хірург і адважыўся на вялікія складанасці, што адчуў маё неадольнае імкненне нешта напісаць, можа, нават важнае, патрэбнае.

Аднак жа, што б ты ні напісаў, кім бы ні стаў, якіх бы вышынь ні дасягнуў, другой рукі мець не будзеш, яна ўжо не вырасце, і на ўсё жыццё астанешся ты бязрукім.

Ад змрочных думак я не спаў начамі, а пачынала днець, то не чакаў таго шчаслівага ў шпіталях моманту, калі раздатчыцы пачыналі разносіць па палатах хлеб і масла. Успаміналіся мінулыя часы, калі вось гэтак жа даводзілася ляжаць у медсанбатах: кухонныя пайкі прымаліся як дарункі божыя і з'ядаліся ў той жа момант — ніхто не чакаў, пакуль прынясуць нешта варанае, бульбу ці кашу.

— Вам сёння гарбушка! — задаволена сказала раздатчыца, яшчэ зусім маладая, курносенькая, але па-свойму сімпатычная, з чорнымі, як вугалькі, вочкамі дзяўчына. Я заўважыў, што яна больш як палатная сястра з вузкімі фельчарскімі пагончыкамі пад белым халатам, якія пры кожным выпад-

ку старалася паказаць, спачувала мне, як бязрукаму, іншы раз адрывалася ад сваіх кухонных абавязкаў і прыбягала ў палату, каб памагчы мне паснедаць ці паабедаць.

У той ранак яна прынесла хвост смажанай рыбіны з бульбай і ўбачыла, што мая «гарбушка», звычайны акрайчык хлеба, за якім усе ганяліся, і кольца масла былі не кранутыя.

— Чаму ж вы? — здзівілася дзяўчына.— Давайце памагу!..

Пра маю бяссонніцу і ненаўмысную галадоўку даведаўся хірург. Прыйшоў да мяне і зноў доўга сядзеў на крайку майго «музыкальнага» ложка.

— Так вы можаце прымусіць нас... Знаеце?..

Я здагадваўся.

— Адкласці аперацыю,— пацвердзіў хірург маю здагадку.— Ваша лячэнне залежыць не толькі ад нас, але і ад вас. Нават у першую чаргу ад вас!

Потым ён намякаў і на тое, што шпіталь наўрад ці можа аставацца ў вельмі далёкім тыле: фронт ідзе наперад!

Сапраўды, гэта ўжо была вясна сорак чацвёртага года. Ранняя, праўда, але вясна. Іншы раз сонца так прыпякала праз акно нашай палаты, што хоць кашулю здымай.

«Калі шпіталю загадаюць наблізіцца да фронту або... усё можа здарыцца ў ваенных умовах — перавядуць хірурга ў які-небудзь іншы шпіталь ці ў медсанбат...»

Я часта дзівіўся ў думках, чаму такі вопытны і разумны чалавек, як мой палатны доктар, не кіруе шпіталем ці якім-небудзь іншым медыцынскім ведамствам, а вымушаны падначальвацца малодшаму за сябе па ўзросту і па званню, ды як на мой рон, то і намнога слабейшаму па інтэлекту чалавеку. А што вырашыць цяперашні начальнік шпіталя? Мне ўяўлялася гэта амаль што яскрава. Калі толькі шпіталь заварушыцца ў сувязі з перадыслакацыяй, начальнік загадае перадаць мяне ў якую-небудзь бальніцу. Калі ж забяруць ад яго лепшага хірурга, можа і сам закасаць рукавы... Любіць чалавек іншы раз паказаць сябе! Закасае рукавы і адпіліць мне абедзве рукі...

Трэба спяшацца!.. Аб гэтым я і стаў прасіць

свайго хірурга. І паступова пераконваў сябе: чым хутчэй канчатковая аперацыя, тым лепш. Няхай бы ўжо ведалася, што адбылося ці яшчэ адбудзецца са мною. А там і ўвесь мой лёс як на далоні...

Нарэшце хірург назваў мне дзень і час аперацыі. На момант нешта ёкнула ў мяне пад сэрцам ды ўляглося хутка, без болю.

Перад той апошняй ноччу, калі мне загадалі прыняць таблеткі, каб добра выспацца, зайшоў у нашу палату сусед, весяльчак і прызнаны ўсімі балагур і хлус. Калі ён з'яўляўся ў палаце і нават яшчэ нічога не гаварыў, то ўсе пачыналі ўхмыляцца, гледзячы на яго і чакаючы дзівацтваў. А разявіў рот, дык нібы ў момант ператвараў усіх у паслухмяных смехуноў.

Раней мяне не надта цікавілі яго жарцікі, якія я ўжо чуў, анекдоцікі не першай свежасці. А ў той вечар як пачаў хлопец размахваць забінтаванай левай рукой, правая вісела на почапцы, як завёў нейкую доўгую і неверагодную прыгоду, нібы ім самім пеpажытую, дык і я заслухаўся і пра сваю таблетку забыў. Мяне, як ніколі, цягнула да вясёласці, жартаў, хоць нават хлусні, абы толькі ёмкай і захапляючай, каб не думаць пра заўтрашняе і хутчэй дачакацца таго паваротнага часу.

Аперацыя сапраўды не палохала мяне, бо я ўжо даўно прыняў сабе на душу, што яна непазбежная. Магчыма, і сусед-весяльчак на гэты раз памагаў мне, хоць, напэўна, сам не здагадваўся пра гэта: тая рука, што, нібы бярозавы круглячок, вісела ў яго на грудзях, нядаўна была пад скальпелем, і наўрад ці сам гаспадар адчувае, з якога месца яе ўжо няма. Другая рука больш надзейная, хоць яшчэ ў бінтах,— хлопец часта і старанна махае ёй, быццам трэніруецца замяняць тую, якой ужо няма.

— Быў я ляўшой і астануся,— абвяшчае юнак і нават пры гэтых словах задорна смяецца і не страчвае свае схільнасці да жартаў.

— А на аперацыю яго вазілі,— шэпча мне сусед-груднік, улучыўшы момант, калі хлапец звяртаецца да іншых палатнікаў — нас у палаце шасцёра.

— Як гэта?

— Відаць, спалохаўся. Тут жа ў нас ні наркозу, ні замарозкі сапраўднай...

— Не палохай старшога! — абарваў суседа юнак, усё ж, мабыць, здагадаўшыся, пра што ідзе гаворка.— Нічога страшнага! Паверце мне!..

— Там страшней! — згадзіўся сусед-груднік і мнагазначна паказаў рукою на захад.

Пасля пасядзелак з бязрукім госцем мне лёгка заснулася, і спаў я моцна, пакуль у палаце не ўспыхнула святло і не пачуўся штучна бадзёры голас дзяжурнай медсястры.

— Я хутка прыеду па вас,— сказала яна.

Аднак не было яе доўга, і гэтыя хвіліны чакання былі найбольш пакутлівымі для мяне і цягучымі. Нарэшце яна адчыніла дзверы ў палату і быццам бы з урачыстасцю абвясціла:

— Вось і прыехалі мы! А вы гатовы?

Я выйшаў у калідор і ўбачыў, што каля дзвярэй стаяць два добра ўкормленыя санітары і пры іх прыстаўленыя да сцяны насілкі.

— Зараз мы вас транспарціруем! — са штучнай узнёсласцю прамовіла медсястра, відаць, меўшы ўпэўненасць, што такім тонам і такой увагай яна падтрымае мой настрой.

Санітары пачалі разварочваць насілкі.

— Дайду сам,— памяркоўна сказаў я.

— Як гэта? — здзівілася медсястра. А потым пачала абурацца: — Вам укол далі і аж дзве таблеткі!.. Вы можаце ўпасці сярод дарогі!.. Нам жа ў лячэбны корпус трэба ісці!..

— Нічога, дайду!

— Нам жа наверх трэба будзе падымацца... На трэці паверх!..

— Нічога, падымуся!

* * *

У аперацыйных бінтах ляжаў нерухома з нерухомымі рукамі... Яшчэ не ведаў, каторая асталася, а каторай няма... Боль адчуваў у абедзвюх, бо замарозка праходзіла... І здавалася, што вельмі баляць пальцы... На правай і на левай руцэ аднолькава.

Дзён праз некалькі зайшла тая самая медсястра, што вадзіла мяне на аперацыю, і падала голас сапраўды бадзёры. Я не адчуў штучнасці ў ім і чамусьці насцярожыўся.

— Некаторым з вас,— весела загаварыла яна, перабіраючы ў руках заштампаваныя канверты і трохкутнікі.— Некаторым з вас давядзецца сёння патанцаваць!.. — І яна стала называць прозвішчы маіх аднапалатнікаў.

Назвала грудніка, аддала яму трохкутнік і зноў пачала перабіраць тыя пісьмы, што яшчэ аставаліся ў яе руках. Відаць, узялася разнесці пошту на некалькі палат.

Я ведаў, што мне пісьма не будзе, бо і сам не пісаў адсюль, але сэрца маё чамусьці стала біцца часта і нават балюча, асабліва з таго моманту, калі мне здалося, што яна быццам бы зірнула і на мяне.

Наступным было названа прозвішча параненага ў нозі, што ляжаў у самым кутку палаты, але медсястра і цяпер не паварочвалася да дзвярэй, зноў мне здалося, што яна глянула на мяне.

Я заплюшчыў вочы, каб не паддавацца больш такому балючаму зману. Калі б мог падняць рукі, то заткнуў бы і вушы, каб не чуць узвышанага голасу.

— Антошын! — раптам пачулася мне ўласнае прозвішча.

Я не расплюшчваў вачэй. «Можа, яшчэ ў каго такое прозвішча?.. Не ў гэтай палаце, дык у суседняй... Можа, я проста задрамаў, і мне прыснілася тое, што ўжо многа разоў снілася... На жаль, толькі снілася!.. Прачынаўся з цяжкай тугою на душы... Лепш бы не прачынацца цяпер, калі гэта зноў сон... Лепш не мучыць сябе нязбыўнымі марамі!..»

— Васіль Антошын,— паўтарыла сястра, ужо зусім блізка падышоўшы да майго ложка.— Вам пісьмо! Чаго вы заплюшчылі вочы? Вам кепска? Ці не верыце? Вось, ясна напісана... Вам! Праўда, мабыць, паблукала яно па палявых поштах... Штампаў многа стаіць, але знайшло свайго!..

Я глянуў на канверт... З тылу пераважна слалі пісьмы ў канвертах, хоць самаробных, але не трохкутнікамі. Адразу пазнаў руку Тані. Круглы, выразны і вельмі акуратны почырк, быццам не падобны на жаночы. Пакуль сястра трымала канверт перад маімі вачамі, я заўважыў у незнаёмым зваротным адрасе перш за ўсё тыя літары, якія складалі запа-

ветную назву — Варонеж... Радавалася вока, што корань гэтай назвы астаўся... Калі не самога горада, дык вобласці — Варонежскай!.. І то шчасце! Значыць, жонка недзе там!..

— Расклеіць вам? — прапанавала сястра.

— Не, дзякую! Няхай паляжыць вось тут, пры мне...

Яна паклала канверт мне на грудзі і выйшла з палаты, а я зноў заплюшчыў вочы. Такім манерам мне хацелася супакоіцца, абдумаць усё ды набрацца сілы і рашучасці як-небудзь прачытаць пісьмо самому, без староннняй дапамогі. Але як гэта зрабіць? Хаця б адна рука варушылася, хаця б крыху яе можна было ўзняць бліжэй да вачэй! Нават самому крануцца нельга, галаву падняць ці нахіліць набок.

Сусед-груднік чытае сваё пісьмо і пакуль што не звяртае на мяне ўвагі. Але я ўжо ведаю, што як толькі прачытае, то прыйдзе да мяне дзяліцца навінамі і адчуваннямі. Можа, нават перачытае мне сваё пісьмо. Ён з такіх людзей, што амаль адразу давяраецца знаёмаму чалавеку, не надта думаючы аб тым, ці давяраюць яму самому. Ахвотна і трохі настырна прачытае мне сваё пісьмо, хоць я і не вельмі памкнуся слухаць, а потым захоча прачытаць і маё. Цікавасць у яго да чужой інтымнасці занадта вялікая. І чым складаней выведаць чужыя сакрэты, тым больш адольвае яго жаданне залезці чалавеку ў душу. Хоць нават жывасілам.

А мне хацелася толькі самому прачытаць пісьмо ад свае жонкі. Першае за ўсю вайну! Да гэтага часу нічога не ведаў пра Таню. Зусім нічога! Ці можа гэта зразумець сусед-груднік?

Былі хлопцы ў нашым каўпалку, што голасна, ледзь не на ўсю казарму, чыталі пісьмы ад сваіх жонак. Я саромеўся слухаць, а яны чытаць не сароміліся. Такія пісьмы прыходзілі да іх рэдка. А мой калега па Цяцерынскай школе Лагуноў меў кожны дзень па пісьму і нават мне ні разу не прачытаў ні адзінага радка. Чытанне жончыных пасланняў было для яго духоўнай асалодай асабістага ладу. І наўрад ці мог ён падзяліцца з кім сваімі ўражаннямі, адчуваннямі, перажываннямі, можа, нават пакутамі. Я неяк заўважыў, дзяжурыўшы з ім на канюшні,

што ў чалавека пачырванелі вочы пасля такога адзінокага чытання і перачытвання жончыных пісьмаў. І ён хаваў ад мяне свае вочы, бо чырвань была не ад стомленасці...

Ці зразумець гэта грудніку? Можа, і я не стрываю слёз, калі даведаюся з пісьма пра нешта кепскае, няшчаснае. А можа, ад радасці заплачу, калі з Таняй усё добра, калі яна па-ранейшаму чакае мяне.

Хіба паляжаць пісьму, пакуль хірург дазволіць варушыцца? Вось тут, на грудзях, перад вачамі. Апусціўшы ўніз вочы, бачу сіні канверт крыху паменшанага памеру. І разумею, што ён склееены з вокладкі вучнёўскага сшытка. І ўжо нават гэта мяне радуе: пачынаю ўяўляць, што Таня працуе недзе ў школе і там у яе ёсць вучнёўскія сшыткі... І нават клей ёсць, бо па вузкіх рубчыках відно, што не хлебам склейваўся канверт і не варанай бульбай. На чыстым і гладкім адрасным баку чытаю сваё прозвішча, напісанае павялічанымі літарамі, роўнымі і круглымі. Здаецца, самымі звычайнымі, шмат разоў бачанымі — так многія старшакласнікі пішуць. Аднак жа зусім адметнымі, своеасаблівымі, сапраўды Танінымі літарамі. Ні ў кога няма такога почырку, не было і не будзе! Толькі Таня ўмее так напісаць маё, цяперашняе сваё прозвішча... У думках адзначаю і радуюся, што адрас напісаны акуратна і роўна, без спеху і нервовасці...

Як знайшло мяне гэтае пісьмо? Таксама ўсялякія роздумы і здагадкі. З кожнага медсанбата ці палявога шпіталя я пасылаў пісьмы на варонежскі адрас. Усюды прасіў медсёстраў не знішчаць і не адсылаць назад пісьмо, калі яно, на шчасце, прыйдзе. На Таніным канверце зусім не тая палявая пошта, пад якой азначаецца тылавы шпіталь, у якім я цяпер ляжу. Свет не без добрых людзей: нехта праведаў, куды мяне павезлі, і паслаў следам пісьмо. Можа, якраз тая медсястра з апошняга медсанбата... Сапраўды сястра! Сапраўды міласэрная!.. Яна вельмі ўважліва адносілася да мяне.

Сусед-груднік чамусьці не падыходзіў да мяне. Крайком вока я заўважыў, што ён ужо, мабыць, не адзін раз прачытаў сваё пісьмо, але не ўстае з ложка, сядзіць панура і аб нечым думае. А мне ўжо і

больш карціць: усё ж такі хочацца даведацца, што там у маім пісьме? Хаця б самае важнае, самае значнае: жыва, здарова... Дзе жыве цяпер, куды пісаць, калі будзе валодаць хоць адна рука?

Хто ж дапаможа хоць расклеіць канверт, разгарнуць пісьмо?..

Я ўжо намерыўся падаць голас суседу, ды раптам пачуў, што скрыпнулі дзверы ў палату. Перавёў вочы туды і ўбачыў на парозе майго хірурга. Ён спыніўся пры ўваходзе і стаў заклапочана праціраць крысом белага халата свае вялікія акуляры. Як толькі надзеў іх, дык адразу і падаўся да майго ложка.

— Пісьмо вам? — спытаў быццам задаволена, але і трывожна. Канечне ж, ведаў, што калі нешта кепскае прыйшло на такі момант, то можа вельмі пашкодзіць лячэнню.— Ад каго, калі не сакрэт.

— Ад жонкі.

— Так-так... А я, прызнацца, сумняваўся, што вы чалавек сямейны. Ні разу і намёку аб гэтым... Ды і калі было? Вучоба, служба ў кавалерыі... Сам збіраўся пацікавіцца... Вельмі хочаце пачытаць?

— Вельмі,— прашаптаў я.

— І каб аднаму, вядома, каб у адпаведным утулку, без чужых вачэй і вушэй...

Я кіўнуў галавою.

— Разумею, разумею,— уздыхнуў доктар.— А рукі перавязаны... Рукамі нават павярушыць нельга... — Ён на хвіліну задумаўся, а потым запытаўся ўжо з большай упэўненасцю: — А што, калі мы зробім так: я расклею канверт, разгарну пісьмо і патрымаю яго перад вашымі вачамі? А вы ўявіце, што мяне тут няма, ніхто вам не памагае — вы самі ўзялі ў рукі пісьмо і чытаеце.

Я згодліва заківаў галавою. Вядома, каму ж мне даверыцца, як не свайму хірургу, які так уважліва лечыць мяне. Больш блізкага чалавека пры мне не было.

...Лісток пісьма таксама быў з вучнёўскага сшытка ў косую лінейку. Толькі адзін лісток! І напісана было не многа, відаць, найбольш важнае і неабходнае як для пошуку чалавека без пэўнага адраса. Мне хацелася ўглядацца, учытвацца ў кожны радок, адчуць усю глыбіню радасці, хвалявання і трывогі...

Радуючыся, што першыя радкі паведамлялі пра добрае — Таня жыва-здарова і працуе ў вясковай школе, я не мог прымусіць сябе глянуць на наступныя радкі, каб не раніць душу чым-небудзь цяжкім, нечаканым.

— Мабыць, першае пісьмо? — выказаў меркаванне хірург.

І як ён здагадаўся, якія прыкметы навялі яго на такую думку?

— Першае,— пацвердзіў я.— Пісаў часта, але мае адрасы мяняліся.

— Зразумела, зразумела... — зноў уздыхнуў хірург.— Доля наша салдацкая!.. Чытайце далей!

Доўгае армейскае жыццё прывучыла мяне часам механічна, нібы па рэфлексу, падначальвацца старшаму па званні, але тут я ўсё роўна не рашаўся апускаць вочы на ніжэйшыя радкі, а тым больш прасіць, каб доктар перагарнуў лісток і паказаў мне канец паслання. Я ўсё глядзеў і глядзеў на першыя радкі пісьма і на доктаравы пальцы, што трымалі лісток перад маімі вачамі. Пальцы доўгія і тонкія... Відаць, такія і патрэбны хірургу. Заўважыў, што яны ледзь прыкметна затрымцелі... Пальцы хірурга дрыжаць!.. Стамляюцца дзеля мяне! Як жа яму на аперацыю?..

Я стаў чытаць далей і потым кіўком галавы папрасіў перавярнуць лісток.

Хірург пераняніў руку — пальцы ўжо не дрыжалі. Я намагаўся хутчэй усё прачытаць, каб не затрымліваць урача, даведацца пра цяперашні Танін адрас, які павінен быць у канцы пісьма. Ды не дайшоў да адраса... У грудзях нешта моцна запякло, гарачыня разлілася па ўсім целе, і няўмольны, здрадніцкі клубок слёз падкаціў к горлу — я міжвольна, няўтрымна заліўся слязьмі. Нязвычна адчувальныя, залішне гарачыя, на дзіва спорныя слёзы нібыта пырснулі з вачэй і гарохам пакаціліся па шчоках, упалі на падушку...

— Ну, што вы?.. Што?.. — затрывожыўся хірург і апусціў руку з пісьмом мне на плячо.— Вам шкодна хваляваца!.. Трымайцеся, што б ні было! Мы з вамі салдаты!..

Яго рука на маім плячы адчувальна здрыганулася, у той жа момант з'явілася ў мяне думка, што ён паднясе пісьмо да сваіх акуляраў і паспрабуе да-

ведацца, ад чаго я гэтак узрушыўся. Пярэчанняў у мяне не было, недзе за клубамі слёз нават падбіраліся словы просьбы: «Прачытайце самі!.. Дазваляю!.. Прачытайце, тады ўсё зразумееце!..»

Але хірургава рука з пісьмом аставалася на маім плячы, ён шчыра заспакойваў мяне, а потым спытаў:

— А што ўсё-такі здарылася, калі не сакрэт?

— Сын у мяне! — з глыбокім выдыхам прамовіў я.

Хірург узняў пісьмо над маёй галавою, стаў урачыста махаць ім, нібы прасушваючы мае слёзы радасці.

— Дык гэта ж шчасце, а не журба! Шчасце і лепшая надзея!.. — Трошкі сцішана пацікавіўся: — А колькі ўжо яму?

— Два гадкі!

— І вы нічога не ведалі?

— Нічога!.. Як рассталіся на Магілёўскай шашы ў сорак першым, з таго часу — ніякай весткі!

— Трэба напісаць адсюль,— параіў хірург.— Неадкладна! Магчыма, што яшчэ паспеем атрымаць адказ на гэты адрас.— Глянуў на мае забінтаваныя рукі, уздыхнуў.— Самі вы не здолееце пакуль што...

— А калі-небудзь здолею?

— Чаму калі-небудзь? Праз дзесятак дзён, калі ўсё пойдзе на лад, вы будзеце пісаць. Левай дагэтуль не спрабавалі?

У голасе хірурга бадзёрасць і ўзнёсласць, быццам не руку ён мне адпілаваў, а толькі мезены палец укараціў крыху.

— Левай ніколі не пісаў,— змрочна прамовіў я, уяўляючы, што страціў правую руку і цяпер, калі і налаўчуся пісаць левай, то почырк будзе зусім іншы, ён толькі напалохае Таню.

— Будзеце пісаць правай! — раптам даволі ўпэўнена сказаў хірург.— Гэта я так, на ўсякі выпадак, спытаў, каб вызначыць вашу рэакцыю на горшае. Можа, нават абедзве рукі мы вернем у строй!

— А мне здаецца, што ў мяне ніводнай няма: ні левай, ні правай. Толькі пальцы баляць на абедзвюх. І не магу зразумець, ёсць яны, гэтыя пальцы, ці толькі былі... Некалі...

— Не падайце духам! Гэта галоўнае!.. Чалавек

сам сябе лечыць!.. А пісьмо жонцы, можа, я напішу, калі дазволіце?

— Чужы почырк азмрочыць яе, напалохае.

— А я толькі два словы: што вы часова не ў страі... Што...

Я маўчаў.

— Ну, падумайце, паразважайце!.. Пісьмо... Як завуць вашу жонку?

— Таня.

— Таніна пісьмо пакладу вам пад падушку, а заўтра зайду.

Хірург пайшоў, а я астаўся адзін са сваёй радасцю і са сваім горам. Ні разу яшчэ за час вайны, колькі ні трапляў у шпіталі, не было ў мяне такой няпэўнасці і бязладдзя ў марах на далейшае жыццё. Раней, да гэтага ранення, трымалася на душы адно: падлячуся і зноў на фронт. Паразважаць можна было толькі аб тым, у якую часць пашлюць і што дадуць: узвод, роту? Здаралася, што і на батальён лейтэнантаў ставілі.

Цяпер, канечне ж, у строй не вернешся. Хіба ў ваенкамат які пашлюць, калі ўдасца ўратаваць хоць адну руку. А можа, зусім камісуюць? Радавацца ад гэтага ці сумаваць, пакутаваць?

Камісаванаму падчыстую, канечне ж, дазволяць ехаць дадому. А куды ехаць? Мінск яшчэ не вызвалены, і родны кут мой на Старобіншчыне пад немцам. Падацца на Варонежчыну, расшукаць тую вёсачку, дзе цяпер жывуць жонка і сын. Гэта ж сям'я! Свая, родная сямейка!.. Канечне ж, трэба ехаць туды!..

...Сын не прызнае, будзе глядзець спалохана і недаверліва не незнаёмага пехацінца... Спытае потым: «Дзе твая рука?» А можа, і іншае пачуецца пытанне, яшчэ больш трагічнае: «Дзе твае рукі?»

А якое жыццё будзе ў Тані, калі давядзецца карміць, як маленькага?..

...Васілёк... Такое імя яна дала сыну. У метрыцы, а некалі будзе і ў пашпарце — Васіль Васільевіч!.. Значыць, думала пра мужа, не выпускала з душы, чакала...

Хірург прыйшоў толькі назаўтра, падсунуў руку пад маю падушку, абмацаў пісьмо:

— Што, не чыталі другім разам?.. Нікога не прасілі памагчы?

— Не прасіў, а чытаць чытаў.

— Як гэта?

— Перачытваў па памяці... Памятаю кожнае слова.

— Так-так... Ну, паглядзім, як там нашы справы!.. Зараз я скажу, каб вам памаглі перайсці ў перавязачную.

На белым высокім стале, на які трэба залазіць пры дапамозе падстаўкі, хірург паклаў мне на грудзі лёгкую падушку, каб сам я не мог убачыць свае рукі ў час перавязкі. Я, праўда, і не думаў глядзець, бо ўсю сваю сілу волі траціў на тое, каб вытрываць страшэнны боль ад дотыкаў нечым зырка пякучым, нібыта напаленым прэнтам, то раптам — адваротнае: адчуваўся ў пальцах, якіх, мабыць, ужо не было, востры ледзяны холад, быццам іх нацвёрда і надоўга замарожвалі.

Даручыўшы перавязачным сёстрам зрабіць пасля яго самае лёгкае — забінтаваць рукі, хірург выйшаў з пакоя, нічога не сказаўшы мне.

«Чаму ён гэтак? — мучыла мяне цяжкая і крыўдлівая думка.— Няўжо безнадзейныя мае справы?» Глянуў у вочы сястры, калі стаў на прыступку ля стала.

Пагляд, мабыць, перадаўся ёй трывогай, і жанчына стала суцяшаць мяне:

— Нічога кепскага ў вас няма, паверце!.. У параўнанні з іншымі, дык гэта...

Добра суцешыла! Я не ведаў, што і сказаць ёй. У палаце ўперыў вочы ў адну кропку на процілеглай сцяне, і не хацелася мне нікуды іх адводзіць, нікога і нічога не бачыць. Боль пасля перавязкі паступовa суцішыўся, і мяне пацягнула на сон. Прыйшла раздатчыца, зноў прапанавала гарбушку, але мне не хацелася варушыцца, расплюшчваць вочы...

Хірург наведваўся кожны дзень, правяраў пульс, тэмпературу, аднак жа не ўсчынаў гаворкі пра мае рукі. Сам я не назаляў яму распыткамі, трымаючы ў думках ісціну, што калі будзе ў чалавека сказаць нешта добрае, то ён скажа. Кепскім не хоча псаваць мне настрой, а хлусіць не можа...

У канцы таго тыдня зайшла ў палату дзяжурная медсястра з поштай і зноў назвала маё прозвішча. Голасна і ўрачыста.

— Вам тэлеграма.

Адкуль, якая, ад каго?.. Я аж здрыгануўся. Упершыню пасля аперацыі прыўзняўся на локці, хоць у пальцах і ладонях востра і пякуча закалола.

— «Прыязджаю! Таня»,— прачытала медсястра.

— Вось жа шчасце людзям! Усяго два словы, а якая радасць! Хто гэта? Жонка? А я думала, вы не жанаты!.. Яшчэ такі малады... Спадзявалася: выхаджу ды прывараджу.

— Бязрукага? — чамусьці без крыўды спытаў я. А пакрыўдзіцца ды нават і абурыцца, відаць, было за што: магла б ціха паднесці і прачытаць тэлеграму, ніхто не прасіў крычаць на ўсю палату.

— Ніякі вы не бязрукі! — запярэчыла медсястра.— Хоць адна каторая ды астанецца! Абнімаць будзе чым!..

— Ды такую прыгажуню,— падаў голас мой сусед-груднік,— яно і не меўшы рук прывабна было б прытуліць...

Медсястра ўжо не першай маладосці, аднак сапраўды даволі свежага і прыемнага выгляду, весела і гулліва смяялася, ужо наблізіўшыся да майго ложка. Я зблізку глянуў ёй у твар і заўважыў, што ў куточках выразных блакітных вачэй блішчаць расінкі слёз.

— Мабыць, доля мая такая — быць адзінокай,— гаварыла яна не толькі мне, а на ўсю палату.— На ўсё жыццё саламянай удавой!.. Быў да вайны хлопец... Забралі на фронт, і няма... Пахаронка прыйшла бацькам у вёску... Яшчэ на першых месяцах вайны...

Яна памахала лістком маёй тэлеграмы, нібы лёгкім веерчыкам, перад сваімі вачамі, быццам верачы, што гэта падсушыць іскрыстыя кропелькі слёз, але яны яшчэ пабольшалі.

— Куды вам пакласці? — звярнулася ўжо да мяне.

— Пад падушку,— адказаў я.

Тані не было яшчэ некалькі дзён. Як чакаў яе, так і баяўся сустрэчы. «Нават рукі не здолею па-

даць... Суцешыць не змагу хоць якой надзеяй — хірург нічога не гаворыць...»

Хірурга я папрасіў, як толькі ён зайшоў да мяне, узяць з-пад падушкі тэлеграму:

— Адкуль яна ведае адрас!

Хірург трымаў лісток перад акулярамі, ледзь прыкметна варушыў шырокімі падстрыжанымі вусамі і маўчаў.

— Сам жа я не мог напісаць! І нікога не прасіў.

— Пакорна прашу прабачэння,— загаварыў нарэшце хірург.— Гэта я напісаў вашай жонцы — падгледзеў адрас у пісьме. Мне здавалася, што так будзе лепш, справядлівей... А галоўнае — ваша лячэнне... Вы залішне трагічна ўспрымаеце сваё становішча...

— І вы сказалі, што ў мяне вось... — я паказаў вачамі на свае бінты.

— Сказаў! — пацвердзіў хірург.— Не падрабязна, вядома, але не крывіў душою... І вось яна едзе! Бачыце? — Ён чамусьці паднёс тэлеграму да маіх вачэй.— Я не памыліўся ў сваіх прадчуваннях.

— І як дабярэцца з Варонежчыны ледзь не пад самую сваю радзіму? Колькі перасадак? А можа, яшчэ і не ходзяць сюды паязды?

— Да нашай станцыі не даходзяць,— пацвердзіў хірург.— Але дабярэцца папутнымі!.. Бачу, што ваша жонка — не з беларучак.

— А на каго сына пакінула? — раптам спытаў я ў хірурга, хоць, спахапіўшыся, зразумеў, што гэтага ён не можа ведаць.

— На каго? — без здзіўлення задумаўся хірург.— Я мяркую... Ну, на каго? На некага са сваіх, блізкіх... На суседку, можа... На гаспадыню кватэры. Свет не без добрых людзей!

Сусед-груднік у нашу гаворку не ўмешваўся, але я, хоць і не бачачы яго, ведаў, што абавязкова ловіць кожнае слова, а потым, як хірург пойдзе, засыпле мяне рознымі пытаннямі і меркаваннямі. Хірург сядзеў спінаю да яго, але, мабыць, патыліцаю адчуў, што чалавек увесь час глядзіць на нас, нібы сочыць за кожным нашым рухам. Нечакана для яго азірнуўся і, напэўна, злавіў сумныя, злосныя вочы. Перад адыходам шапнуў мне:

— Як прыедзе жонка, пастараюся часова пера-

весці вас у асобны куток... У свой кабінет, магчыма... Каб вы маглі спакойна пагаманіць.

Трывога мая і боль душы крыху ўлягліся пасля размовы з хірургам, аднак спакою не займеў. Я стаў чакаць Таню. Чакаў бесперапынна, з хвіліны на хвіліну: кожны нават выпадковы скрып дзвярэй у палату не толькі насцярожваў, але быццам палохаў мяне. Прыслухоўваўся да кожнага кроку на калідоры, асабліва калі адчуваў, што ён жаночы. Так было нават і начамі: я амаль зусім не спаў... З радаснай і балючай надзеяй чакаў світання. Добра, што яно пачыналася рана: ледзь згасаў мутнаваты ліхтар у двары шпіталя, як таямніча, нібы з казачнага бяздоння, пачыналі выплываць рамы палатных акон. Па іх я вызначаў надыход новага дня: яшчэ ў шыбах мутнаваты змрок, яшчэ іх куткоў амаль не відно, а крыжы рамак можна заўважыць. І што хвіліна далей, то ўсё больш і лепш. Паступова шыбы пачынаюць бялець, змрок у палаце спалохана адступае ад акон, ад белых прасцін і падушак і няўпэўнена ўтульваецца пад ложкамі і ў найбольш далёкіх кутках пакоя. Потым я пачынаю заўважаць галовы сваіх аднапалатнікаў: яны яшчэ моцна спяць.

Чаканне Тані стала ўжо звычкай, амаль адзінай радасцю майго нерухомага шпітальнага існавання. І найбольш уладарна яно авалодвала мною з надыходам раніцы. Спачатку ўзрушала надзеяй першае пасвятленне ў акне, затым — першы рэдзенькі і нясмеленькі праменьчык. Потым я чакаў сонца, светлага, цёплага, шчаслівага вясенняга сонца!.. І каб яно ўсімі сваімі промнямі свяціла ў нашу палату і доўга не адыходзіла ад нашых акон... Мне ўяўлялася, што вось у такі час адчыняцца дзверы палаты і на парозе пакажацца Таня, зажмурыць вочы ад сонца, і я першы ўбачу яе... Убачу, але наўрад ці пазаву: голас упадзе. Агледзеўшыся, яна сама пазнае мой ложак...

Адной золкавай раніцай я сам не заўважыў, як зморанасць мая ўзяла верх над усім, і я нечакана задрамаў. Гэта так зручней сказаць — задрамаў, быццам паблажыць сябе. А калі на поўную праўду, то, мабыць, заснуў, ды і моцна, бо не бачыў тады першага сонечнага промня. Усялякія варушэнні на

калідоры, да якіх усе дні прыслухоўваўся, таксама не дайшлі да мяне. А можа, іх і не было?..

Прахапіўся па нейкім здрадлівым рэфлексе і, яшчэ не расплюшчыўшы вочы, адчуў, што над маімі грудзьмі схіляецца нешта белае. У шчылінках дрымотных вачэй убачыў накрухмалены медыцынскі халат... Адразу прыйшло на свядомасць, што яшчэ рана з'яўляцца тут белым халатам. У гэтую пару нават дзяжурныя дазваляюць сабе крыху паспаць, калі няма трывожных сігналаў. З нашай палаты, здаецца, ніхто не падаваў ніякага сігналу.

Мне страшэнна хацелася павярнуцца на бок ды зноў заснуць, бо зморанасць не прайшла, а яшчэ горш заўладарыла мною. Але ж у памяці — суровы наказ хірурга: яшчэ некалькі дзён не варушыць рукамі. Я павярнуў толькі галаву... Не насустрач уяўнаму беламу халату, [illegible] да сцяны, ад якой увесь час крышку заносіла аліфай.

Белы халат нада мною — вядома ж, уяўнасць, дрымотная здань. Напэўна, таму, што ніякай іншай вопраткі мы цяпер і не бачым: нават сантэхнік прыходзіць у белым халаце. Адно вуха ў мяне затулілася падушкаю, у ім чуцён стукат сэрца, вельмі неспакойны, блізкі да трывожнага, а другім вухам услухоўваюся: няўжо медсястра прыйшла з тэрмометрам, ды шкадуе будзіць, ведае, што апошнія ночы былі ў мяне амаль скрозь бяссонныя. Ёсць тут адна такая... Яна можа і паспачуваць, і пашкадаваць... Толькі сядзець і чакаць, пакуль хто прачнецца, наўрад ці знойдзе час. А можа, глянула ды і пайшла... Крокі ў тапачках не ўлавіліся...

Сну ўжо таго няма, ён пастунова знікае, нібы жывасілам рассейваецца, толькі млявасць у целе нібы завісае, вельмі нудная, нясцерпная... Куды яе дзець, як пазбавіцца?.. Вуха раптам улаўлівае лёгкі подых далёкага і зусім няшкоднага скразнячку... Адкуль ён тут? Ніколі ж раней не было: вокны шчыльныя, форткі закрытыя... Няўжо дыханне нейчае, такое ціхае і асцярожнае?..

Зусім расплюшчваю вочы і гляджу спачатку на блакітную, нядаўна падсвежаную пэндзлем сцяну, нібыта вывяраю свой зрок пасля сну. Потым паварочваю галаву і ўзнаўляю той свой стан на ложку, пры якім можна глядзець і на столь, і на процілег-

лую сцяну, і на дзверы ў палату. Гляджу, вачам не веру: на маім зэдліку пры ложку сапраўды сядзіць жанчына ў белым накрухмаленым халаце... Не даўшы мне добра разглядзецца, яна парывіста прыпадае вуснамі да майго твару і ўзрушана, шчыра шэпча:

— Гэта я, Васілёк!.. Гэта я!.. Ты, мабыць, не чакаў?

Я падаўся да яе галавою, плячамі, нясцерпна пацягнула ўзняць рукі ды абняць яе. Але рэзкі боль прыглушыў усё.

— Табе хацелася паспаць?.. — крышку адхіліўшыся ад мяне і з гарачай ласкай гледзячы мне ў вочы, спытала Таня.— Я разбудзіла цябе?

— Ноччу не спалася... Ужо не адны суткі... І вось сёння перад світаннем...

— Мне дзяжурная сказала, што ты кепска спіш... Пасля мае тэлеграмы... Я ж не ведала, што так цяжка будзе дабірацца сюды... Прыехала ноччу... Сядзела тут у калідоры... А потым, як пачало днець, упрасілася, каб пусцілі хоць глянуць на цябе... Ты, можа, паспі, калі можаш... А я пасяджу пры табе...

У Таніных вачах нясмела пераліваліся іскрынкі слёз. Пад маім позіркам яны ўсё большалі і нястрымна хвалявалі мяне. Я адчуваў, што ў цяперашнім маім стане ў мяне не хопіць сілы пераадолець сваю ўзрушанасць і горкая, немужчынская слабінка міжвольна праявіцца — сам захлынуся слязьмі. Таня зразумела гэта, ціха, у самыя мае вусны прашаптала:

— Я не плачу... Не думай нічога!.. Гэта ж ад радасці, што бачу цябе... Так даўно не было пісьма... З таго часу, як мы з Лідай пераехалі ў раён...

— Там вы ў школе? — спытаў я, ужыўшы ўсе намаганні, каб не задрыжаў голас.— Лісток твой у косую лінейку...

— У школе,— пацвердзіла Таня.— У сямігодцы: Ліда ў малодшых класах, я — у старэйшых.

— Васілёк з Лідай астаўся?

— Так, з Лідай. Ён яе любіць, як і мяне... Часам мамай называе.

— Пра бацьку нічога не ведае?

— Чаму ж? Цяпер падрос, то ведае... Мы яму фатаграфію тваю паказваем... Тую, што з каўпалка...

— Там, здаецца, ва ўвесь рост?

— Ва ўвесь! —нагадала Таня.— Хіба забыў? Стаіш... Рукі па швах, як у страі... У шлеме, шашка пры баку, шпоры на ботах...

— Рукі па швах... — чамусьці паўтарыў я.— Абедзве!..

— Ой, божа! — Таня схамянулася, і мяне прыемна ўразіла тое, што яна не падумала пра мае рукі. А можа, нічога і не ведае пра іх? Хірург не напісаў праўду?.. — Не пакутуй гэтак!.. — стала яна прасіць.— Ёсць жа ў цябе рукі! Вось яны!..

Трошкі больш адхіліла з маіх грудзей прасціну, стала гладзіць мае плечы, цалаваць у шыю...

— Абы ты сам жывы!.. Татка наш!.. Вось забяру дадому... Выпрашу і забяру... А там выхаджу, вылашчу...

— Глядзі, яшчэ адсюль ваяваць пайду,— паспрабаваў і я падбадзёрыцца, хоць голас здрадзіў: не прагучаў узнёсла і ўпэўнена. Аднак жа суседгруднік паварушыўся ад майго голасу, і гэта занепакоіла мяне. Калі прачнецца, то мала таго, што ўперыцца і вачамі і вушамі на нас, дык яшчэ і ў гаворку ўшчэміцца. I тады знікне наша часовая ўтульнасць!..

— От наконт твайго ваявання далейшага,— прынізіўшы шэпт, падавала сваю думку Таня,— дык няхай даруюць мне твае начальнікі, але я сказала б — не! Павapplaваў не мала! Самае цяжкае вынес на сваіх плячах потных і акрываўленых... Цяпер ужо не далёка да перамогі!.. А ў тыле таксама патрэбны людзі... Вунь у нашай вёсцы — ніводнага мужчыны! Дырэктар школы такі дзядулька, што як закашляецца ў класе, дык да канца ўрока не адходзіць.

«Але ж ён з рукамі»,— хацелася мне ўставіць сваё, ды перамагло лепшае: не трэба лішне назаляць ёй сваім калецтвам! Відно ж па ўсім, што яна намагаецца не браць гэта на душу і ўся захоплена радасцю сустрэчы, спадзяваннем на сямейнае жыццё дома.

Вось толькі — дзе дома? Таніна ласкавасць і надзейная ўпэўненасць, што далей усё павінна ісці добра, скіравалі і мае думкі на мірны лад. Упершыню мне пачало яскрава ўяўляцца, што калі на фронт мяне не возьмуць, то, можа, і сапраўды недзе спатрэблюся на мірнай працы: няхай сабе ў Taнінай

школе, замест таго дзядка, што за кашлем не можа слова вымавіць, а можа, у якой газеце — усё ж такі да інстытута не мала год пратопаў у журналісцкіх камандзіроўках...

Мінск павінен быць хутка вызвалены. Пра гэта гаварылі зводкі Інфармбюро. Аб наступленні нашых войск у Беларусі паведамлялі і франтавыя газеты, якія амаль штодзённа прыходзілі ў шпіталь.

— А можа, мяне ў Мінск накіруюць? — нясмела і, відаць, не зусім сціпла выказаў я меркаванне. І ледзь не дадаў — у дом інвалідаў. Своечасова прыкусіўся язык, Таня не заўважыла, што ў мяне набягалі такія словы.

— Калі дадуць туды накіраванне,— згодліва адазвалася яна,— то і паедзеш. І нас забярэш. Будзем разам ладкаваць жыццё. Калі ж не дадуць, то прыедзеш да нас, у вёску. Мне дзе б ні жыць, абы разам з табою.

Таня пабыла ў мяне два дні. Адчуваў я ды і сама гаварыла, што асталася б і яшчэ на некалькі дзён, каб дазвалялі абставіны. Але дарога сюды забрала многа часу, невядома, колькі сутак спатрэбіцца на вяртанне дадому. А там — экзамены ў школе... А там малы Васілёк чакае не дачакаецца мамку... Ды і Ліда, напэўна ж, непакоіцца.

Перад самым цяжкім момантам — перад ад'ездам Тані — мне адчулася, што нібыта паварушыўся ўказальны палец на маёй правай руцэ. Сам не паверыў, бо ўжо не раз адчуваў, што ёсць пальцы і на левай руцэ, хоць ужо ведаў, што іх няма. А тут Таню вельмі захацелася пацешыць. Я шапнуў ёй, што ажывае мая правая рука, указальны палец пачынае ківацца. Яе вочы, як і ў дзень сустрэчы, заіскрыліся слязамі.

Назаўтра прызнаўся хірургу, што была ў мяне нейкая ўяўнасць ажывання пальца. І не ў сне, а ў сапраўднасці, у прысутнасці жонкі.

— Аднаго пальца? — са спакойнай задаволенасцю спытаў хірург.

— Аднаго, указальнага.

— А там у вас два. Трэці вялікі.— Хірург трошкі расшырыў вусы ціхай усмешкай, па-сяброўску дакрануўся да майго пляча.— Я стараюся захаваць

тры пальцы... Гэта, канечне ж, мала, калі лічыць да дзесяці... Але ўсё ж такі будзем трымаць хоць тую надзею, што здолееце пісаць. А гэта і на школьнай дошцы, калі давядзецца, і на лісце паперы. На крайні ж выпадак, то і шрубку будзе чым завінціць.

Праз нейкі час пасля таго, як мне дазволілі ўставаць і нават хадзіць, і нават крыху памахваць рукамі, дзяжурная сястра паведаміла, што мяне выклікаюць у аддзел кадраў шпіталя. Час быў прызначаны ў другой палове дня.

Перадаўшы такое патрабаванне, медсястра чамусьці не спяшалася адысціся ад мяне, хоць быў час абходу і ёй трэба было спяшацца ў другую палату. З цікаўнасцю яна глядзела мне ў вочы і быццам нечага чакала, нешта хацела высветліць.

— Вы не прасіліся да яго? — нарэшце спытала шэптам, каб не чулі мае суседзі.

— Да каго?

— Ну, да капітана, начальніка гэтага аддзела.

— Не, не прасіўся,— адказаў я шчыра, бо ў яе шэпце чулася шчырасць. Гэтую медсястру, ужо не надта маладую, найбольш разважлівую і добразычлівую, я трохі вылучаў сярод іншых і сяды-тады размаўляў з ёю.

— І не пісалі нікому нічога? — перапытала медсястра.— Можа, скаргу якую ці просьбу?

— Нічога не пісаў,— запэўніў я. І паказаў вачамі на свае рукі.— Мне цяпер пісаць дык горш, як першакласніку: вучыцца трэба.

— Калі б мела ўладу, то не пусціла б вас туды.

— Чаму?

— Баюся я гэтага чалавека... Калі ўгледжу дзе, то абходжу.

— А мне чаго абходзіць?

— Наўрад ці на дабро ён выклікае вас. Разанé па нервах...

Мне зноў вельмі яскрава ўявіўся гэты нізкарослы пласкашчокі капітан, якога сустракаў ужо некалькі разоў у двары шпіталя. Хадзіў ён заўсёды спаважна і на ўсю магчымасць сваіх крываватых ног — доўгімі крокамі. У такт гэтым крокам памахваў адной рукою, а другой што-небудзь трымаў: скрутак газет ці зводак інфармбюро. Любіў модніцаць,

наколькі гэта было даступна ў тых умовах. Папруга і партупея выбіраліся на камсастаўскім складзе самыя лепшыя, сіняе дыяганалевае галіфэ і гімнасцёрка таксама былі новыя і добра адпрасаваныя.

У тыя часы аднекуль праціснулася ў штабы і шпіталі даволі наіўная мода — насіць летам боты з брызентавымі халявамі. І каб на рыпах! Капітан адразу заказаў такія боты ў шпітальнай майстэрні. І стаў хадзіць у іх ужо не толькі спаважным, шырокім крокам, а нават і ўпрывалачку, з моцным націскам на абцасы, каб усім быў чуцён рыпат. Калі здаралася, што ён заходзіў у наш калідор, то яшчэ здалёк усе чулі, што з'явілася начальства. Не медыцынскае, аднак жа ў нечым адмысловае: ніхто добра не ведаў яго штодзённых функцый, я таксама іх не ўяўляў, але бачыў, што дарогу яму ўступаюць амаль усе.

Меўшы звычку трохі цікавіцца людзьмі яшчэ з часоў сваіх журналісцкіх практыкаванняў, я збольшага запрыкмеціў капітана і шукаў выпадку, каб лепш распазнаць яго, бліжэй пазнаёміцца, пагаманіць. І вось такі выпадак надарыўся. У мяне мільганула думка: можа, нават ён заўважыў, што пры выпадковых сустрэчах я прыпыняў на ім свой пагляд?

Кабінет у яго быў амаль такой жа велічыні, як наша палата. І ўвесь белы, як палата: крэслы ў белых чахлах, канапа накрыта белай прасцінаю. «Чаму не зачахлёная? — падумалася мне.— Хіба няма каму тут шыць чахлы?» Толькі пісьмовы стол быў жоўты, і на ім ляжалі белыя паперы.

Мае рукі былі яшчэ ў бінтах, толькі тры пальцы тырчалі на правай. Я казырнуў імі і стаў па камандзе «смірна». Стаяў так, пакуль капітан размаўляў з некім па тэлефоне.

— Вольна, вольна! — лагодна загаварыў ён, асцярожна паклаўшы трубку на рычагі апарата.— Сядайце, калі ласка!.. Якія тут фармальнасці між намі?.. Я таксама франтавік... Дык вось... Вы — старшы лейтэнант Антошын?

— Так точна!

— Сядайце! — Ён узяў каля сцяны два белыя крэслы і паднёс іх да пісьмовага стала. Калі нёс, гулкае рыпенне ботаў ледзь не аддавалася рэхам на

сценах пакоя.— Вось тут нам будзе зручней! — Паказаў мне рукою на крэсла, а сам сеў насупраць.

— Вы з Мінска пайшлі ў армію?

— Не, з Цяцерына.

— А што такое Цяцерын?

— Мястэчка, куды нас паслалі настаўнічаць.

— Чаму вы гаворыце «нас»?

— Мяне і маю жонку.

— А вучыліся ж у Мінску?

— Так. І працаваў там да вучобы.

— Вось і пашлём вас у Мінск! — капітан крывавата ўсміхнуўся.— Не ў полк, вядома, не ў батальён, а на мірную працу. На «гражданку», як гавораць нашы вайскоўцы. Тут я праглядаў некаторыя асабовыя справы нашага афіцэрскага саставу. Вы настаўнік па грамадзянскай спецыяльнасці. А ў мінулым — журналіст. Чаму вас не ўзялі ў франтавую газету?

— Я страявы камандзір.

— Туды бралі і страявых.

— Ніхто ў мяне не пытаў пра маю былую спецыяльнасць.

— І цяпер пра яе не пытаюць,— падхапіў капітан.— Мабыць, тут дэфіцыту няма. А вось настаўнікаў, педагогаў патрабуюць. Ёсць загад аб дэмабілізацыі абмежавана годных, ужо нестраявых настаўнікаў і накіраванні іх у тыл. Ваша кандыдатура — проста знаходка для гэтага загаду: усім пунктам адпавядае.

— Дык не толькі ж абмежаваны... — памкнуўся я ўдакладніць, але капітан перапыніў мяне спачатку ўзмахам абедзвюх рук, а потым даволі паспешлівым і ўпэўненым патокам слоў:

— Ёсць і гэта!.. Ёсць! Усё прадбачана загадам! Нават пашкоджанне канечнасцей і прымяненне пратэзаў. У вас камісіі яшчэ не было?

Я пакруціў галавой.

— Будзе камісія! Хутка будзе! Думаю, што вам яшчэ і ў арміі маглі знайсці работу. У штабе, напрыклад. Або ў газеце. А хутчэй за ўсё — у ваенкамаце! Была нядаўна заяўка. Толькі я асабіста думаю — гэта між намі: абыдуцца ваенкаматы і без вышэйшай педагагічнай асветы. А вось школы, тэхнікумы, інстытуты!.. Адным словам, няхай вам доб-

ра сніцца ваш Мінск і мірнае жыццё. Уладзіцеся ў вызваленым горадзе, сям'ю заберацe. Шчыра кажучы, я зайздрошчу вам.

— Дык Мінск жа яшчэ пад ворагам,— нагадаў я і адразу пачуў упэўненае паведамленне:

— Хутка будзе вызвалены! Там акружана вялікая нямецкая групоўка і тры нашы франты злучыліся. Ідуць баі на подступах да горада. Так што ёсць добрая надзея...

Капітан радасна ўсміхаўся, быццам бы дружалюбна глядзеў на мяне, а я чамусьці не мог вольна і шчыра ўзняць вочы на яго, адказаць хоць пaглядам на лагоднасць і добразычлівасць. А ўдзячныя словы дык і зусім не знаходзіліся. За што ж тут дзякаваць? Чаго радавацца? Амаль шэсць год на ваеннай службе... Амаль з першых дзён вайны — на фронце. А самая перамога будзе здабыта без мяне...

Назаўтра зайшоў у палату хірург, і я расказаў яму пра гаворку з капітанам.

— Не можа гэтага быць! — абурыўся доктар.— Чаму са мной ніхто не параіўся? У вас яшчэ жывыя раны на руках, мы не можам такіх выпісваць!

— Капітан лічыць, што можаце!

— Я пайду да яго!

У той дзень хірург не заходзіў да мяне, а ў наступную раніцу з'явіўся хмурны і задумлівы. Сеў на зэдлік каля майго ложка, разгублена пaглядваў на мае рукі і маўчаў. Я таксама не назаляў яму пытаннямі. Потым узяў у далоні маю левую руку, да самага локця забінтаваную, патрымаў яе ласкава, асцярожна пакратаў тое месца, дзе некалі пачыналіся пальцы.

— Баліць?

— Не вельмі.

— Прыйдзецца ўсё-такі выпісвацца,— сумна прамовіў ён.— Не магу ўцяміць, ад чаго такая паспешнасць! — І выйшаў з палаты кволай, прыгорбленай паходкай. Ціха зачыніў за сабою дзверы, а далей, на калідоры, ужо зусім не чутно было яго крокаў. Да гэтага я заўсёды чуў, як ён ішоў. Нават калі і прамінаў нашу палату, то я ведаў, што гэта ён пайшоў, мой добразычлівец і вырaтавальнік.

Сённяшняя панурасць і няўпэўненасць хірурга збянтэжылі ды нават крыху затрывожылі мяне.

Я ведаў, што мой доктар, пажылы чалавек у званні падпалкоўніка медыцынскай службы, мае высокі аўтарытэт у шпіталі. А тут раптам адступіўся, нібыта спасаваў перад капітанам-нямедыкам. Мабыць, з'явілася нейкая важкая прычына. Якая ж яна? У чым яе сутнасць? Недалечанага чалавека ніколі не выпісвалі, нават у медсанбатах, дзе часам не хапала месц, параненыя ляжалі ў калідорах. А тут пры неабходнасці нават у адным капітанскім кабінеце можна пакласці цэлы дзесятак хворых.

Стаў перабіраць у памяці ўсе свае паводзіны на працягу апошніх часоў. З некім тут не паладзіў?.. Некага пакрыўдзіў?.. Абразіў?.. Парушаў шпітальную дысцыпліну?..

Нічога гэтага не было. Аставалася вініць сябе толькі ў адным: прыладжваючыся трымаць аловак у тых сваіх трох пальцах, што асталіся на правай руцэ, я час ад часу нахіляўся над разгорнутым школьным сшыткам, які прынесла мне медсястра. Да гэтага намагаўся што-небудзь вывесці на ражках газеты, і сястра заўважыла мае пакуты.

— Пашукаю вам якой паперы,— сказала яна.— Бачу, што вельмі хочацца пісаць. Мабыць, і на пісьмо лістка няма?

— Няма,— прызнаўся я.

— Пашукаю!..

Вучнёўскі сшытак з зялёнай, крыху прыжаўцелай па краях вокладкай я прыняў ад медсястры з вялікай удзячнасцю. І вось калі аднойчы нахіліўся ў адзіноце над гэтым сшыткам (вольны столік знайшоў у шпітальнай бібліятэцы), незвычайнае, даўно няведанае супакаенне адалела мною, стала лёгка і свежа на душы, як перад жаданым сном. Аднак спаць не хацелася, і сэрца не прыцішалася для адпачынку, білася трывожна і ўсхвалявана. У галаве адчулася прыемная, нехваравітая гарачыня. Паплылі думкі, замітусіліся перад вачамі карціны перажытага на вайне. Шмат эпізодаў, шмат падзей, яскравых, каларытных, незабыўных па трагізму і гераічнасці. Але яшчэ больш — людзей, якія пасвойму, часам вельмі нечакана і неспадзявана, раскрываліся ў жорсткіх, надзвычайных абставінах франтавых будняў. Многа было ў мяне ў памяці такіх людзей, маіх аднапалчэнцаў, акопных і блін-

дажных паплечнікаў. Але баец Апанасенка, той самы Мікола Апанасенка, якога я ведаў са студэнцкіх гадоў, чамусьці ўвесь час вылучаўся сярод іх і даволі часта ўзнікаў у маім уяўленні.

Вось і ў гэтыя хвіліны, калі я задумаўся над вучнёўскім сшыткам, быццам міжвольна ўзнік перад вачамі мой даўні знаёмы, мой шчыры сябра па інстытуту. Маленькі ростам, маўклівы, нічым не прыкметны цяперашні баец майго стралковага ўзвода. Нядаўна прыбыў з новым папаўненнем. Мы занялі абарону на самым пярэднім краі... Варожая «рама» заўважыла нашы акопы, хоць яны былі замаскіраваны, як мы думалі, самым дасканалым чынам. І пачаўся налёт. Бомбы проста сыпаліся на нас. Не толькі майму ўзводу, а і ўсёй роце, а можа, і батальёну давялося залегчы на дно акопаў і кулямётных гнёздаў... А Мікола Апанасенка спакойна сядзіць на грудцы зямлі, непадалёку ад мяне, выцягвае з кішэні штаноў канаплянае пасконне і круціць яго ў пальцах.

— Нашто гэта? — пытаю.

— Спатрэбіцца,— адказвае.— Гранаты звязваць. Пасля такога налёту яны з танкамі рынуцца!

Апанасенка спраўдзіў: варожыя танкі пайшлі адразу, ды ў такой колькасці, што нават супраць узводнай пазіцыі іх было не менш як дзесятак. А ва ўзводзе — адно супрацьтанкавае ружжо, [illegible] гранаты — толькі звычайныя.

За намі стаяла батарэя саракапятак. Яна трохі прыпыніла ход танкаў, адзін задымеў непадалёку ад нас. Астатнія сунуліся на нашы пазіцыі даволі ўпэўнена і палівалі нас агнём кулямётаў, разбівалі брустверы і глушылі нас снарадамі гармат.

У акопнай нішы Міколы Апанасенкі ляжала некалькі звязак ручных гранат. Адну такую звязку ён трымаў у правай руцэ і гэтак жа спакойна, як і тады, калі віў шнурочкі, сачыў за танкам, які першым набліжаўся да нашых акопаў. Пэтээраўцы далі стрэл, але, мабыць, рукі іх у той момант дрыжалі, бо варожы танк нават не прыпыніўся. І тут я заўважыў, што раптам рашуча варухнуўся Мікола Апанасенка і моцна ўзмахнуў рукой. Амаль у той жа момант пад танкам зыркім магніем бліснула полымя і пачуўся магутны, аглушальны выбух.

Калі апаў чорны клубок пылу і трохі асеў дым, мы ўбачылі, што варожы «тыгр» круціцца на адной гусеніцы, ні наперад, ні назад падацца не можа. Тут у нашых пэтээраўцаў пацвярдзелі рукі, яны ўдарылі па бензабаку, і танк загарэўся. Адкрыўся люк, адтуль пачалі вылазіць варожыя танкісты. І нашы аўтаматчыкі адчулі ў той момант сваю сілу: ніводнаму танкісту не ўдалося цэлым саскочыць ці зваліцца на зямлю.

У акопе раптам узняўся гучны крык: няспынны, шматгалосы, стыхійна-нястрымны, блізкі да ўзлёту і радасці, і адчаю. Я таксама крычаў і наўрад ці добра ведаў, чаго крычу. Асталося ў памяці толькі тое бясспрэчнае, што з гэтага моманту раптам знік у мяне страх перад нямецкімі «тыграмі» і «пантэрамі» і ўсю істоту апанавала ўпэўненасць, што ніякая варожая сіла не здолее зламаць такіх адважных і ўмелых байцоў, як Мікола Апанасенка.

А ён ужо трымаў у руках яшчэ дзве звязкі гранат. Пакуль мы разраджалі свае аўтаматныя дыскі на варожых танкістаў, ён заўважыў, што збоку ад нас сунецца на акопы яшчэ адна «пантэрына». Трошкі прыгнуўшыся, каб не тырчала галава над брустверам, а многа яму і не трэба было прыгінацца, Апанасенка пабег туды. Танк на хуткім ходу апярэджваў яго з відавочным намерам змяць акопы і прарвацца ў тыл нашай абароны. Адну звязку Апанасенка кінуў на бягу, але выбух грымнуў не пад самым танкам. Тады баец прабег яшчэ некалькі крокаў, выскачыў з акопа наперарэз танку...

Што адбылося далей, я не бачыў, бо ў той самы момант адчуў моцны ўдар па плячах і страціў прытомнасць. Мяне прысыпала сырой, свежай зямлёй ад разрыву снарада на брустверы. Задыхнуцца пад зямлёю мне мае сябры не далі, а тым часам, пакуль мяне адграбалі, магільная прахалода адцягнула маю часовую кантузію. Хлопцы перавязвалі маё прабітае асколкам плячо і нічога не гаварылі пра Апанасенку. Але мне ўспомніўся той момант, калі ён выскачыў з акопа...

— Што з ім? — спытаў я, амаль зусім не чуючы свайго голасу. Нашы аўтаматныя чэргі і нават стрэлы пэтээраўцаў даносіліся да мяне нібы з далёкай адлегласці.

— Другі танк гарыць! — сказаў мне ў самае вуха санінструктар, забінтоўваючы рану.

— А баец як?.. Мікола Апанасенка?

— Ён падарваў яшчэ адзін танк,— нібыта ўдакладніў санінструктар, але з гэтага ўдакладнення я так і не даведаўся, жывы наш ціхмяны выратавальнік ці загінуў смерцю героя.

Толькі пазней мне стала вядома, што Апанасенка паспеў кінуць другую звязку гранат пад гусеніцу танка, але ў гэты ж момант і сам быў працяты кулямётнай чаргою...

«Дайшло б гэта да Гароха,— сумотна падумалася мне.— А яшчэ лепш, каб ён сам быў вось тут, у нашым акопе. Запэўніваў жа некалі, што разам ваяваць будзем, побач у атаку пойдзем...»

І раптам уяўнае запытанне, быццам кліч да самога спадарожніка, які пакінуў нас ля Дняпра: «Дзе ж ты цяпер, як ваюеш, як змагаешся з варожай навалай? А можа, зусім не змагаешся? Ты ж некалі пакінуў у Несцеравым двары не толькі нас, а і яшчэ сёе-тое, магчыма, больш важнае, чым мы. Несцер тады дагнаў нас з Таняй ужо за Дняпром, перадаў той слоік, з якога малы піў малако. У слоіку былі твае дакументы. Кульгавы дварняк, пачуўшы пах малака, выграб слоік з-пад падрубы...»

Успаміны пра Апанасенку ўсё больш і больш запаланялі, захаплялі мяне, і тры пальцы маёй адзінай рукі нібы міжвольна пачалі варушыцца. Боль у іх амаль не адчуваўся, радасць і асалода пісання, а тым больш нейкага ўсё ж тварэння, ужо даўно няведамага, несправабаванага ва ўмовах франтавога жыцця, узяла верх над усім: я пачаў пісаць.

Шчырая, хоць, можа, і паспешлівая замалёўка пра Міколу Апанасенку заняла ў мяне некалькі лісткоў сшытка: пісаў дробна, уборыста, на абодвух баках. Адагнуў сшыткавую сашчэпку, выняў лісткі і перачытаў. З'явілася ранейшае журналісцкае жаданне паказаць каму-небудзь тое, што напісаў, паслухаць заўвагі, а можа, і ўхвалу. Але ж каму тут пакажаш?.. Некалі Таня чытала ўсё, што я пісаў. Калі пачаў друкавацца, яна сачыла за нумарамі газет і ўсё, на яе погляд, лепшае вырэзвала і складвала ў папку. Да пачатку вайны ў яе сабралася

некалькі такіх папак. Усе яны асталіся ў Цяцерыне. Паслаць ёй і гэтую замалёўку? Дык з маіх пісьмаў яна ўжо ведае пра лёс Міколы Апанасенкі.

І ўзнікла ў мяне думка занесці сваю першую шпітальную, трохпальцавую пробу пяра на пошту і папрасіць там накіраваць яе простай бандэроллю ў франтавую газету.

Праз некаторы час, але, на маё здзіўленне, не доўгі, я атрымаў таксама бандэроль, значна большую, чым мая, і са свежым пахам друкарскай фарбы. Там былі два экземпляры франтавой газеты з маёй замалёўкай і вельмі шчырае па тону пісьмо з рэдакцыі. Супрацоўнік газеты, відаць, спрактыкаваны журналіст, а можа, нават і пісьменнік, раіў мне працягваць пісаць і нават вызначыў некалькі тэм, якія найбольш цікавілі газету. У шпітальных умовах не кожную з іх можна было адолець, аднак, заахвочаны ўхвальным пісьмом, я неўзабаве напісаў фельетон, у якім хоць і ўскосна, абагульнена, але закраналіся і некаторыя мясцовыя з'явы.

Адказу з франтавой газеты пакуль што не было, затое адбылося вось гэтае, зусім нечаканае для мяне спатканне са шпітальным капітанам.

Як кажуць мудрыя людзі — няма ліха без дабра. Мой фельетон, напэўна, перасланы ў шпіталь, насцярожыў капітана і, можа, яшчэ каго, падобнага на яго, падштурхнуў медкамісію, і вось тры пальцы маёй правай рукі трымаюць афіцыйны дакумент аб дэмабілізацыі.

## Частка трэцяя

Маленькі хлопчык з цаглінай у руках стаіць на пераездзе і чакае, пакуль пройдзе наш цягнік. Босы, голагаловы, у падкасаных штоніках. Мабыць, там, дзе ён жыве, ці там, куды нясе гэтую цагліну, ёсць лужыны...

Я гляджу на гэтага будаўніка праз акно вагона, бо ўжо еду дадому, на педагагічную работу. Не адыходжу ад бакавога акна, хоць ногі ўжо трохі млеюць ад стаяння — сесці тут няма дзе. Магчыма, гэта першы чыгуначны рэйс на вызвалены Мінск. Марудны, з частымі астаноўкамі, з доўгімі стаян-

камі. Акно перада мною адчынена. На хаду часам трапляе сюды крыху дыму ад паравоза. Іншы раз, калі перад вагонам нічога няма, зазірае ў акно чыстае і цёплае летняе сонца і зыркім промнем падслепвае мне вочы. З ветрыкам яшчэ больш даносіцца дымнага паху, але быццам не паравознага, а парахавога. Усяго некалькі дзён таму назад нашы войскі вызвалілі Мінск, яшчэ гучыць у маіх вушах узнёсла-ўрачысты голас Левітана, які абвясціў аб гэтым усяму свету.

Цягнік іржава скрыгануў тармазамі, гучна і прадоўжна заляскаў буферамі, спыніўся. У кювеце перад маім вагонам — бязладная, стыхійна скінутая гурба страляных гарматных гільзаў. Яны зусім свежыя. Ружовыя капсулі, прабітыя ўдарнікамі, паблiскваюць на сонцы. Углядаюся ў пустыя, прыкопчаныя стрэлам гнёзды для снарадаў, і мне ўяўляецца, што адтуль яшчэ сочыцца дым.

Апускаю аконнае шкло да самага нізу, высоўваюся, каб убачыць таго хлопчыка, што стаяў на пераездзе. І сапраўды бачу яго: ён стаіць на тым жа месцы і трымае ў руках цагліну. Уяўляю, як яму цяжка: і рукі памлелі, і ногі. Але не кідае хлопчык свайго грузу, мабыць, ён вельмі патрэбны.

Ці надоўга затрымаецца тут цягнік? Гэтага я не ведаю, і хлопчык наўрад ці ведае. Што зрабіў бы я на месцы малога будаўніка? Толькі каб у мяне ў руках была не адна цагліна, а цэлая ношка. Хутчэй за ўсё — падняўся б на тамбур і спусціўся б на другім баку цягніка. Магчыма, паспеў бы саскочыць, нават каб і крануўся ў гэты час цягнік.

А хлопчык стаіць і чамусьці не здагадваецца ці не адважваецца ўзысці па прыступках на тамбур. Хіба ўсе тамбуры насупраць заняты грузам? Хлопчык можа падлезці са сваёй цаглінай і пад вагон. Так яшчэ зручней. Але што будзе, калі, на няшчасце, паравоз у гэты момант скране вагоны?..

Мне стала шкада хлопчыка, нейкая трывога адалела за яго. Намерыўся выйсці з вагона, падбегчы да малога ды памагчы перабрацца на другі бок цягніка. Але нарэшце пачуўся тонкі і пранізлівы гудок паравоза, і адтуль стаў даносіцца кволы ляскат буфераў. Раскіданая гурба гарматных гільзаў пачала аддаляцца ад майго акна, а потым спадалеку

завіднеўся высокі адзіночны комін, у ніжняй палавіне белы, а ў верхняй — чырвона-чарнаваты. З коміна густымі клубамі валіў дым.

Пры набліжэнні да гэтага месца змяняўся ракурс агляду, і неўзабаве я заўважыў, што ад хутарка пры дарозе, магчыма, сядзібы чыгуначнага наглядчыка, асталася адна печ з комінам-стаяком. Печ выглядала ярка-белай, відаць, нядаўна была выбелена гаспадыняй. Наколькі даставаў пэндзаль, быў пабелены і комін, а далей аставаўся такім, як пакінуў яго пажар. Каля голай печы рупелася гаспадыня, а побач на недагарэлым бервяне сядзелі трое падлеткаў і, напэўна, чакалі чаго-небудзь варанага.

Па мясцовасці я нідзе нічога не пазнаваў, хоць ведаў, што цягнік ідзе тым самым маршрутам, па якім ішлі мы з Таняй тры гады таму назад. Толькі тады ад Клічава, а цяпер на Клічаў. На некалькі вагонаў адна была вельмі маладзенькая, амаль падлетак, правадніца. Малых станцый і паўстанкаў яна не абвяшчала, мабыць, не ведала іх назваў. А шыльдаў, нават звычайных надпісаў, яшчэ нідзе не было. Напэўна, толькі машыніст ведаў, як тут што, і часам спыняў цягнік каля такіх руін, дзе нават маленькую шыльдачку не было на чым павесіць ці прымацаваць.

Пакуль было светла на дварэ, я ўсё спадзяваўся, што вось пад'едзем да такой станцыі, дзе я ўсё пазна́ю, парадуюся сустрэчай са знаёмымі, блізкімі сэрцу мясцінамі. Можа, гэта будзе той паўстанак, на якім мы з Таняй некалі перасядалі ў другі цягнік, едучы дадому на канікулы, можа, той бярозавы, скрозь зялёны прыпынак, дзе яна амаль на хаду масаскоквала з прыступкаў вагона, спынялася на маленькім перончыку і доўга махала мне рукою. Ехаў я да свайго Слуцка і ўяўляў, як яна жвавенька пабяжыць праз лес у свой заводскі пасёлачак, да бацькоў. Адна пабяжыць, а ўжо цемнавата. І сумленне мучыла, бо чаму і сам не саскочыў на гэтым раз'ездзіку і не праводзіў. Пачакаў бы там суткі да наступнага цягніка. Якая ж бяда? Пазнаёміўся б з Танінай раднёю: бацькамі ды сёстрамі.

Не намякнула мне Таня, што можна было б так зрабіць, відаць, саромелася, а сам я не адважыўся.

Потым усе канікулы сумаваў па ёй...

Да змяркання хацелася ўбачыць Днепр. Мроілася палюбавацца хоць тымі пералескамі ды чаротамі, што аздаблялі яго берагі... Чамусьці ўспомнілася і тая кароўка, што некалі папасвілася на прыдняпроўскай пойме... І пакарміла нас з Таняй малачком...

Дайшла яна тады да сядзібы Несцера ці абмінула?.. Дзе займела сваё стойла?..

Ці жыў-здароў цяпер Несцер? Як адпакутаваў, пераадолеў акупацыю? Наведваўся да яго Гарох па свае дакументы ці не наведваўся?..

Ноччу ніводнага ліхтара на станцыях. Толькі сяды-тады мільгне газавай свяцілкай дзяжурны дыспетчар ды засвішча моцна і працяжна. Можа, усяго і захавалася тут на поўную сілу — сігнальныя свісткі і гудкі паравозаў.

...Цягнік усё ж спыніўся, як мне ўяўлялася, недзе каля Дняпра і прастаяў доўга. Прычыны ніхто не ведаў. Усе пóлкі майго вагона пачынаў ахутваць туманны змрок. У прыпацелым акне я ледзь здолеў убачыць бусла; ён спавольна хадзіў амаль пры самым чыгуначным насыпе па зялёнай, цяпер ужо цемнаватай балоціне. Дзюбу трымаў нізка, амаль між ног. Ступаў асцярожна, пэўна ж, каб не спалохаць сваю пажыву, і быццам бы зусім не спяшаўся ўзлятаць адсюль. А пара ж была — на седала! Няўжо бусляняты так позна будуць чакаць яго?

Бацян падышоў да самага насыпу, узняў дзюбу і быццам паглядзеў на маё акно. Потым падскокнуў разы два на сухім месцы і ўзляцеў у паветра. Паляцеў, як мне здавалася, гэтак жа спавольна, як і хадзіў па балоце, аднак вельмі хутка знік у прыдняпроўскім тумане.

Гэта быў мой першы бусел на тое лета. Добра, што ён узляцеў, і можна было лічыць, што ўпершыню ўбачыў я не сядзячага, не стаячага бусла, а ляцячага.

«Яно ж к шчасцю»,— гаварыла некалі ў такіх выпадках мая маці.

Я верыў сваёй матулі, таму падумаў і пра большае шчасце, не толькі асабістае. Па матчыных словах, бусел прыносіць удачу і тым людзям, каля якіх

жыве. Магчыма, і цяпер паляцеў ён у тую сваю буслянку, якая з даўніх год усталявана на сядзібе ці каля сядзібы вяскоўца? А можа, на вуліцы вёскі. Дык, па добрых народных паданнях, не магло быць пажару ці якога іншага ліхалецця ні на сядзібе, ні ва ўсёй вёсцы. Мне ўявілася, што бусел вось зараз праляціць над прыцішанай змярканнем вёскай, якая перажыла вайну і ўцалела... Пэўна ж, ёсць і ў нас на Беларусі такія вёскі. Павінны быць! Цяжка, амаль немагчыма ўявіць, каб вёскі не было, а буслянка на сядзібе ці на вуліцы асталася і тырчала чорнай грудай над спустошаным наваколлем. Над папялішчамі бусел жыць не будзе. І без людзей ён абысціся не можа, хоць і не залежны ад іх — жыве і дзетак гадуе толькі ўласнымі стараннямі.

...Ляціць мой першы на тое лета бусел над ціхай прыдняпроўскай вёскай, і тыя гаспадыні, што яшчэ пыняцца ў дварах, і гаспадары, хоць толькі дзядулі або падлеткі, калі яны ёсць, асабліва дзеці, якія пад той час дзе-нідзе капошацца ў цёплым ад дзённага нагрэву пяску або памагаюць маткам,— радасна вітаюць яго і праводзяць вачамі да буслянкі. Адтуль пачуюць ціхі, але бадзёры клёкат, і адолее іх прыемнае, мірнае супакаенне — можна ісці класціся спаць.

Пад уражаннем такіх думак ды яшчэ і пераканаўшыся, што праз вагоннае акно больш нічога не ўбачу, нават калі цягнік і пойдзе далей, я паспрабаваў узлезці на верхнюю полку. З жалем успомнілася, як быццам бы, зусім нядаўна ўзнімаў на ўзровень плеч рукі, клаў далоні на берагі дзвюх супрацьлеглых полак і лёгкім штуршком нібы ўзлятаў на по́лку. Цяпер давялося шукаць лесвічку, разлічаную, мабыць, на тых інвалідаў і дзядоў, якім не хапіла ніжніх месц. Хацелася хоць з лесвічкі крыху ўзняцца на руках, яшчэ забінтаваных, ды адразу адчулася кволасць у жылах, а яшчэ горш — боль, надта ж нудны і надакучлівы, асабліва ў тых пальцах, якіх ужо даўно ў мяне не было.

Пасля шпітальнага ложка вагонная полка, засланая толькі маім шынялём, здалася мне залішне цвёрдай і мулкай, аднак заснуў я хутка і спаў, мабыць, добра, бо не чуў, як пайшоў цягнік. Не памяталася мне і не адчувалася, як ён ішоў ды, пэў-

на ж, спыняўся на станцыях. Можа, нават і зусім не ішоў, не крата ўся з месца.

У першы момант, калі прачнуўся, мне так і здалося, што цягнік нікуды не адыходзіў і сталім мы на тым месцы, адкуль нядаўна ўзляцеў бусел. Няўжо цэлую ноч прастаялі?

У вагоне было значна святлей, чым у той час, калі я шукаў лесвічку ды прыстаўляў яе да ніжняй полкі, каб залезці на верхнюю. Унізе ўжо амаль усе пасажыры не спалі: некаторыя стаялі ля акон на калідорчыку, а бліжэйшыя да мяне, відаць, з маіх ніжніх суседзяў, так прыліплі да акна, што за іхнімі галовамі з непрычасанымі валасамі я пры першых спробах не мог нічога ўбачыць. Белы ручнічок быў накінуты на плячо ў аднаго пасажыра. Я і пазайздросціў крыху, бо ў мяне не было ніякага ручніка — у шпіталі не выдалі, і ў той жа час падумаў: «От чысцюля тылавая, мабыць, і не нюхаў пораху!»

З ручніка позірк упаў на адзежу чалавека, і здзіўленне ўзяло, што яна паласатая: «Няўжо з канцлагера?» Прыгледзеўся і вызначыў, што палосы хоць і падобныя на лагерныя, аднак маюць зусім іншую якасць: эластычныя, мяккія, пабліскваюць свежым шоўкам. Значыць, піжаму сусед мае і надзеў яе. Чакае, пакуль кранецца цягнік, і тады пойдзе ўмывацца.

«Тылавік,— зноў падумалася мне.— Недзе з далёкага тылу, куды вайна не даходзіла». І ў процілегласць — іншае, зноў сваё ж: «А чаму вайсковец, нават франтавік, не мог узяць у дарогу піжаму? У ёй жа і спаць зручней, і на людзях паказацца прыемней. Асабліва да ўмывання. Мне вось прыйдзецца стаяць у чарзе ў памятай гімнасцёрцы, бо трыма пальцамі не надта лёгка было раздзецца нанач. А потым адзецца. Піжаму яшчэ ніколі не насіў, але ўявілася, што яна лёгка накінулася б на плечы. І закрыла б бінты...

«Дзе ж мы стаім?» Уголас я не запытаў пра гэта, а павярнуўся на сваёй полцы на бок і паспрабаваў паглядзець у акно, ля якога стаялі сусед у піжаме і яшчэ адзін пасажыр з ніжняй полкі. Валасы ў майго суседа былі густыя, раскошна-кучаравыя і да таго натапыраныя пасля ночы ва ўсе бакі, што закрывалі ад мяне ўсю тую частку акна,

праз якую можна было б нешта ўбачыць на пероне. І мне давялося паказацца са сваім няшчасцем — я памкнуўся працерці прыпацелую шыбу бінтам свае левае рукі. Кучаравая галава рэзка адхінулася:

— Калі ласка, калі ласка,— сказаў чалавек у піжаме.— Хочаце паглядзець?.. Пад Мінскам стаім... Адны руіны... Жывой мясціны не відно...

Я падсунуўся бліжэй да акна. Не надта добра помніў прыгарад, але вызначыў, што цягнік спыніўся на таварнай станцыі. Былой станцыі... Цяпер наўрад ці можна было б нешта тут пазнаць. Абгарэлыя, струшчаныя, зрашэчаныя кулямі вагоны ляжалі не толькі, як вокам кінуць, пад адхонам і на ўсёй зруйнаванай і выпаленай агнём прасторы, а нават і на насыпе, ля самых хадавых рэек. Далекавата збоку верхнім крайком паказваўся мне масток вадакачкі, невядома, цэлай ці не. Бывалі такія цуды на вайне: на зямлі ўсё, што ніжэй, гінула, а нешта высокае, на здзіўленне, аставалася цэлым. Некалькі разоў мне даводзілася бачыць, як у зруйнаваных вёсках аставаліся на абочыне млыны-ветракі або калодзежныя жураўлі ў спаленых дварах ці на вуліцы.

Вадакачка прыцягвала мае вочы не толькі тым, што нейкім цудам уцалела. Як праз туман, бачылася, а можа, уяўлялася, што там на самым верхнім абручы нешта зелянее. Няўжо дрэўца расце? А можа, кусцік зелля ці нават кветак? Ветрам, а магло і смяртэльным выбухам занесці туды жывое зярнятка. Трапіла яно там у зляжалы, увільгочаны пласток пылу, прыгрэлася на сонцы і прарасло.

Пераканацца канчаткова, што на вадакачцы свежая раслінка, я намерыўся тады, калі будзем праязджаць блізка. А пакуль што горнасць мая і боль душы крыху прыцішаліся ад спорнай і яшчэ зусім маладой і свежай зяляніны ля старых шпал і паміж шпаламі. У асобных месцах яна прыкрывала ніжнія рамы паваленых вагонаў, і праз акно здавалася, што абгарэлыя жалезіны быццам бы растуць з зямлі. На іх не відно было кулявых прабоін, хоць гэта толькі на першае вызначэнне. Прыгледзеўшыся ўважлівей, можна было ўбачыць, што тут вясеннія расліны нібы падлячылі раны вайны: месцамі лістком прыкрылі прабоіну і яна стала

ўжо незаўважнай. Амаль усюды тонкія сцяблінны прашыліся ў прабоіны і такім чынам надалі ім нейраскае адценне мэтазгоднасці, бо свежазялёныя, роскае адценне мэтазгоднасці, бо свежазялёныя, росныя пучкі травы, што з вясёлай смеласцю выглядвалі з прабоін, былі падобныя на чароўныя букецікі.

Адна сцяблінка, мужна і самаахвярна пралезшы праз кулявую прабоіну, узнялася высока насустрач сонцу і зацвіла. Жоўтая пяшчотная кветка, падобная на маленькі сланечнік, была яшчэ прыкрыта ў чаканні першай ярчыні сонечнага промня. І яна ведала, адкуль засвеціць гэты прамень... Засвеціць і прыгрэе. Ужо цяпер яна павярнулася да ўсходу сонца...

* * *

Памагаю інваліду. Як магу, так і памагаю, бо сам інвалід. Тады яшчэ не чуў пра такое афіцыйнае «званне» — інвалід Айчыннай вайны, аднак меў веру, што яно павінна быць. Многа нас, былых воінаў, або зусім, або часткова страціла працаздольнасць. Раней такіх людзей звалі калекамі. І часам памагалі, як калекам — міласцінай, хто што мог. Не можа быць, каб так было пасля перамогі ў гэтай вайне!

Салдат, якому я памагаю, зламаў мыліцу на мінскім пероне. Саскочыў на адной назе з прыступкі вагона і трапіў у яму. А тут было так: не трапіць у яму ці ў якую калдобіну больш складана, чым уваліцца туды па калена ці нават па пояс,— увесь перон быў яшчэ ў варонках і выбоінах пасля нядаўняй бітвы.

Калі салдат заўважыў збоку, што і ў мяне асталося толькі паўрукі, то стаў залішне настойліва дзякаваць за дапамогу.

Тым часам мы ішлі поруч. Салдат пакуль яшчэ няўмела, з натугай кульгіцаў на адной мыліцы, а я на сваёй левай кульцяпе трымаў шынель, а ў правай руцэ почапку амаль пустога рукзака і адвольна памахваў ім. Глыбока і шчыра спачуваў салдату, міжвольна ўяўляў, як яму будзе жыць аднаногаму.

А пра сваё аднаруцтва чамусьці не думалася. Мільганула горкая радасць, што калі нешта ўскінуць на левую руку, дык ніхто і не заўважыць пустога рукава. А на правай руцэ будуць тырчаць тры пальцы — дык і можна адчуваць сябе чалавекам.

Каля пашчапанага асколкамі вугла амаль дашчэнту разбуранага будынка вакзала стаяла гаўбіца. Салдат жвава пакульгіцаў да яе. Падышоўшы, выцяў мыліцаю па тоўстым кароткім ствале, нібы правяраючы, цэлы ён ці мае трэшчыну недзе ўнутры. Ствол азваўся глухім звонам.

— Наша,— задаволена сказаў салдат.— Страляў з такіх.— І пачаў аглядваць гармату з усіх бакоў, напэўна, вызначаць, што ў ёй пашкоджана. Адставіў мыліцу і ўспёрся рукою на кола.

— Замка няма! — сказаў упэўнена і ўважліва паглядзеў на мае пагоны.— Вы не артылерыст, таварыш старшы лейтэнант?

Ніякай эмблемкі па роду войск у мяне не было.

— Пяхота,— памяркоўна сказаў я, чакаючы, што традыцыйны дадатак салдат зробіць сам.

— Матухна,— удакладніў салдат.— Але я вось думаю, нашто тут гаўбіца спатрэбілася? Тут, пэўна ж, танкамі вораг націскаў.

— Усё ішло ў ход,— выказаў я меркаванне.— Вулічныя баі... Гаўбіца ішла разам з пяхотай і біла прамой наводкай.

— Толькі прамой! — згадзіўся салдат.— Яна і па танку можа ўдарыць... А па пяхоце шрапнеллю... Цяпер недзе каля музея будзе стаяць...

Я заўважыў, што салдату хацелася б і пасядзець на гладкім ствале гэтай гарматы: хутка сюды выгляне сонца, ствол стане сухім і цёплым. Мяне ж цягнула хутчэй у горад.

— Вы, мабыць, не тутэйшы? — між іншым спытаў я.

— Чаму так думаеце? — здзівіўся салдат.— Мінчанін я. На заводзе Варашылава працаваў... І бацькі тут жылі...

— І я мінчанін. Пайшлі!

— Куды? У вас ёсць куды ісці?

— Шукаць будзем... Можа, што і ўцалела?

Перад намі ўжо на асветленым і падсушаным лапікле асфальту аднекуль з'явіўся худы чорны кот,

сеў на сонцы і пачаў старанна ўмывацца. Мы не заўважылі, адкуль ён вылез, але хутчэй за ўсё — з падвала будынка, халоднага і сырога. Салдат падняў мыліцу, каб замахнуцца, але я прытрымаў яго за руку.

— Няхай памыецца!.. Першая жывая істота тутэйшая...

— Дык чарноцце ж якое!.. Век яно не адмыецца!.. Калі пярэйдзе нам дарогу, то я не пайду ў той бок!.. Сяду, буду сядзець на гаўбіцы або падамся назад — у мяне маці была з забабонамі і крыху мне пакінула.

Кот быццам зразумеў нашы разважанні, устаў, пацягнуўся і пабег уздоўж перона, раз-пораз азіраючыся на нас, нібыта запрашаючы ісці следам.

— А ў яго кончык хваста белы,— для жарту заўважыў я.

— Харошы коцік,— згадзіўся салдат.— Пакарміць бы яго чым!

Мы так і пайшлі за катом. Адчувалася, што ён тут нядрэнна абжыўся: лёгка і ўпэўнена пераскокваў канаўкі і выбоіны на пероне, абходзіў глыбокія варонкі. Каля таго месца, дзе некалі быў выхад у горад, спыніўся, яшчэ раз паглядзеў на нас і падаўся далей. Мы ўбачылі, што выхад завалены друзам і яшчэ не расчышчаны, сляды людскіх ног заўважаліся на гурбах бітай цэглы, перамешанай з аскабалкамі сухога бетону і цэменту. Людзі тут сяк-так пералазяць, а кот не захацеў: напэўна, у яго ёсць лепшая сцежка для выхаду на прывакзальную плошчу. А можа, ён пакуль што і не ходзіць туды. А нам трэба ісці.

— Мо пералезем? — спытаў я ў салдата.

— Сфарсіруем! — упэўнена адказаў ён.— Не пяройдзем, дык перапаўзём!

Па галоўнай вуліцы горада крочылі амаль што ў адзіноце. Дзе ўцалеў былы тратуар, я прымякчаў сваю хаду, каб не вельмі стукаць падбітымі жалезнымі вугольнікамі абцасамі. Мне здавалася, што нават рэха можа пайсці па пустой вуліцы ад маіх крокаў. Аднак хутка зразумеў, што асцярога мая тут непатрэбна: цэлых гулкіх дамоў нідзе поблізу не было, а руіны рэха не падаюць.

На тратуары менш было ям і выбоін, як на пе-

роне вакзала, аднак глядзець пад ногі трэба было, і мой сусед увесь час лавіраваў мыліцаю, каб не спатыкнуцца. Калі мае крокі прыцішáліся, то часам здавалася, што на ўсёй цэнтральнай вуліцы, дзе некалі заўсёды было людна і шумна, цяпер чуецца толькі адзіны стукат інвалідскай мыліцы.

Куды ж мы пакульгіцаем? Ці выцягне бязногі салдат, калі давядзецца доўга шукаць прытулку ў сваім родным горадзе? Я крыху спадзяваўся на адно далёкае і ўскраіннае месца ў горадзе, якое ўслых не надта і вымавіш — нямецкія могілкі. Там, зусім побач, стаяў некалі прыватны драўляны домік, дзе я кватараваў, калі працаваў у газеце, а потым вучыўся ў настаўніцкім інстытуце.

А куды пойдзе салдат? У яго, можа, і такой надзеі няма?

Паабапал вуліцы, дзе менш было друзу, расло featрознае зелле. У асобных месцах, дзе разбурэнне ўжо задаўнілася, была некім пасаджана, добра ўзышла і нават падбіралася да поўнага цвіцення ранняя бульба.

— Вось ужо не прападзём! — бадзёра ўсклікнуў мой спадарожнік.

З высокага бульбоўніку, як, не раўнуючы, з якой засады, проста перад намі выскачылі дзве дзяўчынкі і жвава затупацелі сандалетамі па тратуары. Выбралі гладкае месца і пачалі маляваць «класы» для гульні. Малявалі не крэйдай, а аскабалачкамі цэглы, таму «класы» выходзілі чырвоныя.

Салдат паставіў мыліцу ў крайнюю клетку, зацікаўлена і добразычліва паглядзеў на дзяўчынак.

— Вы адкуль гэта?

— Ніадкуль,— бойка адказала адна з іх і лёгка, амаль не чутна, як кошка, скокнула бліжэй да нас.— Мы тут жывём.

— Дзе гэта тут?

— Вунь там!

Мы абодва павярнулі галовы туды, куды паказвала дзяўчынка, аднак ніякага жытла не ўбачылі.

— Мы ў зямлянцы жывём,— дадала другая дзяўчынка, у такой жа кароткай сукенцы, як і першая, з загарэлымі голымі нагамі ды такімі стройнымі і спружыністымі, што і балерына магла б пазайздросціць.

— А вада ў вас ёсць? — спытаў салдат.

— Ёсць! — як адным голасам адказалі дзяўчынкі. Потым тая, што больш стройная і, відаць, старэйшая, запыталася, пералётваючы з класа ў клас, нібыта і не дакранаючыся да асфальту.— Прынесці нам? Халодная ў нас вада, з калодзежа.

— О, гэта добра было б! — узнёсла азваўся салдат.— Збегай, дочка, а я тут паскачу на адной назе за цябе.

Дзяўчынкі пабеглі абедзве.

— Паскакаць-то паскакаць,— сумнавата сказаў мой сусед,— але і пасядзець крыху не пашкодзіла б. Млее плячук ад мыліцы. Ды і пальцы ў назе баляць.

Ён сеў проста на тратуары, побач з чырвонымі «класамі», якія намалявалі дзяўчынкі, і выцягнуў на цёплым асфальце палавіну свае нагі, з падвязанай калашынаю.

— Дзе ў вас баляць пальцы? — спытаў я.

Салдат абыякава, нібы на з'яву ўсім вядомую, моўчкі паказаў на сваю кульцяпу.

«Так, так... Гэта знаёма і мне. Вельмі знаёма...»

Я таксама сеў поруч. Дзіва брала, што можна як хочаш расседжвацца на тратуары галоўнай вуліцы і нікому не замінаць.

— Вунь дзе яны жывуць! — задаволена дзівіўся салдат.— Замаскіраваныя, як у бліндажы.

Ён сачыў, куды пабеглі дзяўчынкі.

— Магчыма, гэта і ёсць былы бліндаж,— выказаў я меркаванне.— Падладзілі трохі, прыстасавалі...

Дзяўчынкі прынеслі ваду ў салдацкім кацялку.

— Бабка пытала,— паведаміла старэйшая,— можа, вам картохаў зварыць?

Салдат на момант задумаўся, потым шырокая, задаволеная ўсмешка прыемна асвятліла яго бледны, спакутаваны твар, вочы радасна зайгралі, і ўвесь яго воблік раптам стаў вясёлы і прывабны.

— А што? — узнёсла прамовіў ён і запытальна паглядзеў на мяне.— Чаму б не паласавацца гарачанькім ды свежанькім?.. У такіх добрых, харошых людзей! Праўда ж, цудоўныя дзяўчаткі!..

Я маўчаў, ласкава пaглядваючы на дзяўчатак, а салдат, нібы для поўнага знаёмства, пачаў распытваць у іх.

— Вы тутэйшыя ці прыехалі адкуль?
— Ніадкуль не прыехалі,— сказала меншая,— тут наш дом быў.
— А бацька, маці ў вас ёсць?
— Мама на рабоце, а тата...
Меншая дзяўчынка сумелася і змоўкла, а старэйшая папракнула яе:
— Ну, чаго ты?.. Гэта ж свае! — І дадала: — На фронце тата... Яшчэ ваюе, калі жывы...
— Жывы, жывы! — запэўніў салдат.— Вось хутка закончыцца вайна, і вернецца ваш татка дадому! І не такім, як я... Не з мыліцаю!.. А кругом цэлы і здаровы! Бяжыце скажыце бабцы, каб варыла бульбу!
— Картоху? — перапытала меншая дзяўчынка.
— Ну, так, так!.. Што, свежая ўжо?
Дзяўчынкі пабеглі, пазвоньваючы пустым кацялком, а салдат узяўся за мыліцу, каб уставаць.
— Пачакай трошкі! — папрасіў я.— Давай хоць пазнаёмімся... Першая сустрэча на радзіме... Двух інвалідаў вайны... Справа ў тым, што я не пайду туды...— Я паказаў на недалёкі ўзгорачак, парослы лопухам і лебядой,— да яго пабеглі дзяўчынкі.— Свежую картоху ты будзеш есці адзін.
— Чаму?
— Мне хочацца хутчэй дадому. Можа, там асталося што? Можа, на шчасце, і людзі асталіся.
— Дзе гэта?
— Нямецкія могілкі, ведаеш?
— Канечне, ведаю! Не раз бываў там.
— Перад самым уваходам на гэтыя могілкі стаяў некалі прыватны домік. Я кватараваў там. Калі гаспадары жывыя, то і цяпер папрашуся да іх.
— Так, ясна! — цвёрда сказаў салдат.— Я вас знайду там! Астаецца толькі абмяняцца самым неабходным... Прозвішчамі! Мяне завуць Алегам, а прозвішча — Прышчэпаў. Карацей кажучы — Прышчэпа, але нехта некалі прыпісаў канчатак, дык ён і астаўся.
Я назваў сваё прозвішча і выказаў меркаванне, што знайду нейкі прытулак, калі не ў тым доме, дзе некалі здымаў пакойчык, дык у наваколлі нямецкіх могілак.
— Знайду вас! — паўтарыў Алег.— Абавязкова!

А сам пакуль што не магу назваць ніякага адраса. Калі пачалася вайна, бацька мабілізаваўся ў першыя дні, а я праз тыдзень пайшоў добраахвотнікам. Павучылі з месяц — і на фронт. Далей расказваць няма пра што. Дывізія трапіла ў акружэнне і амаль уся загінула. Асталіся толькі тыя, каго не праглынула балота. Выпаўз з багны і я... Знайшоў партызан... Дык, калі хочаце ведаць, цяпер я не салдат, а партызан. У баях быў ранены ў нагу... І вось — павязло!.. Самалётам адправілі ў тылавы шпіталь...

— Павязло,— з горкім сумам прамовіў я, паглядваючы на яго мыліцу.— Горш, чым мне... Ну, а маці?.. Можа, яшчэ хто ёсць?..

— Спрабаваў даведацца,— з сумотай прадаўжаў Алег.— Нічога пакуль не знаю. Маці аставалася з заводам... Яго стараліся эвакуіраваць...

* * *

Алег Прышчэпа прыкульгіцаў на нямецкія могілкі праз некалькі дзён. Доўга шукаў мяне, таму што на тым месцы, дзе некалі стаяў дамок маіх гаспадароў па кватэры, рос калючы дзядоўнік і ўжо дзірваном узялася сцежка ў двары, што некалі вяла да ганка. Пры могілках асталася жывая адна сухенькая і прыгорбленая бабулька. Яна расказала мне, што, калі фашысты бамбілі горад яшчэ ў пачатку вайны, гаспадары мае кватэры з дзецьмі раталіся ў склепе. Бомба ўпала проста на сядзібу, і ўся сям'я была засыпана. У той час ніхто не ведаў пра гэта, ды не вельмі было каму і ведаць, усе суседзі эвакуіраваліся.

У гэтай бабулькі я і прыпыніўся пакуль што.

— Дзе ж ты жывеш, мой дружа? — спытаў я ў Алега.

— Ды пакуь што там...— быццам абыякава адказаў ён. І вельмі няпэўна, вяла махнуў рукой.— Дзе картоху варылі.

— У зямлянцы?

— Там не зямлянка, а падвал дома. Амаль цокальны этаж... На добрую палавіну цэлы... Некалькі сем'яў умясцілася.

— А сваіх... нікога?..

— Пакуль што нікога і нічога. Але вы не турбуй-

цеся!.. Я па другой справе шукаў вас.— Алег адставіў мыліцу і глянуў на нізкія прыступкі ганачка той старэнькай, як і мая гаспадыня, хаткі, дзе я цяпер кватараваў.

— Там лавачка ёсць,— падказаў я.— Пойдзем сядзем!

Дворык вузенькі, як толькі прайсці, усё астатняе занята агародчыкам. Насупраць агародчыка пры сцяне хаты — вузкая, пачарнелая ад старасці лавачка. Мы селі на гэтую лавачку, прытуліліся спінамі да цёплай, хоць і ценявой, сцяны, і чамусьці абодва змоўклі. У агародчыку перад намі віўся па плоце хмель. «Нашто ён каму?» Але гэта мне так думалася, а гаспадыні маёй хмель, напэўна, вельмі патрэбен быў. За ім не відно было, што яшчэ расло ў агародчыку. Алег таксама са здзіўленнем глядзеў на раскошны, густа ўплецены ў плот хмель, быццам на нейкую дзівацкую навіну. Тут ніякага ветру, зацішак. Але і з могілак не цягне шумком, хоць там растуць старыя таполі і ясені. Уцалелі ад вайны.

Мабыць, нас абодвух стала зачароўваць, нібыта ўсыпляць гэтая нязвычная, быццам немагчымая ў цяперашніх умовах, цішыня, быццам у чатырох сценах сядзім мы, а не ў адкрытым, зялёным дворыку. Ні людзей, ні птушак, ні нават мух не відно і не чутно навакол. Адзін толькі хмель перад вачамі, вельмі аднастайны і нерухомы.

Ці могуць людзі жыць у такой цішыні? Калі яна ўсюды такая, ва ўсім горадзе? А можа, і за горадам? Ці добра гэта? Наўрад! Хочацца людзям спакою пасля страшэннага ліхалецця, але ж не такога бязвольна-санлівага. Пры такой ціхай нерухомасці можна падумаць, што і вайна ўжо скончылася, што ўсе бядоты і неадчэпныя клопаты ў людзей зніклі і адышлі ў нябыт.

Мне здавалася нязвычнай глухая цішыня на могілках. Яны вельмі старыя, там ужо даўно нікога не хавалі. Помнікі пастунова развальваліся, а дрэвы раслі, гусцелі. І паколькі ў гэтым сціплым, далёкім раёнчыку ніякага скверыка не было, то некалі людзі ў вольную гадзіну выходзілі сюды пагуляць, пасядзець у цяньку, адпачыць. І заўсёды адвячоркамі было тут людна і рознагалоса: хто распеўваў,

хто пакрыкваў, хто размаўляў так, што і ў суседнім завулку было чутна.

Магчыма, людзі яшчэ не вярнуліся ў гэты раёнчык? З вайны, з эвакуацыі... А можа, і няма каму вяртацца? Калі ж хто вернецца, то наўрад ці пойдзе адпачываць на гэтыя могілкі, бо яны нямецкія. Я сам яшчэ ні разу не быў там цяпер. Іх назва, хоць і старажытная, нагадвае мне тыя могілкі акупантаў, якія не раз даводзілася бачыць. З бярозавымі крыжамі...

— То, можа, зойдзем у хату?

Голас старэчы, але прагучаў тут гучна, мабыць, таму, што нечакана парушыў застаялую цішыню. Мне здалося, што бліжэйшыя ад нас з Алегам лісты хмелю нават варухнуліся ад гэтага голасу.

Алег здзіўлена глянуў на мяне. Я не заўважыў, як выпаўзла з агародчыка мая гаспадыня, і таксама крыху сумеўся. У бабулькі тырчалі з рукавоў шэрыя ад прысохлага чарназёму пальцы.

— Вы ж, мабыць, абедаць хочаце? — звярнулася старая ўжо толькі да мяне.

«Такімі рукамі яна будзе нешта падаваць?» — са смяшынкай падумалася мне.

— От і госця вашага пачастуем,— дадала гаспадыня.

У чыстай, з дамавітым пахам кватэрцы гаспадыня не па ўзросту жвавенька нырнула пад занавеску, якой была аддзелена кухонная печ, потым у сваю бакоўку за печчу і выйшла адтуль у чыстым, ахайным халаціку, з падабранымі пад белую касынку сівымі валасамі і чыста вымытымі рукамі.

— Ну, што сёння нам бог даў? — запытала, акінуўшы нас гасцінным паглядам.— Ёсць у мяне тушаная бульба, зранку чыгунок паставіла. Аладкі... Праўда, не зусім белыя, але што ж зробіш?.. Хлеба пакуль што няма.

— Будзе ў нас усё! — упэўнена сказаў Алег.— Абы мы былі!

— Дык і я так кажу,— падхапіла бабка.— Абы мы... Абы вы былі!..— Яна ўважлівей паглядзела на Алега і на яго мыліцу.— Праўда, вельмі ж шкада вас... Маладыя гэтакія, ды вось...

— Нічога, бабка! — не збаўляў свайго аптымізму Алег.— Падмацуемся, надточым рукі, ногі і

станем у строй! Яшчэ нават пажэнімся!.. На вяселле вас пазавём!

— Дык я рада б... Чаму ж не?.. Чаму вам не жаніцца?.. Наш-то жанаты,— яна кіўнула ў мой бок,— чакае сям'ю. А вам, такому маладому ды прыгожаму?.. Кожная пойдзе.

— Калі схаваць мыліцу,— дадаў Алег. І не ўтрымаў узнёслага тону, уздыхнуў.

Вельмі хутка, нібы перад якім тэрміновым ад'ездам, гаспадыня расставіла на стале талеркі і прынесла ўсё, што ў яе было. І калі мы селі за стол і ўжо гатовы былі нават без запрашэння зазірнуць у духмяны чыгунок, яна раптам знікла. Мы і не заўважылі, куды яна шмыганула: у запечак ці ў калідорчык за дзвярыма?

Вярнулася з вялікай бутляй. Трымала яе на жываце абедзвюма рукамі, толькі закрываючы дзверы, на момант адставіла адну далонь.

— Пазалеташняя яшчэ,— быццам апраўдваючыся перад намі, загаварыла старая.— Летась у нас тут недарод быў і на садавіну, і на лясную ягаду. Але яна, пляшачка гэтая, з хмяльком, то не сапсавалася. Я такі спосаб ведаю, што хоць дзесяць год будзе стаяць і не папсуецца. Яшчэ нават палепшае.

— Як каньяк,— удакладніў Алег.

— Не скажу, бо не ведаю,— сказала гаспадыня.— Каньякоў не рабіла і не піла. А настойкі тут у нас ні ў кога такой няма.

Яна паставіла ўсю бутлю на стол. Ён невялічкі, як на гэты пакойчык і на сям'ю самую малалікую: на адну гаспадыню ды, можа, яшчэ на кватаранта, калі надарáўся. Я ўжо не раз заўважаў, што столік хістаўся, калі я, залазячы на сваё месца пад покуць, дакранаўся да яго. А цяпер мне здалося, што ён аж угнуўся, калі гаспадыня паставіла поўную, можа, дзесяцілітровую бутлю.

Аблегчана ўздыхнуўшы пасля такой вагі, збытай з рук, гаспадыня апусціла ўніз сухаватыя далоні і пабегла да невялічкай шахаўкі, што стаяла ў кутку пакоя. Пабраскала, падзынькала там шклом і фарфорам і выняла тры кубачкі, расшыраныя зверху, нібы наўмысля для таго, каб лягчэй было наліваць проста з бутлі. Паставіла па кубачку насупраць кожнага з нас, а свой трымала ў руцэ.

— Перахіліце вы! — звярнулася яна да Алега і падставіла свой кубак.— Я каўтну першая, каб вы не падумалі чаго кепскага.

Алег устаў, каб зручней было наліваць, напоўніў бабчын кубак, тады нахіліўся над маім. Разам з сокам пасыпаліся вішні.

— Нічога, нічога! — заспакоіла гаспадыня.— Яны без костачак... Можна смела браць у рот.

Яна выпіла ўвесь кубачак без перадыху і, па традыцыі некаторых вяскоўцаў, перакуліла пасудзінку дагары дном. З кубка выпала круглая, налітая сокам вішня і ледзь не пакацілася па стале. Гаспадыня падхапіла яе і ўкінула ў рот.

Алег паднёс да рота свой кубак адначасна з гаспадыняй, але дапіў да дна крыху пазней, бо перашкодзілі вішні. Мне спяшацца не хацелася. Паліваны кубачак нагадаў мне тое даўняе выпадковае выпіванне ў дарозе, калі мы з Таняй ішлі з Клічава. З таго часу ні разу не даводзілася дзе-небудзь адвольна, без спеху ўзяць чарку, акрамя тых франтавых кропель, якія часам выдзяляліся пад паёк. Я ўзняў свой кубачак, вельмі падобны на той, што некалі падарылі нам у дарозе, ужо тады, калі гаспадыня і Алег налягалі на тушаную бульбу, уявіў перад сабою Таню і выпіў тое, што пілося. Вішань у мяне было многа, амаль паўкубка: от каб сын мог пакаштаваць!.. Пасля гасцявання ў шпіталі Таня ўжо не ўяўлялася мне адной. У маіх марах заўсёды быў і мой маленькі Васілёк, якога яшчэ ні разу не бачыў.

Алег тым часам зноў працягнуў рукі да бутлі. Гаспадыня згодлівай усмешкай ухваліла яго намер. А ў мяне і тут шкрабанула па сэрцы нейкая, ужо нават надакучлівая, балючасць:

«Ён і наліваць можа, і абняць калі каго захоча... А мне ўсё ўжо недаступна. І Васілёк будзе палохацца мае кульці».

— За вас, старшой! — нібы ўгадваючы мае думкі, узнёсла прамовіў Алег і нагбом асушыў свой кубак. Вішнямі закусіў, узяў з міскі халодную, сінявату ад прымесі бульбяных лушпаек аладку.— Я рад, што вам бог паслаў такую гаспадыню!

Потым Алег пачаў спяваць. Я вельмі не люблю п'янага спявання і сам ніколі не падпяваў, калі ча-

сам надаралася ўдзельнічаць на вяселлі ці на радзінах. А тут, як на шчасце, Алег заспяваў хараша. Голас у яго быў прыемны, мілагучны і такога сакавітага лірычнага тэмбру, што адразу браў за душу, і песня ўзбуджала радасць і ўдзячнасць, а не прыкрасць ад п'яных нотак. Я стаў глядзець на Алега здзіўлена і не хаваючы свайго захаплення. Насцярога брала толькі ад аднаго: можа, падключыцца гаспадыня, бо вельмі ж захоплена ўслухоўваецца, і тады ўсё перайначыцца. Міжвольна ўспомнілася, як часам на вясковых радзінах ці на вяселлі ўзрывалася якая-небудзь аматарка з жабечым голасам, але з мноствам усякіх песень у запасе і цэлы вечар мучыла людзей сваім спяваннем.

І вось нечакана і неспадзявана пачулася ціхая падпеўка гаспадыні. Першым улавіў яе Алег, радасна ўсміхнуўся старой, ухвальна заківаў галавою. А мне ўявілася, што сёння выпала на маю долю наогул нешта надзвычайнае: гаспадыня таксама спявала хораша, а як для яе ўзросту, дык і на дзіва чыста і задушэўна. Да таго ж валодала найлепшым слыхам і даволі ўмела трымала тон.

Алег глянуў і на мяне, нават кіўнуў у такт галавой. Мне і хацелася ўліцца ў іхні выпадковы, ды ўсё ж зладжаны дуэт, але адольвала сумненне: ці падладжуся, ці знайду тут сваё месца? Таму маўчаў, слухаў, адчуваў такую асалоду, якой наўрад ці знойдзеш параўнанне. І надзвычай цягнула адчуваць яе ўсё паўней і глыбей. Можа, гэта першая крупінка шчасця пасля фронту?.. На жаль, яшчэ не пасля вайны... Людзі яшчэ ваююць...

Алег нібы адчуў маё хваляванне, прыпыніў песню і з жалем у голасе прамовіў:

— Давайце ўспомнім тых, хто яшчэ ў акопах!.. Хто пад бомбамі ды пад снарадамі!..

— Каб і яны хутка вярнуліся! — дадала гаспадыня.— З перамогаю, з поўнаю!..

Алег схіліўся над сталом, на момант прыціх, потым, не падымаючы галавы, спачатку быццам няўпэўнена, ціха, а далей усё смялей і мацней завёў неапалітанскую песню «Сонейка маё».

«Няўжо выцягне?» — адольвала мяне хваляванне. І так хацелася, каб ён нідзе не сарваўся, не сфальшывіў і даспяваў гэтую песню да канца. Па-

магчы б яму! Але я лавіў сябе перш за ўсё на тым, што слоў усіх не ведаю. І голас!.. Хіба зліўся б мой голас з Алегавым? Наўрад! Гэтак высока я не вазьму, а на ніжэйшай ноце не знайду ладу. Яшчэ саб'ю чалавека. Мабыць, кожнаму, не зусім глухому да песні, вельмі знаёма такое зманлівае пачуццё, калі мелодыя прыцягвае, захапляе, цешыць душу, просіцца, каб яе падхапіць, а божага дару на гэта не хапае.

Алег, пэўна ж, і не разлічваў на маю дапамогу. Ён толькі крыху адхіліўся ад стала, можа, для таго, каб не перашкаджаў грудзям расшырацца на ўсю паўнату, калі бралася самая высокая нота. Галаву не падымаў і рукі трымаў перад сабою на стале. Калі выцягваў самыя складаныя варыяцыі, голас ліўся спакойна, упэўнена і не на апошнім дыханні. Адчувалася, што няхай спатрэбіцца ўзяць яшчэ вышэй, то возьме, запас ёсць. І ў постаці спакой, і ў абліччы, толькі пальцы рук ледзь прыкметна дрыжаць...

Не на канцэрце спяваў Алег, не перад вялікай аўдыторыяй. Слухалі яго толькі двое: гаспадыня і я. Ды яшчэ ён сам, напэўна ж, чуў свой голас і зрэдку паглядваў на нас, вызначаў наша ўражанне. Не вайсковая гэта была песня, не надзённа-патрыятычная, але ўвесь час трымала мяне ў трывозе, каб хаця не абарвалася дзе ад раптоўнай перабіўкі ў голасе або няведання слоў...

Міжвольна ўспомніўся самы далёкі і цяжкі мой час у адным шпіталі. Прыйшла ў палату салістка з шэфскай брыгады. Акампаніятарам у яе — скрыпач.

— Што вам заспяваць, дарагія мае воіны?

— «Кацюшу»,— пачуўся першы адказ.— «Жди меня», «Синий платочек»...

Салістка, а можа, і проста харыстка, бо голас, як мне здалося ў першую хвіліну, не вызначаўся асаблівай мілагучнасцю, праспявала гэтыя песні, потым падышла да мяне, найбольш слабага і на той час маўклівага — у мяне была цяжкая рана ў грудзях.

— А што б вы хацелі паслухаць?

— «Сонейка маё»,— сказаў я ледзь чутным голасам.

Салістка крышку збянтэжылася, аднак усміхнулася мне ласкава і паважліва.

— У вас ёсць гэта? — звярнулася да скрыпача.

Той моўчкі кіўнуў галавой.

— Ну, паспрабуем!

Яна ўзяла першую ноту, і мне, як ні цяжка было, захацелася расплюшчыць вочы, каб уважлівей паглядзець на спявачку ды пераканацца, што гэта яна нядаўна праспявала «Кацюшу» і дзве франтавыя песні. Каб не бачыў на свае вочы, дык не паверыў бы. Ля майго ложка стаяла быццам бы зусім іншая жанчына, з іншай афарбоўкай голасу і з такой паўнатой лірызму ў гэтым голасе, што ён нібы працінаў мяне навылёт і ўзбуджаў нястрымнае хваляванне. Я не мог суняць міжвольнае дрыжанне ў целе, а мне нельга было варушыцца ад раны. Каб як уратавацца ад раптоўных неадольных уражанняў і хваляванняў, я адвёў ад спявачкі вочы і моцна сціснуў павекі. Але неўзабаве адчуў наплыванне гарачыні ў вачах. Ведаў, што гэта не пасуе мужчыне, ды яшчэ воіну, адчуваў, што збянтэжыць гэта спявачку, але супраціўлення не хапіла — слёзы прасачыліся ў мяне праз павекі і паплылі па шчоках.

Песня перапынілася. У палаце хараша і плаўна гучала толькі скрыпка. «Забыла словы»,— з жалем падумалася мне. Падказаць бы ёй, ды не заўважыў, дзе яна перарвалася, якога слова не знайшла. І ў той жа момант адчуў, што мяккая і цёплая далонь лягла на маю скроню, і ціхі голас, ужо зусім не такі, як у песні, зашаптаў:

— Не хвалюйцеся гэтак... Вам, напэўна, шкодна хвалявацца.

Потым такая ж мяккая, як і далонь, трошкі пахучая ад духоў хустачка асцярожна і клапатліва дакранулася да маіх вачэй і шчок...

«Мокрая будзе»,— хацелася мне сказаць. І шчыра падзякаваць. Але з натугай вымавіліся толькі два словы:

— Спявайце далей!

І артыстка заспявала...

Цяпер я ледзь адагнаў гэтыя залішне ўражлівыя ўспаміны, каб зноў глянуць на Алега, можа, нават недзе падцягнуць яму. І намерыўся звярнуцца да гаспадыні, яна ж напэўна здолее памагчы, яна ж

напэўна ведае гэтую цудоўную песню!.. То чаго ж сядзіць маўкліва, утуліўшыся ў рукавы халата?

Неўзабаве зразумеў, што яна хавае слёзы, як некалі хаваў я перад франтавой артысткай. Гаспадыню расчуліла Алегава песня, мабыць, закранула за жывое, абудзіла і абвастрыла той боль, што ўвесь час адольваў душу..

Алег таксама заўважыў, што гаспадыня моўчкі плача, сумеўся — перастаў спяваць. У яго чыстых, крыху пачырванелых ад хмелю вачах мільгнула здзіўленне, бо ён яшчэ не ведаў пра тую бяду, якую перажывала жанчына. А я ўжо ведаў, мне яна расказвала. У той чорны дзень, калі ад фашысцкіх бомбаў загінулі мае гаспадары, трапіла пад асколкі і нявестка гаспадыні з дзвюма дачушкамі. Яны ўсёй сямейкай беглі на могілкі, каб ратавацца там у старых склепах. Гаспадыню асколак мінуў...

Пасля гэтага яна ўжо і не хавалася ад варожых налётаў, не баялася, не асцерагалася саміх акупантаў — яна не хацела жыць. Пэўны час была яшчэ надзея, што сын вернецца з фронту. Хоць няшчаснай будзе сустрэча... Не ўбачыць ён сваіх дзетак, жонку... Хоць.. Ды вось ужо колькі месяцаў ад яго няма ніякіх вестак. Стары гаспадар бабулі, былы рабочы хлебазавода, памёр яшчэ да вайны.

Алег пачаў суцяшаць старую, мяркуючы, што растрывожыў яе сваёю песняю. А потым адчуў, што сутнасць не толькі ў гэтым. Пачаў сумна расказваць пра сваё цяперашняе адзіноцтва, якія пакуты самому давялося перажыць у вайну. І гаспадыня выцерла рукавом слёзы, стала пaступова супакойвацца.

— То, можа, вам і жыць няма дзе? — спачувальна запытала яна.

Гэта нібы схамянула хлапца, нагадала, што на двары ўжо вечар, а да таго месца, дзе ён часова спыніўся, адлегласць не малая: на мыліцах ды яшчэ цёмначы за дзве гадзіны не даклыпаеш.

— Ёсць прытулак,— сказаў Алег.— Часовы, праўда, але ёсць.— І звярнуўся да мяне, каб удакладніць тое, пра што намякнуў, як толькі прыйшоў: — Мы заўтра сустрэнемся? Так? І разам пойдзем на парад. Дзе сустрэнемся?

— А дзе будзе парад?

— На Лодачнай. Толькі там ля ракі знайшлі вольную пляцоўку.

— То недзе там і сустрэнемся,— няпэўна адказаў я.— Толькі ж гэта партызанскі парад!

— Дык што? Хіба не ў адным страі ваявалі? Не абавязкова ўсім станавіцца ў шарэнгу — я таксама не буду псаваць строй сваёю мыліцаю. А прысутнічаць трэба! Буду чакаць вас і шукаць!

Я мелькам, але з непрыхаваным запытаннем глянуў на гаспадыню і сустрэў яе пагляд, добразычлівы, спагадлівы: яна зразумела мяне.

— Дык пераначуем тут у нас! — прапанаваў я Алегу.— А заўтра разам і пойдзем!

— Праўда ж! — падхапіла гаспадыня.— Чаго вам ісці ў далёкі свет ноччу? Месца хопіць!

* * *

Невялікі бугорчык каля зялёнай плошчы быў ужо стаптаны людзьмі, густая трава месцамі перамешвалася з сухой зямлёю. Алегу ўступілі тут месца як інваліду вайны, а ён запрасіў туды і мяне. З бугорчыка добра былі відны шарэнгі партызан у разнашэрснай адзежы і з разнастайнай зброяй, але пераважна з нямецкімі аўтаматамі. Відны былі, хоць часам і засланяліся кепкамі і фуражкамі партызан, чырвоныя трыбуны на процілеглым краі плошчы. Там ярка і ўрачыста свяціліся на сонцы ордэны і медалі генералаў і палкоўнікаў, трыма, а то і чатырма радамі развешаныя на іхніх грудзях. Алег так старанна ўглядаўся ледзь не ў кожнага ўдзельніка парада і так шчыра і ўзнёсла радаваўся, махаў вольнай ад мыліцы рукою, калі пазнаваў каго, што і мне няёмка было аставацца нібыта староннім тут і абыякавым. Калі Алег вітаў свайго знаёмага і пасылаў яму знакі павагі, то кратаў рукою і мяне, напэўна, яму ўяўлялася, што і я ведаю гэтага чалавека і таксама шчыра і радасна павітаю яго. Часам я і рабіў гэтак, хоць і не ведаў, хто гэта, бо раней ніколі не сустракаў. Той партызан, пэўна ж, і не заўважаў маіх вітанняў, можа, і Алегавых таксама, бо на плошчы было нямала жанчын, маладых, прыго-

жых, з букецікамі кветак у руках. Яны кідалі кветкі ў шарэнгі, і некаторым удзельнікам парада ўдавалася схапіць дарункі на ляту. І нават памахаць імі ды ўсміхнуцца шчасліва і ўдзячна.

Раптам Алег ледзь не выцяў мяне рукою па плячы і крыкнуў:

— Глядзіце, таварыш старшой!.. Глядзіце!

У першай ад нас шарэнзе, пярэднім, ледзь не галаўным у падраздзяленні, ішоў даволі ўнушальнага выгляду партызан, у вайсковым кіцелі, у вайсковай, з малінавым аколышкам фуражцы, з аўтаматам на жываце. Ён абедзвюма рукамі махаў Алегу і раз-пораз сціскаў адна пры адной свае далоні, нібы ўзнёсла апладзіруючы і паказваючы сваю шчырую дружбу. Заўважыўшы мяне, ён прыапусціў свае рукі, але ўсё яшчэ ветліва ўсміхаўся Алегу і ківаў галавою.

— Блізка знаёмы? — спытаў я ў Алега, калі гэты партызан аддаліўся і ўжо толькі яго адметная фуражка, бадай, адзіная ў той шарэнзе, злёгку пакіўвалася ў такт вайсковага марша.

— Ды ў адным узводзе былі! — задаволена, быццам нават з гонарам, адказаў Алег.— Праўда, не доўга, бо яго хутка ў штаб забралі... Там пры камандзіры быў ды пры камісары атрада...

* * *

Мы доўга не бачыліся з Алегам пасля партызанскага парада. Шукаць яго ў мяне не было часу, ды не надта і ведаў, дзе шукаць. Сам ён не прыходзіў. Нарэшце з'явіўся ў такі час, што я не знаў, як і выстачыць яму патрэбную павагу і радасць, бо ўвесь быў захоплены і запаланёны шчасцем сустрэчы з жонкай і сынам — яны ў той дзень прыехалі ў Мінск.

Алег памкнуўся непрыкметна знікнуць, але я ў час заўважыў і не пусціў яго:

— Пабудзь, раздзялі маю радасць!

— Я па дзелу! — шапнуў ён.— Ды няхай потым, потым!..

Мой Васілёк цікаўна паглядваў то на аднаго з нас, то на другога. Відаць, мы абодва здзіўлялі, а можа, крыху і насцярожвалі яго, але больш пры-

цягваў госць з мыліцаю. Падышоўшы да маці і абняўшы яе за шыю, малы зашаптаў на вуха, але так, што і мы з Алегам пачулі:

— Чаму ў яго няма нагі?

— Не ў яго, а трэба гаварыць — у дзядзі,— папravіла Таня, зразумеўшы, што сакрэт не атрымаўся.

— Чаму ж няма? — адразу ўвайшоў у размову Алег.— А гэта што? — І ён узняў над сабою мыліцу.

— Гэта не нага,— сказаў Васілёк.

Не чуў я, каб ён папытаў, чаму ў мяне няма рукі. Хіба, можа, ад маці даведаўся? Ужо некалькі разоў ён браўся за мой пусты рукаў і нічога не гаварыў, і не відно было, каб вельмі здзіўляўся ці палохаўся. Што пальцаў не хапае на другой руцэ, то гэтага ён, можа, яшчэ і не заўважыў, бо я трымаў у той руцэ ўсё, што на той час трэба было: грабеньчык, якім прычэсваў малога, кубачак з казіным малаком, якое гаспадыня недзе выпрасіла для дзіцяці, брусок мыла, каб памагчы сыну ўмыцца з дарогі... І іншае, што траплялася па патрэбе. Браў сына на рукі таксама такім манерам, што ён і не заўважаў, як узнімаўся ўгору і станавіўся роўным са мною, а то нават і вышэйшым. Снедалі, то й добра трымаў хлеб, лыжку, відэлец... Чарку таксама. Тое, што ўсё гэта рабілася адной рукою, не выклікала ў хлопчыка якога-небудзь здзіўлення. Таня таксама рабіла выгляд, што не заўважае гэтага, і я вельмі радаваўся, што ў вачах яе свяцілася чыстая шчырасць.

І ўсё ж, каб больш заспакоіць жонку, сказаў яшчэ да прыходу Алега і скрытна ад сына:

— Пастаўлю харошы пратэз, як толькі пачнуць браць заказы, тады ўсё буду рабіць абедзвюма рукамі.

Алег выбраў хвіліну, калі маці з сынам следам за гаспадыняю выйшла ў агародчык, і сказаў мне:

— Мы крышку пагаворым, ды я пайду.

— Пабудзь яшчэ,— папрасіў я.— Вось гаспадыні абед прыгатуюць, пасядзім разам.

— Не выпадае мне,— намагаў Алег.— Дзякую, але зараз паклыпаю дадому: увесь склеп суседзі пакінулі на мяне. Чаго я прыйшоў да вас? Помніце,

як на парадзе адзін партызан доўга махаў мне рукамі?.. У вайсковым кіцелі... У камсастаўскай фуражцы з малінавым аколышам... Потым яшчэ і паказаў, каб я ішоў следам. Аказваецца, у іх там канцэрт быў... Хор выступаў на беразе Свіслачы. Вы пайшлі дадому, а я рашыў завітаць на канцэрт...

— Там вы сустрэліся? — апярэдзіў я Алега.

— Ён чакаў мяне... Селі на траве і адразу стаў пытацца пра вас: «Што за афіцэр стаяў побач?.. Адкуль? Выпадкова сустрэліся, ці даўно знаёмы?..»

Я сказаў, пра што ведаў.

— А ён?

— А ён нічога. Спытаў толькі, дзе я жыву. А ўчора... Гэта ўжо колькі часу прайшло з таго дня!.. Прыбеглі дзяўчынкі ў склеп... Тыя, што некалі прыносілі нам вады... Завуць: «Дзядзя Алег!.. Вас нейкі камандзір шукае!» Выходжу на святло... Бачу: стаіць ён і лагодна ўсміхаецца. Запрашаю зайсці, адмаўляецца:

— Давай, друг, тут пасядзім, на адкрытым паветры, як некалі ў атрадзе!

Селі на цёплай кладцы з абгарэлага бервяна, і ён зноў пра вас:

— Ці ведаеш, дзе жыве гэты ваенны?

— Ведаю,— адказаў я.

— Схадзі да яго,— нібы загадвае, нібы просіць,— і перадай, што нам вельмі трэба сустрэцца. Вельмі!.. Жонка яго прыехала? Не знаеш?

— Не знаю,— кажу.— Даўно не бачыліся.

— Перадай,— кажа,— што я з добрымі намерамі... Мы,— кажа,— вучыліся некалі разам... Можа, чалавеку памагчы трэба?.. З работай ці яшчэ ў чым?..

— А сам ён ужо на рабоце? — пацікавіўся я.

— Мабыць, даўно,— пацвердзіў Алег.— Ды не на абы-якой. Адчуваецца па ўсім...

Мне ўспомнілася, як я нядаўна ўладкоўваўся на службу. Сам па сабе, без нічыёй дапамогі. Зайшоў у Дом друку і стаў шукаць там рэдакцыю «Чырвонай змены», дзе некалі працаваў. Сустрэў на калідоры чалавека яшчэ маладога, не знаёмага мне і невядома — супрацоўніка якой газеты ці не. Спытаў:

— Дзе тут «Чырвоная змена»?

— На прэ́дмет! — пачуў лаканічнае запытанне, не пазбаўленае зухаватай іроніі.

— Наконт работы,— адказаў я.

— А вы што, можа, нават газетчык?

— Працаваў некалі ў «Чырвонай змене».

— Дык з прэвялікім удавольствіем,— адказаў хлопец і шырокім узмахам рукі паказаў на дзверы, дзе яшчэ не было ніякага надпісу. Затым ступіў крок за мною і сам адчыніў гэтыя дзверы, запрасіў зайсці. За пісьмовым сталом сядзеў маёр у поўнай вайсковай форме з параднымі пагонамі. Я таксама хадзіў яшчэ пры пагонах, таму стаў «смірна» перад старшым па званні і аддаў чэсць.

— Па-мойму, гэта наша кадра,— сказаў хлопец, звяртаючыся да маёра.

Крыху пазней я даведаўся, што маёр — рэдактар газеты, а хлопец, што «заарканіў» мяне на калідоры,— сакратар рэдакцыі. Толькі не «Чырвонай змены», а «Сталинской молодежи». Яны так ахвотна і даверліва бралі мяне на работу, што я міжвольна ўспомніў даўнюю запаветку маёй матулі: «Першага торгу не мінай».

— На работу ўжо ўладжаны,— паведаміў я Алегу.— Хоць, можа, не на тую, што хацеў. Аднак сустрэцца з чалавекам не шкодзіла б. Дзе ён жыве?

— Адрасу не сказаў.

— Дык, можа, прыходзьце ўдвух да мяне?

— У яго іншы варыянт,— нясмела паведаміў Алег.— Запрашае на фабрыку-кухню. Абяцаў нават столік забраніраваць.

* * *

Калі мы з Алегам зайшлі ў вестыбюль сталовай, Іван Гарох стаяў спінаю да дзвярэй і тварам да процілеглай сцяны, разглядваў нейкую рукапісную аб'яву. У адной яго руцэ сінім дымком курэла люлька, а другая была закладзена за борт вайсковага кіцеля. Угледзеўшы нас, ён пацягнуў разы два з люлькі і павольна рушыў насустрач. Правую руку з-за борта не вымаў. Толькі ўжо на самым збліжэнні з намі люльку падняў угору, нібы ў знак асаблівага вітання, а рукою з-за борта памкнуўся абняць мяне.

— Колькі лет, колькі зім!..

Заўважыўшы, што я нават не ўсміхнуўся ў адказ на гэты шаблончык, паспрабаваў знайсці нешта адпаведнае моманту:

— Вітаю франтавікоў! Рад бачыць!.. Вельмі рад!..— І глядзеў больш на мяне. Алегу ён, напэўна, сказаў гэта раней.— Што, і другая рука не ўцалела? Эх, вайна, вайна!.. Вось і ў мяне... Бачыш? — Ён узяў люльку ў правую руку, а левую выставіў перад вачамі.— Самага меншага няма... Бачыш?.. Але і астатнія пальцы часта нямеюць.— Глянуў на Алега, дадаў: — Разам у атаку хадзілі!.. Вось няхай скажа!..

— Ды не разам выйшлі,— ціха прамовіў Алег і лагодна ўсміхнуўся, паказваючы гэтым, што не намерваецца каго крыўдзіць.

За столікам Гарох працягваў сваю споведзь, хоць я не вымагаў у яго гэтага, а толькі меў на ўвазе задаць некалькі пытанняў у канцы сустрэчы. Алег жа амаль не слухаў, а калі і звяртаў увагу на некаторыя словы, то не падтрымліваў іх ні кіўком галавы, ні выразам твару. Гарох не бянтэжыўся ад гэтага, не траціў упэўненасці, а яшчэ часцей спасылаўся на Алега:

— Вось, няхай скажа!.. Чалавек не дасць схлусіць!.. Верны сведка перад намі!..

— Прыйшоў у атрад пазнавата,— гаварыў далей Гарох.— Ён пра гэтае ведае... Але ж не мая віна! Ногі адняло, хадзіць зусім не мог!.. Помніш? — Гэта ўжо зварот да мяне.— Яшчэ тады ў мяне ногі балелі!.. Дарэчы, як цяпер твая нага?

— Вытрымала,— адказаў я.— Умацавалася ў паходах... А рукі вось няма.

— Вайна, вайна!..— паўтарыў Гарох.— Як толькі было вытрымаць!.. Акупацыя!.. Гэтага вы абодва не ведаеце, дык і шчасце ваша!.. А я перажыў і акупацыю, і самае суровае, пякельнае падполле. Як толькі крыху ачуняў, пайшоў у партызаны. І вось ён не дасць схлусіць!.. Не шчадзіў сваіх сіл, поту, крыві!.. На ўсякія заданні!.. Ва ўсякую разведку!..

Алег ледзь прыкметна зморшчыўся. Гарох не заўважыў гэтага і не перапыніў сваёй «справаздачы»:

— Справа ў тым...— Гарох нібы запнуўся, з іск-

рынкай трывогі ў вачах зірнуў на мяне.— Справа ў тым, што ў суровыя часы падполля мяне напаткала вялікае няшчасце... Хачу быць зусім шчырым перад табою...— Ён люлькай дакранаўся да маіх грудзей.— «Адна бяда не ходзіць» — кажуць людзі... Калі фашысцкія карнікі падпалілі нашу хату, мне не ўдалося выратаваць свае службовыя дакументы.

— Толькі службовыя? — здзіўлена спытаў я.

— Так, так!..— нібы механічна пацвердзіў Гарох. — Пасведчанне!..— Раптам спахапіўся: — Адкуль ты ведаеш? А-а... Я паказваў табе ў дарозе... Ды што пасведчанне?.. Яно мне цяпер і не трэба, тое пасведчанне, бо ёсць новае, больш значнае...

Далей Гарох падрабязна расказваў, як фашысты палілі іхнюю вёску, як ён не паспеў выхапіць свой кіцель з дакументамі, а маці хоць і лазіла на вышкі, каб выграбці адзежыну з кастрыцы, ды звалілася з лесак ад дыму.

Я слухаў гэта, не перапыняў субяседніка, а памяць апаноўвалі дзіўныя, быццам неверагодныя абставіны, якія давялося перажыць Алегу, які, нават па словах Гароха, быў не ў лепшых умовах,— што перанёс Алег у час акружэння. Перанёс, перадолеў і ўратаваў свой партбілет. Алег успамінаў пра гэта скупа і рэдка, калі часам было да слова, і толькі асобнымі штрышкамі.

...Цэлымі суткамі ў балоце... Ногі папрэлі... Валасы на галаве вылезлі... Адзежа распадалася на кускі, як гнілая ануча... Зубы пачалі выпадваць ад цынгі...

— Цяпер у мяне новае пасведчанне! — узнёсла абвясціў Гарох. Ён пераклаў люльку ў левую руку, а правай стаў расшпільваць гузік нагруднай кішэні кіцеля.— Усё новае!..

— А я маю на ўвазе тваё старое,— удакладніў я.

Правая рука Гароха нібы павісла на гузіку кіцеля, левая з люлькаю задрыжала так, што цыбук застукаў па крайку стала. Гарох нібы анямеў, спалохана вылупіў на мяне вочы і толькі праз нейкі момант, апалым голасам, вымавіў:

— Ты нешта блытаеш... Не разумею цябе...

— Што ж тут разумець? — спытаў я.— У маіх руках былі твае дакументы. Я здаў у ваенкамат. Квіток аб здачы захаваўся ў жонкі.

Гарох працягваў настырна і разгублена глядзець на мяне, нібы ўсё яшчэ не верыў, што адбылося нешта надзвычайнае, зусім нечаканае для яго. Чыста выбрыты і ўжо добра падсвежаны цывільным жыццём твар усё больш і больш змрачнеў і бляднеў, на лбе пад каштанавымі валасамі і на акруглых шчоках пад скронямі выступілі расінкі поту. Вусны нервова варушыліся, аднак жа наўрад ці для гаворкі.

— Не памятаеш?

Гарох ледзь прыкметна крутнуў галавой.

— Тады нагадаю табе.— І я каротка ўспомніў пра наш колішні начлег у прыдняпроўскага пастуха Несцера, аб тым, як Гарох памяняў свой фрэнч на сялянскую світку, закапаў дакументы і ноччу пакінуў нас з Таняй...

Гарохава люлька зноў застукала па крайку стала... І ўжо мацней, бо не дрыготкім цыбуком, а самой чачоткай: гаспадар выбіваў попел проста пад стол. Пасля гэтага крыху дрыгатлівымі рукамі, але ўжо звычна-ўпэўнена палез у кішэню вайсковага галіфэ, выняў адтуль чорны капшучок з тытунём і зноў туга набіў люльку.

* * *

Каля дворыка нашага часовага прытулку мяне сустрэў Васілёк. Ухапіўся за мой пусты рукаў, бо ў правай руцэ я нёс паўбаханкі хлеба, атрыманага на карткі. Васілёк вёў мяне дадому і весела расказваў, як ён з мамай хадзіў сёння ў горад.

— Сам ішоў... І мама сама... А потым во!..

Васілёк прыпыніўся і, не выпускаючы мой рукаў, падцягнуў штанінку і паказаў ссінелае ад удару калена.

— Мой ты маленькі!..— мяне як агнём смальнула трывога.— Табе ж баліць!.. Ідзі ка мне на рукі!

— Не баліць! — запэўніў Васілёк.— Я і не паваліўся б, ды камень падкаціўся пад ногі...

Прыціснуўшы паўбаханку локцем левай рукі, я ўзяў Васілька на правую. Хлопчык абняў мяне за шыю.

— Хочаш хлебца? — спытаў я.

Васілёк кіўнуў галавой. Я адламаў яму скары-

начку. Малы патрошку адкусваў і жаваў каля май-го вуха. Я блізка чуў яго маўклівае жаванне... І лёгкае, пяшчотнае пасапванне дзіцячым носікам. Запыленыя сандалі ледзь чутна шоргаліся аб мой шырокі жарсткаваты рэмень... Калена прытульвалася да маіх грудзей... Каторае? Тое, што з сіняком?..

І мне вельмі захацелася зноў прыпыніцца ды неяк палячыць свайго сынка, хоць пахукаць на яго пабітае калена...

У хаце Таня расказала, што была сёння ў педінстытуце, пыталася, ці можна замяніць выпускную даведку на дыплом, які перад вайной не паспела атрымаць на завочным аддзяленні. Сустрэла там прафесара, якому некалі ў Клічаве мы падаравалі баханку хлеба. І тую жанчыну, што тады была з ім, напэўна, жонку. Пазналі яны Таню, успомнілі пра Клічаў.

— Ваш падарунак уратаваў нас,— сказаў прафесар. І пакланіўся Тані ў знак удзячнасці. Потым запісаў адрас і дадаў: — Мы ўвесь час успамінаем гэта і лічым, што пазычылі ў вас баханку хлеба. А пазычаны хлеб трэба і аддаць хлебам. Калі дазволіце, то мы прыйдзем да вас і прынясём пазычаную баханку. Свежую, такую, як тая, што некалі бралі ў вас.

Васілёк даядаў сваю скарыначку. У пакоі прывабна пахла свежым хлебам. Гэта тым, што я цяпер прынёс, а ўяўлялася мне, быццам у маіх руках, тады яшчэ абедзвюх, тая, нядаўна выпечаная, клічаўская фармавая баханка, якую я перадаў прафесару.

**Кулакоўскі А.**

К 90 Белы Сокал: Аповесці. [Для ст. шк. узросту/Маст. Ю. В. Пучынскі].— Мн.: Юнацтва, 1985.— 303 с., іл.

У пер.: 85 к.

Усе аповесці напісаны паводле асабістых успамінаў пра перажытае на вайне і прысвечаны самаадданай барацьбе савецкіх людзей з гітлераўскімі захопнікамі. Удзельнікі падзей, пра якіх расказвае аўтар, людзі пераважна маладога ўзросту. На фронце і ў тыле яны набываюць першы жыццёвы вопыт і надзейную загартоўку.

К $\frac{4803010200—083}{М\ 307(05) — 85}$ 79—85

**ББК 84Бел7**

**Бел2**

*Алексей Николаевич Кулаковский*

**БЕЛЫЙ СОКОЛ**

Повести

Для старшего школьного возраста

Минск, издательство «Юнацтва»

На белорусском языке

Загадчык рэдакцыі В. М. Новік. Рэдактар А. П. Чаркасаў. Малодшы рэдактар Г. Д. Зінчанка. Мастацкі рэдактар В. І. Кліменка. Тэхнічны рэдактар С. А. Абрамчук. Карэктар Л. І. Саўчанка.

ІБ № 318

Здадзена ў набор 24.08.84. Падп. да друку 09.04.85. АТ 07095. Фармат 84×100 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 14,82. Ум. фарб.-адб. 14,82. Ул.-выд. арк. 15,79. Тыраж 12 000 экз. Зак. 684. Цана 85 к.

Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат **МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.**